

І працаваць, і вучыцца — такі дэвіз жыцця Леаніда Вінаградава. Удзень ён лабарант Інстытута фізіка-арганічнай хіміі Акадэміі навук Беларусі, а ўвечары — студэнт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.
Фота А. Дзітлава.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс
Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі
і Саюза пісьменнікаў БССР

**4**

**КРАСАВІК.**

**1962.**

**Год выдання X.**

**У НУМАРЫ:**

**У НАСТУПНЫМ НУМАРЫ:**

**Аповесць Уладзіміра Дамашэвіча «Між двух агнёў». На маральна-этычную тэму.**

**Вершы маладых паэтаў Яўгена Вераб'я, Івана Леткі і Міколы Купрэева.**

**Нарысы і артыкулы, прысвечаныя 40-годдзю піянерскай арганізацыі.**

На вокладцы малюнак **Г. Скамарохава** **«Здзяйсняюцца Леніна запаветы».**

Мастацкі рэдактар І. Раманоўскі. Тэхрэдактар І. Краўчанка. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 40. Тэлефон — 93-854.

Фармат паперы 70×108¹/₁₆. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5. Тыраж 7740. Цана 40 кап.
АТ 03868. Здадзена ў набор 1.III.62 г. Падпісана да друку 23.III.62 г. Зак. 157.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск, Ленінскі праспект, 79.

Друкарня выдавецтва «Звязда». Мінск, Ленінскі праспект, 79.

**Уладзімір ПАЎЛАЎ**

# ЛЕНІН НА СУБОТНІКУ


д світання ў той дзень на Крамлёўскім двары
Білі цэглу, цягалі бярвенне.
І, не даўшы нікому сябе ўгаварыць,
За цяжэйшае браўся Ленін.

Каб яму хоць на міг які стала лягчэй
У ягоным жыцці навальнічным,
Не баяліся хлопцы намуліць плячэй,
Да работы і зброі прывычных.

Бервяно адсырэлае ціснула ўніз.
У крыві разгарачанай — клёкат.
Першым крокам ступаў па зямлі камунізм —
Чалавечая радасць і клопат.

Зналі людзі, што доўга яшчэ ля пляча
Будзе ныць кулявое раненне...
З таго часу заўжды на плячо Ільіча
Пачынаецца наша раўненне.

Хоць старыя калоды, каменняў скрылі
Падгіналі ў рабочых калені,
А па вольнай, ачышчанай нашай зямлі
Нёс цяжэйшую ношу Ленін.



Пятрусь МАКАЛЬ

## РАБЫ

З крыжом,
іржавым і надломаным,
Спічасты шпіль да зор
Прасцёр
На плошчы ў горадзе над Нёманам
Касцёл,
Як велічны касцёр.
Ад граду, што калоссі жытнія
Малоціць сотнямі цапоў,
І ад маланкі, што, абжытая,
Бяжыць па дроце між слупоў, —
Як цені, цягнуцца паломнікі
У храм, нібыта ў век былы,
Мае равеснікі — палоннікі
Сівой касцёльнае імглы.
Іх даўкім дымам замуроўвае —
Раздзьмуў кадзіла бог рабы.
І б'юць аб пліты мармуровыя
Пакутныя ілбы
Рабы.
Жанчына — горкаю рабінаю:
Удовін позірк,
як сляза,



Багіня хараства рабыняю
Згінаецца, нібы лаза.
Малітву песні пастыр выдыхнуў
Баском рыпучым, як пратэз,
І раптам крык бунтоўна выбухнуў —
Дзіцячы крык, нібы пратэст.
Дзядок з вачамі жаўтароціка
Свой крыжык ціcне да грудзей.
Выцягвае камені гоціка
І гне людзей,
І гне людзей...
Мая эпоха!
Ты — нязвычная!
Табе ў вяках няма раўні.
Нейлонавая і касмічная,
Рабам калені разагні!

## ПЕРШАМУ КАСМАНАЎТУ

Ужо стартуюць касманаўты новыя,
А першы — ён!
А першы ўсё-ткі ён!
Планета сына дзёрзкага ўшаноўвае
За тое, што ўзарваў яе закон!
Як мала зналі мы са слоў Ньютона,
Зямное прыцягненне,
пра цябе.
Шпурнуць з зямлі ў блакіт металу тоны
Яшчэ не ўсё ў міжзорнай барацьбе.
У прыцягнення —
самай мілай рукі.
Пяшчотныя і дужыя, яны
Кранялі так пілота ў час разлукі,
Што ўслед за ім цягнуўся шар зямны.
З самім сабой,
З сусветам цэлым бітва —
На чай да сонца ў госці завітаць.
Бо гэта не службовая арбіта
Таго, хто не народжаны лятаць!
І зноў — Масква!
І зноў — салютаў пошчак!
Замры на міг ізноў абшар зямлі!
Ушанаваць герояў к нам на плошчы
З былых стагоддзяў пасланцы прыйшлі.
Грыміць Бетховен гімнам касманаўту.
Пануй у зорных высях, чалавек!
Дык вось нашто мяцежную санату
Складаў бунтар яшчэ ў мінулы век...

## ЗЯЛЁНАЕ ЦАРСТВА



вала табе, зялёная дзяржава, —
За хісткай агарожай агарод.
Парушыўшы граніцы — плот іржавы,
Я смачны мак камандзірую ў рот.
Ля ног маіх гуркі,
як лайдакі,
Схаваліся ў цянёк пад лісце крохкае
Мурзатыя, цяжкія таўсцякі, —
Крані, здаецца, і любы зарохкае...
Сышліся памідоры спелым статкам,
Напоеныя сонцам, віснуць груды,
Нібыта маладухі немаўляткам
Падставілі свае тугія грудзі.
Вытрэшчвае на іх цікаўна зрэнкі
Сланечнік — адзінокі халасцяк.
А на шнуры стракаты шоўк сукенкі
Трымціць, нібы заакіянскі сцяг.
Сваёй вялізнай галавой варушыць
У самым цэнтры
гаспадыняй трону
Па-над усім зялёным царствам груша,
Узнёсшы горда крону,
як карону.
Але цішэй! З хаціны бабка выйшла,
Кійком сукастым крутанула ўвішна,
Ды так надрала каралеве вушы,
Што сыпанулі, нібы слёзы, грушы.
Не грушы — грозны град загрукаў
справа,
Якому ўторыць дождж грымотны
злева.
Замерла ўся зялёная дзяржава:
Ах, бабка, бабка — во дзе каралева!

## ПАД ДАЖДЖОМ



ечар.
Вецер.
Плошчу
Палошча
Дождж пранізлівы і густы.
Толькі два дзівакі на плошчы —
Слуп тэлеграфны і ты.
У слупа —
абавязак службовы:
Ён не можа схавацца пад дах,
Ён падтрымлівае размовы,
Што пагойдваюцца ў правадах.
Ні на хвілю, вядома,
яны не моўкнуць.
А табе, маладому,
навошта мокнуць?
Хлопец-зух, прыгажун, гуляка,
Недзе джаз затужыў без цябе...
Плашч набраклы звініць, як бляха,
Пад дажджом, што цвікамі дзяўбе.
— Не прыйшла — і няхай!
Да д'ябла! —
Ты не ўсклікнуў у гэты раз.
Ты камячыш акурак азябла
І шпурляеш пад грозны абцас.
Табунамі імёны дзявочыя
У блакноце ад «А» да «Ю»...
Дык чаму ж ты яе не варочаеш,
Папяровую памяць сваю?
Галі, Веры, Надзеі, Таі, —
Спёка вуснаў і вільгаць віна...
Хто ж яна, ганарліўка тая,
Што за ўсіх вас дужэй адна?
Бог дзявочы
цыгарку топча.
Дажджавая цурчыць вада.
Бог дзявочы —
зусім як хлопча.
Далібог, мне яго шкада!
Толькі хай памокне нябога.
Пакланіся паклонам зямным
Тым дзяўчатам,
што з бога любога
Пыл збіваюць дажджом праліўным!

* * *



слепіць раптам, быццам шчасце,
Зямля, апраненая ў бель.
Ступаеш — і сняжок бліщчасты
Хрусціць, як новенькі рубель.
Узбоч дамоў
І клёнаў вычварных,
Узбоч дамоў,
У неба ўвінчаных, —
Ідзеш,
На ўвесь сумёт падросшая.
У каўняры ўтапіўся нос.
Недасягальная, харошая, —
Не ў знак ні вецер, ні мароз!
А мне ля касы ў зале вузенькай,
Дзе сумятня і таўкатня,
Аматары класічнай музыкі
Бакі камячылі паўдня.
Я місію цяжкую выканаў,
Я так стаю,
нібы пяю:
Я толькі што ў акенца выкінуў
Усю стыпендыю сваю!
Як музыку, што ў нотах схована,
Я два білецікі нашу.
Спяшаеш ты спаткаць Бетховена,
А я пальчаткай варушу.
Табе пад чорненькія боцікі —
Сняжынкі, быццам з вербаў коцікі,

Сняжынкі —
як значкі манетныя,
Усё срабрыстыя, не медныя!
Раяцца, скарбы несучы —
Тапчы, тапчы!

## ХМАРА

З усім няспешна
Над жытамі кволымі,
Сабе цану адчуўшы,
Хмарка едзе.
Пагрукваае пярун цяжкімі коламі
На пачарнелым даляглядзе недзе.
У вольхі ліст пачаў у трубку скручвацца,
Стаміўшыся ў чаканні, поле трэскае,
Травінкі ў лузе сутаргава курчацца,
Аер пасохлы хутка стане трэскамі.
Гарлачыку даўно засмягла ў горле,
Вось-вось цюльпан пялёсткі-рукі згорне...
Пра гэта ўсё сама маланка знае —
Агністай пугай сцёбае над пашаю,
Марудлівую хмарку паганяе,
Што цягнецца хадою чарапашаю.

Уладзімір ФАМІН

## ПЕРШЫ КРОК

Шпачэ жыццё.
Імклівае цячэнне
Бурліць і размывае берагі.
Мой родны сын
зямное прыцяжэнне
Пераадолеў —
крок зрабіў,
другі.

Як касманаўт чарговы
з касмадрома,
Узяў ён першы старт свой
на зямлі.
Адсюль, напэўна,
з бацькавага дома,
Шляхі яму к планетам
праляглі.

* * *

Жоўтым полем
коціць вецер хвалі,
Яны шэпчуць,
б'юцца ў берагі.
І сцяблы спружыняць,
як са сталі,
Хіляць долу
колас свой тугі.

П'юць зярняты
сонечныя промні,
Прагна сокі п'юць
з зямных грудзей.
І здаецца,
што зярняты ўроніць
Колас,
не данёсшы да людзей.
Быццам ад натугі,
стогне поле:
Вырастае ноша
спакваля...
Хутка збожжам
са свайго прыполу
Сыпане
карміцелька-зямля.



Уладзімір ШЫЦІК

# АПОШНЯЯ АРБІТА

Фантастычная аповесць

Мал. Г. Скамарохава

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

### I

Спорны вясновы дожджык наляцеў знянацку і загнаў Паўла Гушчу пад казырок бліжэйшага пад'езда. Шукаючы, дзе б можна было схавацца, Павел туліўся да зачыненых дзвярэй. Вуліца адразу апусцела, страціла фарбы, зрабілася шэрай і панылай.

Лівень скончыўся гэтак жа раптоўна, як і пачаўся. Зноў засвяціла сонца, цёплае, ласкавае. Павел ступіў на тратуар і спыніўся. З дома насупраць выбегла дзяўчына і раскрыла над галавой парасон. Яна нечым была падобная на Валю. З Валяй ён пазнаёміўся мінулай восенню. Тады таксама хаваўся ад дажджу на чужым ганку, і яна, незнаёмая яшчэ, прыкрыла яго парасонам. Каб ведаў, што чакае яго пасля, ён нізавошта не загаварыў бы з Валяй.

На вуліцы людзей было мала. За апошнія гады гэты некалі шумны і ажыўлены праспект неяк прыціх, можа таму, што ў горадзе паявіліся новыя раёны і кварталы з вялізнымі магазінамі, мнагалюднымі ўстановамі, прыгожымі тэатрамі. Але Павел любіў гэты стары куток горада,

любаваўся ягонай прыгажосцю бадай гэтак жа, як і тыя, хто калісьці будаваў галоўны праспект. Толькі цяпер Паўлу было не да любавання. Ён увесь аддаўся ўспамінам. Абыходзячы лужынкі, што не паспелі яшчэ высахнуць на асфальце, ён прыгадваў, што ля гэтага магазіна купляў Валі кветкі, у гэтым кафэ яны частаваліся марожаным, у тым вунь кіёску выбіралі кнігу...

Усё гэта было тады, калі ён, звычайны малады, хай сабе, як казалі многія, і таленавіты кандыдат навук, зрабіў важнае адкрыццё ў галіне астранамічнай фізікі, такой жа туманнай для большасці людзей, як і сам космас. І сапраўды, што можа сказаць неспецыялісту вестка аб радыёвыпраменьваннях з сузор'я Індзейца, якое першы заўважыў Гушча і прырода якога пакуль невядомая.

Цяпер Павел Гушча пытаўся сам у сябе: ці меў ён права на знаёмства з Валяй, тым больш на сяброўства, бо ўжо тады ягоная заява ляжала ва Усесаюзным касмічным цэнтры. Па шчырасці сказаць, ён не верыў, што яму пашанцуе. Надта ўжо многа такіх заяў ішло ў Касмічны цэнтр з усёй краіны. І вось здарылася неверагоднае, пра што ведаюць пакуль нямногія. Восенню першая касмічная экспедыцыя, кандыдатам у члены якой зацверджаны Павел Гушча, надоўга пакіне Зямлю і адправіцца ў бязмежныя глыбіні Сусвету. Прыкладна так паведаміў яму паўгадзіны таму назад камандзір экспедыцыі, вядомы астранаўт акадэмік Бурмакоў.

У бібліятэцы, старой «Ленінцы», Павел на момант адчуў палёгку. Бестурботным юнацтвам дыхнула на яго з калідораў, залаў, кабінетаў. Павел накіраваўся да свайго століка. На ім ляжалі пажоўклыя ад часу падшыўкі старых газет. Павел заказаў іх па тэлефоне адразу пасля размовы з Бурмаковым.

Гіпотэза аб касмічных гасцях Зямлі некалі займала ўвагу многіх вучоных і даследчыкаў, выклікала гарачую дыскусію. А потым неяк на яе забыліся. Відаць, неверагодным здалося ўсё гэта нават самым зацятым прыхільнікам гіпотэзы. Бурмакоў жа чамусьці параіў Паўлу сур'ёзна прачытаць усё, што друкавалася аб ёй, і выказаць свае думкі.

Павел не зусім дакладна ўяўляў, навошта гэта спатрэбілася Бурмакову. Магчыма, гіпотэза мела пэўнае дачыненне да будучага палёту, аб маршруце якога Павел яшчэ не ведаў.

Ён пачаў чытаць. Даўняя спрэчка вучоных, аб якой газеты пісалі скупа, нечакана захапіла Паўла. Ён адчуў, што яго сімпатыі ўсё больш і больш схіляюцца на бок тых, хто, можа, і памыляўся, але думаў смела.

Гасцей з космасу на Зямлі не было,— гаварыла навука. Здавалася б, усё ясна. А Павел не мог з гэтым згадзіцца, як не згаджаліся тыя, хто падаў ідэю. Чаму? Можа таму, што не хацелася прызнаць чалавека Зямлі адзінокім сярод безлічы мёртвых светаў, пакінуць яго без надзеі сустрэць калі-небудзь сабрата па розуму.

Гартаючы газетныя старонкі, спрачаючыся ў думках са сваімі праціўнікамі, Павел не адразу адчуў, як нечыя мяккія і цёплыя пальцы ласкава ляглі яму на вочы. Ён асцярожна адвёў гэтыя рукі і ўбачыў Валю.

Валя нахілілася да стала, прачытала назву артыкула.

— Паўлік! Ты і фантастыка! Дзіўна!..

Павел вінавата адказаў:

— Надакучылі формулы, пацягнула да нязбыўнага.

— А я пацягну цябе зараз на стадыён. Няма чаго дарэмна мазгі тлуміць.

Самалёт адлятаў заўтра ўдзень, білет у Паўла ляжаў у кішэні.



Павел згадзіўся, папрасіўшы толькі бібліятэкарку не адносіць у сховішча падшывкі. Тое-сёе трэ было яшчэ дачытаць.

На вуліцы ён абыякава сказаў:

— Заўтра лячу ў Маскву, у чатырнаццаць дваццаць.

Два дні таму назад яны дамаўляліся гэты тыдзень правесці ўдваіх, бо ў Валі заняткі былі перанесены на другую змену, а ў яго з выпадку экзаменацыйнай сесіі ў студэнтаў, якім ён чытаў фізіку, прыбавілася вольнага часу. І раптам — сюрпрыз...

Валя ўжо ведала: калі Павел сам не раскажа, што да чаго, пытацца бескарысна. І таму прамаўчала, хоць ёй было і крыўдна.

Павел заўважыў, як Валя перамянілася з твару. Ён шкадаваў яе, бо не меў пакуль права сказаць ёй праўду, і толькі мацней пацісну ёй руку.

—Я сам не ведаў. Выйшла нечакана. Паеду больш як на тыдзень.

Валя ўздыхнула. Калі выклікаюць — трэба ехаць.

З празрыстай пластмасы, светлы і прасторны, бясшумна імчаўся па шырокім праспекце Камунізма электрабус. Будаваць праспект закончылі не так даўно — гадоў пяць назад. Невысокія, на восем-дзесяць паверхаў, жылыя дамы цягнуліся ўздоўж праспекта на некалькі кіламетраў. Кожны квартал меў сваю архітэктуру. Людзям тут жылося добра. Вялікія вокны давалі многа святла. Зашклёныя празрыстым пластыкам, яны прапускалі ўльтрафіялетавыя прамені. Спецыяльныя аўтаматычныя ўстаноўкі падтрымлівалі пастаянную тэмпературу і вільготнасць паветра ў пакоях. Павел ведаў, што па такіх праектах цяпер усюды будуюць жылыя кварталы, рэканструіруюць старыя.

Але Павел раптам упершыню адчуў сябе староннім у гэтым цудоўным горадзе. Ён яшчэ жыў тут, хадзіў па вуліцах, па алеях, а ў галаве ўвесь час трапятала думка пра блізкае расстанне. І ад таго, што расстанне вяло ў далёкае невядомае, ён нібыта ўзнімаўся над штодзённым, рабіўся мудрэйшы, здольны па-філасофску разважліва ацаніць тое хараство, якое мусіць пакінуць неўзабаве...

— Ты не слухаеш мяне, прафесар? — у голасе Валі гучала насмешка.

— Разумееш, кожны раз я тут знаходжу нешта новае, хоць, здаецца, ведаю ўсё да дробязей.

А сам падумаў: «Разумніца Валя. Трывожыцца і не хоча падаць знаку».

Электрабус спыніўся на плошчы, у канцы якой за высокай ажурнай аркай пачынаўся Цэнтральны стадыён. Павел саскочыў першы, памог выйсці Валі. Аўтавадзіцель, падпарадкоўваючыся сігналу механічнага кандуктара, павёў электрабус далей.

— Паглядзі на ўваход. Мне заўсёды здавалася, што арка трохі нізкаватая. І ведаеш, чаму? Плошча насупраць прасторная. А цяпер бачу, што памыляўся. Вунь тыя пікі над сярэднімі калонамі... — паказаў Павел. — Яны імкнуцца ўвышыню і нібы цягнуць за сабой усю канструкцыю.

— Фантазёр, — засмяялася Валя. — Не можаш ты без неба.

— Мы народжаны адзін для аднаго!.. — пачаў Павел, думаючы пажартаваць, але не вытрымаў тону і, збянтэжыўшыся, растлумачыў:— Гэта значыць, я і неба.

— Я так і зразумела. То, можа, гэтыя пікі памогуць табе здабыць новыя таямнічыя сігналы з Сірыуса?

— Здзекуешся? — Павел пасур'ёзнеў. — Вось зараз утаплю!

Падхапіўшы дзяўчыну на рукі, ён падбег да басейна з фантанам, што ўскідваў высока над плошчай каскад сваіх пырскаў, і, апускаючы Валю да самай вады, сказаў:



— Прасі прабачэння!

Валя адбівалася, спрабуючы вырвацца, і ўрэшце здалася.

— Добра. Твая ўзяла.

А калі ён паставіў яе на зямлю, крыху адбеглася і сказала:

— Я памылілася, не з Сірыуса, а з Лебедзя...

Павел махнуў рукой, маўляў, што з такой зробіш.

Яны зайшлі на стадыён. Там разыгрываўся Вялікі кубак рэспублікі сярод юнакоў па мнагаборству. Але перш чым паглядзець спаборніцтвы, яны звярнулі да тэніснай пляцоўкі. Абое любілі тэніс, аддаючы яму многа вольнага часу.

З раздзявалкі Павел выйшаў раней і, не чакаючы Валі, пачаў размінку. Яго рухі былі пластычныя, прыгожыя, нібы ў гімнаста-фігурыста, і Валя, выпадкова зірнуўшы ў акно, залюбавалася. Высокі, стройны, мускулісты, Павел быў сапраўдны спартсмен, і ў свой час не адзін трэнер спрабаваў спакусіць яго кар'ерай чэмпіёна. Павел любіў спорт. Але яшчэ больш любіў фізіку, а чэмпіёнам не зрабіўся толькі таму, што не хапіла часу для трэніровак. Затое стаў моцны. Таварышы нават жартавалі, што не ведаеш, чаго ў Гушчы больш — спартсмена ці вучонага. То была праўда, якая, бадай, адыграла не апошнюю ролю ў тым, што Усесаюзны касмічны цэнтр выбраў Паўла ў састаў экспедыцыі. Валя пра гэта яшчэ не ведала. Яна проста, як заўсёды, захаплялася сваім сябрам, хоць сёння чамусьці на яе находзіў смутак: не такі, як заўсёды, быў Павел — ён нейкі ўзрушаны, таямнічы.

Ракетка спрытна лётала ў Паўлавых руках, а Валя зноў і зноў з трывогай заўважала, што Павел робіць больш, чым раней, памылак, што ягоныя ўдары страцілі звычайную дакладнасць. Яна лёгка разгадвала Паўлавы камбінацыі і выйгравала адно ачко за другім. Прайграўшы тры сеты ўзапар, Павел схіліўся ў паклоне перад Валяй:

— Прызнаю, о, непераможная, сваю адсталасць...

— Калі думкі тэнісіста лунаюць па-за кортам, яму цяжка разлічваць на поспех, — у тон яму адказала Валя, чакаючы, што Павел зразумее намёк і раскажа пра свае клопаты.

Павел прамаўчаў.

Трыбуны гіганцкай чашы Цэнтральнага стадыёна, поўныя гледачоў, у захапленні гудзелі. Гадоў трыццаць таму назад мнагаборства лічылася надзвычай складаным відам спаборніцтваў і было пад сілу толькі дарослым. Потым мнагаборства зрабілася і спортам юных.

У фінальных спаборніцтвах удзельнічала дваццаць хлопчыкаў ва ўзросце да пятнаццаці год. Моцныя, рослыя, яны паказвалі выдатныя вынікі. Гэта і выклікала такое бурнае захапленне на трыбунах.

Асаблівы поспех выпаў на долю юнака ў чырвонай майцы чэмпіёна. Ён лёгка прабег паўтары тысячы метраў, заняўшы першае месца, а праз чвэрць гадзіны пераскочыў планку на вышыні два метры і дваццаць сантыметраў. Не паспелі сціхнуць апладысменты, як фотаэлектронны



суддзя зычным голасам абвясціў, што ўзята новая вышыня. У суме дзесяці відаў праграмы юнак устанавіў рэкорд рэспублікі.

Паводле звычаю, пераможца ўзняўся на п'едэстал пашаны і пакланіўся ўсім чатыром трыбунам. Спецыяльныя праекцыйныя ліхтары павялічылі адлюстраванне яго фігуры ў некалькі разоў, і Павел пазнаў чэмпіёна. Гэта быў Валін брат, васьмікласнік Віця Асадчы. Павел ведаў, што Віця таленавіты матэматык. Але што ён цудоўны спартсмен — гэта было прыемнае адкрыццё.

Пасля спаборніцтваў Віця сустрэў Паўла і Валю. Дамоў вярталіся ўтраіх.

Ад ранішняга дажджу не засталося і следу. Вечар быў цёплы, ціхі, напоўнены духмяным пахам ранніх кветак, якія ўжо цвілі на клумбах. Узбуджаны Віця весела ўспамінаў пра розныя выпадкі, што здарыліся ў час спаборніцтва. Павел і Валя, занятыя сваімі думкамі, зрэдку падтаквалі.

Нарэшце Валя спытала:

— Паўлік, раскажы, навошта спатрэбілася табе сёння чытаць старыя газеты?

## II

Яны спыніліся ля Валінага дома. Павел прыхіліўся да дрэва, зірнуў угару. Скрозь густую крону таполі амаль не было відаць неба. Нарэшце скрозь галінкі прабіўся дрыготкі блакітны праменьчык — вестка нейкага далёкага свету. Зорка... Падумалася, — а можа гэта адтуль прыляталі тыя, хто пакінуў неразгаданыя сляды на нашай зямлі?

— Ну! — Валя дакранулася да Паўлавай рукі. — Ты чуў, пра што я пыталася?

Дзівачка! Хіба ён можа не чуць, калі яна гаворыць? Чуў. Але цяжка расказваць, калі табе самому яшчэ многае няясна і гэтая няяснасць хвалюе цябе.

— Проста не ведаю, з чаго пачаць, гэта вельмі доўга.

— А нам няма куды спяшацца, — Віця сеў на лаўку.

— Дзецям спаць пара! — незадаволена прабурчэла Валя.

— Во яшчэ, — Віця ямчэй умасціўся на лаўцы.

Павел падміргнуў Валі, маўляў, блазнюк, не разумее. Але яму Віця цяпер не перашкаджаў. Няхай паслухае.

Павел быў чалавекам з той фантазіяй, якая памагае абагульняць з'явы, бачыць факты больш поўна і глыбока і, урэшце, прыводзіць да навуковых адкрыццяў. Таму яго нават у звычайных умовах не маглі не зацікавіць гіпотэзы аб касмічных гасцях Зямлі. А цяпер у яго паявілася яшчэ і зацікаўленасць касманаўта.

Валіна пытанне нават прынесла Паўлу палёгку. Нарэшце ён зможа падзяліцца сваімі хай яшчэ неакрэсленымі думкамі.

— Можа, гэта гучыць недарэчна ў наш час, але мы, людзі, якія навучыліся будаваць найскладанейшыя машыны, пазналі шматлікія таямніцы прыроды, не можам растлумачыць зусім простых з'яў... Гэтыя з'явы здаваліся яшчэ больш незразумелымі людзям пяцідзесятых гадоў мінулага стагоддзя. Вось і прыдумалі амаль фантастычныя гіпотэзы пра гасцей з космасу. Гіпотэзы гэтыя былі смелыя да неверагоднасці і грунтаваліся больш на здагадках, чым на навуковых аксіёмах. Канешне, крытыкаваць іх было лёгка, бо яны проста не вытрымлівалі крытыкі. Гэта і дало магчымасць хутка іх пахаваць. А мне яны нечым спадабаліся. Вось паслухайце і скажыце, як вы разумееце?

У гарах Антылівана знаходзіцца цудоўная Баальбекская веранда.

Хутчэй, гэта не веранда, а пляцоўка ў некалькі квадратных кіламетраў. Яна забрукавана вялізнымі каменнымі гладка апрацаванымі плітамі. Само па сабе гэта не дзіўна. Старажытныя егіпцяне без дапамогі вежавых кранаў будавалі піраміду Хеопса, якая да гэтага часу лічыцца адным з сямі цудаў свету. Але Баальбек здзіўляе. Ён будаваўся многа раней, і калі ў пірамідах пліты важаць па дзве-тры тоны, то там — да дзвюх тысяч тон кожная.

Ніводзін гісторык не сказаў пакуль што, калі іменна пабудавана Баальбекская веранда і з якой мэтай. Людзі ведаюць яе з таго часу, як помняць сябе. І тут напрошваюцца пытанні: ці маглі будаваць нашы старажытныя продкі такое тэхнічна дасканалае цуда, ды і навошта? Нашы продкі, якія, як вядома, былі людзі практычныя, самі наўрад ці будавалі б такую махіну, бо патрэбы ў ёй не было. Дык падумайце. ці нельга зрабіць іншы вывад? А што, калі гэта была стартавая пляцоўка для касмічнага карабля, які прыляцеў на нашу Зямлю?

І ў Балівіі былі знойдзены не менш цікавыя старажытныя помнікі. Ля вытокаў Амазонкі блізка ад Ціагунака выяўлены рэшткі вялікага недабудаванага горада. Дамы, храмы, умацаванні складзены з буйных каменняў і блокаў, якія важаць дзесяткі тон. І вось адна істотная акалічнасць. Горад будаваўся ў гарах на вышыні чатыры тысячы метраў. Якім чынам дастаўляліся сюды будаўнічыя матэрыялы знізу! Легенда інкаў расказвае, што будавалі яго белыя барадатыя людзі, якія ўцяклі потым у час паводкі на лодках, пакінуўшы будаўніцтва незакончаным, і больш ужо не вярталіся сюды. Вучоныя лічаць, што гэтаму гораду каля пятнаццаці тысяч год.

— Здорава! — Віця не зводзіў вачэй з Паўла. А Валя сядзела на лаўцы і задумліва вадзіла наском туфля па пяску.

— Але і гэта яшчэ не ўсё. У храме Каласавех на «Варотах Сонца» вучоным пазней удалося расшыфраваць самы старажытны каляндар. Год яго, аднак, не падобны да зямнога: мае ўсяго 290 дзён, дзесяць месяцаў па 24 дні і два па 25. Мы ведаем, колькі варыянтаў календара перабралі нашы продкі, пакуль не спыніліся на сучасным. Год у іх таксама адзін час быў меншы, чым наш цяперашні. Аднак продкі ў той час не валодалі дасканалай навукай і тэхнікай, не ўмелі ствараць такія збудаванні. Значыць тыя, каму належаў каляндар, не маглі памыляцца. Хто яны? Прышэльцы з планеты, дзе год мае 290 дзён? А можа гэта не гадавы, а месячны каляндар. Яшчэ ў шасцідзесятыя гады, даследуючы з дапамогай радыётэлескопаў Венеру, нашы вучоныя ўстанавілі, што гэта планета абарочваецца вакол сваёй восі крыху менш чым за дзесяць зямных сутак. А венерыянскі месяц, такім чынам, мае прыкладна (або дакладна) 290 нашых дзён. Дык можа гэта былі госці з Венеры?

Павел змоўк, падсеў да Валі. Яна павесялела, засмяялася:

— Раптам адтуль хто-небудзь цяпер на мяне пазірае... — і перасмыкнула плячамі.

— Няма яму больш чаго рабіць! — абурыўся Віця і звярнуўся да Паўла: — А чым тады растлумачыць, што пазней ніхто да нас не прылятаў?

— Растлумачыць проста, калі паверыць у сам факт. Уяві, што гэта былі прышэльцы з далёкага свету, адкуль святло зорак даходзіць на Зямлю праз многія тысячы год. Нават, калі яны будуць ляцець з хуткасцю святла, то падлічы, колькі часу на гэта спатрэбіцца, і колькі часу пройдзе ў нас на працягу іх падарожжа. Ты ж ведаеш тэорыю адноснасці.

Валя зірнула на гадзіннік.



— Зойдзем, Паўлік, у дом. Пабудзь крыху ў нас перад расстаннем.

Ва ўтульнай гасцінай Павел агледзеўся, быццам быў тут упершыню. Кожная рэч у гэтым пакоі выклікала смутак. Каб трохі забыцца, Павел сеў да піяніна. Прабег пальцамі па клавішах, бадай, не заўважаючы, што грае.

— «Лунная саната», — сказала Валя. — Бетховен. Сёння ты паланёны космасам, Паўлік.

Павел зірнуў на Валю, не адразу ўлоўліваючы сэнс яе слоў. А Віця сярдзіта зашыкаў на сястру:

— Цішэй ты, без цябе ведаем.

Потым, пачакаўшы, спытаў:

— Павел Канстанцінавіч, дык, на вашу думку, былі яны ў нас?

Павел перастаў іграць, павярнуўся да Віці і сказаў:

— Не думаю. Але як хочацца, каб гэта была праўда!

— А я ўпэўнены — былі, — горача загаварыў Віця. — Проста людзі дрэнна ведаюць пакуль гісторыю Зямлі. А я хоць на Марс, хоць далей куды паляцеў бы, каб знайсці тых касманаўтаў.

— Падрасці яшчэ, — засмяялася Валя. — Чалавек пакуль далей за Месяц ляцець не збіраецца.

Павел зноў нахіліўся да піяніна і, беручы акорд, закончыў думку:

— Упэўнены, што хутка людзі пабудуюць і на Марсе, і нават далей.

— Чуеш? — Віця радасна зірнуў на сястру.

— Блазнота, — адмахнулася Валя, і няясная трывога зноў ахапіла яе. — А скажы, Павел, навошта табе спатрэбілася капацца ў старых падшыўках? Гэта табе даручылі, так?

Павел кіўнуў галавой.

## III

Важная перамена, калі яна мае адбыцца ў жыцці, пэўным чынам адбіваецца на кожным чалавеку. Часам яна выводзіць з раўнавагі нават флегматычных людзей. Навіна ж, якую атрымаў Павел, яго проста ашаламіла. Наўрад ці знайшоўся б такі моцны чалавек, які ўспрыняў бы яе спакойна. Палёты ў космас хоць і прынеслі вялікія поспехі, засталіся ўсё яшчэ надзвычай складаныя і часта небяспечныя. Чалавек дасягнуў Месяца, ступіў на яго паверхню. Але не заўсёды гэта праходзіла без ахвяр. Павел добра помніў імёны касманаўтаў, якія не вярнуліся на Зямлю. Таму можна было дараваць, што ён праз усю ноч перад ад'ездам у Маскву ні на хвіліну не прылёг. Аж пакуль не развіднела, ён стаяў ля акна і думаў, думаў.

Сярод вучоных хадзілі чуткі, што новая экспедыцыя накіруецца ўжо да іншых планет.

Шчыра кажучы, Павел не верыў гэтаму. Ён ведаў тэхнічныя магчымасці касмічных караблёў і разумеў, што адпраўляць іх на мільёны кіламетраў у бездань космасу па меншай меры рызыкоўна. Але ж некаму трэба быць першаму з людзей, якія паспрабуюць пабываць на Марсе або на Венеры, нават пры ўсёй небяспечнасці такога падарожжа.

Не, Павел не баяўся. Страх — не тое слова, якім можна было вызначыць ягоны душэўны стан. Пабываць на іншай планеце! Гэта не так палохала, як вабіла. Думка, што можна загінуць, не прыходзіла яму нават у галаву, як не прыходзіла, напэўна, і тым, хто калісьці адкрываў невядомыя мацерыкі, шукаў спосаб упершыню расшчапіць атамнае ядро, першым на караблі «Усход» ляцеў у космас. Імі кіравала любоў да навукі і прага жыцця. І калі хто з іх не дасягаў мэты, то не таму,

што спыняўся на паўдарозе па сваёй волі. Тых людзей з сядла выбівала толькі смерць. Яна адна магла цяпер спыніць і Паўла, прымусіць яго адмовіцца ад экспедыцыі. Але пра смерць Павел не думаў: ён быў малады, поўны сілы і жаданняў. Нават бяссонная ноч з разважаннямі і перажываннямі не адбілася на ягоным выглядзе. Пасля ванны ён стаў, як звычайна, вясёлы і бадзёры.

Дваццаць хвілін лёту, і рэйсавы самалёт, на якім знаходзіўся Павел, прызямліўся ў Маскоўскім аэрапорце. Пераскокваючы прыступкі рухомай лесвіцы-трапа, Павел збег на ўзлётную пластыкавую дарожку. Яна была гладкая і бліснэла, як чорнае люстэрка.

Баючыся каб не паслізнуцца, Павел асцярожна ступіў крок, другі і падняў галаву, шукаючы, дзе ўваход у светлы, увесь са шкла, будынак аэрапорта.

— Павел Канстанцінавіч? — нехта крануў яго за локаць.

Азірнуўшыся, Павел аж пачырванеў: перад ім стаяў акадэмік Сцяпан Васільевіч Бурмакоў.

Некалькі імгненняў яны глядзелі адзін на аднаго, быццам вывучаючы, потым Бурмакоў падаўся наперад і моцна абняў Паўла.

У машыне Бурмакоў распытваў Паўла пра апошнія работы, пра Мінск, дзе акадэміку ніяк не траплялася пабываць. Павел адказваў, разумеючы, што гэта толькі прэлюдыя. Галоўная размова, якая вырашыць яго лёс, адбудзецца, відаць, пазней.

Не заехаўшы ў Маскву, Бурмакоў павярнуў у кірунку да акадэмічнага навуковага гарадка. Машына рабіла больш двухсот кіламетраў у гадзіну. Такая хуткасць была магчыма не толькі дзякуючы моцным маторам. Машына неслася па прамой шашы, якая мела аднабаковы рух, аўтаматычныя сігнальныя знакі. Імклівасць адпавядала Паўлаваму настрою, нецярплівасці. Толькі разгледзець што-небудзь ля дарогі было зусім немагчыма.

Паўгадзіны шалёнай гонкі, і яны апынуліся ў вялікім лесе, дзе знаходзіўся гарадок. Паехалі цішэй. Нарэшце машына падкаціла да невялікага белага катэджа.

— Тут будзем жыць, — паказаў рукою Бурмакоў і зняў цёмныя акуляры.

Новае жыллё не вельмі спадабалася Паўлу. Здавалася, усё тут было прадугледжана, каб чалавек адчуваў сябе зручна. Прасторныя, поўныя чыстага ляснога паветра пакоі, мяккая мэбля, стэлажы і шафы з кнігамі, радыёпрыёмнікі, тэлевізары, тэлевізефон. Карыстацца ўсім гэтым надзвычай зручна і проста. Не падымаючыся з крэсла або з канапы, ты можаш націснуць адпаведную кнопку і паслухаць перадачу, перагаварыць па тэлевізефоне з кім-небудзь, апусціць ці адкрыць штору на акне, атрымаць, нарэшце, шклянку вады, чыстай або з любым сіропам, і іншае. Увогуле, зручнасць, якая акружала тут чалавека, нагадвала тую, што павінна быць у каюце касмічнага карабля. Але ці была патрэба раней часу адракацца ад зямнога ўкладу жыцця?

Бурмакоў здагадаўся, што абсталяванне катэджа не вельмі прыйшлося Паўлу да спадобы, і ўсміхнуўся.

— Думаю, калега, вы ацэніце з часам належным чынам гэты камфорт, асабліва, калі распачнеце падрыхтоўку да экспедыцыі. А цяпер, прабачце, я на гадзінку пакіну вас.

Новыя абставіны, невядомая будучыня, вымушанае чаканне толькі павялічылі нецярплівасць. Не ўседзеўшы, Павел выйшаў у лес. Зарослая зялёным мохам, няходжаная сцяжынка вяла ў гушчар. Павел неўзабаве натрапіў на невялікае возерца, з якога выцякала вузенькая рэчка. Ля вытокаў стаяў будан, побач была прывязана лодка. Павел



сеў у лодку, замацаваў вёслы і раптам успомніў, што два дні назад яны з Валяй збіраліся на лодцы правесці тыднёвы адпачынак. На сэрцы стала тужліва. Павел скочыў на бераг і, не разбіраючы дарогі, нацянькі рушыў да катэджа.

— Засумавалі? — Бурмакоў быў ужо дома. Яго ветлівасць, спачувальны тон выклікалі на шчырасць. І Павел адказаў:

— Хутчэй бы!

— А некалі, Павел Канстанцінавіч, вы будзеце ўспамінаць сённяшні дзень, як адзін з найдаражэйшых.

Павел зірнуў на Бурмакова. Сцяпан Васільевіч задумліва перабіраў у пальцах лісткі чаромхі, што заглядвалі ў пакой праз адчыненае акно, і, здавалася, у гэты момант не заўважаў ні Паўла, ні пакоя. Напэўна, адчуўшы нямое Паўлава запытанне, ён схамянуўся і паўтарыў:

— Заўтра, магчыма, нам не стане часу захапляцца хараством прыроды. А потым... Потым мы зможам аб ім толькі ўспамінаць. І гэта будуць самыя прыемныя ўспаміны, паверце мне.

Яму можна было паверыць. Бурмакоў — адзін з тых трох касманаўтаў, якія пабывалі ў доўгіх экспедыцыях на Месяцы.

## IV

Тыдзень прамільгнуў, нібы адзін дзень. З'ездзіць у Мінск, як Павел намерваўся раней, не ўдалося. Увесь час занялі ўрачэбныя абследаванні. Аблытаны густой сеткай правадоў, Павел гадзінамі то ляжаў нерухома, то займаўся гімнастычнымі практыкаваннямі, то сядзеў за сталом і рабіў складаныя матэматычныя разлікі. Яго паводзіны і стан рэгістраваліся прыборамі і ўрэшце, відаць, задаволілі ўрачоў, бо аднойчы яны сказалі:

— Годны!

Цяпер Павел мог ужо лічыць сябе членам экспедыцыі. Заставалася яшчэ толькі сустрэцца з кіраўнікамі Касмічнага цэнтра. Напярэдадні той сустрэчы адбылася, нарэшце, важная размова з Бурмаковым. Сцяпан Васільевіч пазнаёміў Паўла з маршрутам, які намецілі для іх падарожжа.

У той час калі прымалася рашэнне аб новай далёкай касмічнай экспедыцыі, меркавалі дасягнуць Марса, не робячы пасадкі на планеце. Вядомыя тады рэактыўныя рухавікі не мелі яшчэ патрэбнай магутнасці для гэтага. Карабель, сеўшы на Марс, не змог бы адарвацца ад яго паверхні, каб вярнуцца назад. Хуткасць тагачаснага ракетаплана не ўзнімалася вышэй за пятнаццаць кіламетраў у секунду.

— Патраціўшы амаль тры гады, — гаварыў Бурмакоў Паўлу, — мы маглі б наведаць Марс або Венеру. Яны суседзі нашай Зямлі, хоць знаходзяцца ад яе на адлегласці сорак — шэсцьдзесят мільёнаў кіламетраў. Аднак паглядзіце, што будзе, калі мы паспрабуем дасягнуць іншых планет Сонечнай сістэмы. Да Юпітэра прыйдзецца з такой хуткасцю дабірацца некалькі год, а да Плутона — паўстагоддзя. І гэтулькі ж назад. Розум чалавека не хацеў мірыцца з амаль зямнымі тэмпамі руху ў космасе. Вучоныя прапаноўвалі ідэі, распрацоўвалі праекты касмічных караблёў, хуткасць якіх адпавядала б бясконцым адлегласцям Сусвету. Паводле адных тэорый, касмічны карабель трэба аснасціць ветразем дыяметрам у некалькі соцень метраў. Ціск сонечнага святла «надзімаў» бы гэты ветразь. Зроблены з лёгкага і трывалага палатна, ён павінен быў раскрывацца пасля таго, як карабель з дапамогай ракетных рухавікоў выведзен ужо на патрэбны курс. Другія — прапаноўвалі

выкарыстоўваць атамную энергію. Але каэфіцыент карыснага дзеяння тагачасных атамных рухавікоў быў адносна невялікі. Не ўдавалася поўнасцю выкарыстаць энергію, якая атрымлівaецца ў выніку распаду атама. Такія рухавікі не маглі задаволіць нас у вялікім падарожжы, скажам, да бліжэйшых зорак: і хуткасць не тая, і паліва спатрэбіцца надзвычай многа. Таму самымі перспектыўнымі трэба лічыць фатонныя ракеты...

— І наш карабель будзе мець такі рухавік? — загарэўся Павел.

— На жаль, не. Згодна закону прыроды, у кожным граме рэчыва захоўваецца патэнцыяльны запас энергіі, роўны 28 мільёнам кілават-гадзін. У адным граме — шэсць гадзін работы Брацкай гідраэлектрастанцыі! Калі б мы змаглі гэту энергію здабыць, яна памагла б стварыць рэактыўны струмень, гіганцкі па магутнасці і такі ж хуткі, як святло. Тады і хуткасць ракетнага карабля ў касмічнай прасторы можна давесці амаль да светлавой. Але чалавек пакуль што не ўмее атрымліваць гэтай так званай поўнай энергіі, звязанай з масай спакою.

— А пошукі вядуцца?

— Бясспрэчна. І хоць вынікі іх пакуль нязначныя, затое сам прынцып навёў нас на цікавую думку. Вы ведаеце, што работы ў галіне вялікіх энергій здаўна цікавяць мяне. У вольны час паміж палётамі я многа займаўся імі. Мяне захапіла магчымасць пабудаваць рухавік, які мог бы забяспечыць хуткасць у дзесяткі і сотні тысяч кіламетраў у гадзіну. Фатонная ракета — справа будучыні. А што яшчэ, акрамя святла, мае такую хуткасць распаўсюджвання?

— Сілы цягацення, гравітацыі,— падказаў Павел.

— І радыёхвалі,— дадаў Бурмакоў,— электрамагнітныя ваганні высокай частаты. Калі іх ператварыць у механічную энергію і надаць ім патрэбнае накіраванне, што проста зрабіць з ультракароткімі хвалямі, то можна стварыць нават цягавую сілу. Яна будзе невялікая, але ў космасе і не трэба вялікай. Там карабель не мае вагі і, каб разагнаць яго, патрэбна зусім нязначнае намаганне. А энергію для радыёгенератара дадуць атамная электрастанцыя і сонечныя батарэі. Вось так будзе аснашчаны і наш з вамі карабель. Ядзерныя рухавікі дазволяць нам падлятаць да планет, астэроідаў, не зважаючы на іх магутнае прыцягненне.

Ідэя была настолькі простая, што Павел не адразу паверыў.

— Неверагодна,— сказаў ён.

— А між іншым, факт,— у тон яму адказаў Бурмакоў.— Вы помніце апошні штучны спадарожнік Венеры? Дык вось, увесь шлях ад знешняга пояса зямной атмасферы да сваёй зададзенай арбіты — больш за сорак мільёнаў кіламетраў — ён ляцеў з дапамогай такога рухавіка. Гэта было яго выпрабаваннем.

— Значыць, наша цяперашняе падарожжа не будзе вельмі доўгае?

— Так,— адказаў Бурмакоў.

— Але прычым тут старая дыскусія, матэрыялы аб якой вы загадалі мне прачытаць?

— А раптам на Марсе мы сустрэнем нейкія сляды? Калі касмічныя госці былі ў нас, то яны, напэўна, пабывалі і там.

— Я вельмі рады, Сцяпан Васільевіч, што мне выпаў гонар адправіцца ў космас разам з вамі,— Павел сказаў гэта шчыра і проста. Бурмакоў падняўся з крэсла і моцна абняў свайго будучага спадарожніка.

— І я рады таксама. Мы пабываем на Марсе. Але гэта толькі пачатак, пробны палёт. У перспектыве — знешнія планеты сонечнай сістэмы, бліжэйшыя сузор'і, якія вы ведаеце вельмі добра.

Дык вось чаму Бурмакоў выбраў сабе ў спадарожнікі яго. Марс — гэта толькі пачатак. Не, Павел ніколі не думаў, што яму прыйдзецца разважаць пра зоркі як пра нешта рэальнае, што ён можа назіраць іх не толькі ў тэлескоп, а і з часам ступіць на іх паверхню.



Павел падняў на Бурмакова вочы, яны гарэлі радасцю. Той падышоў, сеў побач.

— Наша падарожжа будзе складанае, небяспечнае. Веру, веру,— спыніў ён Паўлаў жэст пратэсту,— вы не адступіце. Але яшчэ больш цяжкія будуць палёты ў кірунку далёкіх светаў. Яны патрабуюць вопытных астралётчыкаў. У сувязі з гэтым Касмічны цэнтр мяркуе паслаць з намі яшчэ аднаго, юнака з выдатнымі матэматычнымі здольнасцямі, каб ён цяпер, у менш напружаных умовах, набыў вопыт касмічных палётаў, які спатрэбіцца пасля. Вядома, калі згодзяцца бацькі, бо бадай ці знойдзецца школьнік, які адмовіўся б ад гэтага.

— Сцяпан Васільевіч! — ажывіўся Павел.— Я ведаю такога хлапчука. І матэматык, і чэмпіён нашай рэспублікі па лёгкай атлетыцы.

— Добра ведаеце?

— Добра. Брат маёй... нявесты,— апошняе прызнанне ў Паўла вырвалася нечакана, і ён разгублена зірнуў на Бурмакова.

Сцяпан Васільевіч хітравата прыплюшчыў вочы:

— Буду мець на ўвазе. А цяпер паедзем. У Маскву. Таксама некалі ўспамінаць будзем.

— Я думаў...— Павел не дагаварыў да канца.

Сцяпан Васільевіч зразумеў:

— Хіба я не буду ўспамінаць Зямлю? Буду. І шкадаваць буду. Але не ляцець не магу. Гэты палёт — мара ўсяго майго жыцця. Няхай праз некаторы час чалавек пабывае ля далёкіх зорак, пазнае глыбей законы руху матэрыі, існавання арганічнага ці якога іншага жыцця. Тыя экспедыцыі прынясуць чалавецтву такія веды, аб якіх мы і марыць пакуль не адважваемся. І гэта будзе! І я шчаслівы, што мне выпала зрабіць яшчэ адзін крок на доўгім і цяжкім шляху заваявання космасу.

Ніколі Павел больш не бачыў Бурмакова такім гаваркім, ніколі больш той не спавядаўся яму ў сваіх пачуццях. Але гэты вечар запомніўся Паўлу на ўсё жыццё.

## V

Для чалавека любой эпохі падарожжа ў космас будзе рамантыкай, якая мяжуе з летуценнем. Бо надта доўга чалавек не мог вырвацца з палону зямнога прыцягнення. І толькі касманаўт ведае, што, акрамя рамантыкі, ёсць яшчэ цяжкая праца, якая пачынаецца з падрыхтоўкі да палёту.

Першую ноч у акадэмічным гарадку Павел, як і напярэдадні ў Мінску, спаў дрэнна. А потым... Потым ён засынаў, ледзь дакрануўшыся да падушкі.

Урэшце, Павел меў мала часу, каб траціць яго на ўласныя перажыванні. Ён вельмі хацеў ляцець і таму стараўся найлепшым чынам падрыхтавацца.

Дом, што хаваўся ў бярэзніку, крыху збоку ад галоўнай дарогі, не прыцягнуў Паўлавай увагі. Яму і ў галаву спачатку не прыйшло, што тут ён правядзе не адну гадзіну, займаючыся напружанай і можа крыху аднастайнай работай.

На парозе дома яго сустрэла жанчына, апранутая ў белы медыцынскі халат.

— Заходзьце,— запрасіла яна і ўзяла Паўла за руку, як малога.

Павел паслухмяна пайшоў за ёй. Жанчына падвяла яго да групы

незнаёмых людзей, якія стаялі ў вялікай, падобнай на цыркавы манеж, светлай і нечакана высокай зале. Кожны з гэтых людзей павітаўся з Паўлам за руку, назваўшы сваё імя. Павел з цікавасцю азірнуўся.

Пасярод залы стаяла цэнтрыфуга. Напэўна, такая ж самая, як і тая, на якой некалі трэніраваліся першыя касманаўты і аб якой Павел многа чуў і ведаў. У самую столь упіралася сталёвая вось, ад якой разыходзіліся дзве стрэлападобныя рукі-фермы. Да адной была прымацавана супрацьвага, да другой — нешта падобнае на кабіну пілота ў хуткасным рэактыўным самалёце.

Жанчына, якая прыняла Паўла, сказала:

— Здароўе ваша выдатнае. Але для касманаўта гэта не ўсё. Ён павінен прывыкнуць да тых умоў, якія, магчыма, сустрэнуцца ў экспедыцыі.

Паўла пераапранулі, пасадзілі ў кабіну, перапавілі добрым дзесяткам правадкоў, якія цягнуліся да прыбораў.

— А рукі трымайце вось на гэтых кнопках,— папрасіў адзін з аператараў.

«Навошта?» — запытаўся позіркам Павел.

— Такім чынам правяраецца ваша здольнасць быць уважлівым у час перагрузак. Левую кнопку націскайце, калі вось на гэтым табло пачнуць успыхваць чырвоныя агеньчыкі,— аператар паказаў на лямпачкі, умацаваныя перад самымі Паўлавымі вачыма.— А правую, наадварот, адпускайце, калі адчуеце сябе дрэнна. Толькі не саромейцеся, прыборы самі нам раскажуць, што з вамі адбываецца.

У зале пагасла святло, карамысла кранулася з месца.

Запальваліся чорвоныя агеньчыкі, Павел націскаў левую кнопку, адказваў на пытанні, а самому ўспаміналася маленства.

...Старэйшыя хлапчукі з іх дзіцячага дома, калі падмёрзла суседняе балота, прыцягнулі аднекуль звычайнае кола ад калёс і доўгую жэрдку. Некалькі хвілін, — і калаўрот быў гатовы. Ён, Паўлік, аж закачанеў, пакуль дачакаўся чаргі. Яго пасадзілі на санкі, прымацаваныя да канца жэрдкі. Яму было і весела і страшна, калі санкі павольна зрушыліся з месца. А неўзабаве ўжо ўсё навокал злілося ў адну паласу, да горла падступіў камяк. Каб не закрычаць — сябры не даравалі б баязлівасці— ён заплюшчыў вочы і што было сілы ўчапіўся за жэрдку. Калі яго ссадзілі, ён пераможна ўсміхнуўся і, хістаючыся, паплёўся да гурбы снегу. Снег быў мяккі і халодны. Крыху паляжаўшы на ім, Паўлік паплёўся дадому. Пасля ён доўга баяўся падыходзіць да калаўрота.

— Як вы? — пачуў Павел голас аператара.

Ён хацеў адказаць, што яму добра, і раптам адчуў, што ягонае цела пачынае дзервянець. Але ён усё ж адказаў:

— Нармальна!

Яшчэ праз імгненне цела зрабілася, нібы свінцовае, а грудзі сціснула так, быццам на іх наступіў слон, спачатку адной нагой, потым другой... Да слыху данеслася «шэсць жы». У затуманеных мазгах мільганула: «Ого! Я важу ўжо чатырыста пяцьдзесят кілаграмаў». Ён хацеў зрушыць правую руку з выратавальнай кнопкі і не мог. Рука здавалася цяжкай каменнай глыбай. І тут усё закруцілася, заскакала, паляцела ў розныя бакі. Мільгалі featured рознакаляровыя агеньчыкі-сігналы, нешта трывожнае грымелі навушнікі, кабіна правальвалася ўніз. Павел чакаў, калі, нарэшце, ён стукнецца аб сценку або столь...

«Спуск!» — неяк падсвядома мільганула ў галаве. Павел з палёгкай уздыхнуў і вінавата зірнуў на аператараў, урачоў, асістэнтаў. Але тыя і не думалі кпіць. Наадварот, у іх вачах было здзіўленне: з першага разу такую перагрузку вытрымае далёка не кожны.



— Ну і сэрца! — сказаў урач, паказваючы Паўлу кардыяграму, на якой былі роўныя рысачкі, амаль такія ж, як і перад трэніроўкай.— Малайчына.

Адкуль урачу было ведаць пра той калаўрот.

Заняткі на цэнтрыфузе неўзабаве скончыліся. Праз некаторы час Павел навучыўся ўжо вытрымліваць даволі доўга дванаццаціразовую перагрузку. Вестыбулярны апарат касманаўта прывык да раптоўных змен вагі і становішча цела.

Уперадзе Паўла чакала куды больш сур'ёзнае выпрабаванне. Аднойчы яго прывезлі ў памяшканне, дзе знаходзіўся макет кабіны касмічнага карабля.

На зямлі ў чалавека прывычны распарадак жыцця. Ён знаходзіцца сярод сяброў і знаёмых. А ў бязмежных далячынях космасу? Адзін, або з невялікай групкай такіх жа, як і ён, адарваных ад роднай зямлі на доўгія-доўгія месяцы, касманаўт увесь час будзе знаходзіцца пад уражаннем сваёй аддаленасці. Яно будзе прыгнятаць яго псіхіку з кожным днём усё мацней і мацней. Якую волю павінен мець ён, каб вытрымаць і перамагчы!

Выпрабаванне гэтай волі і чакала Паўла ў макеце-кабіне. Спачатку ён правёў у ёй некалькі гадзін, потым — суткі, пасля — тыдзень. Адзін, не маючы ніякай работы, не чуючы ніводнага гуку. Як гэта цяжка — сядзець і нічога не рабіць, нават ведаючы, што ты трэніруешся і праз пэўны час зноў будзеш сярод людзей.

Асабліва даўся ў знакі Паўлу тыдзень адзіноцтва. Тры крокі туды, тры — назад. Крэсла. Ложак. Маленькі стол, у шуфлядках якога толькі пакеты з ежай. Ён меў час успомніць не адзін раз усё сваё жыццё, прааналізаваць усе свае ўчынкі. Адно ён не дазваляў сабе — думаць пра Валю, а думкі пра яе якраз і не давалі спакою. Павел звыкся толькі на пятыя суткі. Памагла фізіка. Без паперы і алоўка, ён пачаў вылічваць рух у космасе драбнейшых атамных часцінак, якія набылі хуткасць вялікіх энергій. Гэта была тытанічная праца. Колькі разоў Павел, забыўшыся, мацаў па кішэнях, шукаючы аловак і паперу і, не знаходзячы, ад роспачы скрыгатаў зубамі. Ён баяўся, што забудзе толькі што вылічаную складаную формулу.

Кончыўся тыдзень. Медыкі не знайшлі ў псіхіцы ніякіх шкодных адхіленняў. Паўлу дазволілі адпачыць.

Ён вярнуўся ў свой катэдж і сеў за пісьмовы стол, каб узнавіць разлікі, зробленыя ў кабіне-макеце, але раптам адчуў стому. Не хацелася ні пісаць, ні чытаць, і ён пайшоў у лес.

Быў ціхі летні вечар. Сцямнела. З возера павеяла вільгаццю. Павел павярнуў да дому.

Ён не адразу запаліў святло, а пастаяў яшчэ ля акна, любуючыся ружовай палоскай на захадзе. Некалі ж сонца для яго не будзе заходзіць... Незнаёмы сум, вялікая любоў да Зямлі ўпершыню патрывожылі душу. Ён адвярнуўся ад акна і тут заўважыў кароценькую запісачку: «Буду ўвечары. Сустракайце гасцей. Бурмакоў».

Стрэлкі насценнага электроннага гадзінніка паказвалі амаль адзінаццаць ночы. Калі не парушаць рэжым, час ужо класціся спаць. Але ж госці...

Ён прыслухаўся, ці не ідзе Бурмакоў, і... не змог устаць адразу з крэсла. Валя? Адкуль ёй быць тут?

Віця, Валя і Бурмакоў з Валіным чамаданчыкам у руках увайшлі ў пакой і стаялі ля парога.

— Валя! — ціхенька паклікаў ён.

— Вось дзе ты! — шчасліва засмяялася Валя. — У хованкі гуляеш?
Голас яе гучаў натуральна, без ценю суму або папроку. А Паўла мучыла думка: ведае яна ці не?
Валя падбегла да Паўла, на імгненне прытулілася да яго і толькі тады ўжо гарэзліва папракнула:
— А ты, аказваецца, хаваешся ад мяне.
Гэта балюча кальнула Паўла.
— Хаваюся? — разгубіўся ён.
— Сам некуды сабраўся, не сказаўшы, а цяпер і Віцьку з сабой бярэш,— і Валя ласкава абняла брата.
— Пусці,— мяккім баском сказаў хлопец, выкручваючыся з абдымкаў.
Гэта развесяліла Бурмакова. Ён пачаў супакойваць Віцю:
— Жанчыны заўсёды, Віктар, былі сентыментальныя, трэба дараваць ім гэтую слабасць.
— Нічога, хутка мы не будзем мець іх апекі.— З незалежным выглядам Віця зрабіў крок да стала і адразу забыўся і на сястру, і на ўсё на свеце: перад ім ляжала карта неба, на якой пункцірам была пракладзена траса касмічнага карабля.
Валя таксама зірнула на стол, пабялела і, каб схаваць роспач, сказала:
— Як тут прыгожа ў вас.
— Дача, Валянціна Аркадзьеўна,— адказаў Бурмакоў. Трэба ж было неяк падтрымліваць размову.
Павел рашуча падышоў да Валі:
— Я павінен табе ўсё растлумачыць.
Валя спакойна павярнулася да яго і ціхім голасам сказала:
— Не трэба, Паўлік. Я ўсё разумею, усё. І давай дамовімся: ніколі не гаварыць адзін аднаму аб расстанні. Ні разу, ні пры якіх абставінах.
Павел не стрымаўся і пацалаваў яе руку. Потым схамянуўся (што падумае Бурмакоў?), азірнуўся. Але той ужо схіліўся з Віцем над картай.
— Дык я прывезла Віцю,— гаварыла Валя.— Сцяпан Васільевіч нас сустракаў. Ад яго я і даведалася, што ты, Паўлік, таксама ляціш. Правільна, што сказалі. Не такая я ўжо слабая, як думае Павел.
— Не хваліся,— умяшаўся Віця,— сама ўсю дарогу...
— Віцька! — пляснула Валя далонню па стале.— Даруйце, але ён такі балбатун, што ўсё жыццё вам атруціць у падарожжы.
— Вельмі добра,— засмяяўся Бурмакоў.— Будзе хоць адзін гаваркі чалавек сярод нас.
— Сцяпан Васільевіч,— папрасіла Валя,— я ведаю, што Павел шукаў у газетах сляды касмічных гасцей. Дык можа вы леціцё шукаць іх на іншых планетах?
Бурмакоў, здавалася, чакаў гэтага пытання. Ён зняў са стала карту неба і павесіў на сцяну.
— Які вывад зрабіў Павел Канстанцінавіч з тых пошукаў, вы ведаеце. Я магу дадаць толькі: канешне, мы ляцім на Марс не таму, што нібыта на Зямлі пабывалі марсіяне або хто іншы. Хоць, вы разумееце, хацелася б сустрэць разумнае жыццё дзе-небудзь там,— і ён паказаў рукой у адчыненае акно, за якім чорнае неба густа ўсеялі зоркі.— Але ў Паўла Канстанцінавіча паявіліся цікавыя думкі ў сувязі з гэтымі гіпотэзамі. Так, ён лічыць, што старажытны каляндар, знойдзены ў Перу, можа адпавядаць не толькі нашай Венеры, а і адной з планет сузор'я Індзейца, адкуль мы часам прымаем незразумелыя радыёсігналы. Наш палёт дасць магчымасць пазнаёміцца з іншымі планетамі, а таксама



адкажа на пытанне: ці змогуць людзі нашага часу дасягнуць бліжэйшых сузор'яў, дзе, мы мяркуем, ёсць умовы для жыцця, як і на Зямлі. Думаю, што Павел Канстанцінавіч і сам яшчэ паспее праверыць свае гіпотэзы.
Спахапіўшыся, што сказаў лішняе, Бурмакоў дадаў:
— Але я не думаю, што на яго долю выпадзе столькі цікавага. Трэба ж і іншым паглядзець.
Валя зразумела і пажартавала:
— Толькі прашу вас, Сцяпан Васільевіч, не адхіляйцеся ад галоўнага кірунку ў палёце, а то не паспееце вярнуцца...
— Сапраўды, што гэта я,— сумеўся Бурмакоў.— Вось туды, да Марса мы і накіруемся. Вылецім у лістападзе. Гэта звязана не толькі з тым, што Марс будзе тады бліжэй да Зямлі. Увосень вакол нашай планеты менш метэарытаў.
Слухаючы акадэміка, Павел усміхнуўся сам сабе. Амаль гэтак жа іх камандзір нядаўна выступаў перад вялікай аўдыторыяй Касмічнага цэнтра.
— Шмат загадак загадаў нам Марс. Помніце, якая думка выказана была ў свой час пра яго спадарожнікі Фобас і Дэймас? Што яны — штучныя. Вы думаеце, мне не хочацца, каб гэта была праўда? Я таксама хачу, каб штучнымі былі каналы і моры. Але як яно там на самай справе — хто ведае. Злётаем, пабачым і пра ўсё раскажам вам, Валянціна Аркадзьеўна. Верыце?
— Веру,— задумліва адказала Валя.— Хіба можна жыць без веры?

## VI

Надышла восень. Аднойчы Павел прачнуўся і не пазнаў свайго жытла. Заўсёды светлы і прасторны пакой здаўся сутарэннем. Нават столь нібы апусцілася ніжэй. За акном былі цяжкія хмары. Паўзлі нізка, павольна, кладучы сумны цень на зямлю.
Павел устаў, але не адчуў звычайнай бадзёрасці: цела прывыкла ўжо да напружаных трэніровак, а ўперадзе зноў быў вольны дзень.
Нехаця Павел пачаў рабіць зарадку, абдумваючы, чым бы заняцца. Можна было б пабываць у Мінску. Ён з радасцю зляітаў бы туды, але невядома, калі выязджаць на касмадром.
У дзверы пастукалі.
— Заходзьце...
Увайшоў Бурмакоў.
— Такое адчуванне, быццам цэлыя суткі праспаў,— паскардзіўся Павел.
Бурмакоў спачувальна паківаў галавой.
— Хутчэй бы ўжо далі якую работу, Сцяпан Васільевіч, а то зусім разлянуюся.
Бурмакоў хітравата прыжмурыўся.
— Праз гадзіну едзем на ракетадром.
— Ура-а-а! — закрычаў, убягаючы ў пакой, Віця. Відаць, ён пачуў, пра што тут гаварылі.
Бурмакоў злавіў Віцю, пасадзіў побач з сабой на канапу.
— Наш карабель пабудаваны. Сёння едзем яго прымаць.
— А гэта доўга? — не цярпелася Віцю.
— Бадай месяц.
— Месяц? — расчараваўся Віця.

— А ты як думаў? Вось убачыш, як і чым наш карабель абсталяваны — зразумееш. Нам усю тэхніку трэба не толькі праверыць і прыняць, — мы павінны вывучыць яе...

Хуткасны вышынны ракетаплан лёг на круты віраж. У вушах у Паўла закалола. Ракетаплан імкліва зніжаўся з трыццацікіламетровай вышыні. Прыціснутыя да спінак крэслаў, Павел і Віця шукалі вачыма зямлю. Там, схаваны аблокамі, ляжаў ракетадром. Які ён?

Мінуўшы хмары, ракетаплан панёсся да пасадачнай пляцоўкі.

— Тут? — Віця спадзяваўся ўбачыць агромністы горад, велічныя ангары ракетапланаў, браніраваныя бункеры назіральнікаў. Але навокал было роўнае поле.

— Эх ты, рамантык...— Бурмакоў ласкава ўзяў Віцю за руку.— Самае галоўнае знаходзіцца пад зямлёй. І карабель там. У закрытым памяшканні з пастаяннай тэмпературай больш надзейна было весці зборку і мантаж, бо работа патрабуе вельмі высокай дакладнасці. Таму пабудавалі падземны ангар.

Але Віцю гэта не суцешыла. Адсюль у Сусвет адправіцца першы карабель, а хто ўбачыць яго ў гэтую ўрачыстую хвіліну?

Калі на пасадачнай пляцоўцы іх сустрэла вялікая група людзей, якія нямаведама адкуль з'явіліся, Бурмакоў падміргнуў Віцю:

— Ну як? Пустыня?

Машына павезла іх у стэп. Калі яна неўзабаве спынілася, густы бас Бурмакова прагучаў па-маладому звонка:

— Прыехалі!

У Паўла і ў Віці ад хвалявання зняmелі ногі: недзе тут павінен быць карабель, які панясе іх у космас.

Зрабіўшы некалькі крокаў, яны спыніліся ля невялікага збудавання з залацістым шпілем.

— Сюды,— паказаў на ўваход начальнік касмадрома і запрасіў усіх зайсці ў ліфт. Секунда,— і кабіна ліфта апынулася ў агромністай зале, залітай спакойным святлом неонавых лямп.

Яго нельга было не заўважыць адразу. Прыгажун, велічны і строгі, ён, здавалася, чакае толькі каманды, каб зрабіць свой гіганцкі скачок у бязмежжа.

Павел і Віця стаялі, уражаныя відовішчам. Вось ён, іх карабель, прытулак на доўгія месяцы ў халодным няўтульным космасе.

Бурмакоў, які тут бываў раней, таксама, відаць, зразумеў, што палёт стаў не планам, а рэальнасцю, і з гэтай хвіліны няма, не будзе ў яго бліжэйшых сяброў, чым Павел і Віця. Усхваляваны Сцяпан Васільевіч падышоў да іх, стаў ззаду, не адводзячы вачэй ад карабля, які свяціўся халодным срэбрам.

Нехта з прысутных навёў на касманаўтаў фотаапарат. Пазней, пасля адлёту карабля, гэты здымак абляціць усе газеты свету.

— Пайшлі, таварышы, зоймемся справай,— зусім будзённа сказаў начальнік ракетадрома.

Хутка Павел зразумеў, што 24 гадзіны ў сутках — гэта зусім не многа. Яму прыходзілася не толькі вывучаць будову карабля, але і ставіцца да кожнага вузла крытычна, уяўляць яго ў палёце, у дзеянні. Калі Павел скардзіўся, што яму — малыя суткі, Бурмакоў жартаваў:

— Знойдзем вам планету, дзе суткі будуць — сорак гадзін, пацярпіце крышку.

Як ні дзіўна, такія жарты супакойвалі, і Павел яшчэ з большай упартасцю браўся за работу, часам толькі не разумеючы, адкуль бяруцца сілы ў Віці, каб нароўні з ім лазіць па трапах, правяраць схемы, корпацца ў злучэннях тысяч правадоў. Праўда, ад Віці не патрабавалася такіх ведаў, як ад яго, але хлопец быў поўны такой жа нецярплівасці, як і старэйшыя. І нават у рэдкія вольныя хвіліны адпачынку ён не мог маўчаць, засыпаючы і Паўла і Бурмакова безліччу пытанняў.

Ішлі дні. Усё менш загадак заставалася на караблі. Ён пераставаў быць невядомым, таямнічым, а рабіўся сваім, зразумелым і ад гэтага яшчэ прывабнейшым.

Нарэшце настала і тая хвіліна, калі галоўны эксперт дзяржаўнай камісіі, паставіўшы свой подпіс, падаў акт Бурмакову. Касмічны карабель быў гатовы да палёту.

## VII

Касманаўты атрымалі водпуск. Можна было адпачыць, выспацца за ўсе дні. Але ніхто з іх не стаў траціць часу на сон. Яны ездзілі ў сталіцу, хадзілі ў тэатры, гулялі па парках і вуліцах. Толькі Павел сумаваў па Валі.

Аднойчы раніцай Бурмакоў запрасіў Паўла прайсціся па садзе.

Ноччу мароз падсушыў дарожкі. Пад нагамі шапацела жоўтае лісце. Голыя дрэвы стаялі маўкліва, самотна.

— Як марсіянскае лета,— заўважыў Павел.

Бурмакоў кіўнуў галавой, аднак было відаць, што не пра гэта ён думае. Ступіўшы яшчэ колькі крокаў, ён загаварыў:

— Чамусьці я ўспомніў даўнюю гісторыю. Напэўна, перад сур'ёзнай справай у чалавека ўзнікае патрэба паварушыць мінулае, асабліва, калі чалавек гэты старэе... Не пярэчце, мне ўжо сорак пяць, а для чалавека маёй прафесіі — гэта многа. Дык вось, мне ўспомнілася, як мы рыхтаваліся да першага палёту на Месяц. Тады мне было столькі год, колькі вам цяпер, і быў я ўжо жанаты. Мая жонка геолаг.

Бурмакоў расказваў павольна, часта задумваючыся.

— У нас было дамоўлена, што ў экспедыцыю мы адправімся разам, нам патрэбны быў геолаг. Вы добра ведаеце, якія тады былі ракеты. Першая магла ўзяць толькі аднаго пілота. Ім быў я. Другая ракета, на якой павінна была ляцець жонка, мелася стартаваць праз два дні. Мы рассталіся, нават не развітаўшыся. Навошта? Праз два дні мы павінны былі сустрэцца.

Мой палёт быў удалы. Апынуўшыся на Месяцы, я перадаў падрабязнае паведамленне на Зямлю і пачаў разгружаць ракету, чакаючы другі экіпаж. І вось, калі яны павінны былі далучыцца да мяне, раптам прыйшла радыёграма з катэгарычным загадам вярнуцца. Я прасіў, даказваў, што мой палёт каштаваў вельмі дорага, каб вяртацца, не зрабіўшы нічога, але ніхто не зважаў на мае просьбы. Я вярнуўся і ў першы момант падумаў, што лепш не вяртаўся б. Другая ракета, на якой ляцела мая Галя, узарвалася і згарэла. Колькі я папракаў сябе за тое, што дазволіў ёй ляцець! І цяпер, калі я адпраўляюся ў космас, мне не хапае яе вачэй і рукі, якая памахала б на развітанне...

Павел схапіў Бурмакова за руку і моцна сціснуў яе. Ён прыгадаў Валю і здагадаўся, навошта Бурмакоў расказаў яму гэтую трагічную гісторыю. Ён тым самым нібы сказаў Паўлу: якое гэта шчасце, калі ты ведаеш, што цябе чакае дарагі і блізкі чалавек. Павел хацеў падзякаваць Бурмакову, але не адважыўся: той ішоў спакойны, ціхі, напэўна ўсё думаючы пра той незабыўны для яго час.

## VIII

Усе радыёстанцыі свету перадалі паведамленне Усесаюзнага касмічнага цэнтра: «21 лістапада ў 16 гадзін стартуе першы савецкі планетны карабель «Набат».

Неверагоднае здзейснілася! Чалавек накіроўваўся ў далёкі шлях да іншых планет.

На стартавым полі ракетадрома было ціха. Праводзіць касманаўтаў прыехалі члены ўрадавага камітэта, вучоныя, родныя і блізкія касманаўтаў. Знешне спакойныя, урачыстыя, хаваючы трывогу, яны ў гэтыя апошнія хвіліны стараліся добрым словам, жартам падбадзёрыць тых, каго не ўбачаць доўгія месяцы, каму сустрэнуцца на шляху цяжкія выпрабаванні.

Павел быў з Віцем. Даючы Віцю розныя парады, карысныя ў будзённым жыцці і непатрэбныя ў космасе, Валя толькі зрэдку кідала позіркі на Паўла, і ён быў удзячны ёй за гэта. Ён хацеў многае сказаць дзяўчыне, і ў іншых абставінах сказаў бы абавязкова. А цяпер не мог. Дый навошта? Ён шчаслівейшы за Бурмакова, хоць і вельмі смуткуе. Ён паглядзеў у той бок, дзе знаходзіўся Бурмакоў. Акружаны натоўпам славутых вучоных, многіх з якіх Павел ведаў толькі па партрэтах, Бурмакоў зусім не выглядаў няшчасным. Наадварот, ён быў бадай шчаслівейшы за тых, хто заставаўся на Зямлі.

Час ішоў. Рэпрадуктары металічным голасам абвясцілі: «15 гадзін 30 хвілін, надышла пара развітвацца». Пасля зноў няўмольны металічны голас аб'явіў: «Да старту засталося пятнаццаць хвілін».

Трое касманаўтаў аддзяліліся ад натоўпу, па традыцыі падняліся на ўзвышэнне, хвіліну пастаялі там, далёкія ўжо думкамі ад усяго, што рабілася побач.

Развітальнае слова старшыні Касмічнага цэнтра на нейкі момант напомніла ім, для чаго яны тут сабраліся. Павел заўважыў Валіны вочы, поўныя слёз, і Валіну руку, узнятую на развітанне. Ён памахаў у адказ. Яшчэ імгненне, і яны ўжо толькі ўтрох — Бурмакоў, Павел, Віця — накіраваліся да карабля. Металічны голас застаўся недзе далёка ззаду, папярэджваючы прысутных не выходзіць на стартавую пляцоўку.

Павел заўважыў прычэпленыя да іх карабля ракеты, што павінны былі вывесці «Набат» за атмасферу. Усхваляваны ўрачыстасцю, ён увайшоў у люк карабля, механічна, быццам рабіў гэта кожны дзень, праверыў паказанні прыбораў, апусціўся ў рубцы на сваё крэсла. І раптам адразу вярнулася яснасць думкі. Зямля і тое, што там засталося, сталі далёкімі, а тут жыццё ішло сваім парадкам. Павел націснуў кнопку, і празрысты ахоўны антыгравітацыйны каўпак, які павінен быў зменшыць уздзеянне сілы паскарэння, апусціўся над крэслам. Яго таварышы паспелі гэта зрабіць раней. Да старту заставалася трыццаць секунд. Павел зірнуў на экран тэлевізара, які паказваў падземную залу ракетадрома, дзе сабраліся ўсе хто праводзіў іх, хацеў знайсці Валю ў тым натоўпе, ды не паспеў. Пачуўся глухі рокат, на тэлеэкране замільгалі маланкі. Непрыемны цяжар прыціснуў Паўла да пружыністай паверхні крэсла. Калі ж на экране пасвятлела, поле ракетадрома выглядала на ім маленькай кропкай.

Бурмакоў вызваліўся з-пад ахоўнага каўпака, падышоў да пульта кіравання, паклікаў да сябе Паўла і Віцю. Шматлікія прыборы памігвалі чырвонымі, сінімі, зялёнымі цыферблатамі, гудзелі, спяваючы сваю бясконцую і толькі ім вядомую песню.

— Віця, — загадаў Бурмакоў, — адчыні бакавыя ілюмінатары.

Хлопчык павярнуў чорненькі рычажок, і яркае сонечнае святло хлынула ў рубку.

— Зямля! Глядзіце, Зямля! — закрычаў Віця, углядаючыся ў ілюмінатар.

Зямля, ахутаная туманам, сінела на чорным абрусе неба справа ад карабля. Недзе там, на невыразна бачным адсюль мацерыку Еўропы, знаходзілася Масква. Крыху далей — ракетадром, дзе яшчэ стаялі іх сябры, родныя, блізкія. Яны чакалі паведамлення з ракеты. Бурмакоў зірнуў на зямны гадзіннік, што вісеў побач з астранамічным. З моманту старту прайшло пятнаццаць хвілін. Карабель ужо выведзены на часовую арбіту вакол Зямлі. Пара даваць пра сябе вестку. Сцяпан Васільевіч уключыў тэлевізар прамой сувязі. Матавы экран ажыў, прамільгнулі абрысы залы, ракетадрома і, нарэшце, на ім з'явіўся твар старшыні Касмічнага цэнтра.



— Віншую з удалым стартам! — прамовіў ён. — Як адчуваеце сябе?

— Нармальна, — лаканічна адказаў Бурмакоў. Астатняе за яго перадалі прыборы, якія адзначалі іх паводзіны пасля старту і ў першыя хвіліны пад'ёму.

Старшыня задаволена кіўнуў галавой. Экран паплыў, на ім буйным планам паявіліся твары тых, хто знаходзіўся ў зале. Гэта было традыцыйнае апошняе развітанне. Потым на экране зноў паказаўся старшыня. Узняўшы руку, ён урачыста сказаў:

— Вам час легчы на курс. Жадаем шчаслівага падарожжа і вяртання на Зямлю!

Нябачны аркестр зайграў Гімн Савецкага Саюза. Бурмакоў, Павел, Віця ўсталі, павярнулі твары да ілюмінатара, у якім была відаць Зямля.

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

## I

### З дзённіка Віці Асадчага

**25 лістапада.** Іншы раз я забываю, што знаходжуся на касмічным караблі. Як добра прыдумалі яго вучоныя! Вось і цяпер я сяджу ў невялікім кабінеце-бібліятэцы. Гэта — утульная каюта з шафамі і паліцамі ўздоўж сцен, сапраўдным пісьмовым сталом. Сядзі і пішы (што і раблю), і ніхто табе не перашкаджае. Сцяпан Васільевіч адпачывае, а Павел Канстанцінавіч нясе вахту. Яны не цікаўныя, і я пішу крадком не таму, што хачу ад іх што-небудзь утаіць або зрабіць такое, чым яны будуць незадаволены. Не. Але яны так многа працуюць і так мала аддаюць увагі самім сабе, што мне неяк няёмка. А потым, яны раптам яшчэ падумаюць, што мне захацелася дадому, і пачнуць шкадаваць: навошта бралі з сабой дзіця. Карацей, я не хачу, каб гэтыя людзі, лепшых за якіх я яшчэ не сустракаў, падумалі пра мяне дрэнна. Таму хай мой дзённік будзе пакуль што для іх таямніцай. Ну, вось і ўсё. Асноўнае вырашана, можна запісваць свае ўражанні. Пачну з таго, як мы па тэлевізару развіталіся з Зямлёй. У мяне аж горкі камяк да горла падступіў. Добра, што стрымаўся і не заплакаў, было б сорамна. Але нічога, здаецца, ні С. В. ні П. К. не заўважылі гэтай маёй слабасці. Я лічу, што яе нельга дараваць касманаўту.

Я так быў заняўся сваімі перажываннямі, што ледзь не прапусціў момант, калі наш карабель лёг на курс да Марса. Было гэта вельмі звычайна. Спачатку здалося, што рукі і ногі нібы свінцом наліліся, а потым у ілюмінатары я заўважыў, што Зямля паплыла ўбок.

С. В. узяў мяне за чуб, як быццам я малы, і сказаў:

— Дзесяць хвілін невялічкага паскарэння.

А як вядома, цяжар у целе з'яўляецца тады, калі карабель набывае паскарэнне. Яно неабходна, каб дасягнуць пэўнай хуткасці. Да Марса будзем ляцець з хуткасцю пяцьдзесят тысяч кіламетраў у гадзіну. Амаль два месяцы працягнецца падарожжа да яго. Я пытаўся, чаму б нам не павялічыць хуткасць яшчэ, нашы ж рухавікі дазваляюць гэта. Аказалася, толькі таму, што да Марса ўсяго шэсцьдзесят мільёнаў кіламетраў і наш «Набат», разагнаўшыся, не адразу спыніцца. Чаго добрага, мы праляцім яшчэ міма.

Трэба сказаць, што мы пакуль не ўмешваемся ў работу механізмаў карабля. Імі кіруе аўтапілот — з выгляду невялічкая скрынка, унутры якой знаходзіцца кампактная электронна-лічыльная машына. У нас іх



чатыры. Яны працуюць адначасова, кантралюючы адна адну. П. К. расказваў мне, што першыя электронна-лічыльныя машыны былі надзвычай складаныя і грувасткія. Прынамсі, машыны такой магутнасці, як нашы, мелі вельмі складаную схему, дзесяткі тысяч электронных лямпачак. І ў дадатак да ўсяго гэтага, былі вельмі капрызныя. Вядома, на іх у палёце, накшталт нашага, спадзявацца было нельга. А ў нас машыны іншыя. Яны цалкам сабраны з керамічных пласцінак, на якія метадам друкарскага мантажу нанесены вузлы схем. Замест электронных лямп пастаўлены крышталікі паўправаднікоў. Энергіі для сілкавання гэтых машын патрэбна нямнога. Адна сонечная батарэя дае яе дастаткова. А іх жа ў корпусе карабля знаходзіцца больш дзесятка. Калі мы аддалімся ад Сонца, электраэнергію дадуць уранавыя батарэі.

Калі карабель вядуць аўтаматы, то можа ўзнікнуць пытанне: а што робіць тады дзяжурны пілот. О, у яго таксама абавязкаў хапае. Над цэнтральным пультам кіравання ўстаноўлены экран. На ім заўсёды свеціцца тая частка неба, дзе мы ў гэты момант знаходзімся. Сярод зорак адзначаецца наша траса, якая бяжыць за мініятурным касмічным караблікам — копіяй нашага. Час ад часу дзяжурны правярае, ці правільны курс, а калі трэба адхіліцца, даручае машынам вылічыць новы шлях карабля.

Але галоўны занятак дзяжурнага — назіранні. З такой вышыні Сусвет выглядае зусім інакш, чым з Зямлі. Таму і П. К. і С. В. увесь час ля прыбораў. Яны ж абодва вельмі цікавяцца астраноміяй. Шкадую, што пакуль ім нічым не магу памагчы. Не ўмею. Буду вучыцца!

Для мяне, між іншым, была складзена спецыяльная вучэбная праграма яшчэ перад стартам. А падручнікаў тут хапае. Усе паліцы ў бібліятэцы запоўнены. Праўда, гэта не тыя кнігі, якімі мы прывыклі карыстацца на зямлі. Варта мне працягнуць руку да адной з шуфлядак, і я бяру там малюсенькі карабок, разы ў два менш, чым запалкавы. Адкрываю — маленькі крышталік. Нават у лупу на ім нічога незвычайнага не заўважыш. Аднак, калі ўставіць крышталік у электронны мікраздымальнік гукаў, то можна пачуць або ўбачыць тэкст кнігі, канцэрт, кіно, спектакль. Праз гэтыя крышталікі я магу паслухаць лекцыю, атрымаць навуковую ці тэхнічную даведку, якая можа мне спатрэбіцца ў час вучобы або пазней, за работай. Здорава!

Неба мне не надта падабаецца. Яно цёмнае-цёмнае, а на ім — яркія, нерухомыя зоркі, нібы намаляваныя. Вось каб мы былі блізка да іх, тады іншая справа, а так — марная трата часу.

Асноўную частку карабля займаюць склады паліва атамных рухавікоў. Яно надзейна ізалявана ад адсекаў, дзе схаваны запасы канцэнтраваных прадуктаў харчавання, вады, вадкага кіслароду. Дапаможныя машыны, якія нам спатрэбяцца, калі высадзімся на планету, знаходзяцца ў спецыяльных элінгах. Гаспадарчыя памяшканні размясціліся ў цэнтральнай і задняй частках карабля. Пярэдняя ж, значна меншая па плошчы, прызначана для жылля і сістэм кіравання. Спім мы ўсе ў адной каюце. Ёсць у нас гімнастычная зала, аднак С. В. усё роўна прымушае нас у час зарадкі бегаць па трапах ледзь не ўздоўж усяго «Набата». Працуем мы або ў бібліятэцы, або ў хадавой рубцы, або ля аўтаматаў.

Неяк на трэці дзень пасля старту я практыкаваўся на пятай, запаснай, лічыльнай машыне, спрабуючы самастойна вылічыць, ці не перасячэцца арбіта блукаючага астэроіда Гермес з трасай нашага «Набата». Рашыўшы гэтую задачу, я захацеў вылічыць, на колькі нам хопіць запасу кіслароду. Шчыра сказаць, атрымаўшы разлікі, я збянтэжыўся. Выходзіла, што на паўгода. Я паказаў іх С. В. Ён усміхнуўся:

— Давай разам праверым.

Мы задалі машыне новую праграму, у якой паставілі пытанне так: «На які час у нашых умовах хопіць нашых запасаў кіслароду». Праз імгненне апарат даў адказ: «На год, не лічачы хларэлы».

— Ты браў толькі тое, што мы маем. А машына «ўспомніла», што паветра, якое мы выдыхаем, ачышчаецца ад вуглекіслага газу двума спосабамі. Першы — механічны, рэгенерацыя. Дарэчы, з дапамогай складаных рэгенерацыйных працэсаў мы ўзнаўляем і ваду. І другі — хларэла, зялёная аднаклеткавая вадзяная расліна, кілаграм якой дае ў суткі дзесяць кубаметраў кіслароду — у чатыры разы больш, чым патрэбна аднаму чалавеку. Гэта крыніца ў нас практычна невычэрпная. Але аўтамат «не ведае», колькі пражыве хларэла, і таму не ўлічвае яе.

Сапраўды, як гэта я забыўся на аранжарэю, дзе мы вырошчваем хларэлу! Яна ідзе ў страву нам, і як корм для нашай трусагадоўчай фермы. Ніколі раней я не думаў, што ў космасе мы часам будзем харчавацца мясным рагу.

Аўтаматы сочаць за чысцінёй паветра, станам нашага здароўя, выбіраюць кожнаму з нас меню на снеданне, абед, вячэру, нават, калі папросіш, параяць, чым табе лепш за ўсё заняцца ў гэты момант.

Я захацеў даць машыне такое заданне. Надзеў на руку спецыяльны браслет, у які ўмантыраваны прыборы, што вызначаюць самаадчуванне чалавека. Усе дадзеныя з дапамогай С. В. пераклаў на мову лічбаў і вось які атрымаў адказ. З дынаміка прыемны голас параіў: «Паглядзіце прыгодніцкую кінакарціну».

С. В. зарагатаў. А праз хвіліну прыйшла мая чарга смяяцца. Яму машына загадала прагуляцца па высакагорнай дарозе. У нашых умовах — гэта верхнія трапы, дзе ўключаецца ўстаноўка, якая іянізуе паветра.

— Так, відаць, запрацаваўся, — вінавата прамовіў С. В.

Вось якія ў нас лічыльныя машыны!

Аднак, чаму гэта раптам замігала лямпачка? А-а, гэта ж напамінак, што я заседзеўся тут. Вось яшчэ адна якасць аўтамата — нянька, дый годзе. Прыходзіцца слухацца.

**26 лістапада.** Які ўсё ж такі цуд гэтыя нашы аўтаматы! Ад якой бяды яны нас выратавалі! Але — па парадку.

С. В. быў ля пульта. П. К. займаўся са мной астраноміяй. Мы якраз назіралі Венеру, спрабуючы пранікнуць позіркам скрозь густы кажух аблокаў. Венера — вельмі таямнічая планета і, разам з тым, у многім падобная да нашай Зямлі. І я вельмі шкадую, што мы накіраваліся не да яе. Яшчэ нікому з астраномаў не ўдалося ўбачыць хоць частачку яе паверхні. Мяркуюць, што развіццё Венеры ідзе гэтак жа, як ішло развіццё Зямлі, толькі адстае прыкладна на пяцьсот мільёнаў гадоў. Як многа цікавага мы маглі б убачыць там! Магчыма, не было б патрэбы шукаць жыццё на мёртвым Марсе. А што ён мёртвы, у гэтым я пераканаяы. Пра ўсё гэта я расказваў П. К., як раптам завыла сірэна. Трывога! Мы, як па камандзе, глянулі на экран лакатара. На яго чорнай паверхні засвяцілася маленькая кропка.

— Метэарыт! — спакойна сказаў С. В., але так моцна сцяў зубы, што нават пабялелі сківіцы.

Кропка расла, зрабіўшыся невялікім шарыкам. Сірэна выла, наганяючы жудасць.

— Сутыкнёмся? — спытаў я, стараючыся не думаць, што ў гэтым выпадку нам пагражае катастрофа: метэарыт быў не малы.



П. К. нічога не адказаў, толькі яго рука, што лягла мне на плячо, неяк моцна прыціснула мяне да крэсла.

Але нічога страшнага не здарылася. Шарык на экране нечакана ўспыхнуў вогненнай плямкай, і сірэна змоўкла.

— Чаму сігналы трывогі заўсёды падаюцца гэтым агідным выццём? — спытаў С. В.

— Каб не было лёгкадумных адносін да небяспекі, — адказаў П. К.

— Як хочаце, — не згадзіўся С. В., — а я замяню сірэны нечым больш прыемным.

— Моцартаўскім «Рэквіемам»? — засмяяўся П. К.

— А дзе метэарыт?

Гэта мяне цікавіла больш, чым канструкцыя сірэн.

— Знішчаны, — сказаў С. В. і растлумачыў: — Верагоднасць сустрэчы карабля з касмічным целам незлічона малая ў звычайных абставінах. Тым не менш яна існуе. Можна яе пазбегнуць простым адхіленнем ад курса. Гэта важна, калі метэарыт буйны. Але змена курса досыць клапатлівая справа, таму на заўважаны метэарыт мы проста выпусцілі невялічкі атамны зарад. Метэарыт згарэў.

Ого! З такой тэхнікай не прападзем!

Кожны з нас зноў заняўся сваёю справай.

Усё-ткі мне здорава пашанцавала, што я знаходжуся сярод такіх выдатных вучоных. Здавалася б, наша бібліятэка, або па-навуковаму — фанатэка, дасць самае поўнае тлумачэнне на кожнае пытанне, а паслухаеш С. В. або П. К. і адчуеш, што яны ведаюць нават больш за яе.

П. К. раптам перастаў цікавіцца Венерай і нечакана пераключыўся на Крабавідную туманнасць. Ён устанавіў звонку карабля антэны радыётэлескопа і цяпер цэлыя дні слухае сігналы гэтай далёкай Галактыкі. Бесперспектыўны занятак. Ну, што з таго, калі даведаешся, як ідуць радыёхвалі ад туманнасці. Хай гэтым займаюцца на Зямлі. Мы ж можам у добрых умовах назіраць Венеру так блізка, як нікому яшчэ не ўдавалася. Буду назіраць Венеру сам.

**30 лістапада.** Вынікаў назіранняў і маіх і П. К. пакуль што няма.

**1 снежня.** Нарэшце атрымалі вестку з Зямлі — раней перашкаджала моцнае выпраменьванне сонечнай храмасферы, у паласу найбольшай актыўнасці якога мы, напэўна, трапілі. Зямля непакоілася пра наш лёс, бо мы маўчалі амаль дзесяць дзён. Атрымаўшы радыёграму, С. В. прамовіў:

— Дзесяць. А колькі іх будзе, такіх маўклівых дзён...

Нам, мабыць, лепш, чым тым, хто застаўся на Зямлі. Мы ведаем, што жывыя, што ў нас усё добра і што Зямля існуе без нас. Яна будзе існаваць і тады, калі нашы радыёсігналы не адолеюць прасторы, не змогуць дасягнуць Зямлі.

— Мы вернемся! — гэта сказаў у мікрафон П. К., размаўляючы з Валяй.

Праз некалькі хвілін скрозь шум і трэск прагучаў ледзь чутны адказ:

— Буду чакаць. Чуеш?

П. К. прыкметна павесялеў. А нам цэлы дзень пасля тлумачыў, быццам яму ўдалося запісаць незнаёмы сігнал. Дзівак. Можна падумаць, што я не бачыў Валінага каляровага фотапартрэта, які заўсёды стаіць у яго на рабочым стале.

**5 снежня.** Сёння было весела. Раніцай скрозь сон я чуў, што С. В. абяцаў П. К. выклікаць Зямлю, каб перадаць цікавую навіну. Перадачы мы вядзем строга абмежавана — кожная патрабуе столькі энергіі,

колькі хопіць для нашых рухавікоў, каб даляцець да Месяца. Значыць, навіна была важная. Я хуценька выбег у хадавую рубку.

П. К., не адрываючыся, глядзеў у акуляр тэлескопа і гаварыў:

— Выразна бачу цвёрдую паверхню. Нібы цыклон нейкай неймавернай сілы разагнаў шматслойныя аблокі і адкрыў нам мацярык Венеры. Вунь вада. Апарат! Плёнку!

Справа ў тым, што мы не збіраліся рабіць візуальных назіранняў і таму адключылі сінхронную з тэлескопам фотаўстаноўку.

Імгненна быў зроблены здымак. П. К. аддаў плёнку С. В.

Камандзір доўга вывучаў яе і, нарэшце, сказаў:

— Падобна на тое. Але...

— Што але? — пакрыўдзіўся П. К. і забраў плёнку. — Тут добра відно.

— Віця, — папрасіў мяне С. В., — падай мне, калі ласка, светафільтр для павелічальніка.

Праз павелічальнік, узброены светафільтрам, мы сапраўды ўбачылі магутнае завіхрэнне, дынамічна схопленае аб'ектывам фотаапарата. Але тое, што на плёнцы для вока, узброенага толькі лупай, уяўлялася паверхняй, аказалася яшчэ адным пластам хмар, цёмна-шэрых, навальнічных.

П. К. сумеўся і адышоў ад стала. Увесь дзень ён адчуваў сябе ніякавата, бо мы часам кпілі з яго. І калі яго-такі дапяклі, сказаў:

— Я сам бачыў. Апарат не паспеў. Упэўнены, што мы памыліліся, выбіраючы маршрут! На Венеры ёсць жыццё. Буду вельмі шкадаваць, што не я ўбачу яго першы.

Чаму не адправіліся мы на Венеру?

**11 снежня.** Выраз «Дайце светафільтр» прыжыўся. Ужываем яго ўсе, нават П. К., калі хто з нас выказвае нешта неверагоднае.

## II

«Набат» ляцеў да Марса. Жыццё касманаўтаў пасля першых дзён, неўладкаваных ад навізны абстаноўкі і пачуццяў, пайшло нарэшце размерана і нармальна.

Венера засталася далёка ў баку ад трасы карабля, і касманаўты перасталі глядзець на яе. Труба галоўнага тэлескопа «Набата» цяпер нацэлена на чырванаваты круглячок, што ўжо ярка засвяціўся ў цэнтры чорнай бездані неба.

Па-рознаму чакалі касманаўты сустрэчы з Марсам. Павел лічыў гэтую планету мёртвай, без прыкмет высокаарганізаванага жыцця, Бурмакоў схіляўся да думкі, што там нават існуюць разумныя істоты. Можа таму Павел амаль зусім не глядзеў у тэлескоп. Навошта, калі ўсё паспее пабачыць сваімі вачыма. Бурмакоў жа, што б ён ні рабіў, не-не дый зазірне ў акуляр: а ці няма там чаго новага?

Новага не было. Марс рос, павялічваўся і па-ранейшаму заставаўся далёкі, хаваючы дэталі свайго ландшафту.

Але так не магло доўга быць. Яны павінны былі нарэшце нешта заўважыць. І, як ні дзіўна, першы заўважыў Віця. Абыякавы спачатку да зорак, ён стаў неўзабаве гарачым прыхільнікам Бурмакова і часам замяняў яго ля тэлескопа. Да гэтага часу ніяк не ўдавалася разгадаць характар тых з'яў на марсіянскіх мацерыках, якія называюць каналамі.

— Бачу! Хутчэй фатаграфуйце! — закрычаў Віця.

Бурмакоў прыпаў да акуляра, намацаў рычажок пераключэння і націснуў яго. Тэлевізійны экран, злучаны з тэлескопнымі лінзамі, засвяціўся. Павольна, нібы на фотапаперы, што ляжыць у праявіцелі, на ім пачалі выступаць абрысы нейкага кутка марсіянскай паверхні. Ніхто яшчэ ніколі не бачыў Марса так блізка, не любаваўся яго пейзажам, падобным і не падобным на зямны, з адлегласці ў мільён кіламетраў, павялічаным у дваццаць тысяч разоў.

На экране, які стаў жоўта-чырвоным, прамой лініяй пралягла вузенькая шараватая стужка. Нешта такое яны назіралі ўжо не аднойчы. Але, пільна ўгледзеўшыся, Павел зразумеў, што ўразіла Віцю і ўсхвалявала Бурмакова. На шэрай стужцы з'яўляліся і знікалі драбнюткія іскрачкі. Так магла пабліскваць толькі вада на сонцы.

— Ця-чэ, — раздзельна прамовіў Павел.

— Вось вам першы доказ. Дзе ёсць вада, там павінна быць жыццё.

У знак згоды Павел нахіліў галаву. Бурмакоў меў падставы. Марс мог быць падобны на Зямлю.

Вытокі ўбачанага канала пачыналіся недзе ў палярнай зоне, а сам ён канчаўся блізка ад экватара. Мо гэта было не зусім так. Але, агледзеўшы ўсё паўшар'е, яны больш нічога не знайшлі. Тым не менш, настрой касманаўтаў быў урачысты.

— Я ўпэўнены, што суровыя ўмовы марсіянскага клімату, — гаварыў Бурмакоў, — не з'яўляюцца перашкодай для вышэйшых форм жыцця. Марс — намнога старэйшы за Зямлю. Шлях яго развіцця не абавязкова быў такі ж, як і Зямлі. Наша планета знаходзіцца ў лепшых умовах, бо яна бліжэй да Сонца — наймагутнейшай крыніцы энергіі. Таму, можа, чалавек Зямлі дасягнуў большага, чым марсіянін, які павінен быў увесь час змагацца за сваё існаванне: і з холадам, і з разрэджанасцю атмасферы, і з беднасцю фауны і флоры. Я не ўпэўнены, што марсіяне абавязкова падобны на нас, дый, урэшце, гэта немагчыма. Прырода не церпіць аднастайнасці. Але я веру, што марсіяне павінны быць...

Бурмакоў спыніўся, каб перавесці дыханне, зірнуў на Паўла:

— Вы не згодны?

— Проста ў мяне менш упэўненасці...

— Дарэмна. Вы мне скажыце: чаму такія бездакорна прамыя марсіянскія водныя шляхі, якія не змяняюцца стагоддзямі? Такімі іх маглі зрабіць толькі разумныя істоты. А чаму такія ўстойлівыя супраць пясчаных ураганаў марсіянскія расліннія аазісы? Што такое, урэшце, Фобас і Дэймас, або ў перакладзе з грэчаскай мовы, на якой назвалі іх па традыцыі, «Страх» і «Жах». Фобас і Дэймас паводзяць сябе не як натуральныя спадарожнікі, а як штучныя. Яшчэ ў пачатку стагоддзя было заўважана, што яны паступова набліжаюцца да сваёй планеты.

Бурмакоў апусціўся ў крэсла і, быццам просячы прабачэння за сваю гарачнасць, ціха дадаў:

— Урэшце, гэта мая мара — знайсці разумнае жыццё па-за старэнькай Зямлёй. А там, дзе многа пачуццяў, часта бывае мала ісціны.

Павел шчыра сказаў:

— Я вельмі хачу, каб здарылася па-вашаму. Вельмі!

— Разумею. І скажу вам, дарагія сябры, — баюся. Не верыцца, што чалавек нарэшце сустрэнецца з падобнымі да сябе. Гэта вельмі фантастычна, і таму здаецца неверагодным. А з Марсам у зямлян звязана столькі спадзяванняў!

З таго дня Бурмакоў нібы яшчэ больш пастарэў, стаў задумлівы. Ён толькі зрэдку падыходзіў да тэлескопа, глядзеў у яго хвіліну-другую і адыходзіў.

«Набат», пачаўшы тармажэнне, апісваў вялікую крывую вакол

Марса, каб неўзабаве падысці да яго зусім блізка. Так было вырашана яшчэ тады, калі складаўся план экспедыцыі. Цяжкі карабель не было патрэбы саджаць на планету, бо на старт затраціцца ладная частка запасаў паліва. Гэта не азначала, што людзі не пабываюць, напрыклад, на Марсе. «Набат» меў невялікія аднамесную і двухмесную ракеты, на якіх касманаўты маглі злятаць на паверхню планеты і вярнуцца назад.

— Праз восем дзён, 23 студзеня ў 11 гадзін паводле зямнога часу, ляжам на сваю арбіту вакол Марса, — неяк занадта спакойна абвясціў Бурмакоў, нібы падкрэсліваючы, што тут няма месца залішняму натхненню, бо настае адзін з самых адказных момантаў іх экспедыцыі.

Пачалася падрыхтоўка да высадкі на планету. У каторы раз складваліся і правяраліся ракеты, усюдыход, прымяраліся касмічныя касцюмы, выпрабоўваліся прыборы для даследавання.

Былі выключаны рухавікі. «Набат» цяпер плыў пад уздзеяннем уласнай інерцыі і марсіянскага прыцягнення, якое паступова набліжала карабель да планеты. У хадавой рубцы панавала напружаная цішыня. Усё, што можна было зрабіць, было зроблена, падрыхтавана. Заставалася толькі чакаць моманту высадкі. Але ўсё роўна наўрад ці здолеў бы хто-небудзь цяпер пакінуць рубку, адарвацца хоць на момант ад экранаў лакатара, радыёмагнітных прыбораў, перфарацыйных стужак лічыльных машын, якія паведамлялі ўсё новыя і новыя звесткі аб Марсе. Што чакае іх, першых людзей, там, на гэтай чырвонай планеце?

Бурмакоў даваў запасной лічыльнай машыне адно заданне за другім. Нарэшце, адказы, відаць, задаволілі яго, бо ён сказаў:

— Усё ў парадку.

Павел з палёгкай уздыхнуў. Віця, зразумеўшы, што настала хвіліна адпачынку, запытаўся:

— Сцяпан Васільевіч, на якую арбіту мы выходзім?

— На кругавую, тую, што ў спадарожнікаў Марса. Пойдзем адной хуткасцю з Фобасам.

Праз некаторы час засвяціўся экран тэлевізара. На ім чырванеў шар Марса, два кружочкі яго спадарожнікаў і значылася замкнутая крывая — шлях касмічнага карабля.

Бурмакоў устаў.

— Віншую вас, таварышы, з прыбыццём да Марса.

Касманаўты падбеглі да ілюмінатараў. Паверхня чужой планеты павольна праплывала пад імі,— хвалюючы сваёй нязведанасцю, непакоячы таямнічасцю. І кожны думаў, каму выпадзе першаму пакінуць утульныя каюты «Набата», каб зрабіць новы крок у невядомае.

Нібы адказваючы на гэтыя думкі, Бурмакоў мякка сказаў:

— Павел Канстанцінавіч, прымайце камандаванне караблём.

— Сцяпан Васільевіч, дазвольце лепш я, — папрасіў Павел.

— Не. Мы не ведаем яшчэ, што нас там чакае. Таму мой абавязак высадзіцца першым. Да таго ж,— сумна ўсміхнуўся Бурмакоў,— космас — мой дом.

Павел зразумеў яго: усё ранейшае жыццё Бурмакова давала яму права на гэта.

— Мае дарагія, — камандзір абняў Паўла і Віцю, — вы пабываеце таксама на Марсе, калі там умовы падыходзяць для нас. І вы пабываеце яшчэ шмат дзе. Ці няпраўда?

— Калі адправіцеся? — спытаў Павел.

— Роўна ў восем па маскоўскаму часу. Так і перададзім на Зямлю.

Адпраўляючыся ўпершыню на Марс, Бурмакоў не збіраўся праводзіць шырокія даследаванні. У яго задачу ўваходзіла сабраць звесткі аб



атмасферы, узяць пробы паветра, глебы, раслін, калі яны трапяцца, вызначыць радыяцыю і адразу ж вяртацца на карабель.

Павел і Віця вельмі трывожыліся за свайго камандзіра, нават больш, чым ён сам. А можа ён, старэйшы і вопытнейшы, лепш умеў утойваць свае пачуцці?

Перш чым увайсці ў герметычную камеру, якая вяла да выхаду, Бурмакоў, ужо ў касмічным касцюме — лёгкім, пластычным і надзвычай трывалым, сказаў:

— Давайце па старому нашаму звычаю пасядзім перад дарогай.

На хвіліну селі. Потым падняліся, Бурмакоў накінуў на галаву гермашлем. Маленькі радыёперадатчык, уманціраваны ў шлем, працаваў на агульнай хвалі з карабельнай рацыяй. Гэта было зроблена для таго, каб экіпаж мог увесь час падтрымліваць з ім сувязь.

Пачуўшы голас Бурмакова, крыху зменены мікрафонам і дынамікам і таму нейкі чужаваты і далёкі, Віця заморгаў вейкамі.

— Не гаруйце, хлопцы, — бадзёра гаварыў камандзір.— Сачыце за мной і помніце, што ў наступны раз — ваша чарга.

— Праўда? — ажывіўся Віця.

— Праўда! — падняў руку на развітанне Бурмакоў і знік у дэзакамеры.

Павел з Віцем паспяшылі ў рубку. Некалькі хвілін магутныя кампрэсары адпампоўвалі паветра з пераходнай камеры. Потым карабель здрыгануўся, а за ілюмінатарам, пакідаючы дымны след, мільганула маленькая ракета. Скрозь шум і трэск данесліся ледзь чутныя словы:

— Я ў палёце.

## III

Ракета ішла з хуткасцю звычайнага рэактыўнага самалёта. Ды гэта і быў самалёт, толькі своеасаблівай канструкцыі, прыстасаваны да невялікіх пералётаў у беспаветранай прасторы. Запасаў паліва хапала на некалькі дзесяткаў тысяч кіламетраў.

Калі ракета выйшла на вольны палёт і перагрузка зменшылася да мінімуму, Бурмакоў агледзеўся. Кабіна пілота з трывалых празрыстых пластыкаў дазваляла бачыць усё, што робіцца навокал. Марс быў наперадзе, і, здавалася, яго ўвогнутая чаша з кожным імгненнем усё больш і больш абкружае ракету. Толькі зверху віднелася крыху фіялетавае неба. Там, злева, бліза ад краю планеты, поўным попельна-серабрыстым кругам выдзяляўся на небе Фобас. Бурмакоў глянуў на прыборы: сорак тысяч кіламетраў. Даў яшчэ заданне прыборам, і яны паведамілі, што ракета можа сустрэцца з Фобасам менш як праз гадзіну. Мільганула думка: праз нейкіх шэсцьдзесят хвілін адна з самых цікавых здагадак будзе разгадана. Гэта было так спакусліва, што Бурмакоў аж схаваў рукі за спіну, каб часам не ўхапіцца за штурвал і не скіраваць ракету да спадарожніка. У космасе ніхто не можа паддавацца спакусе, бо ў яго руках не толькі сваё жыццё, а і надзеі ўсяго чалавецтва...

— Сцяпан Васільевіч, Сцяпан Васільевіч, што з вамі, што з вамі?..

Бурмакоў не адразу ўцяміў, чаму яго выклікае занепакоены Павел. Даўно пара было б даць вестку аб сабе, а ён захапіўся марамі, як юнак. Сябры, відаць, пачулі, як ён уздыхае.

— Прабачце,— адказаў ён,— летуценні апанавалі. Вось глядзіце прычыну.— На тэлевізійным экране карабля з'явілася тая ж карціна, якую бачыў ён сам.— Злева Фобас. Ледзь не спакусіў.

— Разумеем,— здагадаўся Павел.— Фобас амаль побач.— І не вытрымаўшы, сказаў: — А раптам ён пустацелы?

Вочы Бурмакова бліснулі з-пад акуляраў гермашлема, і ў дынаміку прахрыпела збянтэжанае: «гхм».

Аднак часу на жарты ўжо не было. Ракета імчалася са звышгукавой хуткасцю, і на экране ўсё больш выразна віднелася пустыня. Ні ўзвышша, ні лагчынкі, ні ракі. Толькі пясок.

— Зона вялікіх пустынь. Пункт для высадкі не вельмі ўдалы,— заўважыў Павел.

— Што ж, пачнем знаёмства з малога. І не будзем рабіць прагнозы. Такі, здаецца, ваш дэвіз?

Хутка экран пачало зацягваць туманам.

— Вышыня тысяча кіламетраў,— паведаміў Бурмакоў па радыё. Яшчэ праз паўтары гадзіны лёту Бурмакоў перадаў:

— Іду на пасадку.

—У рэпрадуктары адразу пачуліся ўсхваляваныя воклічы Паўла і Віці. Яны патрабавалі паведамленняў, уражанняў. Бурмакоў адказваў коратка: «Пасля, пасля» і ліхаманкава ўглядаўся ўніз, ледзь паспяваючы наводзіць аб'ектывы аўтаматычных кінаапаратаў.

З васьмідзесяціметровай вышыні паверхня Марса выглядала голай і цвёрдай, як наўмысна зробленая пасадачная пляцоўка. Бурмакоў павольна апусціў ракету. Лёгкі штуршок, і яна спынілася.

Першы чалавек апынуўся на Марсе! Амаль неверагодная, найвялікшая падзея, якая, безумоўна, ужо ўскалыхнула Зямлю, не выклікала ў Бурмакова ніякіх эмоцый. Цяпер ён адчуваў сябе даследчыкам. А галава даследчыка павінна быць яснай і спакойнай.

Ракета стаяла вертыкальна, акружаная малочным туманам, а сам Бурмакоў ляжаў на спіне. Уключыўшы механізмы, якія паварочвалі ракету ў гарызантальнае становішча, ён задаў работу прыборам. Яны паказалі, што туман знаходзіцца толькі вакол ракеты і паступова расплываецца ва ўсе бакі, з крыху большым адхіленнем на поўнач.

— Дзіўна...— задумаўся Бурмакоў.

Яго пачулі на караблі.

— Што здарылася? — пытаў Павел.

— Сеў у туман. Здаецца, хвіліну назад было чыста, ні воблачка на дзесяткі кіламетраў навокал. Адкуль ён узяўся?

— Ад ракеты, Сцяпан Васільевіч, ад ракеты,— радасна закрычаў Павел.— У разрэджанай атмасферы заўсёды так бывае. Успомніце, як мы з Зямлі назіраем высотны палёт рэактыўнага самалёта.

— Цьфу ты, — аж плюнуў Бурмакоў, — а я сяджу і думаю. Здалося, марсіяне на мяне туману напусцілі. Ну, рыхтуюся да выхаду.

— Будзьце асцярожны,— папрасіў Павел.

Пакуль Бурмакоў збіраўся, вакол ракеты пасвятлела. Але пробы марсіянскага паветра браць пакуль што было нельга: у ім знаходзіліся рэшткі газаў рэактыўнага рухавіка. Сядзець, чакаць? На гэта не хапала сіл. Праверыўшы герметычнасць касцюма, Бурмакоў адкрыў люк, выбраўся вонкі. Глеба пад нагамі была нібыта зямная, толькі чулася непрывычная лёгкасць цела. Ды яно так і павінна быць — тут усё ў два з палавінай разы лягчэй, чым на Зямлі. Бурмакоў зрабіў некалькі крокаў. Ногі правальваліся ў драбнюткі, зусім як пляжны, пясок, пакідаючы на ім адбіткі слядоў. Капнуўшы наском чаравіка, Бурмакоў адчуў пад нагамі цвёрдую, падобную на камень, глебу. Верхні, сыпучы пласт пяску быў не таўсцейшы за дваццаць пяць—трыццаць сантыметраў.



Прыборы паказвалі, што з поўдня дзьме слабы вецер. Бурмакоў пайшоў у паўднёвым напрамку, каб далей ад ракеты ўзяць пробу чыстага паветра.

Туман рассеяўся. Стаяў марсіянскі поўдзень. На дзіўным сіне-фіялетавым небе маленькае, непрывычнага выгляду, цьмянае сонца — нейкі няправільны шар з кароткімі і тоўстымі жоўтымі праменнямі. Яго цеплыня не адчувалася нават тут, у экватарыяльнай зоне. А вакол, як згледзець вокам, цягнулася маўклівая, плоская, цаглянага колеру мёртвая пустыня.

Сум агарнуў Бурмакова. Хіба пра такое ён марыў? Засмучоны, ён забыўся, што ўжо адно тое, што ён знаходзіцца тут, незалежна ад вынікаў,— ледзь не мяжа чалавечай фантазіі.

Але трэба было нешта рабіць. Бурмакоў сабраў узоры пяску, у некалькіх месцах адбіў кавалкі камяністых парод, напоўніў колбы паветрам і пайшоў да ракеты. Падышоўшы да люка, ён азірнуўся. Тыя ж бясконцыя пяскі...

З палёгкай закрыў ён за сабой люк. Неўзабаве ракета маланкава рванулася ўгару.

## IV

— Думаю, адчайвацца рана,— загаварыў Павел, выслухаўшы Бурмакова, калі той вярнуўся на карабель.— Мы самі бачылі, што на Марсе ёсць не толькі мёртвыя пяскі. Будзем шукаць.

Бурмакоў усміхнуўся:

— Вы ўгаворваеце мяне, быццам я адмаўляюся. Я ведаю, нас чакаюць такія цікавыя знаходкі, што ўявіць іх не хопіць фантазіі. Многае мы знойдзем, за выключэннем аднаго — разумнага жыцця. Яно тут немагчыма.

— Вы гэта сцвярджаеце, нават не дачакаўшыся выніку аналізаў? — паказаў Віця на аўтаматычныя лабараторыі.

— Так. Але што б яны ні паказалі, трэба рыхтавацца наведаць мала гасцінны Марс яшчэ раз. Паляцім мы з Віцем.

На шкале пульта аўтаматычнай лабараторыі замільгаў зялёны агеньчык. Даследаванне было закончана. Бурмакоў сабраў табліцы і дыяграмы, што выпаўзлі з-пад пяра асцылографаў, і расклаў іх на стале.

— Паглядзім і зробім вывады!

Каму іншаму гэтыя графікі і дыяграмы з рознакаляровымі прамымі і ломанымі лініямі не сказалі б нічога. Бурмакоў жа чытаў іх, бы разгорнутую кнігу. Так яны і сядзелі ля стала: Бурмакоў, не адрываючы позірку ад істужкі асцылографаў, і Павел з Віцем — поўныя нецярпення. Праз некалькі хвілін камандзір адсунуў істужкі на край стала.

— Ну? — у адзін голас спыталі Павел і Віця.

— Суцяшальнага мала,— буркнуў Бурмакоў і змоўк.

— Сцяпан Васільевіч! Не марудзьце!—зноў усклікнулі Павел і Віця.

Бурмакоў нахмурыў бровы:

— Атмасфера складаецца з тых жа кампанентаў, што і зямная.

— Гэта ж перамога! — узрадаваўся Павел.

— Не наша з вамі,— Бурмакоў у думках цяпер кпіў з Паўла, які раптам зрабіўся гарачым прыхільнікам думкі аб існаванні жывых арганізмаў на гэтай планеце.— Канцэнтрацыя, прыкладна, як на дзесяцікіламетровай вышыні над Зямлёй. Кісларод і азот у тых прапорцыях,

што і на зямлі, вуглякіслага газу — болей у два разы. Пакуль мы не заўважылі, ёсць мікробы ці няма. Аднак, магчыма, ёсць і мікробы, і вірусы, якіх цяжка разгледзець іншы раз і ў больш магутныя мікраскопы, чым наш. Пясок крыху адрозніваецца ад зямнога. Відаць, ён лёсавага паходжання. У ім шмат жалеза.

— Чаму жалеза? — запытаўся Віця.

Бурмакоў растлумачыў:

— Напэўна, мільёны гадоў таму назад жалеза знаходзілася глыбока ў грунце. Але час рабіў сваю справу. Рэзкія пераходы ад цяпла да холаду перамяшчалі пароду. У выніку — жалеза апынулася на паверхні. — І дадаў: — Гэта маё меркаванне. Далейшыя нашы пошукі памогуць знайсці больш дакладны адказ.

— А якая тэмпература на паверхні? — не адставаў Віця.

— Пяску — каля плюс 16 градусаў па Цэльсію, паветра на метровай вышыні — плюс 10. Такія паказальнікі прыбораў. Магу дадаць з уласных уражанняў, — Бурмакоў павесялеў: — Віцевы зямныя рэкорды тут амаль нічога не значаць. Хадзіць, бегаць скакаць — надзвычай лёгка, нават на пяску. А калі б яшчэ гаравую дарожку, у-у-у, паказаў бы я клас! Шкада толькі, касцюма зняць нельга. А так хочацца гэты пясочак рукамі памацаць, перасыпаць пальцамі.

Тым часам былі праяўлены фотаплёнкі, кінастужкі. Падоўгу разглядалі астранаўты незнаёмыя пейзажы, шукаючы ў іх падабенства да зямных і ў той жа час добра разумеючы, што тут усё своеасаблівае, іншае. І нібы ілюстрацыя да здымкаў, на стале пад шкляным каўпаком паблісквад жоўта-чырвоны марсіянскі пясок.

Другую вылазку рыхтавалі яшчэ больш грунтоўна. Было намечана пабываць у зоне, дзе яны заўважылі ваду і расліннасць, і прабыць на Марсе крыху больш сутак, каб даведацца, якія змены адбываюцца там за гэты час. У ракету пагрузілі маленькі ўсюдыход і невялічкі аднамесны самалёт спецыяльнай канструкцыі. У звычайным стане ён месціўся ў чамадане. А калі трэба было ляцець, яго крылы напаўняліся паветрам. Лёгкі, устойлівы, гэты самалёт у высакагорных умовах развіваў хуткасць каля двухсот кіламетраў у гадзіну.

Павел назіраў за зборамі. Яму хацелася быць разам з акадэмікам. Але нельга: адзін чалавек павінен заўсёды заставацца на караблі. І гэтым адным мог быць або ён або Бурмакоў.

— Хоць расказвайце, што бачыце,— прасіў ён, калі Бурмакоў з Віцем, апрануўшы касмічныя касцюмы, садзіліся ў ракету.

Неўзабаве ракета была ўжо над паўночным паўшар'ем, накіроўваючыся да месца, дзе некалькі дзён назад яны заўважылі сярод пустыні канал.

Экватар перасеклі на мінімальнай хуткасці — шэсцьсот кіламетраў у гадзіну, на вышыні восемсот метраў. Ляцець на меншай вышыні пры такой хуткасці над незнаёмым марсіянскім рэльефам было рызыкоўна. Пад ракетай плыў аднастайны пейзаж — жоўта-чырвоная пустыня.

— Ці пустыня? — з сумненнем спытаў Бурмакоў пасля таго, як яны праляцелі ўжо тысячы тры кіламетраў.

— Апусцімся і на самалёце разведаем мясцовасць,— прапанаваў Віця.

— Толькі асцярожна,— затрашчаў рэпрадуктар.

Гэта Павел уключыўся ў размову.

— Добра, добра, — адказаў Бурмакоў Паўлу, не звярнуўшы, аднак, увагі на тое, што радыёперашкоды павялічыліся.

Ракета пайшла на пасадку, Бурмакоў кіраваў па-майстэрску. Віця адчуў толькі слабы штуршок, а на альтыметры, што быў прыстасаваны



для вызначэння марсіянскай вышыні, значыўся ўжо нуль. Перш чым выбрацца з ракеты, замерылі каардынаты, зноў узялі пробы паветра. Аналізы не паказалі нічога новага. Маўклівая цішыня стаяла вакол.

Сабраць самалёт было справай некалькіх хвілін.

— Віця, заставайся ля ракеты, — загадаў Бурмакоў.— Будзь пільны. Як толькі заўважыш небяспеку, хавайся. Назірай з ракеты. Я вярнуся праз дзве гадзіны. Вось мой маршрут.— Бурмакоў начарціў на пяску напрамак свайго шляху.

— А я тым часам усюдыход падрыхтую, — адказаў Віця.

Самалёт Бурмакова ўзяў кірунак на поўнач. Надзеўшы акуляры-бінокль, акадэмік мог ужо добра разгледзець, што робіцца на паверхні. Некаторы час пейзаж не мяняўся. Потым раптам уперадзе пясок як быццам пацямнеў. Бурмакоў з усяе сілы націснуў на акселератар, шкадуючы ў гэты момант, што ён на ціхаходным самалёце, а не на ракеце. А цёмная палоска, якая толькі што была відаць удалечыні, вырасла і ўжо, здавалася, не мела канца. Самалёт нырнуў уніз, дакрануўся калёсамі паверхні, спыніўся. Бурмакоў выскачыў, на хаду кінуў у адкрытую кабіну акуляры і пабег. Пад тоўстымі падэшвамі чаравікаў ён адчуваў нешта мяккае і слізкае, як цвіль.

— Віця, Віця, — радасна закрычаў Бурмакоў, — перадай на карабель: знайшоў першую форму жыцця.

Мембраны навушнікаў затрашчалі ў адказ.

— Віця, ты чуеш? — Бурмакоў занепакоіўся.

Навушнікі толькі шыпелі. Бурмакоў накіраваў антэну ў той бок, дзе знаходзілася ракета. Скрозь шум і трэск прабіўся слабы Віцеў голас:

— Дрэнна чую... мяне...

Бурмакоў пакруціў галавой, шукаючы вачыма, што б такое магло парушыць радыёсувязь, і не знайшоў. Бледна-фіялетавае марсіянскае неба па-ранейшаму было чыстае. Раздумваць не было часу, і ён пачаў браць пробы. Хутка заплечная кішэня-мяшок была поўная.

Бурмакоў схадзіў да самалёта, апаражніў там мяшок, задумаўся. Сігналы ад ракеты даходзілі з перабоямі. Што было рабіць? Вяртацца, спыніўшы справу на паўдарозе, ці ляцець далей? «Урэшце, у Віці ўсё ў парадку,— вырашыў ён.— А тут яшчэ напаткаецца многа незразумелага».

І ён паляцеў далей.

Мох рабіўся гусцейшы, суцэльным покрывам слаўся пад самалётам. Бурмакоў апускаўся зусім нізка, ледзь не дакранаючыся коламі да паверхні Марса, збавіўшы хуткасць да мінімуму. Аднастайнасць імшанага покрыва выклікала раздражненне. Хацелася хутчэй пераскочыць праз яго, бо — Бурмакоў ужо ўпэўнены быў у гэтым — там, далей, павінна быць нешта іншае, можа, рэкі, можа, расліннасць, можа... На шкале прыбораў запалілася чырвоная лямпачка. Аўтамат папярэджваў, што палавіна гаручага зрасходавана — трэба варочацца назад.

Бурмакоў павярнуўся і жахнуўся. Там, на поўдні, дзе знаходзілася ракета, хутка расло ярка-жоўтае воблака. Ішла бура. «Дык вось чаму прападаюць радыёхвалі,— мільганула думка.— Яшчэ адна загадка Марса. Бура, звязаная з электрамагнітнымі віхурамі». Бурмакоў пашкадаваў: такая цікавая з'ява, і трэба думаць не пра тое, што яна ўяўляе, а пра паратунак. Пераскочыць зверху пясчаны буран не ўдасца: самалёт не ўзнімецца на такую вышыню. Аставалася адно: прыціснуцца да самай паверхні або нават сесці. Толькі вось дзе? На пяску ці на імху? Нават пазней ён не мог растлумачыць, чаму, менавіта, выбраў мох. Але гэта, бадай, яго ратавала. Буран, які насоўваўся суцэльнай сця-

ной, дайшоўшы да краю імшары, раптам страціў сілу; на самалёт насунулася рэдкая імжа з дробных пясчынак. Наўкола пасвятлела.

Праз імгненне Бурмакоў быў ужо ў паветры, спяшаючыся да ракеты.

Радыё загаварыла раптоўна, перадаўшы з паўслова ўстрывожаныя воклічы Паўла:

— ...звайце, адказвайце!

— Здаецца, можна і адказаць,— пажартаваў Бурмакоў.— Буран адступіў...

— Адступіў? — глуха прагучаў голас Віці.

— Так, адступіў. Але дзе ты?

— Ля ракеты.

— А дзе ракета?

— На месцы.

— На месцы? Гм. А дзе ж тады тое месца? Я хутка вымушаны буду сесці. Дай пеленг. О, ты, аказваецца, тут.

Пеленг паказаў, што самалёт над ракетай, але яе не было відаць. Унізе, як згледзець вокам, рассцілалася марсіянская пустыня. Вылезшы з самалёта, Бурмакоў нават пачухаў патыліцу: не разумеў, што ж здарылася.

— Міраж, ці што? — спытаў ён.

— Сцяпан Васільевіч,— нарэшце здагадаўся Віця,— мяне засыпала. Але я зараз уключу матор. Дазваляеце?

— Давай.— Бурмакоў узрадаваўся: усюдыход быў разлічан на тое, каб выбірацца з пясчанага палону.

Некаторы час было спакойна, потым глеба пад нагамі ў Бурмакова завагалася, і ён ледзь не зваліўся ў варонку, што вынікла за ўсюдыходам. Паблісківаючы срэбрам, усюдыход спрытна павярнуўся і спыніўся ля самалёта. Віця выскачыў і адразу апынуўся ў абдымках Бурмакова.

— Гаварыце, што здарылася,— пытаў і пытаў Павел.

— Зараз, Павел Канстанцінавіч, зараз. Дайце ўспомніць усё з самага пачатку...

Усе былі цэлыя, усё аказалася ў парадку, і Бурмакоў супакоіўся.

— Так. Відаць, уся загадка ў невядомых электрамагнітных віхурах. Вы заўважылі, што сёння мы чулі адзін аднаго вельмі дрэнна, тады як у мінулы раз радыё працавала бездакорна. Дык вось, ні вы, ні я не звярнулі на гэта ўвагі. Не ведаю, ці ёсць тут узаемасувязь. Неўзабаве пачаўся буран. Страшна было, га, Віця?

— Не. Напаўзло нейкае месіва, я нават не адразу адчуў, — уступіў у размову Віця.— Здаецца, ветру не было, бо пясок не біў моцна па сценках усюдыхода, а так, толькі шапацеў. Але яго было многа. Ракету засыпала адразу.

— Дзіўна, — задумаўся Бурмакоў,— мне здавалася, што буран вялікі і нясецца са страшэннай хуткасцю.

— Ці не аптычны абман з-за вялікай шчыльнасці,— выказаў меркаванне Павел.

— Не, вецер быў ураганны, я мераў,— адказаў Віця.— Мне думаецца, справа ў іншым. Тут усё лягчэйшае, чым на Зямлі, у тры разы, таму мы не адчуваем ні моцных удараў пылінак, ні ветравога ціску.

— Мабыць, ты праўду кажаш, Віця. Малайчына,— пахваліў яго Бурмакоў.

— Значыць, гэтыя бураны не такія небяспечныя, як мы думалі раней.

— Пакуль рана рабіць вывады, Павел Канстанцінавіч,— сказаў Бурмакоў.— Мы не ведаем ні сілы, ні прыроды, ні характару буранаў. Не, лепей быць ад іх як мага далей. Павел Канстанцінавіч, зараз я вам пашлю радыёнакіраваным зондам узоры моху, які я напаткаў. Мы тут павандруем яшчэ, а вы рабіце аналізы.

— Ахвотна, а то засумаваў без работы.

— Нічога, нічога. Хопіць Марса і на вашу долю.

Пакуль адкапалі ракету, давялося папацець. Бурмакоў рашыў пераверсці яе куды-небудзь на імшару, каб часам буран не засыпаў зноў. Пасадку наважылі зрабіць далей на поўнач ад таго месца, дзе Бурмакоў пабываў ужо.

Імшары не было канца, як мору. Ракета ўжо не раз, выпускаючы свае сталёвыя ногі, апускалася на паверхню, а характар пайзажу не мяняўся. Бурмакоў з Віцем бралі пробы, пасылалі іх Паўлу для аналізу і нецярпліва мчаліся далей. Мох пакрысе рабіўся падобны да нейкай папаратнікавай расліны і слаўся нізка над глебай.

— Вы заўважаеце, Сцяпан Васільевіч,— сказаў на адным з прыпынкаў Віця,— расліны выцягваюцца ў адным напрамку, з поўначы на поўдзень.

— Так. Але якая жыццёвая сіла кіруе іх так? Ураганныя вятры ці вільгаць са снежнага полюса?

— Мы пабудзем на полюсе?

— Абавязкова. Толькі з паўночнага цяпер злазіць ледзяная шапка. Там лета.

А сонца тым часам апускалася ніжэй. Яно было яшчэ высакавата, паводле зямнога разумення, над краявідам, а між тым пацямнела, змрок насоўваўся з усходу, непрывычна цёмны, нейкі чорны, аздоблены яркімі зоркамі-пацеркамі. Сонца тут не мела зямной сілы.

Віця паглядзеў на чорнае неба і перасмыкнуў плячамі:

— Не хацеў бы я начаваць тут адзін.

Бурмакоў успомніў, як заставаўся адзін на пустынным мёртвым Месяцы, і ўздыхнуў, нічога не адказаўшы.

Усю ноч яны прасядзелі, залезшы ва ўсюдыход і прыслухоўваючыся да начной цішыні. Мікрафоны, аднесеныя на дзесяткі метраў ад усюдыхода не ўлоўлівалі ніводнага шолаху. Экраны інфрачырвоных лакатараў праз увесь час былі пустыя. Толькі недзе на досвітку Віцю здалося, што на адным з іх прамільгнуў цень. А можа гэта проста не вытрымалі вейкі і самкнуліся на імгненне? Марсіянская ноч была такая ж маўклівая, як і дзень.

Узышло сонца. Трэба было вяртацца на карабель, так і не знайшоўшы нічога новага.

Павел сустрэў іх радасна. Яму не цярпелася. Цяпер была яго чарга ляцець на Марс.

## V

Яны падаліся яшчэ амаль на тысячу кіламетраў на поўнач. Пакуль рабілі пасадку, ні Паўлу, ні Віцю не было часу зірнуць у ілюмінатары, а як зірнулі, то аж закрычалі абодва ад здзіўлення. Ззаду ракеты было сапраўднае возера. Сонца свяціла, і вада мела зеленаваты колер, толькі самыя грабеньчыкі хваль былі пеніста-белыя. А ўздоўж возера на беразе, як на Зямлі, звісаючы да вады, паволі пагойдваліся голыя галінкі хмызняку.

Павел доўга не мог адчыніць люк, каб выбрацца з ракеты. А выбраўшыся, ён сажнёвымі крокамі паімчаўся да возера, не адгукваючыся

на Віцевы воклічы. Віця з дакорам паглядзеў яму ўслед і, стрымліваючы сваё нецярпенне, спачатку вывеў усюдыход, а потым зачыніў выхадны люк ракеты. На ўсюдыходзе ён апынуўся на беразе амаль разам з Паўлам.

— Сюды, хадзі сюды,— Павел махаў Віцю рукой.

Ля берага возера было неглыбокае, празрыстае і нагадвала зямное. Толькі ніводнай травінкі не расло тут. Галінкі хмызняку, голыя і доўгія, здавалася, былі прынесены аднекуль з іншага месца і наўмысля ўторкнуты ў пясок, каб хоць нечым упрыгожыць панылы бераг. Павел паспрабаваў выцягнуць адну галінку. Тузануў раз, другі. Яна не паддавалася. Тады Віця прысеў на кукішкі і пачаў асцярожна разграбаць пясок. Карэнні былі даволі глыбока. Там, мусіць, глеба была вільготная, бо мела больш цёмны колер.

— Пэўна нейкія спажыўныя рэчывы надалі ёй такую афарбоўку,— сказаў Павел, пацёршы ў руках камячок глебы.— Пакінь, Віця, мы набярэм яе, калі будзем вяртацца, а цяпер пойдзем у ваду.

Віця ўвагнаў у пясок жалезную палку, а канец капронавага троса, які быў наматаны на ёй, прычапіў да Паўлавага пояса. Павел незадаволена чмыхнуў. Навошта трос, калі дно возера гладкае і цвёрдае, як гранітная ўзбярэжная Масквы-ракі. Ён праверыў ужо гэта, як толькі прыбег сюды. Аднак калі Віцю так хочацца, хай сабе прывязваецца.

Яны ўвайшлі ў ваду: наперадзе Павел, пастукваючы перад сабой кійком, за ім — Віця. Дно паступова апускалася. Вада, якая спачатку даходзіла толькі да костачак, была ўжо да калень. Ісці рабілася цяжэй.

Акамянелае дно раптам скончылася, і Павел праваліўся ледзь не па горла. Вада вакол памутнела. Віця нацягнуў трос, памагаючы сябру выбрацца на цвёрдае месца.

Прайшло некалькі хвілін, пакуль асеў іл і вада стала па-ранейшаму чыстая і празрыстая.

— Вось дык штука,— збянтэжана сказаў Павел. — Самая звычайная багна. Патрымай мацней трос, я паплыву.

У час трэніровак яшчэ на Зямлі Павел вучыўся лазіць па скалах, скакаць з парашутам, падоўгу вісеў уніз галавой, суткамі знаходзіўся ў стане бязважкасці. А вось падрыхтаваць яго да такой простай справы, як плаваць, апранутаму ў касмічны касцюм, нікому не прыйшло ў галаву. І шкада. Гэта Павел зразумеў, як толькі адштурхнуўся нагамі з дна. Касцюм на паверхні быў вельмі лёгкі, зручны, амаль не перашкаджаў хадзіць. А ў вадзе цягнуў уніз. Павел зрабіў яшчэ адну спробу паплыць, але зноў толькі замуціў ваду і, знясілены, падаўся назад.

— Можа на ўсюдыходзе паплывем? — параіў Віця.

— Не, трэба на лодцы, усюдыход замуціць ваду нават больш, чым я.

Прыйшлося вяртацца да ракеты, дзе была гумавая лодка. Пакуль напаўнялі паветрам лодку, сонца паднялося ў зеніт.

— Даволі горача,— Павел зірнуў на Віцю і ўбачыў, што ў таго таксама на ілбе выступілі кропелькі поту.

Тэрмометр паказваў на сонцы плюс дваццаць градусаў. Цеплыня нібы размарыла прыроду. Над возерам дрыжэла мроіва. Карычневыя галінкі ніжэй схіляліся да вады. Але што гэта? Яны ўжо не былі голыя. Маленькія, вузенькія блакітна-зялёныя лісцікі на іх прагна цягнуліся да сонца.

Павел устанавіў мікраплёначны кінаапарат, які мог прасачыць усе змяненні ў раслінах. Настроіўшы лакатар, які павінен быў падаць сігнал, калі ў зоне яго агляду з'явіцца новы прадмет, яны селі ў лодку.



Віця асцярожна кіраваў, Павел, лежачы на карме, час ад часу браў пробы. Яны праплылі ўжо з кіламетр, а другога берага ўсё яшчэ не было відаць нават у бінокль.

Спыніліся. Пабраўшы кінаапараты, застылі на сваіх месцах. Не гаварылі адзін аднаму нічога, але кожны спадзяваўся, што вось зараз да лодкі падплыве якая-небудзь рыба ці, можа, іншая якая марсіянская істота.

Мінула больш за гадзіну. Сагрэты сонцам, Віця ледзь не задрамаў, спалохана матнуў галавой і... не паверыў вачам. Плыні, здаецца, не было, а іх аднесла далёка на поўдзень ад ракеты.

— Вяртаемся, — рашуча сказаў Павел. — На ўсюдыходзе адправімся на поўнач. Трэба даведацца, дзе пачынаецца гэта возера.

Вакол ракеты ўсё было па-ранейшаму. Толькі зноў здзівіў хмызняк. На яго галінках з'явіліся вострыя калючкі.

Павячэраўшы, Павел з Віцем селі ля ілюмінатара і дзяліліся ўражаннямі.

— Я ўпэўнены,— гаварыў Віця,— у возеры ёсць жыццё.

— А мяне вось што цікавіць. Адкуль на хмызняку калючкі? Ад каго абарона?

Яны гаварылі шмат і заснулі толькі на досвітку, так і не ўбачыўшы нічога незвычайнага.

Раніцай, пакуль Павел правяраў усюдыход, Віця рашыў зрабіць зарадку. Ён і ў палёце стараўся падтрымліваць сваю добрую спартыўную форму. Глеба была роўная і цвёрдая, і ён бег уздоўж берага, не гледзячы пад ногі. За ноч лісточкі на хмызняку падраслі, пацямнелі. Калі так пойдзе, думаў Віця, праз дзень-два з-за хмызняку ўжо не ўбачыш возера.

Раптам Віця, падвярнуўшы нагу, упаў на пясок. Падняўшыся, недаўменна агледзеўся і заўважыў ямку, у якую трапіла яго нага. Гэта было так незвычайна, што Віця нават памацаў пясок, які асыпаўся пад ягоным абцасам. Дагэтуль на пяску ён бачыў толькі свае сляды. Дык можа і гэта яго след ці Паўла Канстанцінавіча? Але тут жа ён заўважыў яшчэ адну ямку, потым яшчэ... Яны знаходзіліся адна за адной на аднолькавай адлегласці і вялі ад хмызняку ў возера.

— Павел Канстанцінавіч! Павел Канстанцінавіч!

Віця крычаў так нема, што Павел, кінуўшы ўсё, пабег да яго.

Сумнення не было. Гэтыя сляды пакінула нейкая істота.

— Яна ў возеры,— выказаў меркаванне Віця.

— А мо там? — Павел паказаў у працілеглы бок, на пяскі.

— Зрабіце злепкі і фотаздымкі слядоў,— падказаў Бурмакоў, які слухаў іхнюю размову.

Павел з Віцем вызначылі, што істота ішла да возера. Але адкуль і чаго?

— У возеры мы нічога не заўважым. Накіруемся ў працілеглы бок, па слядах,— прыняў рашэнне Павел.

Праз некалькі хвілін усюдыход узяў кірунак на захад.

Мясцовасць неўзабаве пачала мяняцца. З'явіліся курганы. Мінулі некалькі паваротаў між крутых узгоркаў, і перад вачамі адкрылася даліна. Пасля аднастайнай голай пустыні яна здалася цудоўным кутком. Пасярэдзіне даліны павольна несла свае серабрыстыя хвалі шырокая спакойная рака, а паабапал яе стаяў лес, дзе раслі нейкія дзіўныя дрэвы, падобныя да сасонак ці піхтаў. І нават трава, зусім як зямны асот, расла на невялічкіх лужках і палянках.

Зачараваныя нечаканай і незвычайнай карцінай, людзі доўга не маглі адвесці ад яе вачэй. Хай сабе такіх аазісаў сярод мёртвай марсіян-

скай пустыні мала. Але яны ёсць. І хто ведае, што за істоты знаходзяць тут прытулак.

Нарэшце ўсюдыход прыглушана завурчаў і папоўз уніз. На ўскрайку лесу яны зноў спыніліся. Дзіўнымі здаліся гэтыя лес і луг. Мікрафоны не ўлоўлівалі ні спеваў птушак, ні стракатання конікаў, у траве не было відаць кветак. Толькі грозны шум чуўся аднекуль з гушчару.

Не выпускаючы кінаапаратаў, Павел і Віця падаліся да лесу. Трава-асот блыталася пад нагамі, перашкаджала ісці. Яна была высокая і моцная, як шпагат.

Сярод дрэў травы паменшала. Тут рос папаратнік. Напакоўваючы сумку-гербарый, Павел незадаволена чмыхаў. Яму не падабалася гэтая расліннасць, якая была ўласціва старажытным геалагічным эпохам Зямлі.

— Якая розніца? — Віця не разумеў, чаго незадаволены Павел.

— Ёсць,— адказаў Павел.— Паводле дакладных звестак, Марс старэйшы за нашу планету. Таму ён даўно павінен быў прайсці гэтую фазу развіцця.

Людзі доўга блукалі па марсіянскім лесе, потым выйшлі да ракі, але так і не сустрэлі нідзе ніводнай жывой істоты.

Бераг і дно ракі былі такія ж цвёрдыя, як і азёрныя.

— Тут, відаць, не абышлося без муляроў,— сказаў Віця.

— Міжволі ўспомніш нашы гіпотэзы аб штучным паходжанні марсіянскіх каналаў,— згадзіўся Павел.— Але ж часам бачыш, што лепшага майстра за самую прыроду не знойдзеш. Хіба мала доказаў гэтаму мы сустракалі на Зямлі?

— То Зямля. А тут усё іншае.

Гэта было правільна. Павел разумеў, што яны не змогуць растлумачыць усе гэтыя з'явы. Гэта зробяць спецыяльныя экспедыцыі, якія правядуць вялікія даследаванні. Ён так і сказаў Віцю:

— Наша задача рэгістраваць факты. І чым больш іх набярэм, тым лягчэй будзе тым, хто прыйдзе пасля нас.

А час не стаяў на месцы. Набліжалася ноч, і трэба было спяшацца да ракеты.

Яны не адразу знайшлі свой усюдыход. Арыентыры тут былі непрывычныя.

Ад'язджалі з такім пачуццём, быццам нейкую важную і патрэбную справу пакінулі недаробленай.

Сцямнела хутка. Ніводзін з двух марсіянскіх месяцаў не паспеў яшчэ ўзняцца над даляглядам. Яркія пражэктары-фары ўсюдыхода выхоплівалі з цемры лагчыны і пагоркі.

— Там, на Зямлі, людзі ўяўлялі сабе, як прыляцяць на Марс, убачаць яго фантастычныя пейзажы, ахутаныя халодным серабрыстым бляскам зорак або нейкага загадкавага выпраменьвання. А тут глядзіш на гэтыя ўзгоркі і здаецца, што ты дзе-небудзь у раёне Паволжа. Такі ж курганісты стэп і нічога таямнічага...— Павел змоўк на паўслове. Уперадзе, крыху лявей іх накірунку, прамень пражэктара слізгануў па нечым чорным і бліскучым.

Павел рэзка павярнуў машыну і прыбавіў газ. Але ўперадзе было пуста. Да болю ў вачах углядаючыся ў дарогу, Павел вёў усюдыход, стараючыся не прапусціць тое месца. Праз хвіліну на пяску ў святле фар зацямнелі знаёмыя ямкі.

— Я дагоню,— крыкнуў Віця, хапаючы стрэльбу.

— Сядзі,— загадаў Павел.— Ты ведаеш, хто гэта?

— Але ж і вы не ведаеце.



— Вось таму мы і не маем права страляць, нават абараняючыся. Стрэльба — гэта на крайні выпадак. Мы з табой тут не проста Гушча і Асадчы, мы прадстаўнікі людзей і па нашых паводзінах марсіяне, калі яны ёсць, будуць меркаваць аб чалавеку Зямлі. Разумееш?

Той, каму належалі сляды, знік. Праімчаўшыся за ім кіламетраў з дзесяць, людзі вярнуліся.

— Эх, няўдача...— Віця быў у роспачы.

Павел засмяяўся:

— Наадварот, удача. Мы даведаліся, што тут ёсць жыццё. А гэта галоўнае!

## VI

Бурмакоў вельмі абрадаваўся іх вяртанню. Нават не распытваючы, ён узяўся распранаць Віцю, потым пачаў гатаваць вячэру. І толькі накарміўшы, выслухаў іх.

— Будзем яго шукаць, Сцяпан Васільевіч? — спытаў Віця.

— Марсіяніна? Будзем, абавязкова будзем. А ты, Віця, не стаміўся? Не? Ну, то заўтра зноў паляцім удвух.

За ілюмінатарам, у бясконцай цемры, за тысячы кіламетраў адсюль, праносіліся марсіянскія пустыні, кропкі вадаёмаў, рэшткі лясоў. Чужыя, пустыя, з нейкім загадкавым чорным марсіянінам. А тут, на караблі, неонавыя плафоны выпраменьвалі роўнае святло, якое падала на людзей, мэблю, сцены з усіх бакоў, зусім не даючы цяню. Утульна і хітравата падміргвалі кантрольныя лямпачкі на пультах, мякка гулі рэле аўтаматычных лабараторый. І не трэба было хавацца ў скафандры, смактаць з трубкі вадкую ежу. Можна было проста ўзяць шклянку і напіцца, адламаць і пажаваць кавалак шакаладнага канцэнтрату, звычайнай лыжкай паесці баршчу з хларэлы, у якім плаваюць зорачкі тлушчу.

Павел перайшоў на мяккае крэсла, што стаяла ля сцяны, і з асалодай адкінуўся на спінку. Ён стаміўся за гэтыя два дні. Павел стараўся цяпер зразумець, пра што гавораць акадэмік з Віцем, і не мог: улаўліваў толькі асобныя словы. Марс. З Зямлі ён здаецца чырвоным пятачком. Зямля... Міжволі Павел зірнуў на гадзіннік, што адзначаў маскоўскі час. У Мінску была раніца. Павел заплюшчыў вочы і ўбачыў знаёмую вуліцу, трэці пад'езд дзесятага дома. Адчыніліся дзверы. Не, яшчэ раней пачуўся дробны перастук абцасікаў блакітных туфелек, абавязкова блакітных, бо Валя была модніца, а цяпер, у час касмічных палётаў, блакітны колер лічыўся ў жанчын самы модны. Ступіўшы на асфальт тратуара, Валя, як заўсёды, азірнулася. Гэта яна чакала яго, Паўла!

Павел уздыхнуў. Бурмакоў і Віця з трывогай паглядзелі на яго.

— Задумаўся,— вінавата сказаў Павел.

— ... касманаўты! — раптам захрыпеў дынамік прамой сувязі з Зямлёй, і ўжо выразна пачулася: — Надзвычайныя абставіны прымусілі выклікаць вас не па графіку.

Касманаўты пераглянуліся. Нечарговая перадача магла азначаць хутчэй за ўсё бяду.

— ... Нам удалося ўстанавіць, што Марс уваходзіць у густую метэарытную зону. Адсутнасць шчыльнай атмасферы вакол Марса стварае для вас сур'ёзную небяспеку. Метэарыты ў большасці сваёй дасягнуць паверхні планеты. Раім неадкладна пакінуць раён Марса. Пацвердзіце прыём.

Бурмакоў адразу ж напісаў адказ, перадаў яго ў машыну, якая павінна была закадзіраваць радыёсігнал і кароткімі імпульсамі праз пэўныя прамежкі часу пасылаць на Зямлю, пакуль прыёмныя станцыі не пацвердзяць, што паведамленне прынята.

— Зямля чакае, што мы скажам,— нейкім урачыстым голасам гаварыў Бурмакоў.— На касмічных караблях такая традыцыя: важныя рашэнні прымаюцца пасля абмеркавання. Першы пачынае маладзейшы. Давай, Віця. Хачу папярэдзіць, што калі хто з нас захоча, мы адразу ж вернемся на Зямлю. І нас ніхто не папракне. Мы зрабілі нямала.

— У нас ёсць яшчэ час,— Віця ўстаў.— Мы павінны яшчэ хоць раз пабыць на Марсе.

— Правільна,— Павел стаў побач з Віцем.

— Згодзен! — абняў іх Бурмакоў.— Але мне хочацца папярэдзіць. Гэта небяспечна.

— Нам не прывыкаць рызыкаваць, — адказаў Павел. — Астаемся.

## VII

І зноў Марс паказаўся з нечаканага боку. На гэты раз Бурмакоў наткнуўся на горы. Пад ракетай паплылі дзікія вяршыні. Цясніны перасякалі іх уздоўж і ўпоперак, зверху да нізу.

— Глядзі, Віця,— паказаў Бурмакоў,— гэтыя горы на шмат мільёнаў гадоў старэйшыя за наш Урал.

Тут усё мела сваё вымярэнне, і Віця не здзівіўся лічбам, якія назваў акадэмік. Але горы не выклікалі ў яго захаплення. Скалістыя, бязлесыя... На іх, мусіць, няма нічога жывога, як і ў тых пясках, што засыпалі амаль усю паверхню Марса.

— Мне здаецца, што тут мы знойдзем тую істоту, якая ўцякла ад нас уночы.

— Чаму вы так упэўнены? — спытаўся Віця.— Яна жыве недзе ў лесе.

— Ні ў лесе, ні ў вадзе яе няма. Інакш, вы абавязкова яе ўбачылі б. Яна павінна хавацца ў пячорах.

Ракета апусцілася на даволі зручную пляцоўку, у самым цэнтры гор. Усюдыход быў дасканалы. Ён не меў ні колаў, ні гусеніц. У яго былі ногі,— шаснаццаць пар ног, якія неслі ўсюдыход плаўна, без штуршкоў па любым рэльефе. Электроннае кіраванне, злучанае з лакатарнай сістэмай, улоўлівала няроўнасці мясцовасці і давала каманду нагам. Усюдыход мог і бегаць, і хадзіць, і поўзаць, і нават пералазіць праз невысокія перашкоды. Але каб выкарыстаць усюдыход тут, не было чаго і думаць. Скалы і горы былі крутыя, стромкія. Узяўшы альпінісцкія прылады, людзі палезлі ў бліжэйшую цясніну. Ісці было лёгка, куды лягчэй, чым у гарах Каўказа ці Ала-Тау. Мускулатура зямлян дазваляла скакаць на пяць—шэсць метраў, калі на дарозе траплялася перашкода.

Гадзіны праз паўтары зрабілі прывал. Наўкола тырчэлі толькі скалы, моцныя, голыя, як шкілеты.

— Можа, вернемся? — прапанаваў Віця.

— Вернемся? — вочы ў Бурмакова загарэліся. Яму ўспомнілася першае падарожжа на Месяц, гады маладосці, надзей, адкрыццяў. Ён верыў, што і тут іх чакае многа цікавага. І гэту веру акадэмік хацеў перадаць Віцю.— Вернемся, канешне. Але раней пабудзем на той вяршыні. Бачыш?



Гара, на якую паказаў акадэмік, панавала над усімі.

Яны падышлі ўжо блізка да яе, як раптам задрыжэла паветра, нібыта пачаў работу магутны кампрэсар. Бурмакоў і Віця прыціснуліся да скалы. А горы ўжо раўлі, грукацелі, грымелі. Імгненне, і вялізны вогненны шар, пакінуўшы за сабой шырокую паласу, апісаў дугу і ўпаў на раўніне. Небывалай сілы выбух скалануў горы.

Праз хвіліну ўсё сціхла. А людзі яшчэ доўга ляжалі і глядзелі, як павольна гаслі рознакаляровыя агні на яшчэ больш пацямнелым фіялетавым небе.

— Што гэта? — спалохана прашаптаў Віця.

— Здаецца, першая ластаўка, метэарыт. Самы час уцякаць. — Бурмакоў з жалем паглядзеў у той бок, дзе ўзвышалася гара.

— Не будзем марудзіць, — падхапіўся Віця. — Ужо нямнога засталося. Не ўпадзе ж яшчэ адзін метэарыт менавіта сюды.

— Малайчына! — пахваліў яго Бурмакоў.

Па небе гулялі сполахі. Прыборы, што вызначалі радыёактыўнасць асяроддзя, трывожна гудзелі, і іх стрэлкі набліжаліся да чырвонай рыскі. Бурмакоў раз-пораз заклапочана паглядаў на індыкатары і міжволі спяшаўся. Напэўна, яны трапілі ледзь не ў самы эпіцэнтр касмічнага атамнага выбуху, які толькі што адбыўся на іх вачах. Бурмакоў падумваў ужо, ці не лепей вярнуцца, калі радыяцыя пачала слабець... Касцюмы маглі пакуль абараніць людзей ад шкодных выпраменьванняў. А потым?

Зблізу гара не здавалася такой высокай. Да вяршыні заставалася метраў дваццаць, але з таго боку, адкуль яны прыйшлі, нельга было падступіцца. Каменны схіл быў гладкі, нібы адпаліраваны. Яны павольна пайшлі вакол гары. Бурмакоў узлез на невялічкі выступ, зірнуў туды, дзе ўпаў метэарыт. Там была агромністая яма.

— Вось, напэўна, такім быў Тунгускі метэарыт, пра які склалі столькі фантастычных тэорый,— задумліва сказаў акадэмік.— Вось яна — веліч прыроды, магутная і нязведаная сіла Сусвету. Ці не гэтыя ўспышкі мы часам бачым на Марсе з Зямлі?

Яны прастаялі колькі часу ў задуменні.

— Ну, пойдзем да ракеты,— сказаў Бурмакоў, а самога нібы нешта пацягнула далей. І паправіўшы зручны заплечны мяшок, ён не вытрымаў: — Толькі абыдзем яшчэ гару з таго боку, тут нямнога.

— Віця!...— закрычаў раптам акадэмік і з усяе сілы затрос хлопчыка за плечы.— Віця!..

Напалоханы Віця глядзеў то на Бурмакова, то на гару. На вяршыні гары стаяла нейкая металічная постаць.

— Падобна на помнік, — сказаў Віця, прыцэліўшыся кінаапаратам.

— Каму? Чый? — штохвіліны зрываючыся, падаючы, Бурмакоў папоўз угору.

Гэта напэўна быў помнік. Але незвычайны, незразумелы. З бліскучага светла-жоўтага пастамента, які канчаўся недзе глыбока ў каменным грунце, імкнулася ў вышыню ні то постаць, ні то дрэва з мноствам галінак і лісточкаў.

Нешта знаёмае раптам прамільгнула ў гэтай постаці, калі Бурмакоў, разгублены і збянтэжаны, абышоў яе. Галактыка! Так, гэта макет нашай Галактыкі. А вось яшчэ. Унізе на пліце з невядомага металу — схема сонечнай сістэмы. Толькі чаго ёй не хапае? Бурмакоў аж прыхіліўся да скалы, бо ў яго задрыжэлі ногі. На схеме было восем планет і два сонцы. Адно — наша, другое — на месцы Юпітэра.

Два сонцы — неверагодна, але, бадай, зразумела. Нездарма ж выказваюцца гіпотэзы, што на паверхні Юпітэра і да гэтага часу тэмпе-



ратура складае сотні тысяч градусаў, а ў яго бяздонных нетрах пад фантастычным ціскам у мільёны атмасфер адбываюцца ядзерныя працэсы. Гэта можа быць, бо Юпітэр астывае. Але, здаецца, у схеме нечага не хапае. Так, так. Першым ад Сонца ідзе Меркурый, потым Венера, вось Зямля, далей Марс, за ім Юпітэр... Не, паміж імі планета. Ага, гэта, напэўна, міфічны Фаэтон, а тут гарыць Юпітэр, там Сатурн у кальцы, Уран, Нептун. Дзевяць... Няўжо?..

— Віця! Пералічы ўсе планеты Сонечнай сістэмы! — закрычаў акадэмік.

Здзіўлены хлопчык назваў іх.

— А дзе Плутон? — задыхаючыся, перапытаў Бурмакоў.

— Пасля Нептуна.

— Няма, няма, кажу табе! — крычаў Бурмакоў, забыўшыся, што Віця не бачыць схемы і не разумее яго.

Напалоханы Віця папрасіў:

— Апусціце трос, я ўзлезу да вас.

— Га?..— зразумеў нарэшце Бурмакоў.— Давай хутчэй. А то, напэўна, думаеш, што з глузду з'ехаў стары. Ёсць ад чаго...

— Лю-юдзі? — прашаптаў, узлезшы, Віця.— Калі?

— Каб жа я ведаў! — Бурмакоў ужо адчуў у сабе здольнасць аналізаваць факты, глядзець на іх халоднымі вачыма даследчыка.

Тыя, хто ставіў помнік, улічылі ўсё, ці бадай што ўсё. Прайшло, напэўна, многа-многа часу, а ён стаяў, як сведчанне бязмежнай сілы розуму, пасылаючы нашчадкам вестку з далёкага мінулага. Ні час, ні іншыя нягоды не адолелі яго. Ён толькі глыбей урастаў у сваё каменнае ложа, робячыся больш устойлівым і магутным. З чаго ён зроблены? Бурмакову не ўдалося здабыць ніводнага кавалачка гэтага рэчыва.

— Самае крыўднае, Віця, што мы з табой не ведаем, калі быў па-





стаўлены помнік. Ясна толькі адно: пасля тых невядомых касманаўтаў сонечная сістэма перажыла адну з самых страшных трагедый. Ушчэнт разляцеўся Фаэтон.

— Зато паявіўся Плутон,— заўважыў Віця.

— Загадкава. Калі? Адкуль?

Гэтае пытанне не давала спакою Бурмакову і ў ракеце. Нават паспешлівыя ўцёкі ад Марса ў больш бяспечную касмічную прастору, якія не дазволілі знайсці адказ на столькі пытанняў, ён успрыняў без асаблівага адчаю. Адна думка завалодала ім, і ён павінен быў давесці яе да канца.

У гэты вечар радыёстанцыя «Набата» зрабіла нечарговую перадачу. На Зямлю было адпраўлена паведамленне з фотаздымкамі помніка.

Неўзабаве Зямля пацвердзіла, што сігналы прыняты, і прасіла чакаць паведамлення Касмічнага цэнтра.

«Набат» пры мінімальным паскарэнні пачаў апісваць цыклічную крывую вакол зададзенага пастаяннага пункту, не аддаляючыся і не набліжаючыся да Зямлі.

Прыборы лабараторыі метадычна паведамлялі вынікі аналізаў экспанатаў, дастаўленых з Марса. Былі выяўлены мікраарганізмы ў вадзе, устаноўлены састаў драўніны і спосабы харчавання дрэў і траў. Але касманаўты разумелі, што Марс для іх — пройдзены этап, і чакалі загаду Зямлі.

Загад прыйшоў на другія суткі, дакладней, праз 36 гадзін 17 хвілін 25 секунд, як зафіксавалі флегматычныя прыборы. Пры першых гуках Зямлі касманаўты ўсталі і стоячы выслухалі ўсю перадачу.

«Дарагія сябры!— звінеў дынамік ультракароткахвалевай атамнай радыёстанцыі. — Касмічны цэнтр віншуе вас з выдатна выкананай першай часткай задання. Ваша знаходка помніка, пастаўленага

невядомымі істотамі, адкрывае бязмежныя перспектывы. Амаль суткі ўсе астраномы нашай планеты вывучалі фотаздымак, прысланы вамі. Аднадушная думка — гэта макет нашай Галактыкі, такой, якой яна была прыкладна два мільёны гадоў таму назад. Такім чынам, іменна за гэты час загінуў Фаэтон і з'явіўся Плутон. Слухайце вашу задачу. Вы павінны неадкладна накіравацца на апошнюю планетную арбіту Сонечнай сістэмы, да Плутона, і паспрабаваць высветліць яго паходжанне. Майце на ўвазе, што новыя касмічныя караблі, зробленыя паводле праекта Бурмакова, у будучым каляндарным зямным годзе накіруюцца да Марса і прадоўжаць работу. Прывітанне вам ад вашых родных і блізкіх, ад усіх нас, ад усяго чалавецтва! Жадаем шчаслівага падарожжа і вяртання на Зямлю!»

Зноў, нібы яны толькі стартавалі з Зямлі, далёкі аркестр зайграў Гімн Савецкага Саюза.

## ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

### I

Пяты дзень трывожна раўла сірэна. Бурмакоў уключыў глушыцель, але і прыглушанае выццё, здавалася, урывалася ва ўсе куткі карабля, ледзь не даводзячы людзей да вар'яцтва. А выключыць сірэну было нельга. «Набату» не ўдалося пазбегнуць сустрэчы з касмічнымі целамі.

Пяты дзень не спынялася ні на хвіліну барацьба за жыццё карабля. Людзі выбіліся з сіл. Аўтаматычныя гарматы з атамным зарадам не паспявалі расстрэльваць метэарыты, што траплялі на шляху «Набата». Малыя часцінкі, зараджаныя вялікай энергіяй за доўгі час вандравання ў космасе, бамбардыравалі корпус карабля, разбіваючыся аб яго і пакідаючы на ім свой след.

— Калі так і далей будзе,— нявесела пажартаваў Бурмакоў,— мы вернемся назад у рэшаце.

Жартуючы, ён не думаў, што гэта так недалёка ад праўды. Абшыўка карабля была прабіта, як шоўк іголкай. Пенапластыкавая ізаляцыя імгненна зацягвала адтуліны. Але адзін з буйных метэарытаў усё ж вывеў са строю левую дзюзу. Ва ўмовах палёту адрамантаваць яе было вельмі цяжка. Дзюзы, зробленыя з тугаплаўкіх металаў, не плавіліся нават пад вогненным струменем кіслароду, гарачыня якога дасягае больш за тры тысячы градусаў. Толькі полымя вадароднай плазмы магло даць патрэбную тэмпературу. Але часу, каб заняцца дзюзай, не хапала. Сірэна не пераставала раўсці, напамінаючы, што небяспека не мінула.

Апранутыя ў скафандры, касманаўты хадзілі ў сваім караблі, нібы па чужой планеце. Нават засынаючы на якую гадзіну, яны не скідалі шлемаў. Бурмакоў не дазваляў: катастрофа магла здарыцца кожную хвіліну.

Пачыналіся шостыя суткі амаль беспераппыннай вахты экіпажа. Прыборы паказалі, што ў навакольнай прасторы метэарытаў паменшала. І хоць сірэна па-ранейшаму не змаўкала, аднак ужо не выклікала былога раздражнення.

Павел, здаўшы дзяжурства ля пульта, пайшоў у бібліятэку. Абавязкі штурмана былі даручаны яму, і ён рашыў пракласці новы курс, бо ад старога за гэтыя дні карабель значна адхіліўся. Мікрафільмаў з самымі апошнімі дадзенымі аб метэорных паясах вакол вялікіх планет на месцы не было. «От гэты Віцька,— з прыкрасцю падумаў Павел.— Запхнуў некуды. Трэба сказаць, каб ён навеў тут парадак». Павел нагнуўся да ніжняй паліцы, адкінуў на плечы шлем. Мікрафільмы былі тут. Павел зарадзіў іх у праекцыйны апарат. Без скафандра дыхалася лёгка. Павел зірнуў на дзверы, што вялі ў рубку да Бурмакова, сеў у крэсла насупраць экрана, так і не надзеўшы шлема. Ён націснуў кнопку праекцыйнага апарата і...

Страшэнны грукат аглушыў яго знянацку. Над галавой у столі цямнела дзірка. Трацячы прытомнасць, Павел пацягнуў за шнурок шлема...

Удар страшэннай сілы абрушыўся на карабель, адштурхнуўшы яго на многія кіламетры. Бурмакова кінула на сценку каюты, але ён адразу ж падхапіўся на ногі. Здарыўся той самы выпадак, калі пілоты-аўтаматы не маглі даць рады і патрабавалася рука чалавека, моцная і спрактыкаваная. Сцяўшы зубы да болю, Бурмакоў сеў да рычагоў кіравання.

— А дзе Павел Канстанцінавіч?— спытаўся Віця, які амаль не адчуў сутыкнення, бо сядзеў на мяккай канапе.

— У бібліятэ...— пачаў Бурмакоў і кінуўся да дзвярэй. Ён толькі цяпер уцяміў, што Павел павінен быў знаходзіцца там.

Дзверы не адчыняліся. Аўтаматычныя рэле пасля ўдару герметычна ізалявалі бібліятэку ад астатніх памяшканняў. Увайсці ў яе можна было цяпер толькі пры дапамозе аўтагеннага разака або пасля таго, як будзе залатана прабоіна і аўтаматы створаць там нармальныя атмасферныя ўмовы.

— Павел Канстанцінавіч! Павел! Павел!— закрычаў у мікрафон Бурмакоў.

Адказу не было.

Віця паспрабаваў пазваніць па ўнутраным тэлефоне. Бібліятэка маўчала. Не працавала і тэлевізійная ўстаноўка.

— Задача,— сказаў Бурмакоў.— Трэба залатаць прабоіну.

— А што з Паўлам Канстанцінавічам?

— Адно ведаю, здарылася бяда. Мы не можам узламаць дзверы, бо выйдуць са строю прыборы ў рубцы, і карабель загіне.

Глытаючы слёзы, Віця корпаўся ля тэлекамеры. Бурмакоў паглядзеў на яго, уздыхнуў і вярнуўся да рычагоў. Праца памагла хоць на імгненне забыць гора.

Марудна цягнуліся гадзіны. Калі перасталі выць сірэны, ніхто гэтага не заўважыў. Урэшце, што магло здарыцца больш страшнае? Новая сустрэча з метэарытам, астэроідам? Яны перасталі ўжо баяцца яе. Як там Павел? Гэта непакоіла больш за ўсё.

— Раней, чым праз дзесяць гадзін, мы не зможам выбрацца з карабля,— Бурмакоў кінуў на стол аловак, якім пісаў заданне лічыльнай машыне.

Дзесяць гадзін. Ён не сказаў, што гэта азначае. Але Віця ведаў і без яго. Яшчэ дзесяць гадзін Павел павінен знаходзіцца ў бібліятэцы, дзе пануе касмічны холад, абсалютны нуль, што ў долю секунды можаператварыць жывога чалавека ў ільдзіну. Хлопчык яшчэ хутчэй запрацаваў пальцамі, мяняючы пашкоджаныя крышталікі.

Іх было шмат, тых крышталікаў, што павырываліся са сваіх гнёздаў. Толькі праз некаторы час злучэнні замкнуліся, прапускаючы ток.

— Ёсць,— коратка далажыў Віця, наводзячы тэлекамеру на сценку бібліятэкі.



Нябачныя праменні праніклі праз сталёвыя дзверы, забегалі па адсеку.

— Ён!— узрадаваўся Віця.

Павел нерухома ляжаў на падлозе, раскінуўшы рукі.

Да болю ў вачах угледаліся Бурмакоў і Віця ў экран, спадзеючыся заўважыць хоць якія-небудзь прыкметы жыцця на Паўлавым твары, і не заўважалі іх.

## II

Каб раней хто сказаў Бурмакову, што ён зможа больш за шэсць сутак — сто пяцьдзесят гадзін — не спаць, ён не паверыў бы. Нават тады, лятаючы на Месяц, калі сам космас быў яму навіной, ён спаў. А цяпер вось гэтульки часу на нагах, не прымаючы ніякіх штучных узбуджальнікаў. Віця той вунь глядзеў-глядзеў на экран тэлевізара і заснуў. Ён яшчэ малы, дарма, што галава разумная. Любыя нягоды ў пятнаццаць год лягчэй пераносіць, чым у сорак пяць. А ён цяпер пэўна не супакоіцца ўжо, калі з Паўлам што здарылася дрэннае. І больш за ўсё крыўдна, што не маеш права рызыкаваць караблём, лёсам экспедыцыі, што сябра за паўметра ад цябе, а ты павінен яшчэ чакаць, чакаць...

Што здарылася з Паўлам? Магло проста аглушыць чалавека... Скафандр на ім цэлы, а ў скафандры можна не адны суткі чакаць дапамогі нават у гэткім страшэнным холадзе. Трэба спяшацца на выручку.

Бурмакоў адняў рукі ад твару. Зялёная стрэлка індыкатараў, што паказвала хуткасць «Набата», дрыжэла блізка ля нуля. Бурмакоў з жалем паглядзеў на схуднелага Віцю і дакрануўся да яго пляча:

— Уставай, Віця, будзем выходзіць.

Віця вінавата заміргаў вейкамі.

— Нічога, добра што адпачыў. Мне больш паможаш. Я пайду адзін. Ну-у, не крыўдуй. Карабель без людзей нельга пакідаць. А раптам што са мной здарыцца, хто выратуе? Хто верне «Набат» на Зямлю? Зразумеў?

Захапіўшы інструменты, металічны пластыр, каб заплавіць прабоіну, Бурмакоў накіраваўся ў пераходную дэзакамеру. Віця сачыў за ім па тэлеэкране, і яму здавалася, што Сцяпан Васільевіч занадта марудзіць. А той цяжкім крокам падышоў да вонкавага люка, адчыніў яго. Лябёдка закруцілася, спачатку павольна, потым усё хутчэй і хутчэй. Віця перавёў тэлекамеру. Бурмакоў быў ужо на корпусе і, сагнуўшыся, падбіраўся да прабоіны. Са спрытам прафесіянала-бляхара акадэмік пачаў латаць дзірку.

Нарэшце работа зроблена.

— Вяртаюся,— сказаў Бурмакоў,— сачы, Віця, за прыборамі.

Бурмакоў паспеў ужо вярнуцца, распрануцца, а дзверы ў бібліятэку не адчыняліся.

— Надзень скафандр,— загадаў Бурмакоў.— Будзем рэзаць замкі.

Павел ляжаў у ранейшай позе. Паветра ў бібліятэцы мела павышаную радыёактыўнасць, і таму аўтаматы не адчынялі дзверы. І вось, нарэшце... Зняты запоры.

Паўла перанеслі ў спальню, распранулі. Неўзабаве Павел апрытомнеў. Траўма была не сур'ёзная, і праз два дні ён перастаў лічыць сябе хворым.

Прамая траса карабля была пракладзена так, што па дарозе да Плутона яны павінны былі прайсці на адлегласці каля мільёна кіламетраў ад уяўляемай паверхні Юпітэра. Павел папрасіў зрабіць «невялікі» абход у сорак мільёнаў кіламетраў, каб пабываць блізка ля Сатурна, але Бурмакоў катэгарычна забараніў.

— Досыць з мяне і тых метэарытаў,— адказаў ён,— адно сатурнава кальцо, напэўна, сабрала іх столькі, колькі ўсе астатнія планеты.

Павел згадзіўся.

«Набат» імчаўся з падвойным паскарэннем. Яго хуткасць кожную секунду павялічвалася і неўзабаве дасягнула астранамічнай лічбы — блізка мільёна кіламетраў у гадзіну. Упершыню за час палёту астранаўты адчулі, што такое працяглая перагрузка. Ад яе было цяжка дыхаць, рухацца, хацелася спаць. А вахты штодня рабіліся цікавейшыя.

Бліскучы дыск Юпітэра, што нагадваў спачатку размаляваную сервізную талерку, не змяшчаўся ўжо ў ілюмінатары. І чым больш ён рос, тым больш мяняўся ягоны шар. Аміякавая і метанавая атмасфера гіганцкай планеты, успыхваючы цьмяным полымем і патухаючы, пульсавала.



— Здалёк даволі бяскрыўдная і нават прыгожая планета,— глянуўшы ў тэлескоп, задумліва сказаў Бурмакоў.— Баюся, што мы блізка ад яе ідзём.

— Мільён кіламетраў. Гэта блізка?— здзівіўся Віця.

— Не забывай, што ў аб'ёме Юпітэра месціцца тысяча трыста зямных шароў. І хоць сярэдняя шчыльнасць яго раўняецца 1,34, ён мае вялікую сілу прыцягнення. Уяві сабе на імгненне, што чалавек у сваім звычайным касцюме ступіў на паверхню Юпітэра. Ведаеш, што з такім смельчаком здарыцца? Яго сплюшчыць, як блін. Вось які Юпітэр.

Апасенні Бурмакова мелі падставу. Не прайшло і двух дзён пасля гэтай размовы, як хуткасць карабля раптам пачала зніжацца. Рухавікі нібы працавалі на тармажэнне. Яшчэ праз дзень прыборы адзначылі адхіленне ад курса. Юпітэр, як кажуць, злаваўся. Ягоныя шчупальцы-пратуберанцы высоўваліся на дзесяткі тысяч кіламетраў, нібы цэлячыся ўхапіць карабель з дзёрзкімі людзьмі, якія асмеліліся завітаць у яго ўладанні. Потым гэтыя шчупальцы знікалі, пакідаючы воблачкі. Прыборы-пасткі, што беспярэстанна аналізавалі склад касмічнага рэчыва, пачалі ўлоўліваць атрутныя сумесі, характэрныя для атмасферы Юпітэра.

Каб адолець гэтыя капрызы, прыйшлося пусціць атамныя рухавікі на самую поўную магутнасць. Становішча паступова пачало выпраўляцца, стрэлка, якая сачыла за паскарэннем, зрушыла з нуля. Астранаўты ўздыхнулі лягчэй, але раптам здарылася непрадбачанае: прарвала залатаны пластыр на дзюзе, прабітай метэарытам. «Набат» амаль страціў кіраванне і клаўся на арбіту-эліпсоід, якая з часам павінна была закончыцца недзе з другога боку Юпітэра якраз у цэнтры. Гэта за некалькі секунд вылічылі электронныя машыны.

— Колькі ў нас засталося часу? — Бурмакоў быў на дзіва спакойны.

Нескладаны разлік машыны зрабілі імгненна. Павел падаў камандзіру стужку.

— Ого! Цэлы тыдзень. Ну, скажам, шэсць, нават пяць дзён. За гэты час мы павінны адрамантаваць або замяніць дзюзу. Тады мы яшчэ здолеем паспрачацца з нашым сярдзітым богам.

— На хаду дзюзу не заменіш, — усміхнуўся Павел.

— Але іншага выйсця няма.

— Ёсць, трэба зноў пакласці пластыр. На гэта спатрэбіцца менш часу. З усімі адключэннямі і ачысткамі — сорак-пяцьдзесят гадзін.

— А што гарантуе ад новага разрыву?

— У нас будзе ў запасе некалькі сутак, і мы можам не ўключаць адрамантаваную дзюзу на поўную магутнасць.

Бурмакоў згадзіўся не адразу. Тройчы задаваў ён работу машынам, пакуль прыняў рашэнне.

## III

### З дзённіка Віці Асадчага

**31 сакавіка, паводле зямнога вылічэння.** А ў нас пераблыталіся ўсе дні. Неяк не шанцуе нам пасля Марса. Прырода нібы помсціць, што мы зазірнулі ў адну з яе самых глыбокіх таямніц. Мы, канешне, даб'ёмся мэты, не адступім. Але бачу, як гэта цяжка. Быў паранены П. К. і напружана працаваў С. В. І калі, нарэшце, можна было б адпачыць — новая бяда. Яна лягла на плечы С. В. і П. К., які — няхай не падманвае нас — і так не ачуняў яшчэ. Я стараюся памагаць чым магу, аднак мне мала што даручаюць. Дзівакі, прыдумваюць розныя прычыны, абы толькі зрабіць мне палёгку. Быццам я сапраўды такі ўжо малы. А пра сябе не дбаюць. Я сёння наўмысля прагледзеў кінастужкі, зробленыя незадоўга да нашага вылету. І магу прама сказаць, што С. В. і П. К. выглядаюць цяпер на дзесяць гадоў старэй. А як яны схуднелі — проста скура ды косці. Каторую ноч ужо не спяць, асабліва С. В. Ды што зробіш. Становішча наша вельмі небяспечнае. Мы бадай ці вырвемся з абдымкаў Юпітэра. Мне пра гэта не гавораць, утойваюць, быццам я сам не разумею. Хай думаюць, што я нічога не ведаю, калі ім лягчэй ад гэтага.

Адрамантаваць пашкоджаную дзюзу амаль немагчыма. Вельмі ўжо зараджана ўсё навокал радыёактыўнымі часцінкамі, якія выпраменьвае другі рухавік. Нашы касцюмы, у якіх мы выходзілі на Марс, сказаў С. В., не надзейныя. С. В. і П. К., калі выходзяць цяпер на паверхню, апранаюць іншыя, спецыяльна зробленыя для такіх выхадаў. Вы паглядзелі б на іх у тых касцюмах. Сапраўдныя малярухомыя механічныя робаты. У скафандрах не толькі працаваць, павярнуцца нязручна, не гаворачы ўжо аб тым, якіх намаганняў каштуе, напрыклад, падняць руку. Нашы спецыяльныя скафандры, зробленыя са свінцовых сплаваў, напэўна, лёгкія, я іх не апранаў яшчэ. Але ў месцах злучэння, якія адпавядаюць суставам чалавека, яны так дакладна падагнаны, што адна частка нібы прыліпае да другой.

П. К. і С. В. зрабілі ўжо тры выхады на паверхню. Кожны раз яны вяртаюцца знясіленыя, маўклівыя. Пасядзяць нерухома гадзіну, другую, перакусяць і зноў за работу.

Ці паспеюць? Няўжо мы не вырвемся? Не, быць таго не можа. Я вельмі хачу жыць, я баюся згарэць або захлынуцца газамі. А колькі мы расказалі б, каб вярнуліся на Зямлю, пра Марс, пра Юпітэр.

Чаму мяне не бяруць з сабой на паверхню? У адзіноце не магу ні чытаць, ні глядзець кінафільмы, работа валіцца з рук. Як хочацца ўбачыць тату, маці.

**3 красавіка.** Крыху сорамна чытаць мінулы запіс. Хіба астатнім не было страшна? А яны не раскісалі, знайшлі ў сабе сілы, каб працаваць нават тады, калі раптам здалося, што ўсё гэта — марная трата сіл. У разлікі, напэўна, укралася памылка, або мы недакладна ведаем будову Юпітэра. «Набат» нечакана зноў пачаў адхіляцца ўбок ад той крывой, якую разлічылі электронныя машыны. Я бачыў, як пабялеў Павел Канстанцінавіч, якім упартым агнём загарэліся ягоныя вочы, як спахмурнеў Сцяпан Васільевіч, калі я паказаў ім карту нашага шляху. Яны не сталі нават адпачываць, а вярнуліся ў космас, поўны метанавай атруты. Яны ўвесь час працавалі і перамаглі! Вось гэта людзі!

Дзюза запрацавала трыццаць шэсць гадзін таму назад. Але ўсё роўна пра адпачынак не было чаго думаць. Мы знаходзіліся за паўмільёна кіламетраў ад Юпітэра, або ад таго, што называюць Юпітэрам. Бо, як сцвярджаюць прыборы, там, акрамя газаў, нічога няма. Аднак і тых газаў хапіла, каб трымаць нас на добрым ланцужку. Суткі працавалі дзюзы на поўную магутнасць, і за гэтыя суткі мы змаглі толькі павярнуць нос карабля ў бок ад Юпітэра. Потым пачалі рухацца — сантыметрамі, метрамі. Дрыжэлі нават перагародкі. Але мы вырваліся!

**5 красавіка.** Небяспека засталася ззаду. На шкле тэлескопа злосны Юпітэр, як і некалі, здаецца касматым клубком. Нас аддзяляюць ад яго ўжо мільёны кіламетраў, і гэта самае радаснае, што я магу запісаць.

Але няшчасці не мінаюць. Сёння раніцай С. В. сказаў нам:

— Гаручага для ядзерных рухавікоў засталося столькі, што яго хопіць або вярнуцца адсюль дамоў, або даляцець і зрабіць пасадку на Плутоне. Астатняе патрачана ў барацьбе з Юпітэрам. Што будзем рабіць?

Як і мінулы раз, рашаць павінен быў кожны самастойна, і рашэнне прымалася толькі аднагалосна. Я маўчаў, бо разумеў, што гаварыць можна толькі тады, калі цвёрда ў чым-небудзь упэўнен. Але мне вельмі хацелася, каб мае старэйшыя таварышы вынайшлі які-небудзь спосаб ляцець далей.

— Паліва знойдзем на Плутоне,— упэўнена сказаў П. К.— Будзем шукаць і знойдзем,— паўтарыў ён.— Можна нават паспрабаваць штучна падрыхтаваць ядзернае рэчыва. Што з таго, калі на гэта спатрэбіцца год — другі. У нас павінна хапіць запасаў ежы і кіслароду.

— Так,— прамовіў Бурмакоў і звярнуўся да мяне: — А ты, Віця, што думаеш?

— Згодзен з вамі! — адказаў я.

— Хітрун! — першы раз пасля Марса засмяяўся Бурмакоў.— Хітрун Значыць, не хочаш нікога з нас пакрыўдзіць? Ну што ж, сябры, ляцім далей, што б там ні здарылася!

## IV

Суровы, нешматслоўны, як кожны, на чыю долю выпала нямала цяжкага, Бурмакоў быў тым не менш прываблівым чалавекам. Яго душэўная сіла выклікала ў Паўла і Віці жаданне быць падобнымі да свайго камандзіра. І напэўна таму замкнёнасць Бурмакова з часам перадалася і ім. Яны рэдка гаварылі пра асабістыя перажыванні, не ўспаміналі мінулае. Абодвум здавалася, што гэта будзе непрыемна Бурмакову, у асабістым жыцці якога было бадай што больш трагічнага, чым шчаслівага. Яны бераглі спакой камандзіра, не ведаючы, які душэўны боль прычыняюць яму гэтым. Заняты доўгія гады толькі навукай, ён не ўмеў гаварыць пра інтымнае, хоць, як і кожны чалавек, меў патрэбу ў такіх размовах.

І цяпер Бурмакоў з усёй сілы клапаціўся пра Паўла і Віцю, непакоіўся, калі не бачыў на іх тварах усмешкі, сумаваў, калі сумавалі яны, гатоў быў весяліцца, калі было весела ім. Ён быў шчаслівы, калі выпадаў не заняты працай час, калі можна было ўсім разам пасядзець у бібліятэцы, паглядзець кінафільм, паслухаць канцэрт, пачытаць.

Пасля напружаных дзён касманаўты цяпер збіраліся часцей. Хацелася адпачыць, а можа, проста гэта была туга па Зямлі. Яны ляцелі наперад і думалі аб тым часе, калі вернуцца дадому. Ці хутка будзе гэта?

У той вечар яны, як звычайна, сядзелі ў бібліятэцы. На кінаэкране дэманстраваўся канцэрт. І, відаць, у гэты момант не аднаму Віцю ўспомнілася Радзіма. Ён не вытрымаў і сказаў пра гэта.

Бурмакоў перавёў на экран адлюстраванне той часткі неба, дзе знаходзілася Зямля. Маленькая блакітная зорачка, да якой імкнуліся іх думы, нічым не адрознівалася ад іншых зорак. Людзі моўчкі глядзелі на экран, і кожны за гэтай далёкай бліскучай зорачкай бачыў нешта сваё, дарагое і незабыўнае.

Віця адчуў сябе вінаватым, што ў яго таварышаў сапсаваўся настрой, і папрасіў:

— Цікава было б зірнуць на Плутон.

Бурмакоў шчоўкнуў кнопкамі. Экран хліпнуў і засвяціўся новым



кутком Сусвету. Няяркі, невялікі Плутон паказаўся з далёкага зоркавага россыпу.

— Ён амаль з намі побач,— сказаў Бурмакоў.

— Няўжо ён новы ў Сонечнай сістэме? — спытаўся Віця, радуючыся, што і Павел і Бурмакоў раптам ажывіліся.

— Гэта табе лепш Павел Канстанцінавіч раскажа, я і сам не надта разбіраюся ў такіх астранамічных таямніцах.

— Сцяпан Васільевіч,— шчыра сказаў Павел.— Мы ж па вашых падручніках вучыліся і нічога асабліва новага я не скажу. У канцы мінулага стагоддзя самай далёкай, апошняй планетай у сонечнай сістэме лічыўся Нептун. Аднак ужо тады астраномы заўважылі, што тэарэтычная арбіта яго не адпавядае сапраўднай. Прыйшлі да вываду, што на Нептун дзейнічае нейкая іншая, невядомая планета. Але якая? І дзе яна? Да гэтага часу матэматыкі ўмелі, ведаючы арбіту і масу планеты, вызначыць тыя ўздзеянні, якія яна можа рабіць на суседнія. У гэтым жа выпадку трэба было рашаць задачу з адваротнай умовай. Пошукі пачаліся ў 1878 годзе. Астраномы назіралі ў тэлескопы, матэматыкі рабілі разлікі, стараючыся адгадаць магчымую арбіту невядомага нябеснага цела.

— Але міналі доўгія гады,— Павел перавёў тэлескоп на Нептун,— а гэтая планета па-ранейшаму заставалася крайняй з вядомых чалавеку планет Сонечнай сістэмы. Толькі ў 1930 годзе на фотаздымках месца, якое вылічылі матэматыкі, была заўважана невядомая зорка. Неўзабаве пацвердзілася, што адкрыта новая планета. Яе назвалі Плутон — па традыцыі далі імя міфічнага бога. Некалькі дзесяцігоддзяў прайшло з таго часу, а людзі вельмі мала ведаюць пра гэтую планету, да якой мы цяпер набліжаемся. У 1950 годзе было праведзена вымярэнне дыяметра Плутона. Ён складае 0,46 зямнога дыяметра, або 5870 кіламетраў. Такім чынам, Плутон — невялікая планета. Ён крыху большы за Меркурый і меншы за Марс. Тым больш дзіўна, што, паводле вылічэння, яго маса роўна зямной. Гэта значыць, што сярэдняя шчыльнасць Плутона надзвычай высокая — каля 50 грамаў на кубічны сантыметр, а гэта ў шэсць разоў шчыльней за жалеза.

— Праўда, нашы звесткі аб Плутоне даволі прыблізныя,— Павел памаўчаў, пільна ўглядаючыся ў экран тэлескопа, на якім зноў блішчэў Плутон.— Мы ведаем, што ён знаходзіцца на сярэдняй адлегласці ад Сонца, роўнай сарака астранамічным адзінкам, або шасці мільярдам кіламетраў. Гэта апошняя арбіта планет Сонечнай сістэмы. Бляск Плутона мяняецца, што можна растлумачыць вярчэннем яго вакол восі. Суткі на ім па сваёй працягласці роўны 6 зямным дням 9 гадзінам 21 мінуце і 30 секундам. Гэта так званыя аб'ектыўныя дадзеныя. Аналіз іх паказвае, што Плутон не падобен на астатнія вялікія планеты Сонечнай сістэмы. Па-першае, плоскасць яго арбіты нахілена да плоскасцей арбіт іншых планет пад вялікім вуглом — 17 градусаў, а гэта не ўласціва ўсім іншым планетам Сонечнай сістэмы. Па-другое, суткі на планетах-гігантах роўны 10—15 гадзінам, а на Плутоне, як я гаварыў ужо, яны ў многа разоў большыя. У Плутона вялікая маса. Ён складаецца з надзвычай шчыльнага рэчыва, таму, магчыма, нам будзе там цяжэй хадзіць. Але не гэта галоўнае. Першае, што мы зробім, апусціўшыся на Плутон,— гэта паглядзім на ягонае неба. Яно павінна выглядаць аднастайнай чорнай безданню, усеянай зоркамі. Сузор'і там такія ж, як і на Зямлі. Сонца здаецца яркай зоркай. Яно дае Плутону цяпла ў дзве з паловай тысячы разоў менш, чым Зямлі, і тым не менш асвятляе яго паверхню ў дзвесце разоў больш моцна, чым Зямлю поўны Месяц. Без тэлескопа мы ўбачым адтуль яшчэ толькі надзвычай яркі Нептун, а так-

сама Сатурн, Уран і, магчыма, Юпітэр. Атмасферы на Плутоне, відавочна, няма, ва ўсякім выпадку, калі і ёсць, то яна павінна быць у дзесяць разоў радзейшая, чым на Зямлі.

— Ну і карціну вы намалявалі, Павел Канстанцінавіч,— усміхнуўся Бурмакоў.— Чаго добрага, захочацца назад павярнуць.

— Ага,— уздыхнуў Віця,— вельмі сумна. Адна толькі надзея, што мы зноў, як і з Марсам, памыляемся.

У караблі было цёпла, па-хатняму ўтульна. І толькі зеленаваты экран, да якога Бурмакоў падключыў электронны тэлескоп, напамінаў пра бясконцую бездань, што праглынула маленькі карабель.

## V

Мінула некалькі месяцаў. Жыццё людзей на караблі цякло павольна, без прыгод і здарэнняў. Космас нібы злітаваўся і пасля тых выпрабаванняў прызнаў за людзьмі права паглыбіцца ў яго нетры. Нарэшце прыйшоў момант тармажэння. Аўтаматы працавалі дакладна. Бурмакоў і Павел амаль зусім не кантралявалі іх і самі гадзінамі не адрываліся ад тэлескопа. Але не Плутон быў аб'ектам іх назірання. Яны ў акулярах тэлескопа, а Віця на картах галоўнай лічыльнай машыны шукалі пазаплутонавую планету. Не верылася, не хацелася верыць, што яе няма. Яна павінна была быць. Інакш...

— Інакш пасадка на Плутоне амаль немагчыма. Яго прыцягненне будзе такое ж небяспечнае, як і каля Юпітэра. «Набат» або разаб'ецца, або, калі мы здолеем нейтралізаваць прыцягненне ў час пасадкі, яно не выпусціць нас пасля са свайго палону.

— Але тады, Сцяпан Васільевіч,— Павел усхвалявана крутнуў ручку, нацэльваючы тэлескоп на Плутон,— напрошваецца неверагодная думка...

— Я веру таму помніку,— узняў галаву Бурмакоў.— Плутон чужы ў нашай Сонечнай сістэме.

Слова было сказана. Вывад напрошваўся даўно, але ні Павел, ні Бурмакоў не адважваліся раней зрабіць яго. Віця няўцямна пазіраў на вучоных.

— Так, Віця, хутчэй за ўсё чужы,— растлумачыў яму Бурмакоў.

— З іншай сістэмы?!

— Магчыма.

— Раскажыце больш падрабязна, Сцяпан Васільевіч,— папрасіў Віця.

— Баюся. Баюся расчаравацца. Помніш, у пачатку нашага падарожжа я сцвярджаў, што Марс населены разумнымі істотамі. А мы іх не знайшлі.

— Але мы і цяпер не ўпэўнены, што іх няма,— сказаў Павел.— Мы бачылі сляды.

— Я хацеў бы ўбачыць не сляды...

— Значыць, вы думаеце, што на Плутоне існуе жыццё? — па-свойму зразумеў Віця Бурмакова.

— Што можа існаваць на мёртвай планеце ў мёртвай прасторы? — сумна адказаў той.— Будзе ўдачай, калі мы толькі зразумеем яе паходжанне.

— А раптам? — узгарэўся Павел.— Што б вы ні даказвалі, а я хачу верыць. Вы кажаце, што Плутон чужы ў нас. Дык вось. Людзі далёкай Галактыкі рашылі адправіцца ў падарожжа. Іх навука зрабілася такой дасканалай, што ім не трэба будаваць касмічных ракет. Яны накіраваліся ў Сусвет на сваёй планеце. Такім чынам, Плутон апынуўся ў Сонечнай сістэме.

— Чым вы растлумачыце, што яны спыніліся так далёка ад нас?

Гіпотэза-жарт нечым захапіла Бурмакова. Ён дакончыў за Паўла:

— Жыхары Плутона жывуць у іншым вымярэнні часу. Тое, што нам уяўляецца стагоддзем, у іх — секунды або хвіліны. Таму ім зусім не надакучыла жыць у правінцыяльнай вобласці Сонечнай сістэмы. Яны прыглядаюцца пакуль што.

— А які ў іх грамадскі лад, Павел Канстанцінавіч? — спытаў раптам Віця.

— Не ведаю. Але мабыць яны жывуць у надзвычай высока арганізаваным грамадстве.

— Я думаю, у іх — камунізм! — безапеляцыйна сказаў Віця.— Як у нас. Толькі даўно пабудаваны, і па суседству няма імперыялістаў. Вось здорава! Праўда, Сцяпан Васільевіч?

— Летуценнікі! А раптам Плутон — гэта асколак Фаэтона? — паківаў галавой Бурмакоў. Мары маладзі ўзрушылі яго. Але яму не хацелася, каб таварышы гэта заўважылі. Ён прызнаваў толькі мары, якія абапіраліся на пэўны навуковы вывад.

Доўга ён пасля яшчэ ляжаў без сну, прыслухоўваючыся да роўнага дыхання Віці, які спаў побач. Трэці ложак быў пусты: Павел нёс вахту. Віця з Паўлам сёння растрывожылі ягоныя думкі.

Сустрэць чалавека іншай цывілізацыі... Ён гэтаму прысвяціў сваё жыццё. Няўжо надзея так і застанецца надзеяй, няўжо гэта зробіць не ён, няўжо адкрыць населеныя планеты суджана каму іншаму? Крыўдна. Але ж ён і так многа зрабіў, чаго ж яму яшчэ не хапае? Сустрэчы? Але ж нельга, каб усё даставалася аднаму. Яму нечага наракаць на лёс. А тая сустрэча на Марсе? Той помнік — гэта ж сведчанне Розуму, чужога, незямнога, аднак, блізкага чалавеку. Як ён не падумаў пра гэта раней? Можа, ён стаяў ля вытокаў сустрэчы з тымі, хто пакінуў свае незразумелыя сляды не толькі на Марсе, але і на Зямлі?

Думкі ішлі далей. Бурмакоў забыў, што нядаўна назваў сваіх маладых спадарожнікаў летуценнікамі. Ён сам цяпер аддаўся нястрымнаму палёту фантазіі. Ён бачыў цудоўную планету, залітую яркім сонечным святлом, дзівосныя гарады з шырокімі вуліцамі і шматпавярховымі дарогамі, поўнымі машын, вялікія зялёныя лясы, населеныя цудоўнымі звярамі, птушкамі. А над усім гэтым хараством панаваў чалавек — падобны і не падобны да зямнога: магутны, вольны, разумны. Ён падпарадкаваў сабе сілы прыроды, ён пранік у космас. Яго пасланцы пакінулі пасля сябе скульптуру Галактыкі на Марсе, Баальбекскую веранду на Зямлі...

Не, у такім стане Бурмакоў заснуць не мог. Ён устаў, паправіў коўдру на Віцевым ложку, хоць было цёпла, і ўключыў тэлескоп.

У тэлескопе попельным святлом свяцілася шэрая маса Плутона. І Бурмакоў раптам адчуў, што яму хочацца паверыць у Віцеў і Паўлаў жарт.

## VI

— Усё! — Бурмакоў выпусціў з рук штурвал і разняў белыя ад напружання пальцы.

Надрыўны гул ядзерных рухавікоў, які пранікаў нават скрозь шматслойную гукаізаляцыйную абшыўку карабельнага корпуса, аціх, пакінуўшы ў вушах несціханы звон.

— Плутон ля нашых ног! — узрадаваўся Бурмакоў.

Віця падхапіўся, каб падбегчы да выхаду. Зрабіў адзін крок і, нібы наткнуўшыся на нябачную перашкоду, упаў на падлогу. Павел ледзь паспеў перахапіць яго. Хлопчык разгублена зірнуў сабе пад ногі.

— Гасцінны Плутон, — працягваў тым жа тонам Бурмакоў, — хоча напомніць людзям, што яны забыліся на прыцягненне. Як дакладваюць прыборы, яно тут у два разы большае, чым на нашай роднай планеце. А калі ўлічыць, што мы за час палёту адвыклі наогул, каб нас абмяжоўвалі сілы гравітацыі, то на першым часе давядзецца цяжка. Добра яшчэ, што прыцягненне аказалася меншым, чым мы чакалі.

Сутулячыся, аднак без намагання, Бурмакоў падышоў да акна. Побач сталі, цяжка дыхаючы, Віця і Павел. «Набат» апусціўся на невялікую пляцоўку, што прымасцілася сярод скал. Яны грувасціліся злева, справа, спераду, ззаду, хаваючыся за блізкім краявідам.

— Э-ге, — сцяў губы Павел, — усюдыход можна было пакінуць на Марсе або пераплавіць у дзюзах.

— Ёсць ракета, — падказаў Віця.

— І няма паліва, — дакончыў Бурмакоў.

— Зусім? — здзівіўся Віця, пазіраючы то на Паўла, то на Бурмакова. — А як жа мы?

Павел адвярнуўся да пульта, нібы яго раптам зацікавілі паказанні манометра ўнутранага ціску...

— Засталося мала. Толькі на нашы ўнутраныя патрэбы — ацяпленне, асвятленне, прыгатаванне ежы, рэгенерацыю паветра, вады... — ён націснуў клавішы лічыльнай машыны і выцягнуў карту-адказ. — Яго нам хопіць на паўгода.

— Планета з такой шчыльнай матэрыяй дасць нам паліва значна раней, — сказаў Павел.

— І тады мы знойдзем месца, дзе спатрэбіцца ўсюдыход! — Бурмакоў быў сур'ёзны, але ўпэўнены, і гэтая ўпэўненасць надавала бадзёрасці астатнім.

Віця запытаў:

— Калі мы зможам выйсці?

— Думаю, праз гадзіну, не раней. Трэба зрабіць аналізы. Так, Сцяпан Васільевіч? — звярнуўся Павел да Бурмакова.

— Выйдзем, калі ўмовы будуць спрыяльныя, — пацвердзіў Бурмакоў. — Але ўжо цяпер мы можам з поўнай упэўненасцю сказаць, што чацвёртая са знешніх планет не падобна на сваіх братоў. Калі тыя складаюцца галоўным чынам з газаў, то Плутон, як і планеты «зямной групы», утварыўся, відаць, з камяністага, шчыльнага рэчыва.

Прыборы нічога небяспечнага не паказалі. Навокал карабля была беспаветраная прастора са звычайнай касмічнай колькасцю радыёактыўных часцінак, ад уздзеяння якіх людзей надзейна маглі ахоўваць скафандры. А страшэнны холад — мінус дзвесце дваццаць градусаў — быў ім не навіной. З ім яны ўжо сустракаліся раней.

Бы сярэдневяковыя рыцары ў кальчугах і шчытах, яны накіраваліся да выхаду. Бурмакоў штурхнуў накрыўку люка. Яна ўздрыгнула, але не падалася. Бурмакоў націснуў плячом, чырванеючы ад натугі. Накрыўка раптам адскочыла, адкрываючы выхад. Бурмакоў ледзь не паляцеў у люк. Зірнуўшы ўніз, паведаміў:

— Метры чатыры да паверхні. Асцярожна трэба.

— Сцяпан Васільевіч, — сказаў Павел, — тут першы пайду я.

— Добра. Пойдзем разам. Віця застанецца ля карабля. Не крывіся, Віця. Можаш крыху пахадзіць, але далёка не адыходзь. Мы яшчэ не ведаем, што нас тут чакае.



— Значыць, верыце ў нашы фантазіі хоць крышку? — ажывіўся Віця.

— Цяпер ужо не. Але табе трэба прывыкнуць да вялікай вагі.

Віця паслухаўся і моўчкі сачыў, як, з цяжкасцю адрываючы ногі, шаркаючы і пылячы, Бурмакоў і Павел адыходзілі ад карабля ўсё далей і далей. Неўзабаве яны ўжо зніклі з вачэй.

Пражэктар павольна і метадычна апісваў жоўтыя кругі вакол «Набата». Абломкі скал успыхвалі іскрынкамі.

Віця набраў пад нагамі дробнага пяску. Пясок быў шэры, цвёрды. Віця паднёс яго да мікрафона і пацёр у далонях. Хрумсту не было. Беспаветраная прастора гукавых хваляў не распаўсюджвала.

Упершыню Віця быў адзін, і не ў караблі за трывалымі сценамі і з надзейнымі разумнымі машынамі, а на чужой планеце, акружаны густым змрокам, у якім невядома што таілася. Фантастычныя скалы, невыразна акрэсленыя нават на святлейшым ад сонца баку, здаваліся таямнічымі, населенымі невядомымі істотамі, страшнымі і магутнымі. Віця асмеліўся і накіраваўся да бліжэйшай гары. Ад стомы пачалі падгінацца калені, стала цяжка дыхаць. Тады Віця прысеў на камень, выпраставў ногі. Але невядомая сіла ціснула на плечы, на сэрца, сціскала лёгкія. Віця павялічыў падачу кіслароda, агледзеўся. Выхопліваючы з цемры адзін малюнак за другім, набліжаўся пражэктарны прамень. Калі ён апынуўся побач, Віця скамандаваў: «Стоп!» Прамень ірвануўся і спыніўся.

Камень, на якім Віця сядзеў, быў круглы, нібы палявы валун, і порысты, як вапняк. Такі ж выгляд мелі і скалы. Віця здагадаўся, што поры зрабілі касмічныя часцінкі і метэарыты. Ён успомніў апавяданні Бурмакова пра Месяц, які таксама не быў ахутан атмасферай, і таму нават драбнейшыя касмічныя целы дасягалі яго паверхні, паступова разбураючы яе.

Віця зірнуў на неба. Белыя, блакітныя, жоўтыя, зялёныя, чырвоныя зоркі віселі нерухома. Аднекуль адтуль, з глыбінь Галактык, спаборнічаючы ў хуткасці і сіле, гіганцкім веерам разлятаюцца мірыяды карпускул. Штодня адна або некалькі з іх сустракаюць на сваім шляху Плутон. Яны імкнуцца вырвацца з яго палону і абрушваюцца на гэтыя камені і скалы з усёй сілай інерцыі, што накапілася ў іх на працягу мільёнаў год вандравання ў космасе, крышаць усё, што трапляецца на шляху і, зняможаныя, гінуць. А на якім-небудзь камені застаецца вось такая маленькая шчарбінка. Віця нават калупнуў яе геалагічнай сякерай. Камень не паддаваўся.

Паміж скал замільгалі ліхтарыкі. Віця паспяшыў назад, каб сустрэць Бурмакова і Паўла ля карабля. Яны падышлі, згорбленыя пад цяжарам заплечных мяшкоў, маўклівыя, стомленыя. Нават у дэзінфекцыйнай камеры, вызваліўшыся ад няўклюдных скафандраў, яны маўчалі. Неахвотна паеўшы, яны ляглі адпачываць пад антыгравітацыйныя каўпакі, якіх не выкарыстоўвалі аж з моманту старту з Зямлі.

Сілы да людзей вярнуліся даволі хутка: пад каўпакамі яны не адчувалі плутонавага прыцягнення. Дый бавіцца не было калі. На асцылаграфічных экранах аўтаматычных лабараторый замільгалі электронныя промні, вычэрчваючырознакаляровыя крывыя. Мінеральныя злучэнні, узоры якіх Бурмакоў і Павел прынеслі з сабой, аказаліся падобныя да зямных. Толькі іх малекулы былі больш складаныя, невядомыя на Зямлі. Таму нават аўтаматы, якія, здавалася, ведалі ўсё, не змаглі даць адказу, ці можна стварыць такое малекулярнае злучэнне ў зямных умовах.

— Вось вам першая загадка, — Бурмакоў недаверліва круціў у пальцах запісаныя адказы асцылографаў.

— З аднаго боку — сцверджанне адзінства матэрыі, з другога — немагчымасць растлумачыць яе паходжанне, — закончыў ягоную думку Павел.

— Туманна, Павел Канстанцінавіч, — усміхнууся Бурмакоў. — Так Віця нічога не зразумее. Бачыце, у чым справа. Гэтыя мінералы ўтварыліся не ў межах Сонечнай сістэмы, бо інакш мы маглі б сінтэзаваць іх. Значыць, яны маюць іншае паходжанне, касмічнае. Але малекулы іх складаюцца з атамаў, падобных да тых, што ёсць у элементах, характэрных для Сонечнай сістэмы. Значыць і ў нас, і на планетах іншых зоркавых сістэм ёсць рэчывы, у аснове якіх ляжыць адна і тая ж матэрыя.

— І вы гаворыце так спакойна? — ад хвалявання Віця аж замахаў рукамі.

— Адзінства матэрыі — даўно вядомая рэч.

— Ды не, Сцяпан Васільевіч, не матэрыя. Выходзіць, Плутон сапраўдны залётны?

— Я ў гэтым не ўпэўнены настолькі, каб сцвярджаць катэгарычна. Магло здарыцца, што тут былі нейкія своеасаблівыя ўмовы ў той час, калі адбывалася ўтварэнне планеты. Дзякуючы ім паявіліся невядомыя нам раней малекулярныя злучэнні. Так, Павел Канстанцінавіч?

— Згодзен з вамі, Сцяпан Васільевіч. У нас няма асаблівых падстаў лічыць Плутон залётным чужынцам, — адказаў Павел.

## VII

Плутонавы дзень змяніўся ноччу. Але навокал па-ранейшаму было змрочна.

Людзі абследавалі планету. Яны пераадолелі ўжо горны хрыбет і выйшлі да шырокай даліны. Покрыў яе мякчэйшы і паддаваўся ўдару сякеркі. Даліна вяла некуды далёка на сотні кіламетраў, як сведчылі інфрачырвоныя лакатары. Самы раз пусціць усюдыход. Павел двойчы гаварыў Бурмакову, што нядрэнна было б даць сабе сякую-такую палёгку. Бурмакоў рабіў выгляд, быццам не разумее яго. Паліва, а значыць, і жыцця на караблі заставалася ўжо толькі на пяць месяцаў — 150 зямных, або каля 24 мясцовых сутак. І ён не адважваўся скарачаць гэты і без таго кароткі тэрмін, бо не ведаў, ці прынясе паездка на ўсюдыходзе карысць. Трэба было раней вырашыць праблему з палівам.

Бурмакоў быў старэйшы, больш цярплівы. Нават, калі б асталіся лічаныя хвіліны жыцця, ён наўрад ці адчаяўся б. Ён шукаў бы выйсця да самага канца. Павел не меў такой вытрымкі і таму неўзабаве перайшоў да прамой атакі, настойваючы на неабходнасці выйсці на раўнінную частку і там пашукаць матэрыялы, якія паддаваліся б расшчапленню.

Бурмакоў уважліва выслухаў яго і нечакана звярнууся да Віці:

— Ты помніш, што такое Плутон у міфах старажытных грэкаў?

— Плутон — брат Зеўса, бог падземнага царства, уладальнік...

— Пра тое, што Плутон валодаў душамі мёртвых, — спыніў яго Бурмакоў, — гаварыць пакуль што не будзем, ранавата. А вы, Павел Канстанцінавіч, звярніце ўвагу на такую ягоную якасць: «Бог падземнага царства». Дык давайце паспрабуем зазірнуць у гэта царства. На



Зямлі таксама карысныя чалавеку матэрыялы рэдка ляжаць пад нагамі. Ну, а калі тут не пашанцуе, — пойдзем у даліну.

Людзі, у якіх была самая дасканалая тэхніка разведкі нетраў, з першых крокаў адчулі сябе бяззбройнымі. Прыборы не рэагавалі на тутэйшыя выкапні.

— Адно добра — не будзем цягаць іх з сабой, — Павел згроб у кучу магнітныя, электрычныя і радыёактыўныя шукальнікі, склаў іх зноў у мех.

— Навошта крыўдзіць разумныя прыборы? Яны нам паслужаць яшчэ. Гэта цяпер яны бяссільныя, бо нас акружаюць металы і мінералы, не падобныя на зямныя. А калі мы натрапім на элементы ў чыстым выглядзе?

Але міналі дні. Былі зрушаны вялікія скалы, прабіты штольні, і нічога, што магло б спатрэбіцца, касманаўты не знаходзілі. Здавалася, што прырода пашкадавала для Плутона разнастайнасці, утварыўшы яго толькі з крэмнію і сілікатаў.

Надышоў дзень, калі Павел асцярожна напомніў Бурмакову.

— Я пайду ў даліну. Адзін. Вазьму з сабой больш кіслароду, харчовых канцэнтратаў і пайду. Гадзін на сто.

Бурмакоў коратка адказаў:

— Заўтра.

Назаўтра Павел пайшоў. А Бурмакоў і Віця не спынялі работы. Сцяпан Васільевіч не верыў, што Паўлаў паход паможа ім рашыць галоўную задачу — знайсці паліва, і спяшаўся. Пасля выбуху, які раскалоў на дзве палавіны высачэзную гару, Бурмакоў нахіліўся над прыборамі. Стрэлкі магнітных вымяральнікаў дрыжэлі на нулі, лічыльнікі адзначалі толькі радыяцыю, створаную выбухам і касмічнымі часцінкамі. Нічога новага.

— Паспрабую пранесці іх уздоўж разрэзу, — сказаў Віцю Бурмакоў. — Навошта абодвум траціць сілы, пайду адзін.

Віця паглядзеў услед і, каб хоць чым заняцца, пачаў круціць інфрачырвоны лакатар.

Пераломленае адлюстраванне хаатычна раскіданых горных парод паволі плыло на экране. Яно было падобна на марскія хвалі, якія раз'юшана кідаюцца адна на адну. Віця падкруціў тумблер настройкі. Нешта чорнае, падобнае на лодку, прамільгнула сярод шэрых хваль. Але што гэта? Пэўна проста скала апынулася на шляху лакатарнага промня. Бо судна можа быць толькі на сапраўдным моры.

— Гм!

Віця азірнуўся і замёр ад здзіўлення. Бурмакоў, які падышоў да яго нячутна, пільна ўглядаўся ў экран. Вось яго рука пацягнулася да шкалы. Экран перастаў дрыжэць, чорная плямка, якая нібы толькі ўяўлялася Віцю, застыла і пачала расці, выплываючы на пярэдні план.

— Гэта нейкая скала, — растлумачыў Віця.

— Не думаю. Хадзем паглядзім. Тут блізка.

Ля падножжа гары зззяў уваход у пячору.

## VIII

Гэта быў паход у невядомае, без пэўнага маршруту. Павел мог пайсці ўлева, мог павярнуць направа. Ён выбраў раўнінны рэльеф, які цягнууся кіламетраў на трыста, як паказвалі інфрачырвоныя лакатары.

Ісці было лягчэй. Павел натрэніраваўся ўжо хадзіць у плутонавых умовах, дый дарога на гэты раз была роўная. Спачатку ён час ад часу

даваў аб сабе вестку па радыё. Потым перашкоды пачалі перабіваць сігналы, а неўзабаве і зусім глушыць. Сувязь абарвалася. Павел яшчэ раз праверыў кірунак, адзначыў месца, дзе застаўся карабель і выключыў ліхтар. Трэба было эканоміць электраэнергію.

Павел спаў проста на дарозе, не здымаючы скафандра, прымаў па трубках вадкую ежу. Ён злаваўся і на доўгую, прыцярушаную пылам дарогу, і на яркія зоркі, што сачылі за ім зверху, і на шэры змрок. Павел разумеў, што гэта ад стомы і адзіноты. Ён баяўся, што доўга так не вытрывае, але ўпарта ішоў наперад.

На што Павел спадзяваўся? Чаму выбраў гэтую даліну? Каб у яго спыталі пра гэта, ён адказаў бы: «Проста так». Але ён бы схлусіў перш за ўсё самому сабе. Недзе ў глыбіні душы таілася ўпэўненасць, што менавіта на гэтай планеце, чужой сонечнай сістэме, павінна было некалі быць жыццё. Дарэмна яго рэшткі шукаць у гарах, дзе Бурмакоў і Віця ўзрываюць скалы. Жыхары Плутона, калі яны былі, знаходзіліся толькі на раўнінах. Чаму? Законы адзінства жыцця. Рэчыва Плутона ўтворана з элементаў, што падпарадкоўваюцца законам перыядычнай сістэмы Мендзялеева. Жывыя істоты, адрозніваючыся ад чалавека многімі знешнімі і ўнутранымі якасцямі, абавязкова былі падобны на яго ў галоўным, у развіцці розуму. А чалавек жа заўсёды імкнуўся ў даліны, дзе жыццё было лягчэйшае, больш зручнае.

Гэтая думка мела хісткую аснову — яна была ў пэўнай меры правільнай толькі для арганічных форм жыцця. Але, спыніўшыся на ёй, Павел стараўся не думаць пра іншае. Кажуць, для вучонага — важна інтуіцыя, якая дазваляе адкінуць лішняе. Дык вось, цяпер Паўла вяла інтуіцыя.

Ён даўно ўжо не адпачываў. Падгіналіся ногі, кружылася ў галаве. Сон у мулкім скафандры стаў найвялікшай асалодай. Павел пасвяціў ліхтарыкам, шукаючы, дзе б прылегчы, і заўважыў нейкі выступ збоку дарогі. Не раздумваючы, ён сеў на яго, сілком прымусіў сябе выпіць пажыўны раствор і, выпрастаўшы ногі, заснуў глыбокім спакойным сном.

Прачнуўся ён ад голаду. Хацеў быў па прывычцы зрабіць гімнастычную зарадку, але ўспомніў, дзе знаходзіцца, і спахмурнеў. Устаючы, паклаў рукі на сваё каменнае ложа і падскочыў ад нечаканасці. Пальцы намацалі кант гладкага, быццам паліраванага прамавугольніка. Павел умомант змёў з яго рукою пыл, уключыў святло. Правільнай формы паралелепіпед свяціў чорным халодным бляскам. Не падумаўшы нават аб тым, як мог апынуцца тут прадмет выключна правільнай геаметрычнай формы, Павел пачаў шукаць хоць якія-небудзь адмеціны, што абавязкова павінны былі пакінуць на ім стагоддзі, і не знаходзіў. Паралелепіпед быў нібы зроблены ўчора.

Некалькі секунд Павел глядзеў на яго і раптам заскакаў на месцы: «Людзі, людзі! — крычаў ён. — Знайшоў, знайшоў!»

На адным з кантаў паралелепіпеда ён заўважыў рысачкі-паглыбленні. Яны злучаліся, перасякаліся, утвараючы нешта падобнае на зашыфраваны надпіс. Чым больш глядзеў Павел, тым больш упэўніваўся, што паяўленне іх не магло быць выпадковым. Яны зроблены нейчай разумнай рукой. Чыёй? У Паўла не было ні часу, ні магчымасці раздумваць над гэтым, а тым больш адгадаць іх паходжанне. Ён сфатаграфаваў надпіс, паралелепіпед. Усе спробы здабыць хоць кавалачак рэчыва, з якога ён быў зроблены, не ўдаліся.

Не адышоўшыся і кіламетра ад сваёй знаходкі, Павел трапіў у руіны. Назву ім ён даў, не задумваючыся, бо ўсё навокал было падобна



на руіны сапраўднага горада з вуліцамі і плошчамі. А можа, гэта толькі разыгралася фантазія чалавека, які хацеў бачыць горад? Павел блукаў сярод руін, выкопваў камені, апускаўся ў нейкія ямы і фатаграфаваў, фатаграфаваў бясконца.

Апамятаўся ён толькі тады, калі аварыйная электронная ўстаноўка напомніла, што запасаў кіслароду і харчавання застаецца на сто гадзін. Трэба было вяртацца. Прыкра, бо яго не пакідала адчуванне таго, што нешта важнае знаходзіцца недзе побач, ледзь не пад нагамі. І Павел рашыў, што пяцьдзесят гадзін яму хопіць на тое, каб вярнуцца да карабля.

Яму пашанцавала. Адзін з атамных выбухаў, якія памагалі ў раскопках, агаліў цэлыя каменныя пліты, паміж якіх былі бачны шчыліны. Ачышчаючы напластаванні, Павел патраціў амаль усе атамныя зарады. Але знаходка была вартая таго. Пліты напэўна былі падлогай у нейкім будынку, а можа і дахам. Порыстыя, вышчарбленыя, яны паддаваліся ўдарам кіркі. Павел прадзёўб паглыбленне з такім разлікам, каб выбух выкінуў пліту ўгару, уставіў апошні зарад і адбегся за сцяну. Выбухам пліту адкінула далёка ўбок. На яе месцы чарнела пустата.

Замацаваўшы трос механічнай лябёдкі, Павел скочыў у адтуліну. На глыбіні дваццаці метраў ногі сталі на цвёрдую глебу. Павел запаліў ліхтарык.

Наўрад ці гэта было сутарэнне, хутчэй за ўсё гэта быў адзін з паверхаў шматпавярховага будынка, бо такія ж пліты, як і над галавой, ляжалі пад Паўлавымі нагамі, а па баках, на сценах, было нешта падобнае на дзверы або вокны.

Час зрабіў сваё. Там, дзе знаходзілася, напэўна, некалі мэбля, ляжалі груды друзу. Сфатаграфаваўшы ўсё, Павел з кожнай груды адсыпаў пацярухі ў кішэні заплечнага мяшка.

Выбраўшыся на паверхню, Павел зменшыў падачу кіслароду, выпіў двайную норму вадкага абеду і заспяшаўся да карабля.

Ён стаміўся хутчэй, чым чакаў. Але спыняцца не было калі, і Павел ішоў. Ён страціў уяўленне аб часе. Знікла з неба зорачка, якая называлася тут сонцам, а ён, безуважны да ўсяго, ішоў і ішоў.

Надышло імгненне, калі ён, знясілены, асунуўся ў мяккі пыл. Стомленае цела аслабела, вейкі заплюшчыліся самі сабой. Павел не зразумеў пасля, што гэта: кароткі сон ці непрытомнасць. Ды гэта не мела значэння. Трэба было ісці, не спыняцца, каб данесці вестку. А так добра ляжаць. Ён паляжыць яшчэ толькі крышку і тады пойдзе. Ён зусім не спіць, хоць вейкі нібы наліліся свінцом. І гэта зусім не летуценні.

Павел сеў. Навокал было светла, як удзень на Зямлі. Яркае сонца сляпіла вочы. Павел уключыў светавую ахову. Сонца, што вісела ў тым баку, дзе быў іх «Набат», стрэліла маланкай і расплылося.

Павел падхапіўся на ногі. Мільганула думка, што з яго таварышамі нешта здарылася. Трэба ісці, спяшацца. І ён ішоў, падаў, поўз, падымаўся, ізноў падаў, задыхаючыся ад слабасці.

## IX

Павел не памыліўся: ён сапраўды бачыў магутны выбух.

Шырокі сноп пражэктарнага святла ўварваўся ў пячору і ўпёрся ў нейкую перашкоду далёка ў глыбіні. Па роўнай, нібы адшліфаванай каменнай падлозе, па якой дзе-нідзе валяліся пасля выбуху рэшткі пароды, Бурмакоў і Віця падышлі да сцяны. Яна была чорная і бліскучая,

не падобная на ніводзін матэрыял, які бачылі яны да гэтага часу на Плутоне. Баёк механічнага бура, які здольны быў прабіць тоўстую браняву сталь, адскочыў ад сцяны і пакрышыўся.

— Адно з двух,— разглядаючы асколкі байка, сказаў Бурмакоў,— або мы напаткалі надзвычай цвёрдую пароду, або яна мае штучнае паходжанне.

Замянілі баёк, пачалі падкопваць больш мяккія пласты. Перад імі было нешта падобнае на скрыню. Унізе, уверсе, з бакоў гэтай вялікай скрыні былі такія ж гладкія чорныя сцены. Камбінаваныя сейсмографы вызначылі, што яна мае форму куба. Плазменны прамень з тэмпературай дваццаць тысяч градусаў не разрэзаў сцяны. Бурмакоў замерыў тэмпературу таго месца, дзе спрабавалі зрабіць разрэз — яна была тая ж, як і ў навакольных прадметаў. Чорнае рэчыва не награвалася. Яно не прапускала ні электрычнасці, ні магнітных хваляў. Лакатары аказваліся бяссільнымі ў спробе зазірнуць за сцяну.

Тыя ж сейсмографы паведамілі ашаламляльную лічбу. Вага куба вышынёй у тры чалавечыя росты, калі пералічыць на зямныя адзінкі, складала некалькі соцень мільёнаў тон.

— Цацка,— пастукаў Бурмакоў па чорнай люстэркавай паверхні.— Ідэальная інертнасць.

— А калі ён суцэльны? — Віця яшчэ раз уключыў сейсмограф.

Нябачныя хвалі ваганняў пацяклі вакол куба, спрабуючы прабіцца скрозь яго неадольныя сценкі. Стрэлкі цыферблата замітусіліся і папаўзлі ў бок ад сярэдняй адмеціны. З-пад пяра асцылографа выпаўзла ламаная крывая.

— Куб пустацелы! — урачыста прамовіў Бурмакоў.— Ён мае штучнае паходжанне.

— Людзі? Праўда, Сцяпан Васільевіч, людзі? — Віця тузаў Бурмакова за руку.

— Разумныя істоты! Калі, хто, дзе яны — мы пакуль не ведаем. Але бачым вынікі іх стваральнай працы. Гэты куб, думаецца,— сховішча. Яно надзейнае, бо сцены не паддаюцца звычайным сілам, якія самі па сабе могуць узнікнуць у прыродзе. Я разумею, табе, Віця, хочацца задаць шмат пытанняў. З чаго яны зроблены, навошта, што там унутры? Але я магу толькі здагадвацца. Падобна на тое, што сценкі зроблены з нуль-рэчыва, якое не мае атамаў і электронаў і складаецца з адных нейтронаў. Яно надзвычай шчыльнае, адзін кубічны сантыметр нуль-рэчыва важыць сто тон. Любое механічнае намаганне, каб адолець яго, не дасць рады. Яно ў паўтара мільярда разоў больш трывалае за сталь.

— Дык мы не забярэмся ўнутр, — Віця быў расчараваны. — Стаяць на парозе чужога свету і адступіць ад яго! Праляцець мільярды кіламетраў і адступіць, прызнаўшы сваю бездапаможнасць!

— Паспрабуем,— сказаў Бурмакоў і падумаў, што наўрад ці ёсць у гэтым пільная неабходнасць. Яны зноў адхіляцца ў бок ад галоўнай мэты — пошукаў паліва. Але які вучоны можа ўтрымацца ад спакусы пазнаць новае, нават цаной уласнага жыцця, калі трымае ў руках хоць танюсенькую нітку, што павінна вывесці яго да выдатнага адкрыцця? І ўжо цвёрда ён сказаў: — Забярэмся.

У яго не было нічога пэўнага, калі ён гэта гаварыў. Проста ўспомніліся доследы ў лабараторыі вядомага фізіка, якія яму давялося назіраць. У лабараторных умовах фізіку ўдалося атрымаць мізэрную колькасць нуль-рэчыва. Доследы ледзь не скончыліся катастрофай, бо ў вакуумны шар, дзе знаходзілася нуль-рэчыва трапіў накіраваны прамень адмоўных мезонаў. Выбух разбурыў лабараторыю, добра, што атрыма-





ных прадуктаў было мала. Таму Бурмакоў паспрабаваў разрэзаць куб мезонавым промнем. Некалькі гадзін прасядзеў ён ля вылічальнай машыны. Тэарэтычна як быццам пацвярджалася такая магчымасць. Яшчэ некалькі дзён ён канструяваў і рабіў мезанатар, здольны выпраменьваць накіраваны пастаянны пучок адмоўных мезонаў. На Плутоне не трэба было клапаціцца аб вакууме — на планеце, пазбаўленай атмасферы, ён быў бадай ідэальны.

І вось настаў той дзень, калі знясіленаму Паўлу здалося, што ён убачыў сонца.

Бурмакоў не змог угаварыць Віцю застацца ў караблі, а загадваць ён не хацеў.

— Загінем, дык разам, — па-даросламу сказаў хлопчык, — усё роўна без вас мы не зможам вярнуцца на Зямлю.

Віця ўвесь час быў побач з камандзірам. Яны ўдвух устанаўлівалі мезанатар, потым моўчкі чакалі, пакуль асядзе нябачны пыл, што, напэўна, узняла іх мітусня.

Блакітны праменьчык бліснуў у вечнай цемры пячоры, якую на гэты раз не асвятляў карабельны пражэктар. Нібы празрыстая пара заклубілася ў месцы яго сутыкнення з чорнай паверхняй куба, мікрафоны ўлавілі лёгкае шыпенне. Бурмакоў асцярожна правёў промнік уніз, павольна апісаў ім кола. Работа была скончана, калі толькі яна дала што-небудзь. Выключылі мезанатар, запалілі ліхтарыкі. У пячоры пасвятлела, але людзі не адважваліся зрушыць з месца. Потым Віця не вытрымаў, падбег да сцяны і ўдарыў па абпілаванаму месцу. Круг хіснуўся, павярнуўся і вываліўся ў пячору. Віцева рука бесперашкодна прасунулася ў пустату.

— Сцяпан Васільевіч! Сцяпан Васільевіч! Там, там... нічога не відно.

Ён забыўся, што трымае ў руцэ ліхтарык і можа ім асвятліць куб знутры. А Бурмакоў не рухаўся з месца і не здагадваўся падказаць яму гэта зрабіць

Выразаць праход было ўжо зусім простай справай. Сценкі куба аказаліся тонкія, не больш паўсантыметра. Бурмакоў не памыліўся ў сваіх меркаваннях: тут быў склад. Прыкладна, сотня невялікіх, даўжынёй з паўметра і дыяметрам дзесяць сантыметраў цыліндрыкаў ляжалі, складзеныя ля задняй сценкі.

— Якое іх прызначэнне? — пакруціў Бурмакоў цыліндрык. — Цікава.

— Ага, — Віця схапіў адзін з іх і вынес у штольню. — Ён не вельмі цяжкі.

Успыхнуў пражэктар. На яркім святле цыліндрык здаваўся карычневы. Віця пайшоў да выхаду са штольні, каб лепш разгледзець знаходку.

— Глядзіце, — закрычаў ён, — вось шчыліна, напэўна адкручваецца.

Бурмакоў адкрыў цыліндрык, які ляжаў бліжэй да яго. У ім было пуста.

— Яны пустыя, — расчараванне гучала ў голасе Бурмакова.

Упэўнены ў гэтым, ён ужо смялей адкручваў крышку другога цыліндрыка. Адзін, другі абарот... Ярка-сіняя маса папаўзла з цыліндрыка, на вачах мяняючы свой колер, павялічваючыся ў памерах.

Бурмакоў тузануў Віцю за плячо, падмінаючы пад сябе.

Вызваліўшыся з цыліндра, залацісты шар на імгненне павіс над паверхняй, пагрозліва патрэскваючы і выцягваючыся. Слізгануўшы па адкінутай назе Бурмакова, шар вылецеў са штольні і там, на прасторы, зазззяў асляпляльным сонцам.



Усё гэта працягвалася менш хвіліны. Калі Бурмакоў і Віця апамяталіся, навокал было ўжо так цёмна, што прамень пражэктара ў дзвесце тысяч ват здаваўся цьмяным святлом газавай лямпы.

Што ў яго прапалены скафандр, Бурмакоў заўважыў не адразу, бо пад скафандрам быў яшчэ звычайны касмічны касцюм. Ён раптам адчуў, што мерзне нага. Зірнуў і жахнуўся. Лічыльнік аднак не паказаў небяспечнай радыяцыі, і Бурмакоў крыху супакоіўся. Тым не менш, нічога не кажучы Віцю, ён схадзіў на карабель і зрабіў сабе ўкол супрацьрадыяцыйнай вакцыны.

## X

Яны абшукалі ў кубе ўсе закуткі, перакапалі пячору, Бурмакоў нават быў упэўнены, што побач павінна быць нешта яшчэ. Не маглі ж тыя, хто хаваў тут цыліндры з кандэнсаванай энергіяй ці для нейкіх транзітных касманаўтаў, ці для сваіх патрэб, не пакінуць хоць выпадкова, што-кольвек яшчэ. Такое, што расказала б пра іх больш, памагло раскрыць прызначэнне гэтай магутнай энергіі.

Аднак, акрамя цыліндраў, больш нічога яны не знайшлі. Колішнія невядомыя жыхары Плутона, відаць, былі эканомныя і не раскідваліся сваімі рэчамі. А можа, час замёў сляды. Нягледзячы на знаходку, Бурмакоў і Віця вярталіся да «Набата» незадаволеныя. Непакоіў і лёс Паўла, які ўжо дванаццатыя суткі не падаваў аб сабе весткі. Яны нават збочылі ў кірунку той дарогі, па якой ён пайшоў. Ішлі моўчкі, не верачы, што сустрэнуць яго. Бурмакоў прыкідваў ужо, як наладзіць усюдыход, калі нечакана пачуліся кароткія сігналы-выклікі. Гэта быў Павел, але працавала чамусьці толькі аўтаматычная станцыя-пеленгатар. Яны пайшлі хутчэй і ўжо ля карабельнага пад'ёмніка сутыкнуліся з Паўлам.

Аброслы барадой, змарнелы, Павел, не мігаючы, глядзеў на сваіх таварышаў.

Яго працяглы позірк мог здацца вар'яцкім, каб у ім не гарэла само жыццё. Яно нібы праменілася скрозь пластыкавае шкло скафандра.

— Ён знайшоў нешта, — шапнуў Віця Бурмакову, падключаючы да Паўлавага скафандра запасны кіслародны балончык.

Павел напэўна пачуў шэпт. Яго губы ўздрыгнулі, бязгучна заварушыліся. Ён паказаў пальцам на кінаапараты, што віселі ля пояса.

— Праявіць? — спытаўся Віця, падтрымліваючы яго за плечы.

Нешта падобнае на «угу» вырвалася з Паўлавых губ, і ён паволі пачаў асядаць, трацячы прытомнасць.

Яго падхапілі на рукі, унеслі ў дэзакамеру. Пасля доўгіх працэдур непрытомнага Паўла напаілі пажыўным растворам, зрабілі ўколы і паклалі на ложак пад антыгравітацыйны каўпак. Тады заняліся кінакамерамі.

Не адрываючыся, глядзелі людзі на рэшткі чужой цывілізацыі...

— Гэта толькі адзін след, адзін куток, — загаварыў Бурмакоў, калі скончыліся стужкі са скупымі кінакадрамі. — Якія адкрыцці чакаюць тут нас і тых, хто прыйдзе сюды пасля! Як цудоўна, што чалавек здолеў вырвацца за межы Зямлі!

— Мы пабудзем там? — Віця збіраў стужкі, і ўвесь яго выгляд гаварыў, што ён гатовы адправіцца ў дарогу хоць зараз.

— Павінны. Але не раней, чым даведаемся аб прыродзе энергіі цыліндраў. Пешшу туды ісці нельга, дый няма каму. Павел Канстанцінавіч зусім аслабеў і, мабыць, не хутка ачуняе.

Для Бурмакова пачаліся дні няспыннай працы, самай напружанай

за ўсе ягоныя гады. Віця, седзячы ля Паўла, бачыў, як асляпляльна ярка маленькімі сонцамі ўспыхвалі вогненныя шары, якія Бурмакоў, праводзячы доследы, выпускаў з цыліндраў, а пасля доўгія гадзіны не адыходзіў ад электронных машын. Лічыў, пералічваў, а назаўтра пачынаў усё спачатку. Камандзір зноў зрабіўся пахмуры, нерваваўся, чаго раней ніколі з ім не было. Віця думаў, што гэта ад няўдач у рабоце.

Але ў Бурмакова было іншае: ён раптам адчуў, што хутка стамляецца. Ён яшчэ вагаўся, тоячы ад сябе прычыну гэтага, як аднойчы адчуў, што яго пачынае блажыць. Добры ўрач, як і ўсякі, хто прысвяціў сваё жыццё космасу, ён зразумеў, што лёс яго вырашаны. Ці не той выпадак з прапаленым скафандрам... Невядомыя выпраменьванні, якіх не змог заўважыць лічыльнік Гейгера, праніклі ў арганізм скрозь лёгкі сподні касмічны касцюм і цяпер робяць сваю справу. Каб хоць ведаць, якія яны? Ён, напэўна, памрэ, але нельга дапусціць, каб разам з ім загінула экспедыцыя. Ён пачаў працаваць з яшчэ большай злосцю і ўпартасцю. А калі ўжо адчуваў, што канчаюцца сілы, рабіў сабе новы ўкол. Гэта на нейкі час памагала, давала бадзёрасць і нібы вяртала здароўе.

Здарылася так, што менавіта яго хвароба, яго жыццё памагло адкрыць найвялікшую таямніцу. Аднаго разу, калі ён працаваў на вылічальнай машыне, індыкатары перасцярогі галоўнага пульта папераджальна замігацелі. Бурмакоў недаўменна азірнуўся і нічога небяспечнага не заўважыў. Але індыкатары не пераставалі мільгаць. Ён адышоў да бакавога ілюмінатара. За акном не было нічога новага. Ён азірнуўся і замёр, адчуваючы, што ногі нібы прыраслі да пластыкавай падлогі. Індыкатары не свяціліся. Выціраючы з ілба кропелькі халоднага поту, ён зрабіў крок, другі і... чырвоныя агеньчыкі забегалі зноў. Сумненняў быць не магло. Ён выпраменьваў сам. На імгненне цікаўнасць вучонага перамагла. І гэта было шчасцем. Абсалютна дакладныя прыборы адказалі: мяккае выпраменьванне. Цяпер атрымаць яго поўную характарыстыку было проста.

Каб ён ведаў гэта раней, то, магчыма, можна было б нейтралізаваць уздзеянне радыяцыі. Цяпер ужо было позна. Бурмакоў сеў за пульт, паспрабаваў сабрацца з думкамі, але яны скакалі, нібы тыя індыкатарныя агеньчыкі. Ён навёў тэлескоп на Зямлю. Далёка-далёка, за шэсць з паловай мільярдаў кіламетраў ад «Набата», засвяцілася срэбная зорачка ў блакітным адзенні. Недзе там была Масква, горад, у якім ён вырас. Бурмакоў напружыў зрок, і здалося, што на экране паказаліся абрысы Еўразіяцкага мацерыка, Радзімы. А можа толькі здалося? Дый ці гэта важна? Галоўнае, што яна, Радзіма, ёсць. Яна сагравала яго сэрца ў кожным палёце і саграе цяпер. Яна чакае ад яго, свайго пасланца і сына, што ён і гэтае заданне выканае абавязкова, раскажа людзям пра жыццё на чужых планетах. Яна будзе смуткаваць, калі ён загіне. А ці хоча ён гэтага? Не. Ён хоча, каб Радзіма, смуткуючы, магла ганарыцца сваім верным сынам, якім ён быў і якім застанецца да апошняга дыхання.

Нечалавечым намаганнем волі Бурмакоў прымусіў сябе думаць пра цыліндры. Адзін кампанент іх энергіі цяпер быў яму вядомы. А другі, трэці, чацвёрты? А што, калі?.. Ідэя, якая прыйшла раптам на думку, была надзвычай простая. Складаны разлік электроннай машыны пацвердзіў яе. Бурмакоў хуценька апрануўся і пайшоў да пячоры.

Назаўтра ён сказаў Віцю:

— У цыліндрыках нешта падобнае на спалучэнне шаравой маланкі і расшчэпленых ядраў літыю, якія ахоўваюцца магнітнай абалонкай. Энергію можна ўзяць для нашых рухавікоў.



— Шкада, што Павел Канстанцінавіч не паедзе з намі на руіны горада, — паглядзеў Віця на спальню, дзе ляжаў Павел.

— Ты паедзеш адзін, хлопчык, — Бурмакоў стомлена адкінуўся на спінку крэсла. — Але раней я павінен пабудаваць пераўтваральнік. Вось дадзеныя, зрабі разлікі, — ён пайшоў да ложка з антыгравітацыйным каўпаком.

«Зусім знясілеў», — спачувальна падумаў Віця.

Бурмакову рабілася ўсё горш і горш. Ужо нават не памагалі ўколы вакцыны. І калі Віця адпраўляўся да адкрытага Паўлам горада, камандзір насуперак звычцы не пайшоў яго праводзіць. Ён толькі папрасіў:

— Не бойся, Віця.

Каб ён сказаў хоць слова пра сваю хваробу, Віця не паехаў бы. Але Бурмакоў змоўчаў.

## XI

### З дзённіка Віці Асадчага

**15 студзеня, паводле зямнога вылічэння.** «Набат» праходзіць арбіту Марса. Мы вяртаемся на Зямлю. Многа падзей адбылося з таго часу, як пачалася наша экспедыцыя. Пра некаторыя з іх я пісаў ужо. І цяпер мне засталося расказаць толькі пра самую апошнюю. Мінула ўжо некалькі месяцаў, як не стала С. В., але наша гора незабыўнае.

Я не здагадваўся, што С. В. безнадзейна хворы. Лічыў, што ён вельмі стаміўся. Я вярнуўся праз тры зямныя тыдні, і ледзь пазнаў нашага камандзіра. Ён быў падобны на П. К. Праўда, П. К. папраўляўся, а С. В., як выявілася, ужо ачуняць не мог.

Мой прыезд падбадзёрыў С. В. Я прывёз некалькі кіламетраў знятай кінаплёнкі, і ён, не адрываючыся, праглядаў яе, даваў каментарыі. Так, П. К. адкрыў паселішча, рэшткі якога, дзякуючы надзвычай цвёрдай глебе Плутона і вялізнаму холаду, захаваліся на многія тысячагоддзі. Прынамсі, так сказалі нам прыборы, якія даследавалі абломкі сцен, пыл, што застаўся ад прадметаў.

Дзіўная цывілізацыя была на гэтай планеце. Нам яе наўрад ці ўдасца зразумець. Поўнае захапленне геаметрыяй. Ва ўсякім разе ўсё тое, што мы бачылі, або здолелі аднавіць на паперы, мела строга пэўную геаметрычную форму. Хто пракладваў прамыя вуліцы, будаваў шматпавярховыя будынкі, ствараў шары, кубы, конусы, паралелепіпеды? Хто, урэшце, назапасіў тую энергію, якая дазволіла «Набату» вырвацца з Плутонавага палону? Мы нідзе не знайшлі следу іх саміх, разумных, магутных істот. Што ж, гэта не дзіва, мінула вельмі шмат часу, які сцёр усе сляды арганічнага жыцця.

Але С. В. быў са мной не згодзен.

— Яны павінны быць, — упэўнена гаварыў ён, — у выглядзе адбіткаў на выкапневых пародах, на фотаздымках або яшчэ якіх здымках, здольных захоўвацца бясконца доўга.

Як бачыце, мы ўжо не сумняваліся, што тут некалі былі разумныя істоты. Мы бачылі іх жытло, карысталіся іх энергіяй. Маглі рабіць розныя здагадкі, нават фантастычныя, аб іх жыцці. Толькі С. В. здагадкі не задавальнялі. Ён нібы спяшаўся некуды і патрабаваў доказаў, штохвіліны прымушаў мяне расказваць, дзе і пры якіх абставінах я здымаў той ці іншы кадр. Я адказваў і вельмі шкадаваў, што нечага ў маіх адказах для С. В. не хапае. Сам ён, напэўна, заўважыў бы многа больш, і яго вывады былі б куды грунтоўнейшыя.

Мы многа фантазіравалі, спрабуючы скласці абгрунтаваную гіпотэзу існавання жыцця на Плутоне. Каб не хвароба С. В., мы абавязкова прывезлі б на Зямлю што-небудзь больш пэўнае, бо і фантазіруючы, ён навукова абгрунтоўваў свае гіпотэзы.

Я, здаецца, усё яму расказаў і думаў, што на гэтым скончыцца яго цікавасць да маіх кінастужак. Але памыліўся. С. В. пачаў праглядаць іх другі раз і раптам спыніўся на кадры, які я зрабіў у самым канцы. Блізка ад горада была на дзіва роўная пляцоўка. Гэта пазней выявілася на плёнцы, бо яе заўважыў не столькі я, колькі інфрачырвоныя лакатары. С. В. доўга вывучаў гэты кадр. Нават з лупай даследаваў кожны сантыметр экрана, на якім была павялічаная праекцыя таго кадра. Потым, стрымліваючы хваляванне, спытаў:

— Ты нічога там не знайшоў?

— Тое смецце і каменныя асколкі я пакінуў у мяшку ў дэзакамеры.

Мне ў апошні час было не да тых экспанатаў, што я сабраў. Я непакоіўся за С. В. і П. К. і, акрамя таго, нічога незвычайнага не чакаў ад сваіх знаходак, каб аддаваць іх у аўтаматычныя лабараторыі.

С. В. апрануў лёгкі касмічны касцюм і выйшаў у дэзакамеру. Ён прабыў там некалькі хвілін і вярнуўся, трымаючы ў руцэ два маленькія чорненькія карабкі. А я ж думаў, што гэта звычайныя каменьчыкі.

Не помню, чаму прыйшло мне на думку накіроўваць на карабкі электронныя праменні. Відаць, таму, што іншыя спробы даведацца, у чым іх прызначэнне, не далі нічога. Дык вось, не паспелі мы гэта зрабіць, як раптам ажывілася наша прыёмная радыёстанцыя, што працавала на хвалях даўжынёй да аднаго міліметра. С. В. у момант сінхранізаваў яе з тэлеэкранам і зноў пачаў абпраменьванне. Экран засвяціўся, на ім замітусіліся рознай даўжыні прамыя і ламаныя лініі, як на дрэнна адрэгуляваным тэлепрыёмніку.

О, што гэта былі за дні! Мы спрабавалі сотні, тысячы варыянтаў настройкі і без ніякіх вынікаў. І ў той жа час адчувалі, што рашэнне недзе побач.

Мы маглі цяпер ляцець далей ці вяртацца дадому. У нас хапала энергіі. Я гаварыў аб гэтым С. В. Але ён марудзіў. Цяпер мне зразумела, чаму, а тады я дзівіўся, думаў, што ён хоча сам паехаць да руін горада, адкрытага П. К.

Не, у С. В. такога намеру не было. Ён корпаўся над карабкамі і ўрэшце многага дамогся. Лініі на тэлеэкране пачалі паўтарацца ў строгім парадку, набылі замкнёнасць. Гэта былі знакі. Нам яшчэ трэба будзе разгадаць іх значэнне. С. В. сцвярджаў, што ён, настройваючы экран аднойчы ноччу, заўважыў карціну з відамі чужой планеты. Мы тады з П. К. спалі, і пакуль ён пабудзіў нас, з экранам нешта здарылася. С. В. быў надзвычай узбуджаны, гаварыў таропка, адрывіста, і вочы яго блішчэлі, нібы ў ліхаманцы.

То быў апошні дзень жыцця С. В. Ён усё паўтараў:

— Вось і здзейснілася мая мара: я пабачыў чужы свет.

Мне зрабілася трохі не па сабе. Нейкая апатыя адчувалася ў яго словах. Каб перабіць яго невясёлыя думкі, я спытаў:

— Чаму вы, Сцяпан Васільевіч, здагадаліся, што я там, на той пляцоўцы, мог знайсці нешта цікавае?

Ён пагладзіў мяне па галаве, зусім як калісьці на Зямлі, і сказаў:

— Тая пляцоўка нагадала мне ведаеш што? Баальбекскую веранду. Я падумаў: там былі іншыя істоты, пазней. Яны маглі што-небудзь пакінуць пасля сябе. Як бачыш, я не памыліўся. Тут нехта быў. Таму цяжка сказаць, што мы знайшлі на Плутоне плутонавае, а што — чужое. Але і адно і другое гаворыць аб жыцці.



Я зноў спытаўся:

— А што вы ўбачылі, Сцяпан Васільевіч, на экране?

Ён стомлена заплюшчыў вочы, пасядзеў так моўчкі некалькі хвілін і пачаў расказваць. Я запісаў расказ на магнітную плёнку і цяпер прыводжу яго поўнасцю. П. К. кажа, што тут цяжка адрозніць фантазію С. В. ад сапраўднасці. А я дык упэўнены: С. В. усё гэта не выдумаў.

«З дапамогай электронных вылічальных машын мне ўдалося расшыфраваць тэкст сігналаў, якія вылучаюць знойдзеныя Віцем перадатчыкі. Даруйце, што я не паспеў запісаць код, які памог мне прачытаць сігналы. Пазней вы зразумееце, чаму я не зрабіў гэта. Але я паспрабую вам расказаць сваімі словамі.

На адлегласці адзінаццаці мільёнаў светавых год ад Зямлі (сто дзесяць трыльёнаў кіламетраў) знаходзіцца сузор'е Індзейца. Астраномы Зямлі даўно заўважылі, што зорка Эпсілон з гэтага сузор'я падобна да Сонца і што вакол яе верцяцца планеты. Помніце, калі Павел Канстанцінавіч прыняў адтуль невядомыя радыёвыпраменьванні, то ў многіх вучоных узнікла думка: а ці не разумныя істоты паслалі іх да нас? Тады гэта была толькі смелая здагадка. Цяпер я сцвярджаю, што гэта так. Планеты вакол Эпсілона населены высокаарганізаванымі істотамі.

У сваім развіцці людзі сістэмы Эпсілона намнога апярэдзілі нас, зямлян. Яны навучыліся ператвараць рэчыва ў поўную энергію, здолелі пабудаваць выдатныя касмічныя караблі, а потым нават па-свойму пераўтварыць планетную сістэму Эпсілона. На жаль, мне не ўдалося зразумець, ці наш Плутон — гэта адна з іхніх планет, некалі ператвораная ў своеасаблівы касмічны карабель, ці гэта яны пабывалі на Плутоне, і тут мы знайшлі іх сляды.

Вы — маладыя. Вы яшчэ даведаецеся пра тое, пра што не змог даведацца я. Шукайце новыя сляды невядомых касманаўтаў, і вы зразумееце таямніцу Плутона, даведаецеся, якая катастрофа абрушылася на гэту планету».

А праз гадзіну С. В. апрануў скафандр і выйшаў адзін на Плутон, забараніўшы ісці за ім.

У тэлеэкран мы бачылі, як ён стаяў на суседнім узвышшы, доўга глядзеў на неба і тады пайшоў. Спачатку хутка, потым цішэй, аж пакуль не захістаўся. Калі я дабег, С. В. быў ужо мёртвы. У руцэ ён трымаў мікраплёнку. Яна аказалася яго загадам-завяшчаннем.

Выконваючы волю нябожчыка, мы пахавалі яго на Плутоне ў пячоры, побач з кубам. А самі вяртаемся на Зямлю. Але С. В. нібы з намі. Гэта паводле яго праграмы аўтаматы кіруюць нашым караблём. Гэта яго разлікі, зробленыя ад нас крадком, памаглі нам пазбегнуць непрыемных касмічных сустрэч з вялікімі планетамі і астэроіднымі паясамі.

Нядаўна радыё з Зямлі паведаміла, што на Плутон адпраўлена новая экспедыцыя. Сярод яе экіпажу і Валя. Яны спяшаліся нам на дапамогу, бо мы доўга не падавалі аб сабе весткі. Што ж, я рады, П. К. таксама, хоць ён крыху засмуціўся быў спачатку. Неўзабаве мы ўбачымся. Тут, у космасе. Трэба ім перадаць тое, што мы ўжо ведаем, хай будзе ім лягчэй. А мы? Вернемся на Зямлю. А потым...

Сцяпан Васільевіч Бурмакоў марыў пабываць на планетах, населеных разумнымі істотамі. Мы з П. К. пакляліся зрабіць гэта за яго. Адпачыўшы, мы накіруемся зноў у космас!



Мікола **МАЛЯЎКА**

# У СТЭПЕ

ад вухам амаль паўгадзіны
Працяжна сігналяць машыны.
І ў мокрай кашулі
Падбег брыгадзір да
дзяўчыны.

Заслужаны час адпачынку —
На лоб павязала касынку,
І проста на жыце
Прылегла яна на хвілінку.

І, мабыць, у домік ля Шчары
Занеслі, шчаслівую, мары.
Няўлоўная ўсмешка
Трапеча на бронзавым твары.

І, мабыць, на шчодрай галіне
Антонаўкі сняцца дзяўчыне...
Кропелька поту
На скроні запыленай стыне.

Ды бачыць начальнік той
строгі,
Што светлыя сны, без трывогі.
Як некалі дома,
Падкурчыла босыя ногі.



Вось гэтак — клубочкам
саўецца —
Сынок брыгадзіраў
кладзецца...
І сам за лапату
Расчулены дзядзька бярэцца.

* * *

олькі верасняў
Яблыкі трэсці,
З мёдам
поўныя
Конаўкі несці,
Колькі маяў касіць асаку,
Палічы мне, зязюля.
— Ку-ку, ку-ку.

Колькі раз ад душы,
Услых
За сталом віншаваць маладых,
Колькі жніўняў сустрэць на
таку,
Палічы мне, зязюля.
— Ку-ку, ку-ку...

Я б галёкаў
На поўныя грудзі:
— Сто гадоў
Мне налічана,
людзі!
Я б паверыў табе, зязюля,
Каб да раніцы ў сне
Не ўздыхала начамі матуля.

Гэтак сама
Спелыя зоркі
На ялінах
Збіралі вавёркі
Дзевятнаццаць гадоў назад,
Калі слухаў цябе
Правакатарам выданы брат.

Хоць ты ў смерці яго
І не вінна —
Толькі ўспомніць
Аб гэтым павінна:
Ён хадзіў на сустрэчы так
мала,
Хаця вечарам тым
Сто гадоў ты яму накувала.

— Ку-ку, ку-ку —
Многа маяў
Касіць асаку.
Толькі як я паверу зязюлі,
Калі зноў на зямлі
Адліваюць
Для некага кулі.

— Ку-ку, ку-ку —
Многа жніўняў
Сустрэць на таку.

Толькі як я паверу зязюлі,
Калі маме штоноч
Сніцца брат мой
У белай кашулі.

Каб вы толькі ўявілі,
Адчулі,
Як балюча не верыць
У дваццаць няпоўных зязюлі.
Ой, лясная ўдава,
Замаўчы —
Не лічы,
не лічы,
не лічы.

## ВЯСНА



дмалолі ў непагоду
На вятровых жорнах сцюжы,
Шыбы трэснутага лёду
Спешна выстаўляюць лужы.

Ля машын бездапаможных
Вечарамі лічаць зоры
І клянуць майстроў дарожных
Невясёлыя шафёры.

Хоць у вальсе закружыся —
Хлопцам весела ў ялінах.
Свежым сокам упіліся
На вясновых імянінах.

Зноў мядзведзь устаў з бярлогі
І ў карычневай ватоўцы
Размінае з хрустам ногі
На паляне-спортпляцоўцы.

Зноў начамі безупынку —
Не падзеляць, пэўна, славы —
З громам гром у паядынку
Крышаць медныя булавы.

## ХАЙ ЖА ЎСЕ СТУДЭНТЫ



утка ў поезд сяду —
І ў сяло мурожнае:
Засталася ззаду
Сесія трывожная.



Толькі нос ды вочы,
Пахудзелі здорава...
Быццам дні і ночы
Дыскавалі ворыва.

Да сустрэчы новай,
Залы, аўдыторыі.
Родныя дубровы
Лепш, чым санаторыі.

Ціхі сад з аскомай
І бары з чарніцамі
Хутка стануць дома
Лепшымі бальніцамі.

Кос пявучых хоры
Празвіняць лагчынамі,
Буду сціргы-горы
Закладаць з мужчынамі.

Памахаю ў спёку
На таку лапатаю,
Буду падаць потым
На траву прымятую.

Лета залатое —
Галава закружыцца...
Ды пасля затое
Будзеш з кожным
дужацца.

Хай жа ўсе студэнты,
Вераснем сабраныя,
Маюць дакументы —
Рукі спрацаваныя.

## НА ПОЎНАЧЫ



ут нават грузавікі
Хістае вецер убакі.
А ў нас на Міншчыне
Ён загарае ля ракі.

Тут ліпень агуркі нідзе
К гарачай бульбе не кладзе.
А ў нас на Міншчыне
Ім зараз цесна на градзе.

Тут уздыхаюць дружбакі
Па вас, грыбныя хвайнякі,
А ў нас на Міншчыне
Па капыту баравікі.

Тут хваліць брыгадзір стары
Падмочаныя сухары.
А ў нас на Міншчыне
Батоны цёплыя бяры.

Тут хлопцы вешаюць насы:
На ўсю брыгаду—дзве касы.
А ў нас на Міншчыне
Звіняць красуняў галасы.

Ды на батоны, агуркі
М'яне не клічце, цягнікі, —
У нас на Міншчыне
Мне вераць землякі.

# КАНЦЭРТ НА ЛУЗЕ


ёткі — за актрыс,
Луг мурожны — сцэна,
А замест куліс
Сталі копы сена.

Сонца, не пячы,
Грай, аркестр птушыны...
Сціхлі гледачы —
Рослыя мужчыны.

Шырай карагод —
Не пазнаеш Вольку:
Як у дваццаць год,
Адбівае польку.

Звоняць жаўрукі,
Хмеляць з копаў травы...
Выйшаў з талакі
Хлопец кучаравы.

І пакуль адзін —
Строга па парадку
Каля ўсіх жанчын
Ходзіць у прысядку.

Устае сусед...
Цёткі разабраны.
Пад капой абед
Стыне нечапаны.

Кажуць, не было
Гэткага ў акрузе:
Скача ўсё сяло
Басанож на лузе.

* * *


не сорамна,
Я вінаваты,
Прабач мне, бацькоўскі куток.
Няхай пры сустрэчы дзяўчаты
Вачэй не адводзяць убок.

Дажджы не змачылі салому,
Не высах дубровамі мох,
А першыя птушкі дадому
Вяслуюць з далёкіх дарог.

Харошыя!
Сэрца якое,
Якую любоў трэба мець,
Каб толькі на лета скупое
Ў такую дарогу ляцець...

Я ўсіх тваіх сцежак не змераў —
І ўсё ж не спяшаўся сюды,
Тваіх
каб папробаваць бэраў,
Тваёй
каб прыгубіць вады.

Не ведаў, ці поўныя гумны,
Ці многа на поплаве коп,
Забыўся, як Нёман разумны
Маршчыніць шырокі свой лоб.

Адкладваў, не меўся праведваць
Знаёмых і блізкіх часцей.
Дык дзе ж ім,
дзяўчатам тым,
ведаць,
Што я не з прыезджых гасцей.

І сорамна мне, чалавеку, —
Якім жа сухім трэба быць,
Калі нават птушкі спрадвеку
Не могуць куток свой забыць.

* * *

Н. К.


ую галасы —
Недзе за гародамі
Едуць маразы
З белымі барадамі.

Снежыць. Вецер. Лёд.
Коні прытаміліся.
Ля маіх варот
Маразы спыніліся.

Я гасцей сустрэў
У дзвярах з пашанаю,
З холаду сагрэў
Чаркай прыхаванаю.

— Коней, брат, выводзь...
— Што вы? — Стынь такая.
Расказалі б хоць,
Хто вас так чакае?

— Кліча з тундры зяць
Пісьмамі трывожнымі.
Едзем працаваць
Майстрамі дарожнымі.

— Дзякуй вам, дзяды, —
Радасць нечаканая:
Едзеце туды,
Дзе жыве каханая.

Завязіце ёй,
У карунках, з інею,
Падарунак мой —
Гэту хустку сінюю...

Вецер у двары
Цэлы дзень галёкае —
Чаю завары,
Завары, далёкая.

Чуеш галасы —
Недзе за гародамі
Едуць маразы
З белымі барадамі.



Казімеж ОРЛАСЬ

# ДЗЯЎЧЫНА З ЛОДКІ

Апавяданне

Мал. К. Ціхановіча.

Выплывалі яны заўсёды ў малой лодцы. Плылі паволі ўздоўж азёрнага берага, на фоне светла-зялёнага чароту і цёмнага лесу. Возера ў гэтым месцы паварочвала, утвараючы затоку. Над затокай была вёска, але мы не бачылі яе, бо лес засланяў хаты. Вечарамі мы чулі брэх сабак і званы.

Яны — дзяўчына і хлопец — напэўна жылі ў гэтай вёсцы, бо кожны дзень выплывалі з затокі на возера. Дзяўчына сядзела на носе лодкі, ён веславаў, і адгэтуль здавалася, што робіць ён гэта няўдала. З імі быў сабака. Ён сядзеў ззаду і глядзеў, як гаспадар ягоны вяслуе.

Здавалася, што іх не датычыць нічога, апроч павольнага плавання ўздоўж берагоў. Мы ніколі не бачылі, каб яны хоць раз, хоць як-небудзь зацікавіліся намі. Хоць бы здалёк памахалі нам рукою.

Дзяўчына, напэўна, была прыгожая. На ёй была блакітная сукенка. Залатыя валасы нагадвалі каску. Сонца зіхацела на гэтай касцы амаль таксама, як на вадзе. Мы ніколі не бачылі, каб дзяўчына паглядзела ў наш бок, хоць мы і ўзнімалі шмат шуму. Як толькі мы заў-

важалі, што яны плывуць, Уладак ставіў пласцінку, а Малпа бег уніз мыць бляшаны посуд. Песня ляцела над вадой, і яны не маглі нас не чуць.

«Скажы, як ты мяне кахаеш?
О, я кахаю цябе больш за свет!» —

роў патэфон, а мы беглі за Малпай уніз, дзе стаяла наша яхта. Потым мы складвалі ўсё, на беразе пакідалі пустыя палаткі і выплывалі на вялікае возера. Ветразь гудзеў, калі быў вецер, і «Ластаўка» разразала хвалі. Мы гарлапанілі, лаяліся, спявалі. Мы адчувалі, што пасапраўднаму жывём, што гэта тое, што людзі называюць паўнатой жыцця. Сонца клала свае вялікія рукі на ваду, і возера было падобна на роўнядзь, пакрытую золатам. Вецер даносіў з берага пах лясоў, над якімі кружыліся мартыны.

Малая чорная лодка заставалася далёка за намі. Нарэшце, зусім знікала з вачэй, нібы яе нідзе і не было.

Возера было вялікае, як мора. Мы плавалі, практыкаваліся. Увесь час чулася гудзенне ветразя. Потым надыходзіў вечар. Вада чырванела ад сонца, якое заходзіла. Мы вярталіся ў лагер, здалёк бачылі дзве палаткі на высокім беразе. З вёскі па вадзе даносіўся брэх сабак. Неба цямнела, пачыналі падаць зоркі. Мы елі бульбу, печаную ў прыску, смажылі рыбу, што Малпа навудзіў. Ужо ў палатцы расказвалі непрыстойныя анекдоты, успаміналі дзяўчат, з якімі гулялі, знаёмых і засыналі. Уранку будзіў нас холад, потым уставала сонца, вада зноў пачынала дрыжэць, як серабро. Мы мыліся, крычалі, абліваліся халоднай вадой. Бегалі па паляне, пад дрэвамі, вакол палатак. Дзень абуджаўся, птушкі спявалі, як звар'яцелыя. Мы рыхтаваліся да штодзённай экспедыцыі на вялікае возера. Снедалі. Потым, каля дзевяці, глядзелі, як заўсёды, на малую чорную лодку. Захапляліся залатымі валасамі дзяўчыны, у якіх дрыжэла сонца.

— Напэўна, прыгожая, — гаварыў Малпа і бег уніз шараваць бляшаны посуд.

— Няўдала вяслуе гэты тып, — гаварыў Уладак. — Здыхляк нейкі, далібог! — Ён выбіраў пласцінку са старой пашляцінай — «Скажы, як ты мяне кахаеш?» і ставіў. Патэфон роў, а мы рагаталі.

Аднойчы Малпа тукнуў:

— Эй, вы, у лодцы, ідзіце сюды!

Невядома, ці чулі яны. Мусіць, не, бо былі даволі далёка. Зрэшты, хто ведае? Над вадою добра чуваць. Уладак сказаў:

— Тып гэты мог бы злезці ў дарозе. Запрасі дзяўчыну. Падабаюцца мне яе валасы.

Пятро ўсміхнуўся:

— А яна-такі, відаць, і сапраўды прыгожая. З такімі валасамі жанчына павінна быць прыгожая.

У тую раніцу мы ўбачылі іх, як заўсёды. Выплылі яны з затокі і паволі сунуліся ўздоўж берага, у чорнай пасме цяню, які лажыўся на вадзе ад лесу.

— Цікава, куды яны так плывуць,— сказаў Уладак.— Мы заўсёды адплываем і не ведаем, што яны робяць на вадзе.

— Можа ловяць рыбу? — спытаўся Пятро.

На беразе з'явіўся Малпа. Як заўсёды, ён мыў унізе посуд і трымаў у руцэ мокры бляшаны кубак.



— Хлопцы,— сказаў ён,— у мяне ёсць думка, і мы павінны так зрабіць. Няхай мяне ліха возьме, калі мы гэтага не зробім.

— Пра што ты? — спытаўся Уладак, намагаючыся перакрычаць роў патэфона. Словы ляцелі над вадою:

«О, я цябе кахаю больш за свет
І вострав Таіці, бо ты як вецер,
О!..»

— Прыкінемся, што хочам іх перавярнуць, а калі будзем блізка, павернем «Ластаўку», і толькі хваля іх пакалыша.

— Вось гэта думка,— казаў Пятро.— Вельмі мяне цікавяць валасы гэтай дзяўчыны.

— Брава, Малпа! — крыкнуў Уладак.— Ніколі мне гэта ў галаву не прыйшло. Гэта выдатная думка!

— Хутчэй, хлопцы, — сказаў Малпа,—шкада часу. Навошта перціся кудысьці аж на той бераг. Хто ведае, куды яны плывуць!

Мы сабраліся хутка. За некалькі хвілін вымылі посуд і склалі пасцелі. Малпа заліў вадою вогнішча, якое яшчэ тлела. Мы выплылі паволі каля чароту, які хіліўся, як збожжа ў ветраны дзень.

— Дзіўная тройка,— сказаў Пятро.— Дзяўчына, гэты тып і сабака. У іх няма знаёмых. Заўсёды адны. Ім трэба смяяцца, рухацца ў лодцы, а яны толькі сядзяць. Ці чуў ты, Малпа, каб тып гэты калі спяваў?

— Не. Ён наогул, відаць, недарэка. Дзіўна, што такой дзяўчыне ён падабаецца,— адказаў Малпа.

— Адкуль ты ведаеш, што можа падабацца дзяўчыне? — сказаў Уладак.— Можа ў гэтага тыпа ёсць грошы?

— Можа і ёсць грошы,— згадзіўся Малпа.

Мы набіралі хуткасць. Вецер веяў ад берага, і ветразь надзімаўся, як хрыбет меха. Часамі вецер мяняў напрамак, і тады ветразь наш трапятаўся, як вялікае крыло. «Ластаўка» імчалася пахілена, дробныя пырскі вады падалі нам на твар, як дождж. Бераг і дзве нашыя палаткі засталіся за намі. Злева мы бачылі чыстую прастору возера. Яна зіхацела на сонцы, а па-над берагам увесь час ляцелі ў той бок марскія чайкі. З правага боку пачыналася затока. Мы ўбачылі далёка на другім беразе белы дом. Перад намі віднелася цёмная стужка лесу, што вузкай паласою адбівалася ў возеры, і ў гэтай паласе — малая чорная лодка.

Валасы дзяўчыны выглядалі, як заўсёды, нібы залатая каска. На прыгажуні была тая самая блакітная сукенка. Тып веславаў, і, чым больш мы да іх набліжаліся, тым больш былі ўпэўнены, што робіць ён гэта дрэнна. Вёслы няроўна плёхалі па вадзе, і лодка рухалася паволі.

— Гэта павінен быць хлёсткі паварот. Паложым лодку на ваду амаль каля іх. Тып вылеціць з лодкі са страху,— сказаў Малпа.

— Тады мы зловім дзяўчыну, а ён няхай топіцца. Яшчэ дабавім яму вяслом,— гаварыў Уладак.

Яны засмяяліся. Ветразь стукаў аб мачту, канаты рыпелі, з-пад носа яхты ўвесь час ляцеў вадзяны пыл і асядаў на нашых тварах.

— Напэўна, гэта прыгожа,— сказаў Пятро.— Калі хто-небудзь глядзіць з берага, ён бачыць белы ветразь, які, нібы птушка, ляціць над вадою. Вось нас тут чатырох, мы дужыя, загарэлыя, нашы целы — як з бронзы. Мы павінны спадабацца гэтай дзяўчыне....

— Напэўна выбера нас, а не гэтага здыхляка. Паглядзіце, як ён вяслуе! — насміхаўся Малпа. Ён стаў на носе «Ластаўкі». Мы бачылі яго карычневую спіну на фоне цёмнага лесу на тым беразе.

— Ну, і няўжо ж яны, гэтыя людзі, не бачаць ні неба, ні лесу, ні гэтай вады, што гарыць, нібы золата! Сядзяць сабе, нібы нічога не бачаць, далібог! — сказаў Уладак.

— Цікавяць мяне валасы гэтай жанчыны,— паўтарыў Пятро.— Я ніколі не бачыў такіх валасоў: напэўна, свеціцца ўначы.

Мы падплывалі ўсё бліжэй да малой лодкі, аднак былі яшчэ задалёка, каб разглядзець іх добра.

— Ці я расказваў вам анекдот пра старога кітайца і прастытутку?— спытаўся праз момант Малпа. Ён адвярнуўся і стаў спіною да берага і лодкі. Мы маўчалі, і Малпа пачаў гаварыць: — Стары кітаец спаткаў прастытутку...

— Падобна на тое, што яны нас не бачаць,— перапыніў яго Уладак.

— Або прыкідваюцца, што не бачаць,— сказаў Пятро.— Мяне ўжо гэта злуе. У нас, напэўна, прыгожы выгляд. У «Ластаўкі» ветразь — белы, як малако.

— Убачаць нас праз хвіліну,— сказаў Малпа.— Не змогуць нас не ўбачыць. Слухайце пра таго кітайца: спаткаў ён прастытутку...

— Пачакай,— сказаў Пятро,— раскажаш потым, мы ўжо вельмі блізка, трэба быць уважлівымі.

Мы ўсе глядзелі на малую лодку. Яна была старая, мы чулі скрыпенне вёслаў, іх пагрукванне аб уключыны. Дзяўчына сядзела нерухома на носе, тып увесь час веславаў. Толькі сабака падняўся і глядзеў на нас.

— Прыгожая аўчарка,— сказаў Уладак.

Увесь час мы плылі так, быццам хацелі на іх наехаць. Цяпер мы добра іх бачылі. Твар маладога мужчыны быў бледны і худы. Тып не глядзеў на нас. Калі ён удараў вёсламі па вадзе, дык моршчыўся, нібы гэта прычыняла яму боль. На ім быў стары пінжак, хоць стаяла спёка.

Дзяўчына была прыгожая.

— Што за дзяўчына! — прашаптаў Малпа.

Каска залатых валасоў абрамляла яе твар. Вялікія блакітныя вочы былі, як вада і высокае неба.

— Якія ў яе прыгожыя вочы! — уздыхнуў Пятро.

Мы павярнулі на самай блізкай адлегласці, і хваля з-пад носа «Ластаўкі» падкінула іх лодку. Тады мужчына павярнуўся. Мы ўбачылі вялікія цёмныя яміны замест вачэй. Твар ягоны быў мёртвы. Мы праляцелі каля іх. Усё гэта заняло некалькі секунд, аднак мы пачулі іх гутарку.

— Што гэта? — спытаўся ён, паварочваючыся да дзяўчыны. — Хто там?

— Нічога, проста яхта,— адказала дзяўчына. Яна не глядзела на нас, ні разу не зірнула ў наш бок, хоць мы былі блізка, толькі руку працягнуць.

— Ну, але, яхта,— сказаў малады чалавек. Ён адвярнуўся і пачаў веславаць.

— Мацней правым,— сказала дзяўчына,— мы звярнулі крыху ўлева. Мацней правым.

Яшчэ праз момант лодка калыхалася, а потым перастала. Сабака зноў усеўся, чуваць быў толькі ціхі скрып вёслаў ва ўключынах. Мы выехалі на адкрыты прастор. Ветразь шумеў над намі, за бартом уцякала вада.

— Ён сляпы,— сказаў Пятро.— Адкуль мы маглі ведаць, што ён сляпы?

Мы маўчалі. Глядзелі, як маленькая лодка знікае паволі на фоне цёмнага лесу. Вада навокал зіхацела, як серабро, у небе ляцелі марскія чайкі.

Малпа разлёгся на носе яхты. Вецер, нібы цёплыя рукі, кранаў яго голыя плечы.

— Райскае жыццё, — сказаў Малпа, — райскае жыццё...

Пятро адвярнуўся і паглядзеў на яго. Сказаў:

— Ты можаш хоць на хвіліну быць не такі задаволены? Чорт бы цябе ўзяў,— хоць на адну хвіліну можаш ты быць не такі задаволены?!

**Пераклад з польскай мовы.**

**Міхась КАЗАКОЎ**

ас чацвёра
у пакоі, дзе два акны.
Чатыры крэслы
і кніжак
многа,
А стол — адзін
і думкі — адны,
Мары — адны
і адна дарога.
Сварка
не пераступае
наш парог,
Хоць спрачаемся
вельмі часта.
Усё,
што ёсць у каго, —
на чатырох,
На чатыры
роўныя часткі.
Перад стыпендыяй
усе ўчатырох
Баржы з пяском
на прыстані
разгружаем.
Пасля не адчуваем
ні рук,
ні ног
І першую лекцыю
прапускаем.
А вечарам
з дзяўчатамі
ідзём у кіно,
Бярэм білеты
капеек па сорак,
Сяброўкам купляем
па эскімо,
А сабе папярос —
«Беламору».
Да раніцы іх
не хопіць для нас:
Будзем не спаць,
спрачацца,
бо веру,
Што ўсіх хвалюе
паведамленне ТАСС
Аб запуску
ракеты
да Венеры...
Нас чацвёра
ў пакоі, дзе два акны,
Чатыры крэслы
і кніжак
многа,
А стол — адзін
і думкі — адны,
Мары — адны
і адна
дарога!

*На арбіту камунізма*

**Аркадзь ТОЎСЦІК**

# ЗАКОН ТВАЙГО ЖЫЦЦЯ

Трамвай крануўся з месца, і з мікрафона пачуўся голас вагонаважатай:

— Грамадзяне пасажыры! Білеты набывайце самі: трамвай працуе без кандуктара...

Маленькі штрышок, але і ён яскрава адлюстроўвае нашу рэчаіснасць, у якой высокая свядомасць становіцца асноўнай меркай чалавечых узаемаадносін. І калі мы гаворым аб тым, як нашы людзі будуць жыць праз дваццаць гістарычных гадоў, то зусім не лічым, што прынцыпы маральнага кодэкса, распрацаванага XXII з'ездам партыі, будуць уласцівы толькі ім. Не, гэтыя прынцыпы ўладарна ўваходзяць ужо ў наша сённяшняе жыццё, яны адлюстроўваюць лепшыя якасці перадавых савецкіх людзей.

Пенсіянерка Марыя Паўлаўна Рагожнікава, якая жыве на вуліцы імя Карла Лібкнехта ў Мінску, добраахвотна аддала пакой у сваёй кватэры пад грамадскую бібліятэку. Яна сама падбірае кнігі, часопісы, выдае іх наведвальнікам. Вядомы наватар з Віцебска Пётр Клімкоў, чалавек значна маладзейшы па гадах за Марыю Паўлаўну, тры разы пераходзіў на адстаючыя ўчасткі вытворчасці і выводзіў іх у перадавыя. Сакратар Валожынскага райкома камсамола Леанід Станкевіч, сэрцам успрыняўшы рашэнні XXII з'езда партыі, добраахвотна пайшоў працаваць у сельскагаспадарчую вытворчасць. Вось так, нібы па ланцужку, перадаюцца маральныя прынцыпы, якія ўзніклі і склаліся ў працэсе рэвалюцыйнага змагання і сацыялістычнага будаўніцтва. Нібы ў горне гіганцкай кузні, у працэсе грандыёзнай грамадскай перабудовы адбываецца перакоўка саміх людзей — будаўнікоў новага грамадства. Яны вызваляюцца ад перажыткаў мінулага і набываюць цудоўную маральную загартоўку, душэўную чысціню, згуртаванасць, пачуццё ўзаемадапамогі і адданасці агульнай справе.

Нашай моладзі адведзена пачэснае месца ў змаганні за камунізм. Яна заўсёды памятае ленінскі заклік: вучыцца камунізму! Маладыя, адважныя ішлі з гэтым заклікам праз бітвы і перамогі, заваёўваючы рубеж за рубяжом на подступах да камуністычных далячынь. Якая ж невымерная адказнасць у сённяшніх камсамольцаў і за незгасальную славу сваіх папярэднікаў, і за гераічную будучыню!

Сапраўды, пройдзе дваццаць гадоў, і сённяшнім камсамольцам будзе гэтак гадоў па трыццаць пяць — сорак. Іменна яны ўбачаць першыя ўсходы новага жыцця. Вось чаму ленінскі лозунг «вучыцца камунізму» азначае для кожнага юнака і дзяўчыны задачу выхоўваць у сабе рысы чалавека

камуністычнай будучыні. Для гэтага неабходна ўзяць на сваё ўзбраенне маральны кодэкс будаўніка камунізма, запісаны ў новай праграме партыі. Ён павінен стаць законам жыцця для кожнага з нас.

«Нам трэба ўжо цяпер выхоўваць чалавека будучыні, — гаворыць Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў. — Трэба развіваць у савецкіх людзей камуністычную мараль, у аснове якой ляжыць адданасць камунізму і непрымірымасць да яго ворагаў, усведамленне грамадскага абавязку, актыўны ўдзел у працы на карысць грамадства, добраахвотнае захаванне асноўных правіл чалавечага агульнажыцця, таварыская ўзаемадапамога, чэснасць і праўдзівасць, нецярпімасць да парушальнікаў грамадскага парадку».

Было гэта пад час мінулай вайны. Савецкага ваеннага ўрача Дзегцярова дапытваў гестапавец.

— Ты хто? — пытаўся ў палоннага раз'юшаны фашыст.

— Чалавек... — чулася ў адказ.

— Што значыць — чалавек?

— Чалавек — гэта гучыць горда! — горкаўскімі словамі адказваў Дзегцяроў.

— Чалавек — гэта нікчэмнасць, — здзекваўся гестапавец.

Дзегцяроў даказаў потым, чаго варты савецкі чалавек. Ён уцёк з сябрам з лагера, узначаліў атрад польскіх партызан і сваёю адвагай наводзіў жах на акупантаў.

Адкуль з'явіліся на нашай зямлі такія людзі, як урач Дзегцяроў, як піянерка Зіна Партнова, як камсамолка Зоя Касмадзям'янская? Дзе вытокі патрыятызму герояў сённяшняга дня — маладых цаліннікаў і навасельцаў таёжных пустэч, удзельнікаў руху за камуністычную працу, нястомных гаганаўцаў?

Буржуазныя гісторыкі выдумляюць разнастайныя версіі, стараюцца ўсялякімі другараднымі прычынамі вытлумачыць патрыятызм «рускіх». Але мы добра ведаем, адкуль чэрпаюць сваю сілу і непераможнасць савецкія людзі. Ідзе гэтая сіла ад магутных крыніц марксізма-ленінізма, ад нашай камуністычнай маралі, у аснове якой — павага да простага чалавека, яго раўнапраўе ў грамадстве.

«Чалавек чалавеку — воўк» гаворыць буржуазная мараль. І ўяўляецца нам герой Джэка Лондана, малады, смелы, прагны да жыцця. Але ў цяжкую хвіліну, думаючы толькі пра сябе, ён пакідае на волю лёсу лепшага свайго сябра. І той, галодны, хворы, паўзе па пустэльнай зямлі да берага акіяна. Што ж, з пункту гледжання буржуазнай маралі тут усё правільна — выжывае мацнейшы. Гэта — трагедыя ўзаемаадносін паміж людзьмі ў капіталістычным свеце.

Чалавек чалавеку — друг, таварыш, брат; кожны за ўсіх — усе за аднаго, — абвяшчае маральны кодэкс будаўніка камунізма. Наша штодзённае жыццё нібы саткана са шматлікіх прыкладаў узаемнай павагі савецкіх людзей адзін да аднаго, таварыскай дапамогі і дружбы. Яны сталі звычнымі, абавязковымі для кожнага. Наадварот, абыякавасць ці непавага да чалавека выклікае ўсеагульнае асуджэнне.

У брыгаду камуністычнай працы, якой кіруе Мікалай Гярмяцкі на Мінскім заводзе аўтаматычных ліній, гадоў колькі таму назад прыйшла выпускніца сярэдняй школы Ларыса Дзеравянка. Навічок і ёсць навічок: да ўсяго падступае нясмела, губляецца ад першай няўдачы. І калі б кожны ў брыгадзе быў заклапочаны толькі сабой, дык, хто ведае, ці пераадолела б Ларыса няўпэўненасць на першым часе. Але таварыская цеплыня і ўвага заводскіх камсамольцаў памаглі Ларысе цвёрда стаць у рады рабочага класа.

Не так даўно сябры праводзілі Ларысу на вучобу ў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна. Паступіла яна на хімічны факультэт. Колькі ўдзячных слоў сказала дзяўчына сваім сябрам на развітанне! Але не толькі адной павагай думае Ларыса аддзякаваць за сваё выхаванне ў рабочым калектыве. У дзённіку брыгады камуністычнай працы Мікалая Гярмяцкага застаўся такі запіс, з якім згодна і сама Ларыса:



«Можна думаць, што праз некалькі гадоў у нас будзе свой хімік. Здорава! Гэта ж нашы кадры. І мы спадзяемся, што пасля заканчэння вучобы ты, Ларыса, абавязкова прыйдзеш у сваю брыгаду».

Павага да чалавека, клопаты пра яго лёс падзесяцяраюць сілы калектыву, плённа адбіваюцца на ўсёй яго рабоце. Жыць дзеля людзей, дыхаць на поўныя грудзі, радавацца, калі хораша ўсім навокал, не быць абыякавым да чалавечага гора — вось тая маральная атмасфера, у якой выхоўваецца савецкі чалавек.

У нас часта можна пачуць словы: чалавек прыгожай душы! Такіх людзей — многа ў нашым жыцці. Усевалад Яўгенавіч Мігай назваў людзьмі цудоўнай душы цэлы калектыў дзяўчат з брыгады Марыі Яфрэменка, што працуе на Мінскім мотавелазаводзе. Яму, інваліду з Парыч, дзяўчаты сканструявалі каляску з металу, які самі сэканомілі. Атрымаў Усевалад Яўгенавіч каляску, падзякаваў за яе дзяўчатам, а ў канцы пісьма зрабіў прыпіску:

«Адчуваю, што шчырай душы вы людзі. І ці не таму, што жывяце вы па правільных законах. Ведаю, што вашай брыгадзе званне камуністычнай прысвоілі за добрую працу, за клопаты аб калектыўнай справе, за павагу да людзей. А вось у нас, у Парычах, з гэтым не зусім ладзіцца — мала людзей удзельнічае ў такім патрыятычным руху. Прашу прабачэння, але ці не дапамаглі б і ў гэтым?»

Адгукнуліся дзяўчаты на просьбу Усевалада Яўгенавіча. Прыехалі ў Парычы, пабывалі ў райкоме камсамола, сабралі ў клубе моладзь і расказалі ёй пра цікавае жыццё членаў брыгады камуністычнай працы. Вельмі ж радасна было дзяўчатам праз нейкі час атрымаць вестачку ад Усевалада Яўгенавіча. Ён пісаў пра актыўнасць мясцовай моладзі, якая ўключылася ў патрыятычны рух за камуністычную працу.

Нідзе так не праяўляецца калектывізм і патрыятызм савецкіх людзей, як у працы на карысць грамадства. Без працы не існуе ні адно грамадства. Толькі ж праца пры сацыялістычным ладзе карэнным чынам адрозніваецца ад паднявольнай працы ў буржуазным грамадстве. Там яна стварае прывілеі невялічкай кучцы ротшыльдаў і дзюпонаў, у нас — служыць на карысць усяго народа. У нас праца ўзвялічвае чалавека, узнімае яго цікавасць, абуджае ініцыятыву.

І пры камунізме слова «працоўны» будзе самым папулярным, самым прыгожым словам.

Праца на карысць грамадства робіць людзей шчаслівымі. Нездарма ж знатная даярка рэспублікі Лідзія Асіюк на пытанне карэліцкіх школьнікаў, у чым яна бачыць шчасце свайго жыцця, коратка адказала: «У працы на карысць нашага грамадства».

Нідзе так не праяўляецца таварыская ўзаемадапамога, як у працы. Вопыт наватара, передавіка становіцца здабыткам усіх. У нас памагаюць адзін аднаму і калектыў калектыву. Па ўсёй краіне падхоплены пачын старшынь перадавых калгасаў аб дапамозе адстаючым гаспадаркам у пераадоленні недахопаў. Асабліва развіта пачуццё ўзаемадапамогі сярод удзельнікаў спаборніцтва за камуністычную працу.

На швейнай фабрыцы ў Баранавічах адной з лепшых лічыцца брыгада Дзіны Давідовіч, якой прысвоена званне камуністычнай. Спаборніцтва за высокае званне з'яднала дзяўчат, зрабіла іх сяброўкамі. Здавалася б, ці ёсць прычыны для хвалявання, для нейкай нездаволенасці сабой? Толькі ж брыгада дзяўчат — часцінка шматлікага фабрычнага калектыву. Вось у суседзяў штосьці не ладзіцца і з планам, і з якасцю прадукцыі. І дзяўчаты з брыгады Дзіны Давідовіч ідуць на дапамогу суседзям — адстаючай брыгадзе, завіхаюцца каля іх станкоў, паказваюць, як лепш і хутчэй выканаць заданне. І так — з дня ў дзень. Добраму слову, шчырай падтрымцы кожны рад. Весялей запрацавалі дзяўчаты з брыгады Стральцовай. Неўзабаве і яны ўключыліся ў патрыятычнае спаборніцтва. А перадавыя дзяўчаты хвалююцца ўжо за іншых, за тых, хто яшчэ не авалодаў працоўным майстэрствам.

У працы раскрываюцца лепшыя якасці савецкага чалавека. Яна прыносіць задавальненне і ў той жа час патрабуе ад яго няспыннага папаўнення ведаў, імкнення да высокага майстэрства. Тысячы юнакоў і дзяўчат пасля працоўнага дня садзяцца за парты, каб авалодаць ведамі, стаць паўнапраўнымі гаспадарамі вытворчасці. І бывае, калі гутарыш з людзьмі, цяжка адрозніць, хто з іх інжынер, а хто — рабочы. Нашай вытворчасці ўсё больш неабходны такія працаўнікі, якія спалучаюць у сабе навыкі кваліфікаванага рабочага і веды інжынера. За імі — будучыня. Чалавек, які ў працэсе творчай працы ўдасканальвае свае веды, — такі, па Марксу, ідэал чалавека камуністычнага грамадства.

Калектыў памагае, але ён і патрабавальны да тых, хто карыстаецца яго дабротамі. Ён абавязвае кожнага клапаціцца пра захаванне і памнажэнне грамадскага здабытку, не цярпець парушэнняў грамадскіх інтарэсаў, быць сумленным і праўдзівым, сціплым у сваіх паводзінах і непрымірымым да дармаедаў, хціўцаў, кар'ерыстаў.

Часам яшчэ не-не ды і чуецца з'едлівы галасок: «Высокая мараль, вялікія ідэі? Ну што ж, умей пры зручным выпадку пагутарыць аб іх, як кажуць, пусціць пыл у вочы. А ў жыцці старайся ўладкавацца на цяплейшае месца. Дзе — нахабствам бяры, а дзе — вужом паўзі...»

Філасофія — не новая. Гэта — жыццёвы прынцып мешчаніна, абывацеля, прыстасаванца. Гэтыя носьбіты перажыткаў мінуўшчыны адмоўна ўплываюць на некаторую частку нашай моладзі, скіроўваюць яе ў бок ад актыўнага ўдзелу ў камуністычным будаўніцтве. Вось такія абывацелі імкнуцца стрымліваць наша імкненне наперад.

Адзін стараецца пажыць спакайней, цураецца ўсяго новага, свежага. Другі дзеля кар'еры ідзе на якую хочаце подласць. Трэці корпаецца ў старым рыззі з замежнай маркай, абівае парогі гасцініц, дзе размясціліся іншаземцы-турысты, каб купіць якую-небудзь непатрэбшчыну, губляючы ўсялякі гонар грамадзяніна сваёй краіны. Да гэтай катэгорыі належаць валютчык, хцівы ўласнік, п'яніца, хуліган... Кусціцца гэтае пустазелле там, дзе калектыў не патрабавальны, а падчас зусім абыякавы да ўчынкаў нядобрасумленных людзей.

Але ж чаму ў нашым грамадстве, якое выхавала Зою Касмадзям'янскую, Алега Кашавога, герояў обальскай эпапеі, герояў працы сённяшняга дня, сустракаецца падчас такое пустазелле? Справа ў тым, што стагоддзямі стары лад выхоўваў у людзей дрэнныя звычкі і традыцыі ўласнікаў. Нездарма ж Уладзімір Ільіч папярэджваў, што барацьба з перажыткамі мінуўшчыны — задача не аднаго, а некалькіх пакаленняў. І той, хто лічыць, што, маўляў, усё само па сабе стане на месца, — той робіць вялікую памылку.

Вось у рэдакцыю зайшлі юнак і дзяўчына. Гэта брат і сястра: Марыя закончыла політэхнічны інстытут і працуе інжынерам на заводзе. Дзіма яшчэ вучыцца на другім курсе таго ж інстытута. Абое камсамольцы. Яны ўзрушаны: газета пакрытыкавала іх бацькоў. За што? Бацька і маці не пажадалі жыць у трохпакаёвай камунальнай кватэры і, карыстаючыся службовым становішчам, купілі «са скідкай» асабняк. Да новага дома пасуе і новая машына, — парашылі яны. І на змену несамавітаму «Масквічу» з'явілася прыгажуня «Волга». А потым — нібы ў той прымаўцы: далей у лес, болей дроў. Спатрэбілася адмежавацца ад людзей высокім парканам, разбурыць кветнік на былой кватэры і цягнуць адтуль пад зняважлівыя позіркі суседзяў дрэвы і кусты на новае, «персанальнае» месца. Так «старая ведзьма» — прыватная ўласнасць пачала цягнуць гэтых людзей у балота мяшчанскіх інтарэсаў.

Дзіма і Марыя ніяк не хочуць зразумець гэтага і здзіўлена паўтараюць:

— Завошта ж крытыкуюць нашых бацькоў? Яны ж усё гэта робяць на свае сродкі...

«Нам трэба будзе яшчэ многа папрацаваць, каб скончыць з перажыткамі мінулага, — гаварыў М. С. Хрушчоў на XXII з'ездзе партыі. — У грамадскім жыцці передавое не адгароджана ад старога, адсталага. Передавое, нарэшце, перамагае, але перажыткі старога тармозяць рух наперад. Сіла добрага прыкладу ўзрастае, на гэтым будуецца ў нас выхаванне. Але, як вядома, пустазелле хутка разрастаецца, калі своечасова не абясшкодзіць яго».

Не, мы не павінны абыякава ставіцца да лёсу людзей, якім жыць пры камунізме. Выхоўваць новага чалавека на лепшых узорах станоўчага прыкладу — у працы і жыцці — адказная задача дня. Але дамагчыся, каб кожны юнак і дзяўчына толькі засвоілі прынцыпы маральнага кодэксу будаўніка камунізма, гэта яшчэ вельмі мала. Неабходна, каб гэтыя прынцыпы сталі асабістым перакананнем юнакоў і дзяўчат, каб высокія маральныя нормы сталі для іх штодзённай звычкай. А гэта магчыма пры ўмове бесперапыннага ідэйнага ўзбагачэння нашай моладзі, пры актыўным яе ўдзеле ў камуністычным будаўніцтве.

# НАВАСЕЛЛЕ СУЧАСНАЙ ТЭХНІКІ

***Комплексная механізацыя прывядзе да ліквідацыі ручных пагрузачна-разгрузачных работ і скасуе цяжкую працу пры выкананні асноўных і дапаможных вытворчых аперацый... Паскорыцца ўкараненне высокадасканалых сістэм аўтаматычнага кіравання.***

***З Праграмы КПСС.***

Электрычны ток — гэта жыццёвая сіла станкоў, апаратаў і механізмаў, плавільных печаў, транспарту, бытавых награвальных прыбораў, лямп асвятлення...

Вось чаму ў нас будуюцца велізарнейшыя электрастанцыі на Волзе і Дняпры, грандыёзныя сібірскія ГЭС, вось чаму ўся краіна пакрываецца спланаванай сістэмай цеплавых электрастанцый.

— А што робіцца для павышэння энергаўзброенасці нашай рэспублікі? — такое пытанне мы задалі кіруючым работнікам Упраўлення энергетыкі Беларускага саўнаргаса.

— У нашай рэспубліцы, — сказаў начальнік вытворчага аддзела Зэміль Ісакавіч Клябанаў, — увесь час будуюцца новыя электрастанцыі, расшыраюцца старыя. Напярэдадні новага года дала першы ток Бярозаўская ДРЭС, на Мінскай ЦЭЦ-3 устаноўлены новы магутны кацёл, уступае ў эксплуатацыю Полацкая ЦЭЦ. Сёлета магутнасць нашых электрастанцый узрасце ў паўтара раза. Але мы не проста будуем новае, не проста расшыраем старое, мы дабіваемся аптымальных і надзейных рэжымаў работы электрастанцый.

Што такое аптымальны рэжым? Сучасныя цеплавыя электрычныя станцыі складаюцца з двух сістэм: цеплавой і энергетычнай. Цеплавая дае пару, якая прыводзіць у рух турбіны, а на вале турбіны знаходзіцца генератар, які выпрацоўвае электраток. Калісьці цеплавая сістэма была вельмі простая. Яна нагадвала



**У студзені на Рэспубліканскую нараду работнікаў сельскай гаспадаркі Беларусі прыязджаў Першы сакратар ЦК КПСС, Старшыня Савета Міністраў СССР М. С. Хрушчоў. Ён агледзеў новую тэхніку на эксперыментальнай базе Цэнтральнага навукова-даследчага інстытута механізацыі сельскай гаспадаркі нечарназёмнай зоны СССР.**

механізм звычайнага чайніка. Вада кіпела, і з рылца ішоў моцны струмень пары. Але пасля двух стагоддзяў розных удасканаленняў, якія ставілі сваёй мэтай павялічыць колькасць пары і павысіць каэфіцыент карыснага дзеяння, энергасістэма стала вельмі складанай. Цяпер вялікага ўмельства патрабуе спальванне вугалю і торфу, не кажучы ўжо аб рэгуляванні ўзроўню вады ў катле, тэмпературы і ціску пары ў розных пунктах сістэмы і г. д.

Усе гэтыя паказальнікі трэба дакладна захоўваць — толькі тады можна дабіцца найбольш эфектыўных, аптымальных рэжымаў работы станцыі: выдаткоўваць менш паліва і атрымоўваць больш энергіі. Зразумела, падтрымліваць патрэбны аптымальны рэжым могуць толькі аўтаматычныя прылады.

— У гэтым годзе, — гаворыць далей начальнік вытворчага аддзела, — мы будзем яшчэ больш актыўна, чым летась, укараняць аўтаматыку. Апошні наш этап — далучэнне да ўсёй сістэмы электронна-вылічальнай машыны. Тады пуск і рэгуляванне работы электрастанцый будзе праводзіцца націсканнем кнопкі. А пакуль займаемся поўнай аўтаматызацыяй усіх працэсаў па вырабу электраэнергіі.

На многіх электрастанцыях будуць устаноўлены аўтаматы, якія рэгулююць перагрэў пары, падачу паліва і паветра. Нашы беларускія энергетыкі стварылі канструкцыю, якая аўтаматызуе падачу вады ў кацёл пры яго распальванні. Усе гэтыя прыборы вымяраюць ціск, напружанне, тэмпературу і іншыя параметры. Паказанні датчыкаў ператвараюцца ў электрычныя сігналы і паступаюць у электронны блок, які з маланкавай хуткасцю пасылае каманды: падаць больш паветра, паліва, адключыць ваду і г. д.

Такімі ўстаноўкамі будуць забяспечаны Віцебская, Мінская і Аршанская ЦЭЦ, Бярозаўская ДРЭС і іншыя электрастанцыі.

— Нам трэба даць спажыўцу — прадпрыемствам, навуковым лабараторыям, — гаворыць начальнік цэнтральнай службы рэлейнай аховы, аўтаматыкі і вымярэнняў Ігар Мікалаевіч Аляксандраў, — энергію пэўнага напружання і пастаяннай частаты. Толькі тады змогуць нармальна працаваць станкі, плавільныя печы, транспарт, розныя прыборы. А наша ж энергасістэма ахоплівае ўсю Беларусь. З пункту гледжання эканамічнасці і зручнасці такая сістэма вельмі выгадная. Адна электрастанцыя здольна падмяніць другую, бо рэзервы току можна накіраваць на прадпрыемствы якраз тады, калі яны маюць большую патрэбу ў энергіі.

Але вось, нарэшце, мы здабылі энергію і паслалі яе па лініях электраперадачы. Ток прыйшоў на завод. Паслухмяны і дужы, ён можа не толькі расплавіць метал, не толькі прывесці ў дзеянне свёрлы і фрэзы, але замяніць вочы, вушы, пальцы і нават рукі рабочага, вызваліць яго ад фізічных намаганняў. Рабочы ля станка з дня ў дзень робіць адны і тыя ж аперацыі: бярэ дэталь, замацоўвае яе, уключае станок, апрацоўвае, замярае дэталь, здымае. А гэта ж усё могуць рабіць механізмы, аўтаматы. Аўтаматы дазваляюць намнога павысіць прадукцыйнасць працы, эканоміць тысячы рублёў народных грошай.

Сёлетні год, таксама як і мінулы, будзе годам далейшага шэсця аўтаматыкі на прадпрыемствы індустрыяльнай Беларусі.

— У гэтым годзе, — сказаў начальнік тэхнічнага аддзела Упраўлення машынабудавання і станкабудавання Карніл Іванавіч Дабычын, — на нашых заводах будзе ўстаноўлена ў тры разы больш аўтаматычных ліній, чым летась.

Пра багацце новай тэхнікі можна меркаваць хоць бы на прыкладзе аднаго завода — Мінскага трактарнага. У мінулым годзе была выпрабавана мадэль трактара «Беларусь-50». Яна значна адрозніваецца ад старога трактара. Перш за ўсё, матор больш магутны — не 40, а 50 конскіх сіл. Ужо гэта дае магчымасць механізатарам павялічыць прадукцыйнасць працы на 15 — 20 працэнтаў. Спецыяльныя прыстасаванні да трактара дазваляюць навешваць з усіх бакоў розныя прылады — плугі, жняяркі, культыватары. Трактар можа рухацца са скорасцю да дваццаці чатырох кіламетраў у гадзіну. Натуральна, што завод пераходзіць на выпуск новага трактара. Але нам патрэбны не проста лепшыя машыны, сельская гаспадарка патрабуе, каб іх з кожным годам было ўсё больш. У 1965 годзе завод павінен выпусціць трактараў у два з палавінай раза больш, чым у 1960 годзе.

Наша сацыялістычная дзяржава не можа пайсці па шляху інтэнсіфікацыі працы — г. зн. прымусіць рабочага павялічваць колькасць рухаў, больш напружана сачыць за працэсамі і такім чынам узняць прадукцыйнасць. На дапамогу чалавеку дзяржава ставіць аўтаматы. Яны аблягчаюць працу рабочага і ў некалькі разоў павялічваюць прадукцыйнасць працы.



**Новая тэхніка нарадзіла і новыя спецыяльнасці. Ля пульта кіравання катламі Мінскай ЦЭЦ-3 машыніст ударнік камуністычнай працы І. Кавалеўскі.**

Фота С. Чырэшкіна.

Вось чаму, як толькі была зацверджана новая марка трактара, завод адразу паклапаціўся пра абнаўленне ўсяго абсталявання. Частка ліній і станкоў ужо ўстаноўлена, некаторыя яшчэ ўстанаўліваюцца. Восем аўтаматычных ліній і 400 агрэгатных станкоў — гэта сапраўды вялікае наваселле новай тэхнікі.

На заводзе цяпер ствараецца сістэма канвеераў, якія дастаўляюць дэталь па пэўнаму адрасу, а, калі трэба, дэталь ад адной аўтаматычнай лініі можа трапіць



**На «Гомсельмашы» створан новы універсальны кукурузасіласаўборачны камбайн, які пры ўборцы аддзяляе кіяхі ад сцяблоў і здрабняе зялёную масу.**
Фота Н. Белабровіка (БелТА).

і ў два адрасы. Вось што такое царства новай тэхнікі!

Стварае гэта царства чалавек. Тут, як і пры вырашэнні ўсякіх складаных праблем, узнікае шмат цяжкасцей, перашкод. Адна з іх заключаецца ў тым, што ўсе новыя аўтаматы спецыялізаваныя — кожны можа рабіць толькі адну пэўную аперацыю: прасвідраваць, напрыклад, адтуліну ў зададзеным месцы дэталі на пэўную глыбіню. І ўсё. І вось уявіце становішча завода, які робіць станкі. Яму раптам патрэбна стварыць 60 агрэгатных станкоў для апрацоўкі розных дэталей. Адтуліны або расточку адзін, напрыклад, павінен рабіць зверху, другі збоку пад пэўным вуглом, трэці — яшчэ па-іншаму. Значыць, і свёрлы з рухавікамі і кантрольнай апаратурай таксама павінны быць розныя. Канфігурацыя дэталей неаднолькавая, і каб замацаваць дэталь, таксама спатрэбіцца прыстасаванне для аднаго-двух станкоў. Выходзіць, што трэба спецыяльна праектаваць і рабіць кожны станок асобна. Гэта вельмі дорага каштуе. І таму станкабудаўнічыя заводы імкнуцца перавесці адзінкавую і дробнасерыйную вытворчасць у буйнасерыйную — выпускаць аднатыпныя дэталі масавым тыражом, тады яны будуць дзешавейшыя. Але як гэтага дабіцца, калі заводам патрэбны спецыяльныя станкі, і ўсяго па два-тры, а не тысячы? Канструктарская думка вырашыла і гэту праблему. Знойдзены такія часткі, якія падыходзяць да розных тыпаў спецыяльных станкоў.

На Мінскім заводзе аўтаматычных ліній стварылі ўніфікаваныя сілавыя галоўкі (сістэма механізмаў, якая падводзіць інструмент да дэталі, прыводзіць у рух свёрлы і метчыкі, а потым аўтаматычна адключаецца і варочаецца на ранейшае месца). Тут прыдумалі таксама сістэму ўніфікаваных транспарцёраў для перадачы дэталі ад аднаго станка да другога, паваротныя сталы і іншыя вузлы.

На Мінскім заводзе імя Кастрычніцкай рэвалюцыі ствараюць цяжкія станкі — прадоўжна-стругальныя, фрэзерныя і шліфавальныя. І вось адзін станок, прадоўжна-стругальны, ператварылі ў базавы, гэта значыць, на яго аснове збіраюць прадоўжныя фрэзерныя і шліфавальныя. Цяпер канструктары завода прапанавалі прадоўжна-фрэзерны станок з праграмным кіраваннем. Рабочы задае станку пэўную праграму работы, і станок сам апрацоўвае складаную паверхню дэталі — калі трэба, апускае або падымае фрэзу, аўтаматычна вытрымлівае зададзеныя рэжымы рэзання.

Аўтаматыка прыходзіць не толькі ў машынабудаванне, але і ў іншыя галіны. Напрыклад, у вытворчасць будаўнічых матэрыялаў. У нас па ўсёй краіне ідзе гіганцкае будаўніцтва. Яму патрэбны разнастайныя будаўнічыя матэрыялы. Гэтую праблему заклікаsuccessfully вырашыць таксама аўтаматы.

У нас у рэспубліцы ёсць буйнае прадпрыемства, якое выпускае абсталяванне для будаўнічай прамысловасці — магілёўскі завод «Строммашына». Вельмі патрэбнае абсталяванне робіцца тут у гэтым годзе. Ствараюцца аўтаматычныя машыны для вырабу труб і шыферу. Трубы патрэбны для вода- і газаправодаў, для пракладвання падземных кабеляў. На выраб труб ідзе метал, які патрэбен на машыны і станкі, да таго ж гэтыя трубы — недаўгавечныя, бо іх раз'ядае ржа, на іх адмоўна дзейнічаюць блукаючыя токі. Работнікі магілёўскага завода спраектавалі і пабудавалі машыну, якая робіць трубы з азбацэменту. У вялікім чане разводзяць вадою азбест і цэмент; бясконцая стужка сукна шырынёю ў чатыры з паловай метра бярэ тонкі слой азбацэменту і перадае яе на качалку — доўгі цыліндр, а той віток за вітком, як бінт на руку, намотвае плёнку азбацэменту да пэўнай таўшчыні. Потым труба здымаецца з качалкі і высушваецца. Валокны азбесту, злучаныя з цэментам, надаюць трубе патрэбную трываласць. Такія трубы не толькі дзешавейшыя за сталёвыя, яны значна лягчэйшыя за іх, а самае галоўнае — даўгавечныя.

По такому ж прынцыпу, толькі больш складанаму, будуецца работа аўтаматычнай лініі для вырабу шыферу. Раней гэта была вельмі працаёмкая аперацыя. Рабочы здымаў рукамі сырыя лісты шыферу, укладваў іх на гафрыраваную аснову і ўручную рабіў «хвалі». Новая машына і здыманне шыферу, і наданне яму «хваляў», і ўкладку на асновы, усё робіць аўтаматычна і мае высокую прадукцыйнасць. Шыферная машына выпускае шэсць тысяч пліт за гадзіну. За суткі яна можа даць столькі шыферу, каб узяць пад суцэльны дах, напрыклад, большую частку Мінскага мора.

Раней у нашай рэспубліцы быў вядомы толькі адзін завод, які выпускаў сельскагаспадарчую тэхніку — «Гомсельмаш». А цяпер іх многа — «Бабруйсксельмаш», «Лідсельмаш», сельгасмашыны робяць у Мазыры, Оршы, Ваўкавыску, на мінскім заводзе «Ударнік» і іншых прадпрыемствах. З кожным годам павялічваецца выпуск самай разнастайнай тэхнікі для калгасаў і саўгасаў.

Прамысловасць выпускае машыны, якія замяняюць фізічную сілу чалавека на працаёмкіх аперацыях, машыны, якія дазваляюць весці шырокім фронтам наступ на шматгадовыя цалінныя залежы, на балоты, на хмызнякі.

Старэйшы завод нашай рэспублікі «Гомсельмаш» перайшоў на выпуск толькі кукурузаўборачных камбайнаў. Тут робяць камбайны розных тыпаў: адны з іх толькі здрабняюць кукурузу на сіласную масу, другія — спачатку аддзяляюць пачаткі ад сцяблоў кукурузы і збіраюць іх у асобны бункер. Завод значна ўдасканаліў



**Новы канавакапальнік, выпушчаны Мазырскім заводам меліярацыйных машын, выкопвае за гадзіну 150 метраў канавы глыбінёй у 120 сантыметраў.**
Фота Ф. Раманава (БелТА).

сіласаўборачны камбайн. Раней машыну прычэплівалі ззаду трактара, як самастойны агрэгат, камбайнам кіраваў спецыяльны чалавек. Канструктары прапанавалі наблізіць камбайн да трактара, паставіць яго збоку і стварыць з трактара і камбайна нешта накшталт аднаго агрэгата. Гэтая ідэя ажыццёўлена, і цяпер ужо не патрэбен камбайнер. Трактарыст, каб кіраваць камбайнам, не прыкладае фізічнай сілы — усе пад'ёмнікі забяспечаны гідраўлічнымі механізмамі. Да таго ж, на новы камбайн металу ідзе на 10 працэнтаў менш, чым на стары. Новая машына пайшла ўжо ў серыйную вытворчасць.

У Гомелі рыхтуецца яшчэ некалькі тыпаў камбайнаў — спецыялізаваных. «Гомсельмаш» робіць камбайны, прызначаныя для работы на тых участках, дзе кукуруза дасягае вышыні чатырох метраў.

Унеслі свой уклад гомельскія машынабудаўнікі і ў стварэнне комплексаў прылад да самаходных шасі. Самаходнае шасі — гэта той жа трактар, але яго матор прымасціўся на самым краі доўгай рамы. Рама нічым не занятая. На яе можна навешваць, ставіць, класці ўсё, што патрэбна: культыватары, бульбакапалкі, кузавы самазвалаў, цыстэрны, падборшчыкі для прасавання саломы і сена, касілкі, рознага тыпу жняяркі і г. д. Тут інжынеры поўнасцю з'ядналі прылады працы з крыніцай энергіі — маторам. Гэта яшчэ больш арганічнае зрастанне трактара з навяснымі прыладамі. Шасі могуць працаваць на полі круглы год — сеяць, убіраць, вазіць збожжа і ўгнаенне... Ім не патрэбны, як трактару, асобныя дарагія прычэпы на ўласным хаду. Для такой машыны гамяльчане прыстасавалі кукурузаўборачны і сіласаўборачны камбайны.

На заводзе «Сельмаш» у г. Лідзе сёлета будуць рабіць касілкі-здрабняльнікі. Такая машына рыхтуе зялёную сечку для падкормкі жывёлы, для сіласавання і мае вялікую прадукцыйнасць. Лубін або канюшына ці іншыя травы паступаюць у спецыяльны прычэп, і, як толькі ён напоўніцца, трактарыст адключае касілку і вязе прычэп на ферму.

Калгасы і саўгасы атрымаюць у гэтым годзе з Ліды ўдасканаленыя бульбакапалкі. Яны маюць спецыяльныя прыстасаванні, якія падтрасаюць бульбу, каб яна лепш ачышчалася ад зямлі.

За сямігодку мы павінны асушыць паўтара мільёна гектараў, а за 20 бліжэйшых гадоў — 4,5—5 мільёнаў гектараў балот. Чалавек з рыдлёўкай тут — бяссільны. Каб асушыць і асвоіць балота, трэба перавярнуць горы зямлі, выкарчаваць хмызняк і дробны лес і пастаянна падтрымліваць у чысціні канавы. З такімі працаёмкімі работамі могуць справіцца толькі машыны. І прытым не адзінкі, а цэлы комплекс.

Такі комплекс машын стварылі нашы беларускія канструктары. У студзені гэтага года Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў наведаў і агледзеў тэхніку на эксперыментальнай базе Цэнтральнага навукова-даследчага інстытута механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі нечарназёмнай зоны СССР і даў высокую ацэнку работы стваральнікам меліяратыўных агрэгатаў.

Прамысловасць нашай рэспублікі ўжо асвоіла выпуск многіх машын. Яны ўяўляюць магутную сілу для наступлення на балоты. Іх выпускаюць, у асноўным, два заводы — у Мазыры і мінскі завод «Ударнік».

Мазырскі завод паставіў на серыйную вытворчасць кротавадрапажную машыну. Яе злучаюць з трактарам, і гідраўлічны механізм заглыбляе ў зямлю спецыяльны цыліндр. Машына робіць «кротавую» шчыліну дыяметрам у пятнаццаць сантыметраў. Сістэма такіх шчылін у глебе — дранаж — паніжае ўзровень грунтавых вод і адводзіць іх у магістральны канал. Яна больш зручная, чым звычайныя канавы, бо не перашкаджае рабоце трактараў. Але шчыліна, якую робіць мазырская машына, хутка заплывае. Мінскае спецыяльнае канструктарскае бюро № 2 прапанавала машыну, якая ўкладвае пад зямлёй ганчарныя трубы. Такі агрэгат ужо зроблены. Пярэдняя яго частка ўяўляе сабою шматкаўшовы экскаватар. Ён капае траншэю, куды аўтаматычна закладаюцца трубы і засыпаюцца. Такая машына павінна мець вялікую дакладнасць у рабоце — трэба дабіцца, каб зазор паміж трубамі быў не большы за паўміліметра — інакш усю сістэму зацягне глеем.

Мазырскі завод па прапанове беларускіх канструктараў падрыхтаваў да выпуску канаваачышчальнікі новага тыпу: скрабковыя і фрэзерныя. Трактар ідзе збоч каназы, апусціўшы на яе адкос дыск, які хутка рухаецца і выкідвае зямлю напаверх.

Заводы нашай рэспублікі выпусцяць у гэтым годзе машыны для распрацоўкі залежных зямель і балот. Тут і кустарэзы — масіўны нож, які пад корань рэжа хмызняк, і карчавальнік-збіральнік пнёў — нешта накшталт вялізных вілаў: трактар падводзіць зубцы пад пень, паднімае «вілы» гідраўлікай, а потым звозіць пні да адной кучы; тут і агрэгаты для заворвання хмызняку на глыбіню да паўметра. Навуковыя супрацоўнікі інстытута механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі ўстанавілі, што пры заворванні хмызнякоў атрымоўваецца больш высокі ўраджай. Распрацоўка новых зямель комплексам машын каштуе параўнальна нядорага. Ужо праз год не толькі акупляюцца ўсе выдаткі, але новыя землі даюць прыбытак — па 60—150 рублёў на гектар.

Сёлета прадпрыемствамі рэспублікі будзе выпушчана многа ўдасканаленых дарожных машын, аўтамабіляў для паўночных і паўднёвых раёнаў краіны, аўтаматаў для горназдабываючай прамысловасці.

Ва ўсе галіны нашага жыцця рашуча ўваходзіць самая дасканалая сучасная тэхніка — тэхніка камунізма.

**Віктар ГОВАР.**

# ХЛОПЕЦ З ПАЛЕССЯ

**Нарыс**

1

Сёлетняй зімой, у кароткія студзеньскія дні, Навасёлкі аж грымелі ад гамонкі рэпрадуктараў: у Мінску праходзіла нарада перадавікоў сельскай гаспадаркі, на якой прысутнічаў Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў. З Навасёлак жа на нараду паехаў свой чалавек — малады кукурузавод-механізатар Уладзімір Жудро.

З хаты ў хату неслася:

— Наш Валодзя выступаў!..

— З самім Мікітам Сяргеевічам размаўляў!..

Навасёлкаўцы перагаворваліся, усхваляваныя гэтай важнай і цікавай навіной, выказвалі свае меркаванні. Адны лічылі, што тут няма нічога незвычайнага: хлопец варты вялікага гонару, бо вырасціў на капрызлівай палескай зямлі выдатную кукурузу. Другія казалі, што гэта — шчаслівая ўдача: проста пашанцавала чалавеку! Знаходзіліся і такія, што хітра пераміргваліся: дырэктару, маўляў, слава патрэбна, вось ён і выстаўляе ўперад свой маяк, каб сябе лепей высветліць.

Адно ўсіх шчыра радавала, што іх зямляк, просты палескі хлопец, выступаў з высокай трыбуны, і што не каго-небудзь, а іх Валодзю пахваліў Мікіта Сяргеевіч: «Паглядзіце на гэтага хлопца — чым не герой!»

Маруся ад нечаканага ўзрушэння ўсё мітусілася: то папраў-

ляла свае косы-пляцёначкі, то перабірала гузічкі на паркалёвай, у васількі кофтачцы, то брала на рукі Сяргейку, які ціха забаўляўся з цацкамі. Маруся разам з дзецьмі, якія прытуліліся да маленькай шэрай скрыначкі, сядзела ля стала і, затаіўшы дыханне, слухала радыё. Да яе не даходзіў сэнс таго, што гаварыў Валодзя. На душы было хораша толькі ад таго, што гэта быў ягоны голас. Здаецца, ужо і следу не засталося той скрухі, якая мучыла яе ад таго дня, калі яна выправіла Валодзю ў Мінск. З'явілася нават нейкае вострае жаданне зараз жа, у гэтую хвіліну, падзяліцца з кімнебудзь сваёй радасцю, сказаць, што яна ніколечкі на яго не злуе, што яна любіць яго больш за ўсё на свеце. Тут былі толькі яе дзеці — Сяргейка, які яшчэ вымаўляе толькі адно слова «мама», і чатырохгадовая Галя-чарнушка. І Маруся ціха, ласкава гаворыць:

— Слухайце, дзеткі, гэта ж ваш татка гаворыць!

— Татка! — Галька зморшчыла носік, пацягнулася да скрыначкі і агледзела яе з усіх бакоў. — А дзе ж ён, калі гаворыць тутака?..

— Татка наш далёка, у Мінску, — уздыхнула Маруся і падышла да шафы. Дастала выразку з газеты, якую прыхавала надоечы, і каторы раз перачытала надпіс над здымкамі: «Вось нашы маякі». На здымку злева — Валодзя, ён усміхаецца бясконца шчаслівай усмешкай; справа — дзяўчына. І яна ўсміхаецца. Нібы яму, Валодзю...

Вядома, ён гэтак не сам сеў з гэтай дзяўчынай, разважае сама з сабою Маруся. Так іх пасадзіў фатограф. І карткі розныя. Але ж сэрца не хоча ўсё гэта зразумець. Яму не загадаеш. І ў галаву лезуць нейкія трывожныя думкі. З'явіліся гэтыя здымкі пасля нядаўняй паездкі Валодзі ў Мінск. Можа і цяпер ён там, на нарадзе, сядзіць побач з той дзяўчынай, якая на здымку так ласкава ўсміхаецца?..

У хату прыбеглі суседкі, кінуліся адбымаць збянтэжаную і ўзрушаную Марусю:

— Ой, Марусечко, якое табе шчасце!

— От бо, суседачко, твой Валодзя пад шчаслівай зоркай нарадзіўся!..

У Марусі адлягло на сэрцы. Адплылі, зніклі тыя скрушлівыя адчуванні, якія вярэдзяць душу з таго часу, калі Валодзя пачаў ездзіць на розныя нарады то ў Гомель, то ў Мінск. Яны, гэтыя адчуванні, іншы раз усходзяцца, завіруюць, нібы крутыя хвалі роднай Прыпяці ў непагоду, а потым ўтаймуюцца, улягуцца, як рака ў ціхія летнія світанкі. І тады наплываюць успаміны, — цёплыя, лагодныя. Ва ўсіх драбніцах прыгадваюцца непаўторныя дні іх першага знаёмства. Іх чыстае, светлае каханне.

Гэта быў 1955 год, калі моладзь адразу пасля школы ішла на працу — на палі, на вытворчасць. Пасля сямігодкі Маруся паступіла ў школу механізацыі ў Нароўлі. І трапіла ў групу трактарыстаў. На першых жа занятках яна стрэлася позіркам з круглатварым хлопцам у палінялай салдацкай гімнасцёрцы. Зірнула і нібы ўтапілася ў яго сініх, глыбокіх вачах. Прыгожы хлопец — чысты круглявы твар, круты высокі лоб, русявыя хвалістыя валасы. А ў кутках прыпухлых вуснаў — нейкія мяккія, лагодныя смяшынкі. Іх, пэўна, не кожны заўважыць, а Маруся згледзела. Можа гэтыя самыя іскрынкі-смяшынкі яе і прычаравалі... Так Маруся, не правёўшы ніводнай сваёй барозны на трактары, і стала Валодзевай жонкай.

Пасля вяселля пераехалі да Домны Іванаўны, Валодзевай маці, якая жыла ў Капцэвічах. Жанчына яна добрая, спагадлівая, але Маруся ў хуткім часе адчула, што лепей аддзяліцца, займець свой куток. Яе думку падтрымаў і Валодзя, і яны пачалі збірацца на сваё жытло. Валодзя пачаў думаць, як прыдбаць сёе-тое на пачатак.

Настала зіма. Іншыя трактарысты адпачывалі, займаліся рамонтнымі справамі, а Валодзя адправіўся на лесараспрацоўкі, каб зарабіць трохі грошай. Кожны дзень Маруся напакоўвала свайму чалавеку торбачку і выпраўляла на лясную дарогу. Пакуль дойдзе Валодзя да дзялянкі, адмерае кіламетраў з дзесяць, дык добра натоміцца. А там жа трэба браць у рукі сякеру...

Працаваў Валодзя шчыра. Іншы раз прыйдзе дадому зморамы, абледзянелы, бы той дзед-Мароз. Марусі шкада яго, але нічога не зробіш — жыццё пачынаць трэба.

— А вы так ужо не рупцеся, не маркоцьцеся, донечко, — сказала неяк напрадвесні Домна Іванаўна нявестцы. — Вось пацяплее, і паедзеце ў Навасёлкі. Там жа мая хатка стаіць. Агледзіце яе, падладзіце і пажывяце пакуль. Я вам трохі насення дам...

— Вось добра, мамо, — узрадавалася Маруся. — Мы вашай ласкі не забудзем. Калі што якое — забяром вас да сябе.

— Абы самі ўжо як-небудзь агораліся, а пра мяне не бядуйце, — змахнула шчырую слязу свякруха і, павесялеўшы, дадала: — Валодзя добры, ён цябе не пакрыўдзіць. За ім не счэўраеш. Жыць будзеце згодна...

Неяк у хуткім часе, калі зацвярдзела веснавая дарога, у Капцэвічы прыехаў на грузавіку навасёлкаўскі старшыня. Валодзя — да яго:

— Аркадзь Сцяпанавіч, можа забераце ў Навасёлкі? Я ж трактарыст цяпер, школу скончыў...

— А, Валодзя, — шырока ўсміхнуўся старшыня. — Давай, брат! Сёння ж і паедзем!

— Ды я тут не адзін, — зачырванеўся Уладзімір, — з жонкаю...

— Гэта яшчэ лепей, — бліснуў вясёлымі вачамі старшыня. — Давай, брат, грузі свае прыданкі. Едзем!..

... Маруся ўсміхнулася сама сабе, успомніўшы той пасаг, якім іх адарыла тою вясною небагатая свякруха. Толькі пазней, калі надышла сяўба, Маруся пазнала цану тых шматлікіх вузельчыкаў, якія ляжалі побач з кавалкам сала ў дарожным куфэрачку. У тых вузельчыках былі: і фасоля, і гарох, і гарбузікі, і морква, і нават кукурузныя зярняты, — усяго па жменьцы. На шчасце!



**Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР Уладзімір Жудро — звеннявы механізатар саўгаса «Навасёлкі» Капаткевіцкага раёна.**

Хатка, у якую пераехалі яны з Валодзем, урасла па вокны ў дол. Адно званне, што будынка. Але ж — пад сваім дахам. Калгас памог маладой сям'і: даў дошкі, цэглу на печ, дрэва на падрубы і на брусы. Хатка павесялела, Валодзя з Марусяй зажылі ў ёй, можна сказаць, прыпяваючы.

Марусі так і не ўдалося сесці за руль трактара, хоць яна і вельмі хацела. Нарадзілася Галька («выліты Валодзя»), і маладой гаспадыні хапала клопату. Затое яе Валодзя заўсёды на ўсім гатовым. У яго і адзежына памыта, і сарочка адпрасаваная не горш, чым у самога Аркадзя Сцяпанавіча — а ён чалавек акуратны, заўсёды паголены, пры гальштуку. Маруся і абед на поле кожны раз занясе парою, і ўвечары вады гарачай нагатуе, ручнічок чысты падасць. Маруся аж сама не свая, калі ў Валодзі што-небудзь не ладзіцца.

Іншы раз збяруцца трактарысты на пляцы ля канторы і давай адзін аднаго перабіраць. Асабліва даставалася аднаму жанатаму чалавеку.

— Росцік, скажы, братка, з якога матэрыялу твая ватоўка?

Той, нічога не скеміўшы, адказвае:

— Вядома з якога — з корту.

— Дзе там з корту, — клаліся з рогату хлопцы. — Натуральны хром!..

Калі Валодзя расказваў пра гэта жонцы, яна паглядала на яго добра вымыты летнік, на свежую сарочку і ад душы радавалася. Ёй прыемна, што яе чалавек — чысты і акуратны.

Або ўзяць апошнія два гады, калі ў Навасёлках стаў цэнтр саўгаса і Валодзя падмеўся вырошчваць кукурузу. Маруся спачатку адгаворвала яго. Ты, маўляў, чалавек сямейны, жанаты, двое дзяцей маеш. Ды яшчэ і ў вячэрняй школе вучышся. Але адчула, што Валодзя — цвёрды, бы той крэмень, і сама захапілася яго клопатам. Начамі не спала, гледзячы, як маркоціўся Валодзя, ішла з ім на поле, памагала і сеяць і даглядаць кукурузу.

— Цяпер мой Валодзя можа сядзіць з якой-небудзь дзяўчынай, мілуецца, — заняўшыся ўспамінам, неяк нечакана прагаварыла Маруся і гулліва ўсміхнулася: — Мо знайшоў ужо сабе там красуню-перадавічку...

— Што ты, суседачко, — нахмурыла бровы жанчына, што сядзела ля прыпечку, на ўслончыку. — Твой Валодзя не такі, каб да іншых заляцацца. Ён адну цябе кахае!

Маруся прамаўчала.

## 2

Уладзімір курыў, хадзіў па хаце, мераючы хісткія маснічыны. Часцей, як некалі, праводзіў шурпатай далонню па хвалістых валасах і хмурыў густыя бровы.

Дзеці, заняўшыся падарункамі, нібы забылі, што іх бацька колькі дзён не быў дома, а потым спахапіліся. Першы працягнуў ручкі Сяргейка. За ім падскочыла і Галька:

— І мяне вазьмі, татко!

Уладзімір браў на рукі дзяцей, жартаваў з імі, смяяўся, а ў вачах — тыя ж неспакойныя агеньчыкі. І толькі калі Маруся спытала пра Хрушчова: «Ці блізка ты, Валодзя, быў ад Мікіты Сяргеевіча?», Уладзімір ажывіўся. З гарачым бляскам у вачах расказаў і пра тое, як Мікіта Сяргеевіч слухаў усіх прамоўцаў, як распытваў пра ўсё, што яго цікавіла, і пра тое, якой глыбокай і мудрай была прамова Хрушчова.

— Мы ўсе яго слухалі, не зварухнуўшыся. Дзве з паловай гадзіны праляцелі, як адно імгненне.

— І цябе героем Мікіта Сяргеевіч назваў, — не стрымалася Маруся. — Мы чулі па радыё. Ужо ўсе Навасёлкі гавораць: Валодзьку Домнінаму Героя дадуць...

— Героя... героя, — суха прагаварыў Уладзімір і доўга маўчаў. Потым скупа ўсміхнуўся, паклаў на жончына плячо дужую руку і задумліва дадаў: — Героем, напэўна, быць не лёгка. Як ты думаеш, Маруся?..

Жонка даверліва кіўнула галавою. І тут жа, нібы схамянуўшыся, клапатліва сказала:

— Не забудзь жа, Валодзя, сёння заняткі. Ты ўжо колькі дзён прапусціў...

— Ведаю, — Уладзімір пашкроб патыліцу, паглядзеў на расклад: — Ух, сёння трыганаметрыя. Трэба схадзіць да хлопцаў, падвучыць трохі...

— А я за гэтыя дні ў бібліятэку разоў колькі хадзіла, — сказала Маруся. — Прачытала дзве кніжкі. І яшчэ «Як гартавалася сталь» перачытала. Трэба ж гэта па праграме, дык, калі не паспееш, раскажу...

— Ах, мая памочніца, — расчуліўся Уладзімір. — Добрая мая Маруся!..

Маруся спахмурнела, зазірнула мужу ў вочы. Ці не змяніўся яе Валодзя, ці не астыла ў яго тое пачуццё, якое так дарага ім абаім і якое трэба пранесці праз ўсё жыццё? Хацелася сказаць: «Ты вось вучышся, гэтым годам атэстат за дзесяцігодку атрымаеш, потым далей куды паступіш, а я — усё з дзецьмі. А то яшчэ возьмеш ды нагледзіш сабе такую, як тая Зойка, што ўсміхаецца з партрэта». Але прамаўчала, спахапіўшыся.

Нібы зразумеўшы, што цяпер на душы ў жонкі, Уладзімір загаварыў:

— От, дзівачка, мо думаеш благое, — шчыра сказаў ён. — Бачу ж, перажываеш, што я стаў часта ездзіць. Ты ж, можа ўжо за шэсць год добра ўведала, які я чалавек. Мо раўнуеш, што вучуся? Мне ўжо гаварылі некаторыя: «Жудро ў акадэмію надумаўся пралезці. Давай, рвіся!» А калі шчыра сказаць, не акадэмія мяне вабіць. Я хачу больш ведаць, хачу ісці ў нагу з жыццём. А яно бачыш якое ў нас: вірыць, як тая наша Прыпяць паводкаю. Шуміць, бы вецер вясною. І нам з табою, Маруся, не ў зацішку месца, — на прасторы, на быстрыні жыцця. Мы ж маладыя!..

— Маладыя, — передражніла жонка. — Табе ж ужо скора трыццаць...

— А разам з табою — пяцьдзесят пяць, — пажартаваў Уладзімір.

... У той дзень Уладзімір Жудро перш, чым наведаць свайго цёзку-трактарыста, з якім разам займаецца ў дзесятым класе, зайшоў у кантору саўгаса. Доўга тупаў ля дзвярэй, хваляваўся. Дырэктара ён добра ведаў яшчэ з юнацкіх год, калі той быў у калгасе за агранома. Бліжэй пазнаёміўся, калі сеў на трактар, і ўжо зусім блізка, калі вырасціў летась па 1 150 цэнтнераў кукурузы на плошчы ў дзевяноста гектараў. «Праславіў ты, Валодзя, Навасёлкі, аж у Маскве ведаюць, што недзе, на Палессі, ёсць такі саўгас «Навасёлкі», а дырэктарам там Аркадзь Сцяпанавіч Парахневіч. І ёсць там такія хлопцы, як Валодзя Жудро». Уладзімір успомніў, як дырэктар учора, калі ехалі з Капаткевіч, гаварыў: «Ты, Валодзя, не саромся, калі што якое — заходзь смела», і ўсё ж марудзіў, тупаў у прыёмнай. Аж шыя змакрэла. Нарэшце пастукаў і адразу таргануў дзверы.

— А, Жудро, заходзь, калі ласка, — вітаючыся з трактарыстам за руку, загаварыў Аркадзь Сцяпанавіч. — З чым так адразу з дарогі?..

Уладзімір азірнуўся. Прысеў, трымаючы ў руках сваю рыжую аблавушку. Збянтэжана прывітаўся з людзьмі, якія сядзелі ўздоўж сцяны. Тут былі сакратар парткома Зянон Рамаsuccessfulоўскі, галоўны аграном Вольга Сяргеенка, галоўны заатэхнік Віктар Ігнаценка, інжынер-меліяратар Сяргей Дзяржаўскі і ўпраўляючы цэнтральнага аддзялення Кастусь Матусевіч. Як відаць, у дырэктара была нейкая нарада.

Памаўчалі. Уладзіміру здалося, што ўжо надта доўга цягнулася гэтае маўчанне. І ад гэтага пачынала яшчэ большая збянтэжанасць.

— Дык, напэўна ж, ты, Валодзя, прыйшоў не так сабе да мяне, — зноў варухнуўся ў крэсле дырэктар. — Выкладвай.

— Канешне, Аркадзь Сцяпанавіч... Па тэрміновай справе, — і, перадыхнуўшы, пасмялеў: — Як будзем рэагаваць на крытыку?..

— На якую крытыку? — у сваю чаргу запытаў дырэктар.

— Ды на тую крытыку, што была на нарадзе, у рэпліках Мікіты Сяргеевіча, — ужо больш спакойна сказаў Уладзімір, гледзячы ў вочы дырэктару.

— А, во ты пра што! — дырэктар пацёр скроні, на якіх пракідалася ўжо заўчасная сівізна. — Разумею. Давай тады сядай бліжэй. У нас якраз пра гэта гаворка. Мы ўжо тут мяркуем, раімся. Паслухаем і цябе...

Уладзімір устаў, прыкметна хвалюючыся, загаварыў:

— Мы вырасцілі летась, як усім вядома, добрую кукурузу, — ён правёў дрыжачымі пальцамі па валасах і адчуў, што яны аж змакрэлі. — Добра ўрадзіла яна і ў Навасёлках, і ў Камаровічах, і ў Галоўчыцах. І на балоце, і на мінералцы. І ўсё ж сёлета сіласам не можам пахваліцца. Ужо ў Навасёлках ходзіць пагалоска. Маўляў, Жудро рэкорд паставіў, а ка-

роўкі, як бачыш, селі на ўрэзаны рацыён. Дык я скажу так: трэба нам усур'ёз брацца за механізацыю. Трэба, каб механізаваныя звенні былі сапраўды ўзброены тэхнікай, а не так, як дагэтуль. Памятаеце, як мы ўбіралі летась кукурузу. Пакуль адна машына вернецца, камбайн стаіць, механізатары «загараюць». І ўборку пачалі позна. І яшчэ — вадзяністай занадта была наша «каралева». Пачаткаў было мала. Вось чаму і рацыён зноў урэзаны, і сілас не надта каштоўны: жывот карова наб'е поўны, а есці хоча...

Уладзімір сеў, выцер спацелы твар. Рукі яго, моцныя, дужыя, у мазалях і драпінах, рукі, якія так упэўнена і цвёрда трымаюць руль трактара, сёння яго падводзілі — прыкметна дрыжалі. І ён не ведаў, што з імі рабіць. Паспешліва выцягнуў з кішэні пачак папярос, каб супакоіцца.

— І што вы прапануеце, Уладзімір Канстанцінавіч? — апярэдзіла дырэктара звычайна спакойная і разважлівая Вольга Аляксееўна, аграном. Не чакаючы, што на гэта ён скажа, дадала: — Такія высокія абавязацельствы, як вы, — па 800 цэнтнераў зялёнай масы з пачаткамі, — сёння саўгас не можа ўзяць. Для гэтага ў нас яшчэ далёка не ўсё зроблена. І ёсць такія прычыны, якія ад нас, на месцы, не залежаць. Скажам, угнаенні...

— Думаю, што калі не сёлетні год, то на наступны можна. Толькі варта падумаць пра арганізацыю працы, — сказаў Уладзімір. — Асабліва ў механізатараў. Гэта першае. А другое — трэба ствараць лепшыя ўмовы, больш клапаціцца пра людзей, якія заняты на ўдарных участках.

— З новага года мы перайшлі на новую сістэму аплаты працы, — як бы ў апраўданне сказаў дырэктар.

— І ўжо маем лепшыя вынікі, — дадаў сакратар парткома Раманоўскі і павярнуўся да Жудро. — А як ваш трактар, Уладзімір Канстанцінавіч, яшчэ сёлета паходзіць?..

— Павінен, — зацягнуўся папяросай Уладзімір. Адразу ўспомнілася, як Маруся ўвесь час яго жыліла: «Прасі новы трактар. Гэта ж ужо шосты год, як на ім ездзіш. Знасіўся. Як ты будзеш спаборнічаць з Замшыцкім, у яго ж — новая машына». «Вытрымае. І нават без рамонту. Там трохі бак ды муфту падпраўлю. І паходзіць!..»

Загаварылі пра механізаваныя звенні. Пра тое, каб усю кукурузу на плошчы больш як тысяча гектараў, аддаць трактарыстам. Узгарэліся спрэчкі. Былі галасы і супраць гэтай новай прапановы. «Ранавата. Кадры яшчэ не падрыхтаваны. Тэхнікі мала. Мінеральных угнаенняў не хапае...»

— Чаму, таварышы, лічыце, што ранавата, — выказаў сваю думку Уладзімір Жудро. — Якраз самы час. У нас ёсць ужо сякітакі вопыт.

— А як наконт буракоў, Уладзімір Канстанцінавіч, берацеся? — кінула Вольга Аляксееўна.

— Канешне, бяруся, — пачулася цвёрды голас маладога камуніста-механізатара. — Бяруся і лічу, што і іншыя механізаваныя звенні павінны ўзяцца за буракі. Нам, механізатарам, гэта справа па сіле.

### 3

Напрадвесні, калі праходзіла вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР, працаўнікі саўгаса «Навасёлкі», якія заваявалі славу гаспадаркі-маяка на Гомельшчыне, першымі назвалі прадстаўніком у вышэйшы орган кіравання дзяржавай імя свайго земляка, простага хлопца-трактарыста Уладзіміра Жудро.

— Справядлівы чалавек!

— Ударнік камуністычнай працы!

— Дастойны будзе пасланец!..

Перад выбарамі Уладзіміру даводзілася ездзіць па палескіх вёсках, сустракацца з выбаршчыкамі. На гэтых сходах-сустрэчах шмат давялося выслухаць пахвалы. Давялося хвалявацца і перажываць. А перажываў Уладзімір ад таго, што людзі перабольшваюць яго поспехі. Кажуць, што ён зрабіў подзвіг. Можа гэта і сапраўды так, бо не дарма ж яго трохметровае кукурузнае трысцё ў беларускім павільёне на выстаўцы ў Маскве. Не дарма пра яго справы пайшла такая гучная слава.

А яго паплечнікі-механізатары лічаць: «Які там герой. Працаваў чалавек, як для сябе, шчыра і — усё тут геройства». Іншы раз чуецца і такое: «Пеклаваўся хлопец, не знаючы спачыну, бо сям'я, хатка старэнькая, ледзь ліпіць — трэба ж капейку зарабіць...»

І Уладзімір лічыць, што такое геройства, такія вынікі працы па сіле кожнаму, хто працуе з ім побач. Такім героем можа быць кожны савецкі чалавек, які не пашкадуе сілы для калектыву, які палюбіць сваю справу. Няхай бы гэта была не кукуруза, няхай Уладзімір карчаваў бы пні на балоце ці даглядаў жывёлу — ён усюды, на кожнай рабоце працаваў бы на ўсю сілу, з поўнай нагрузкай. І, канешне, справа тут не ў капейцы, не ў тым, што ён яшчэ малады гаспадар.

У яго такі характар. Ён не можа працаваць інакш. Ён ведае добра, што камуністычная чаша багацця хутчэй будзе поўная, калі кожны з нас папрацуе ад душы, папрацуе дзеля шчасця людзей!

— Мая аўтабіяграфія вельмі кароткая, — расказваў пра сябе Уладзімір на тых перадвыбарчых сходах. — Нарадзіўся ў Навасёлках у 1933 годзе. І вырас сярод сваіх людзей. Скончыў сямігадовую школу. Паступіў у камсамол. Адслужыў вайсковую службу. Паступіў у школу механізацыі сельскай гаспадаркі. Вярнуўся ў родную вёску. Працую трактарыстам у саўгасе. Узначальваю механізаванае звяно. Вучуся ў вячэрней школе. Маю двое дзяцей. Вось і ўсё.

Уладзімір бянтэжыцца. Чырванее. Выцірае хусцінкай спацелы твар. Яму цяжка гаварыць. І сапраўды, — такая кароткая аўтабіяграфія. А пражыта ўжо, здаецца, не мала. Людзі ж свае і так цябе зразумеюць. Хіба раскажаш, як вайною дзевяцігадовым хлапчуком ты жыў у лесе, галадаў з імі ў зямлянках, як аднойчы ледзь не загінула маці, пайшоўшы з лесу назбіраць на сядзібе бульбы. А як жылі першыя гады, вярнуўшыся з лесу на голае папялішча! І яны, хлапчукі, упрагаліся ў плуг разам з маткамі. Хіба раскажаш пра тое, што ты не знаў з маленства бацькоўскае ласкі, хоць твой бацька жыве побач, праз колькі хат.

Перажыта, выходзіць, не мала. Усё гэта мінулае. А мінулае хто згадае, як гаворыць прымаўка, таму вока вынь. Але ж хто і забудзе, таму абодва — выкалі!

І кукуруза, вырашчаная летась, і заваяваная слава — усё гэта мінулае. Пройдзен шлях. Заваяваны рубеж. А колькі яшчэ такіх рубяжоў наперадзе. І іх трэба адолець, каб выйсці на шырокае поле будучыні.

Уладзімір пазірае ў акно, дзе, нібы праз сонца, сеецца дробны сняжок-пацяруха, і ў галаву сляпіцай лезуць думкі: «Як ён там, мой напарнік-цёзка, адзін без мяне ўпраўляецца? Сумнавата яму, канешне, без мяне. А надвор'е якое! Пакуль не раскісла балота, хутчэй бы торф выцягнуць. Добра было б, каб і мінеральныя ўгнаенні вывезці...»

І Уладзімір спяшаецца ў Навасёлкі, дадому. З парога коратка кідае жонцы:

— Дубіна не заходзіў? Як ён там — змагаецца?

— Бачыла сёння, паўз хату ехаў з карамі, — адказала Маруся і з дакорам: — Ты сядай, спачатку паабедай, а потым пагаворым...

— Некалі! Пагаворым увечары, Марусечка, — Уладзімір прысаджваецца да стала. Перабірае газеты, пакуль жонка падасць абед. — Бачыш, надвор'е якое... Трэба спяшацца — вясна і не агледзішся, як падскочыць. Некалі!..

— Дык што, ты адразу на балота?

— Але, Марусечка, трэба, — пайду сам пагляджу, як там мой цёзка, як іншыя хлопцы. Можа экскаватар ім трэба будзе падкінуць...

Маруся ведае, што Валодзю лепш не пярэчыць. Асабліва цяпер, калі ён узяў і на гэты год высокія абавязацельствы. І слова

цвёрдае даў у Мінску, на нарадзе перадавікоў, паабяцаў Мікіту Сяргеевічу Хрушчову на ўсёй плошчы, замацаванай за звяном, вырасціць пачаткі кукурузы. Паабяцаў таксама дамагчыся па 50 цэнтнераў сухога зерня. Нялёгкая задача. Але ж Маруся ведае, што яе чалавек справіцца. Яна будзе зноў з ім, на новым рубяжы, які таксама будзе адолены.

Толькі закралася адно сумненне ў жончына сэрца: ці возьмецца ён летам за новую хату. Ужо ж і білет выпісаны на лес. Нешта астыў чалавек да гэтай ідэі. Асабліва цяпер, калі яго выбралі дэпутатам у Вярхоўны Савет СССР. Спрабавала гаварыць, а ён толькі моршчыцца, нібы яму зуб баліць, і махае рукой: пачакай, паспеем! Можа сёння яму напомніць?

Маруся прысела побач, асцярожна пачала гаворку пра хату:

— Валодзя, можа ты схадзіў бы да дырэктара. Пагаварыў бы... Бачыш жа сам, як у гэтай цеснаце... І госці цяпер часта наязджаюць — проста сорам нам будзе...

— Ат, ты ўсё сваё! — спачатку быў рашыў адмахнуцца ад жонкі, але адчуў, што так будзе няправільна, трэба ёй сказаць усё, як ён думае. Памаўчаўшы, Уладзімір загаварыў, падбіраючы словы:

— Я ведаю, што нам будавацца трэба. Ведаю і думаю сам. Але і ты ж сама памяркуй. Як паглядзяць на мяне людзі, суседзі нашы, калі я цяпер не торф буду вазіць на поле, а сабе лес на хату. Скажуць: «Нічога сабе, дэпутат, адразу за харомы ўзяўся!..» Ды і наогул, мне здаецца, драўляную хату не будзем зачынаць. Вунь дырэктар гаварыў, што з цэглы будзем рабочым ставіць дамы. А што — не блага, цагляныя дамы! Здорава! Як ты думаеш?

Маруся кіўнула ў знак згоды. Чамусьці ўсплыла на памяць смешная пагаворка: «З любым і ў шалашы — рай». Яе твар пасвятлеў.

— Глядзі, Валодзя, як лепей. Ты ж — гаспадар!

Ужо накінуўшы на плечы ватоўку, Уладзімір сказаў сваёй вернай сяброўцы і пра тое, што яго моцна непакоіць у апошні час.

— Разумееш, Маруся, — задумліва гаварыў ён, нібы разважаючы сам з сабою. — Мяне ўсё больш палохаюць гэтыя паездкі. Вельмі ж іх ужо многа. Іншы раз — трэба, а іншы — толькі час змарнуеш. Гэта ж выклікалі ў Мінск, каб уручыць грамату ЦК камсамола, а чатыры дні і змарнаваны. Дні ж ідуць. Іх не вернеш. Можа так стацца, што славу заваюеш, а ўтрымаць не здолееш!..

— Цяпер жа будзе яшчэ больш гэтых паездак, — паспачувала жонка і жартам дадала: — Можа ўжо і мне трэба было б у звяно запісацца?

— Нічога, справімся, — кінуў Уладзімір і, памаўчаўшы, дадаў: — Дэпутацтва — гэта іншая справа. Гэта воля народная!

* * *

Прыгрэла веснавое сонца. Уладзімір Жудро сярод землякоў-таварышаў. Вясёлы, жыццерадасны. Каржакаваты здаравяк. У кутках вуснаў — разумная, стрыманая ўсмешка...

Трактарысты вітаюцца, жартуюць. Ляпаюць адзін другога па плячах. Перакідваюцца кароткімі словамі-жартамі:

— Не задзірай носу толькі, Валодзя!..

— Цяпер давай, братко, у майстэрню на месца нашага Цэйкі. Глядзі, нас хутчэй дэталямі надзеліш...

Жудро збянтэжана ўсміхаецца і хмурыцца. Здаецца, жарт, а і ў ім ёсць зерне праўды.

І подбегам ускочыў на трактар. Паслухаў, як працуе матор. Усміхнуўся.

— Цёзка, злазь, — бадзёра крычыць ён напарніку. — Як тут у цябе, парадак? Малайчына! Дай я разок праедуся. Давай, Валодзька, адпачні крыху!..

Трактар паслухмяна крануўся і нібы паплыў на лёгкіх хвалях. Уладзіміра абдало знаёмым дымком.

У добры час, цудоўны хлопец з Палесся!

**Сцяпан КУХАРАЎ.**

Саўгас «Навасёлкі»
Капаткевіцкага раёна.

# *Гары, камсамольскі агеньчык!*

## ГАВОРАЦЬ ДЭЛЕГАТЫ КАМСАМОЛЬСКАГА

**Мы часта марым пра будучыню. Мы часта спрачаемся пра яе. Але, занятыя працай і вучобай, занятыя надзёнымі справамі, мы часам не заўважаем таго, што парасткі светлай будучыні камунізма ўжо відны сёння: яны — вакол нас, яны — у саміх нас. Яны дужэюць, сагрэтыя святлом Праграмы, што прыняў XXII з'езд партыі камуністаў. Яны, гэтыя парасткі, — у нястомнай працы ўдарнікаў камуністычных брыгад. Яны — у няспынным імкненні моладзі да ведаў, у нястрымным жаданні быць заўтра лепшымі, чым сёння, дужэйшымі фізічна, святлейшымі духоўна, чысцейшымі маральна. Прыслухайцеся, прыглядзьцеся, і вы адчуеце, як дружна прабіваюцца гэтыя парасткі, зліваючыся ў прыгожую рунь заўтрашняга дня.**

**Наш час — бурны час. Кожная чарговая вясна — гэта не толькі вясна прыроды. Гэта — вясна новых здзяйсненняў касманаўтаў і землепраходцаў, хлебаробаў і будаўнікоў, вучоных і мастакоў. Сёлетняя вясна — вясна маладосці. У Маскву на XIV з'езд камсамола сабраліся з усіх куткоў нашай Радзімы пасланцы камсамольскіх арганізацый — лепшыя з лепшых маладыя будаўнікі камунізма, тыя, пра каго ў 1920 годзе неўміручы Ленін гаварыў: «Вы павінны быць першымі будаўнікамі камуністычнага грамадства сярод мільёнаў будаўнікоў, якімі павінны быць кожны малады чалавек, кожная маладая дзяўчына».**

**Дэлегатам чатырнаццатага Усесаюзнага з'езда камсамола — слова ў нашым часопісе.**

## ЖЫЦЦЁ ПУЛЬСУЕ



Вялікае, прыгожае наша жыццё. Калі пяць год назад, скончыўшы сярэднюю школу, я паступіў на Рэчыцкі фанерна-мэблевы камбінат, мяне акружылі шчырым клопатам і ўвагай. Мне памаглі набыць прафесію сталяра. Калі я добра авалодаў сваёй справай, мне даверылі шыпарэзны станок, на якім я працую цяпер.

Здаецца, яшчэ зусім нядаўна запалілі маскоўскія паравознікі першую іскру спаборніцтва за камуністычную працу, а сёння гэтыя іскры разгарэліся магутным полымем па ўсёй краіне. Толькі ў нашым горадзе ў выдатным руху сучаснасці ўдзельнічаюць звыш 5 тысяч рабочых. Многія, у тым ліку і я, ужо заваявалі званне ўдарніка камуністычнай працы. Мы штодзённую норму выконваем на 120 працэнтаў, забяспечваем выдатную якасць прадукцыі, эканомім сыравіну і матэрыялы. Усе нашы камсамольцы абавязаліся датэрмінова завяршыць заданне чацвёртага года сямігодкі.

Рабочая моладзь — прагная да ведаў. У лесатэхнічным інстытуце, напрыклад, на завочным аддзяленні вучыцца работніца цэха Людміла Скотчанка, у тэхнікуме — Віктар Валанцэвіч і Ганна Тачыленка. Васіль Герашчанка, Аркадзь Самаль, Мікалай Котаў ходзяць у вячэрнюю школу рабочай моладзі.

Словам, жыццё пульсуе крыніцай.

**Леанід БАГАЦКІ,**
рабочы Рэчыцкага фанерна-мэблевага камбіната.

# ТУТ Я ВЫРАСЛА



У нас на ферме працуе шмат моладзі. У тым, што калгас ідзе першым у раёне па вытворчасці малака, вялікая заслуга нашага калектыву камуністычнай працы. Даярка Марыя Бабко надаіла летась па 2 738 кілаграмаў малака на кожную фуражную карову, а Валя Наркажанава — па 2 411.

Усе нашы дзяўчаты — актыўныя ўдзельніцы мастацкай самадзейнасці. Спытайце ў Імянінскім сельскім доме культуры, хто лепшы запявала, і вам адкажуць: Аня Мурашка. Палюбіліся аднасяльчанам звонкія галасы Валі Міхальчук і Ніны Мурашка.

З дзяцінства парадніліся я з калгасам. Тут я вырасла, тут атрымала сярэднюю адукацыю, адсюль павяла мяне сцяжынка ў сельскагаспадарчую акадэмію, тут упершыню спазнала я радасць працы. Таму закончу вучобу — і застануся ў сваім калгасе, дзе вельмі патрэбны спецыялісты. А пакуль што буду па-ранейшаму працаваць даяркай. У чацвёртым годзе сямігодкі абавязалася надаіць па 2 800 літраў малака ад кожнай каровы. Шчырая падтрымка старэйшых таварышаў, узаемная дружба памогуць мне стрымаць слова. Мы не толькі памагаем адна другой, а і шэфствуем над фермай суседняга калгаса імя Энгельса. Бываем там, дзелімся сваім вопытам, разам выкараняем недахопы.

Усведамленне таго, што мы будуем камунізм, акрыляе і натхняе нас. Мы сваёй працай будуем яго, і няхай моладзь усёй зямлі зайздросціць нам.

**Вольга ПУГАЧ,**
даярка калгаса «Радзіма»
Драгічынскага раёна.

# БУДУЕМ ДЛЯ МІРУ



Усесаюзнаму форуму камсамольскага юнацтва рыхтуюць свае падарункі і рабочыя нашага будаўнічага ўпраўлення. Гэта будуць жылыя дамы і вытворчыя памяшканні ў Пінску і Лунінцы, у Століне і Лагішыне, у Целяханах...

У нашай камсамольскай арганізацыі шэсцьдзесят пяць юнакоў і дзяўчат. Чатырнаццаць маладых будаўнікоў заваявалі званне ўдарнікаў камуністычнай працы. Можна было б пералічыць і тых, хто змагаецца за гэтае пачэснае званне. Але цяжка, нават зусім немагчыма злічыць тыя мільёны цаглін, што пакладзены іх маладымі рукамі ў сцены будынкаў. Наш калектыў ганарыцца Мікалаем Шаўчэнкам, Уладзімірам Дзям'яненкам, Нінай Ахрамчук, Любай Коўжун, Аняй Мішынай, Любай Фёдаравай.

Сярод муляроў, якія будуюць новы дом на плошчы імя Леніна ў Пінску, вылучаюцца сваёй выдатнай працай Георгі Станкевіч і Вольга Кулішэвіч. Тым, хто адшукае наш горад на карце, можа спачатку ён і ўявіцца закінутым недзе ў палескіх лясах і балотах. А мы, пінчане, зусім іншай думкі. Наш горад расце, прыгажэе. Хутка будаўнікі возьмуцца за рэканструкцыю фанерна-запалкавага камбіната і суднарамонтнага завода. Замест старых, тут узнімуцца светлыя карпусы са зборнага жалезабетону. На месцы былой турмы мы будуем завод кармавога біяміцыну. Расце гмах сярэдняй школы на Ліцейнай вуліцы.

Мы любім будаваць. Не толькі таму, што гэта наша прафесія. Мы будуем дамы, у якіх будуць жыць людзі пры камунізме. Мы заўсёды памятаем пра гэта і самі



вучымся жыць па-новаму. Вучымся ў гуртках і вячэрніх школах, у тэхнікумах і інстытутах. Галоўнае ж для нас, гэта вучоба і выхаванне ў працы, імкненне будаваць лепш, хутчэй, прыгажэй. Вось чаму мы ўсяляк стараемся падтрымліваць, развіваць у рабочых і спецыялістаў творчую думку.

Адзін з прыкладаў. Іглавыя пляцоўкі на ачышчальных збудаваннях горада па праекту прадугледжваліся складанымі і дарагімі. Камсамольцы-рацыяналізатары доўга думалі над гэтым і знайшлі сваё рашэнне: дарагія прывозныя матэрыялы будуць заменены мясцовымі. Гэта дасць 3 700 рублёў эканоміі.

Мы ўзнясём пад аблокі на сваім вяку яшчэ шмат дамоў і заводскіх карпусоў. Гэта будуць дамы для мірных жыхароў, заводы для мірнай прадукцыі. Калі ж спатрэбіцца, мы здолеем абараніць ад ворага тое, што створана нашымі рукамі, бо мы будуем для міру, для людскога шчасця.

**Васіль ХВЯДЧЭНЯ,**
прараб БУ-35. г. Пінск.

# ГЭТА—ЦУДОЎНА



XIII з'езд ВЛКСМ я сустракаў студэнтам Смальянскага сельскагаспадарчага тэхнікума. Цяпер працую сакратаром Аршанскага гаркома камсамола. У гэтым годзе буду здаваць экзамены за другі курс Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Займаецца на трэцім курсе Віцебскага педінстытута і мая жонка.

Амаль шаснаццаць тысяч юнакоў і дзяўчат Оршы аб'ядноўвае ў сваіх радах наша камсамольская арганізацыя. Новыя сілы, жаданне працаваць на карысць Радзімы выклікаў у камсамольцаў Аршаншчыны XXII з'езд партыі. За званне ўдарнікаў камуністычнай працы змагаецца каля сямі тысяч камсамольцаў нашага раёна. Звыш пяцісот членаў камсамола ўжо заслужылі гэта пачэснае званне.

Наша пакаленне будуе камунізм і будзе жыць у новым грамадстве. Гэта—цудоўна!

**Яфім БУЛЫНА,**
сакратар Аршанскага гаркома ЛКСМБ.

# ЧАСЦЕЙ ПАДЛІЧВАЦЬ



Да самых драбніц памятаю першае снежня 1960 года. Для мяне гэты дзень быў такі ж знамянальны, як дзень, калі я атрымаў інстытуцкі дыплом, як дзень, калі пачаў самастойную працу. Такі і не зусім такі...

У тую снежаньскую раніцу я ўпершыню прыйшоў на саўгасную свінаферму. Недзе ў канторы засталіся ляжаць запоўненыя «гросбухі» і лічыльнікі. Я ўжо не бухгалтар. Мне даручылі свінаферму, тую самую, дзе за апошнія гады змянілася каля дзесяці загадчыкаў.

Часам былі і сумненні. Асабліва, калі слухаў разважанні сваіх папярэднікаў, што свінагадоўлю ў саўгасе цяжка вывесці з заняпаду. Часам брала злосць на тых, хто пакінуў такую незайздросную спадчыну: чатыры цэнтнеры свініны на сто гектараў ворыва.

Не буду гаварыць пра цяжкасці, якія давялося пераадольваць. Працаваў без заатэхніка, без практычнага вопыту. Памаглі паездкі да суседзяў, памаглі кнігі, і галоўнае — памаглі людзі, з якімі разам працую.

Летась мы атрымалі свініны ў два з палавінай раза больш, чым у 1960 годзе. Падняўся настрой у людзей, перамянілася становішча на ферме. Улетку сюды пачалі прыязджаць свінаводы з усяго раёна. Гэтак, як і сам я ездзіў нядаўна за вопытам да іх.

Сёлета ў адным толькі студзені на свінаферме было атрымана тысяча парасят — гэтулькі, колькі іх атрымалі за ўвесь мінулы год.

Да дня адкрыцця камсамольскага з'езда мы абавязаліся адкарміць і здаць дзяржаве пяцьсот свіней. І мы стрымаем сваё слова. Мы ўпэўнены ў гэтым, бо хлопец ці дзяўчына, якія працуюць на ферме, кожны дзень падводзяць вынікі і ставяць перад сабой пытанне: які наш уклад у сямігодку, што мы зрабілі для набліжэння светлай камуністычнай будучыні?

**Мар'ян ВАСІЛЬКЕВІЧ,**
загадчык свінафермы саўгаса «Пагранічны»
Гродзенскага раёна.



**Генадзь БУРАЎКІН**

# ЛЯЦІ НАПЕРАД, ПАРАВОЗ

**Герою Сацыялістычнай Працы Фёдару Фадзееву і яго сябрам.**



Дарогі... Дарогі... Дарогі
Здаўна паланілі мне сэрца.
Без далечы іхняй
убогім
І нудным жыццё мне
здаецца.

То сосны,
то чыстыя рэкі,
То верас,
то раптам шыпшына.
То гулкія срэбныя рэйкі,
То ў пыле дарожным машына.

То ранне,
то стомлены вечар,
То слота,
то вецер у грудзі...
І радасныя сустрэчы,
І новыя добрыя людзі.

Я ўдзячны,
што з месца на месца
Дарогі мяне насілі
І зноў прывялі да Брэста
І ў ранішні рэйс запрасілі.



Фадзееў паглядае весела:
— Ну,
вось мой дружа-паравоз,
З якім нас на дарогах трэсла,
З кім столькі грузаў перавёз...

У будцы цёпла і зацішна,
Прыбраны дбайна кожны кут.
Утульна —
і нічога лішняга,
Як у салдата ў рукзаку.

І вось
дыхнуў нарэшце парай,
Як быццам крэкнуў,
паравоз,
Штуршком,
нібы цяжкім ударам,
Скрануў ён свой даўжэзны
**воз.**
Ляніва неяк,
упаўсілы,
Нібы спрасоння,
поўз цягнік —
І колы хуткасці прасілі,
Прасілі задніх:
«Да-
га-
ні!»
І пара ўсё глыбей, спакойней,
Прывольней дыхаць пачала —
Яе клубы
як грывы коней,
На рэйкі рваліся з катла.

І колы радасна загрукалі,
Загаманілі ўсё байчэй,
І поршні,
як баксёра рукі,
Замітусіліся шпарчэй.

Назад слупы хутчэй
пакрочылі
І копы ў ранішняй расе.
Дубы —
і тыя —
ўслед з абочыны
З павагай зашумелі ўсе.

І у душы шырэў і рос,
Дарогаю наструнены,
Напеў:
«Ляці, наш паравоз!»
Да станцыі Камуна...

* * *



Вясёлы народ шафёры,
Шчаслівы народ шафёры...
Хутчэй садзіся ў кабіну
Ды націскай на газ —
І кінуцца проста пад шыны

Блакіты,
вятры
і прасторы,
І ўстрапянецца раптам
Стары прыдарожны вяз.
Імклівыя кіламетры,
Зялёныя кіламетры...
Што жэзлы рэгуліроўшчыкаў,
Мільгаюць слупы па баках.
Пад колы —
то тракты дрогкія,
То чорны асфальт нагрэты.
І толькі напнуцца жылы
На загарэлых руках.

Не з нейкім гандлярскім друзам,
А з важкім рабочым грузам
Насустрач дажджам і сонцу
Машына ляціць бальшаком,
І толькі на паваротах
Заносіць запылены кузаў,
І толькі пякучая смага
Стаілася за кадыком.

Вясёлы народ шафёры,
Шчаслівы народ шафёры...
Ледзь ступіш,
цяжкі і зморany,
За ціхі дамашні парог, —
Як зноўку цябе паклічуць
Рамантыка сініх прастораў,
Расхрыстаны золкі вецер
І цяжкасці дальніх дарог...

## ЗАВЯШЧАННЕ

**Героям-камсамольцам Обаля**

Няма над вашай магілай помніка.
Голы,
Невысокі грудок
ад вятроў і дажджоў парыжэў,
Але мы чуем,
мы чуем ваш голас —
І ён для нас
за ўсе помнікі даражэй:
«Дарагая зямля!
Надыходзіць з табою расстанне.
Ты вельмі прыгожая сёння,
Хоць і дождж асенні імжыць.
Хутка будзе світанне.
Хутка нас на зямлі не стане.
Людзі!
Помніце, людзі, —
Нам вельмі хацелася жыць.
Мы ў сваёй біяграфіі
Не закончылі першай старонкі.
Яна чыстая-чыстая
Перад намі ляжыць.
Нас не будзе,
А на зямлі расцвітуць рамонкі.
Мы любілі рамонкі.
Нам вельмі хацелася жыць.
Калі скажуць,
Што мы баяліся смерці, —
Не верце,
Мы будзем спяваць перад смерцю —
І голас не задрыжыць.
Толькі, чуеце, —
Мы завяшчаем
жыццём і смерцю —
Вы не маеце права
Дрэнна і мала жыць.
Нам жа вельмі хацелася жыць,
Па-сапраўднаму жыць...»

* * *

На двары яшчэ сярдзіты студзень,
Недзе грэюць крылы жураўы.
А мне штосьці перапоўніў грудзі
Захмялелы вецер веснавы.
Ён бушуе,
сіні і крылаты.
І, магчыма, гэта не к дабру.
Я ўжо больш як тры гады жанаты —
Аб каханні ж глупствы гавару.
Я шапчу ізноў прызнанні жонцы,
Што заснула на маёй руцэ,
І чакаю,
калі ўспыхнуць сонцам
Зноў вяснушкі на яе шчацэ...



## ЗАПАВЕТНАЯ МАРА



Скончыла я сем класаў і пайшла працаваць у звяно, якім кіравала мая маці.

Летась кожны гектар даў па 7,4 цэнтнера льносемя і па стольки ж валакна.

Добрую вырасцілі мы і кукурузу — па 720 цэнтнераў зялёнай масы з гектара сабралі.

Я ездзіла ў Маскву на Выстаўку дасягненняў народнай гаспадаркі СССР. Гутарыла там з майстрамі па вырошчванню высокіх ураджаяў ільну і кукурузы.

У нас многа спраў. Маладыя хлебаробы калгаса абавязаліся вывезці пад будучы ўраджай 20 тысяч тон угнаенняў. Створана тры брыгады. Больш за ўсіх вывезлі члены нашай брыгады.

У мяне асабіста шмат планаў на будучае. Хачу дагнаць, а можа і перагнаць знатную звеннявую на Талачыншчыне Ганну Логвінаўну Іванюту. Мы з ёю спаборнічаем. Сёлета паступіла ў Лужаснянскі сельскагаспадарчы тэхнікум. Хачу і я стаць адукаваным спецыялістам сельскай гаспадаркі.

**Зіна ГАЙДУКЕВІЧ,**
звеннявая калгаса імя Заслонава Талачынскага раёна.

**Эдуард ЮШКЕВІЧ**

# АТРАДЫ ВЫЙШЛІ НА ПАЛІ

## ТАВАРЫШ КАМІСАР

На двары была адліга. Мокрыя сняжынкі павольна кружыліся ў паветры, прыставалі да шыб і сплывалі па шкле буйнымі кроплямі.

Леанід адклаў паперы. Была адзінаццатая гадзіна вечара. Не хацелася выходзіць на вуліцу — на вецер і снег. Але ж не начаваць жа ў канторы.

Наперадзе — два кіламетры знаёмай дарогі дадому. Леанід любіць густыя прысады абапал яе. Аблепленыя снегам дрэвы сёння нагадваюць пеністыя фантаны, якія неяк нечакана выбіліся з-пад зямлі і высока ўзняліся ў неба.

Разам з імглістага снежнага мораку выйшла нейкая постаць і заступіла дарогу:

— Пачакай, камісар...

Леанід прыгледзеўся:

— Ты, Багдан?

— Я. Памажы. Здзіслаў захварэў. Не будзе каму заўтра працаваць у полі.

Леанід прыбавіў крок. Ён ужо не звяртаў увагі на вецер і снег.



Да брыгадзіра-палявода Антона Якаўлевіча Пучынскага (справа) едуць вучыцца калгаснікі ўсёй Віцебшчыны.



— А на заўтра мароз бярэцца... — сказаў ён быццам самому сабе, але Багдан адчуў у іх і шкадаванне, што захварэў трактарыст, і роспач, што заўтра дарэмна дзень прападзе.

— Не тужы, Леанід. З другога атрада згодзяцца памагчы. Толькі трэба пад'ехаць у суседнюю вёску...

Моўчкі падышлі да стайні.

— Гэй, конюх! Запрагай каня! — крыкнуў у цёплую цемрадзь канюшні Леанід Кучыц.

— А ты хто такі? — пачуўся адтуль незадаволены голас. Конюх падышоў бліжэй: — А-а, камісар...

Праз некалькі гадзін Леанід быў ужо ў суседняй вёсцы. Вярнуўся адтуль раніцай з групай юнакоў і дзяўчат. Яны памаглі першаму атраду вазіць і кампаставаць угнаенні.

А пачалося такое даўно. У глухі асенні вечар камуністы і камсамольцы калгаса сабраліся, каб параіцца, як працаваць далей, як практычна ажыццяўляць рашэнні XXII з'езда партыі. Гаварылі пра кукурузу, пра тое, што трэба зрабіць, каб яна стала невычэрпным дном калгаснага багацця.

Звяно. Добра, калі яно згуртаванае, баявое, моцнае. Але такіх звенняў — пакуль што адзінкі. Былі звеннявыя, а звенняў не было. Як камандзіры без салдат, звеннявыя адны змагаліся на кукурузным фронце. Вось чаму леташні год і не прынёс высокіх ураджаяў. Ды і там, дзе працавалі ўсім звяном, усё роўна не неслі адказнасці за перадпасяўную апрацоўку і ўгнаенне глебы, а пачыналі работу толькі з сяўбы.

А што, калі замест звенняў стварыць ударныя атрады. Падабраць туды людзей энергічных і баявых, якія ведаюць цану кукурузе. Далучыць да звяна і групу механізатараў па нарыхтоўцы і вывазцы ўгнаенняў.

Такім чынам, атрад будзе адказваць за ўвесь комплекс работ па вырошчванню кукурузы. У атрадзе будзе свая партыйна-камсамольская група, будуць камандзіры і камісары.

Камісар, як палітычны работнік атрада, павядзе юнакоў і дзяўчат у адказны паход.

Вось аб гэтым і гаварылі на партыйна-камсамольскім сходзе калгаса «Герой працы». Пагаварылі і стварылі атрады. У той вечар і стаў малады камуніст, калгасны эканаміст Леанід Кучыц, камісарам першага атрада. Камісарам другога атрада быў прызначаны брыгадзір-палявод, член партыі Станіслаў Малей. Памочнік брыгадзіра трактарнай брыгады камуніст Дзмітры Гаўрылаў стаў камісарам чацвёртага атрада.

І ўжо назаўтра ў маладзёжных атрадах закрынічыла жыццё. Да камандзіра першага атрада камсамольца Багдана Іканавіча сабраліся яго «падначаленыя». Камісар Леанід Кучыц гаварыў пра кукурузу, цукровыя буракі, пра невысокія ўраджаі ў калгасе, пра тое, што трэба заўсёды памятаць словы Мікіты Сяргеевіча Хрушчова, сказаныя ім на нарадзе работнікаў сельскай гаспадаркі Казахстана ў лістападзе мінулага года: «Так, таварышы, і збожжа, і кукуруза, і мяса, і малако маюць самыя прамыя і непасрэдныя адносіны да палітыкі». Калі юнакі і дзяўчаты разыходзіліся, Багдан Іканавіч моўчкі, ад усёй душы, паціснуў руку Леаніду.

Камісар — заўсёды ў сваім атрадзе. Ён першы арганізаваў вывазку ўгнаенняў на палі, першы прапанаваў збіраць попел. Што ні дзень — то новая прапанова. І само жыццё Леаніда напоўнілася нейкім новым, вялікім зместам. З трыбуны пленума райкома камсамола прагучалі яго словы, якія былі запісаны потым у зварот глыбоцкіх камсамольцаў да ўсіх кукурузаводаў рэспублікі:

«Камісар... У штурмавыя перыяды гісторыі нашай сацыялістычнай дзяржавы ён нёс народу палымянае слова партыі. На франтах войнаў, якія абрушваліся на нашу краіну, ён узнімаў і вёў людзей у атакі, у смяротны бой...

А хіба барацьба за кукурузу для нас не фронт, не баявая задача? Хіба кукурузнае поле не становіцца месцам масавага подзвігу і геройства?»

Гэтыя словы звароту дайшлі ў калгасы «17 верасня», імя Леніна, «Парыжская камуна», «Новы шлях»... Узнікалі ўсё новыя і новыя атрады. І вось ужо іх 50, 60,



**Зіна Фёдарава — сакратар камітэта камсамола калгаса «17 верасня».**



**Валя Храпавіцкая — кукурузаводка калгаса імя Энгельса.**



**Ганна Шчэбет — кукурузаводка калгаса імя Энгельса.**

КАМІСАРЫ ЎДАРНЫХ АТРАДАЎ

70... Выпрацоўваюцца ўмовы спаборніцтва, наладжваецца вучоба.

І ўсё часцей на палявых дарогах, дзе расцягнуліся абозы з угнаеннямі, ля фермаў, у свірнах можна пачуць раней незнаёмае слова:

— Паслухай, таварыш камісар...

### НАРОДНАЯ ШКОЛА

Гэта быў памятны дзень у жыцці Антона Якаўлевіча Пучынскага, 68-гадовага хлебароба калгаса «Парыжская камуна». У госці да яго з'ехаліся сотні юнакоў і дзяўчат з усяго раёна. Чаму іменна гэты калгас райком камсамола выбраў месцам для правядзення свайго пленума?

Гаманлівая моладзь акружыла старога. Юнакі і дзяўчаты прыехалі сюды навучыцца вырошчваць высокія ўраджаі кукурузы на зерне.

На нейкі час Антон Якаўлевіч адлучыўся з клуба. Вярнуўся ён з кашом залатых кіяхоў. Гэта — плён шматгадовых пошукаў калгаснага селекцыянера! Кіяхі пайшлі з рук у рукі. Іх узважвалі, пільна разглядалі. Дзіва ды і годзе, на глыбоцкай зямлі кубанскія ўраджаі! Навошта ж далёка ездзіць па вопыт? Ён побач, у руках сапраўднага калгаснага энтузіяста.

Доўга гутарылі з Антонам Якаўлевічам. Ён пераконваў моладзь, што можна атрымліваць спелае зерне. Толькі трэба зямлю падабраць умела ды як след апрацаваць яе. А ў канцы сваёй гутаркі прызнаўся, што радасна яму пад старасць мець столькі вучняў. Маладыя кукурузаводы заявілі старому, што на ўсіх 2 000 гектарах, адведзеных пад кукурузу на зерне ў раёне, абавязкова будзе атрыманы высокі ўраджай.

Калі госці раз'ехаліся, да Пучынскага завітаў камісар чацвёртага атрада калгаса «Парыжская камуна» малады камуніст Мечыслаў Гірын.

— Толькі вы ў нас і ўмееце атрымліваць спелае зерне. У астатніх жа брыгадах нешта не ладзіцца. Быццам у розных калгасах жывём.

— Трэба падвучыць людзей і ў



тых брыгадах, — сказаў Пучынскі. — Памагчы ім, падзяліцца сваім вопытам я хоць сёння гатовы.

Камсамольцы ўхапіліся за гэтую прапанову. Неўзабаве праўленне калгаса пастанавіла: адкрыць народную школу Антона Пучынскага. І вось кожны панядзелак члены ўсіх шасці ўдарных маладзёжных атрадаў пачалі з'язджацца ў калгасны палац культуры. Сюды прыходзіў і Антон Якаўлевіч. Вялікі ў яго вопыт, шматназіранняў. Па 60 цэнтнераў сухога зерня сабраў ён летась на кожным гектары! Кроплю за кропляй гэтае ўменне перадае ён маладой калгаснай змене.

Позна свецяцца агні народнай школы, вабяць да сябе людзей з блізкіх і далёкіх брыгад.

### РАЗГАРАЕЦЦА ДОБРЫ ПАЧЫН

Пра задумы і справы камсамольцаў калгаса «Парыжская камуна» даведаліся ва ўсім раёне. Не прайшло і тыдня, як былі створаны народныя школы ў калгасах «За Радзіму», імя Леніна і «Перамога». Сваім вопытам падзялілася маладая кукурузаводка калгаса «За Радзіму» Соня Лісецкая і звеннявая Вера Якубаўна Шкорнік.

Нават жыхары райцэнтра і тыя ведаюць пра клопаты калгасных энтузіястаў. У вучылішчы механізацыі яшчэ з восені працуе факультэт маладых кукурузаводаў, арганізаваны на грамадскіх пачатках. Тут юнакі і дзяўчаты вывучаюць агратэхніку, вучацца працаваць на машынах. Інжынеры і тэхнікі саўгаса «Варапаева» вучаць механізатараў-кукурузаводаў з усяго раёна, як атрымліваць дакладныя квадраты, як механізаваць апрацоўку пасеваў.

На дарогах Глыбоччыны амаль штодзённа можна сустрэць незвычайных спадарожнікаў. Пешшу, на фурманках або спадарожнымі машынамі яны дабіраюцца ў самыя аддаленыя вёскі. Гэта спецыялісты вучылішча механізацыі, якія ўзялі шэфства над калгаснай тэхнікай. Яны падмеліся несці асабі-

КАМІСАРЫ ЎДАРНЫХ АТРАДАЎ



**Соня Лабатая — сакратар камітэта камсамола калгаса «Перамога».**



**Віталь Мацкевіч — трактарыст калгаса імя Энгельса.**



**Ніна Радзько — сакратар камітэта камсамола калгаса «Светлы шлях».**



Памагчы калгасам добра падрыхтавацца да сяўбы падмеліся маладыя выкладчыкі Глыбоцкага вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі Анатоль Гаронак, Фёдар Іваноў, Андрэй Кузьміч і Сцяпан Кухараў.

Фота Ф. Бачылы.

стую адказнасць за якасць работы трактараў і сеялак на сяўбе.

Гарыць, разгараецца агеньчык камсамольскай ініцыятывы ў Глыбоцкім раёне.

На фасадзе Палаца культуры калгаса «17 верасня» вывешан заклік: «Усе — на баль першай баразны!» Неўзабаве моладзь збярэцца сюды, каб павіншаваць атрад пераможцаў, уручыць яму пераходны вымпел, паднесці каштоўныя падарункі. Гэтым балем і закончыцца першы з чатырох этапаў спаборніцтва. Урачыста будуць павіншаваны пазней атрады-пераможцы на сяўбе і доглядзе пасеваў. Для іх будуць наладжаны — «Баль апошняга квадрата» і «Баль чарадзейкі».

Праўленне калгаса і камітэт камсамола прадугледзелі і меры матэрыяльнага заахвочвання. Атрад, які вырасціць на кожным гектары па 700 цэнтнераў зялёнай масы з кіяхамі малочна-васковай спеласці, або 40 цэнтнераў кукурузнага зерня, атрымае званне атрада «Залатыя рукі». Камісар і камандзір гэтага атрада будуць прэміяваны бясплатнымі пуцёўкамі ў дамы адпачынку, астатнія ж атрымаюць каштоўныя падарункі.

Камандзір і камісар атрада, які зойме другое месца ў спаборніцтве, атрымаюць бясплатныя пуцёўкі на Выстаўку дасягненняў народнай гаспадаркі СССР, а членам атрада можна будзе бясплатна прагледзець да 20 кінафільмаў.

Тым жа, хто будзе плесціся ў хвасце, камітэт камсамола ўручыць надзіманага кракадзіла. Гэты «прыз» будзе знаходзіцца ў атрадзе да таго часу, пакуль ён не выправіць недахопы.

Раённы штаб маладых кукурузаводаў, камісарам якога зацверджан першы сакратар райкома партыі Пятро Яфімавіч Рубіс, выпрацаваў умовы раённага спаборніцтва камсамольскіх арганізацый і маладзёжных ударных атрадаў. Для прэміявання пераможцаў будуць набыты камплекты духавых і народных інструментаў, чатыры баяны, а таксама радыёлы, пуцёўкі ў санаторыі і дамы адпачынку.

Добрыя, цікавыя задумы! На двары вясна, а колькі ўжо здзейснена, колькі зроблена! Закладзен моцны падмурак будучых ураджаяў.

Глыбоцкі раён.





Аляксандр Ушаткін.



Марыя Лапко.



Анатоль Кацуба.

# НАРОДНЫЯ ДРУЖЫННІКІ

У цябе, дружыннік, высокая пасада. Ты аддана і бескарыслівa служыш грамадству, ахвяруючы часам і нават рызыкуючы сабой. Ты робіш гэта ў імя таго, каб ачысціць наша вельмі добрае жыццё ад брыдоты, якая перашкаджае нам будаваць светлае грамадства — камунізм.

Мы ведаем шмат прыкладаў тваёй самаадданасці, твайго гераізму. Мы ведаем пра подзвіг Анатоля Гайдука — барысаўскага камсамольца, які ахвяраваў у барацьбе з хуліганамі самым дарагім — жыццём. Мы ведаем пра цудоўныя ўчынкі народных дружыннікаў Мінска, Віцебска, Гродна, Магілёва, пра дружыннікаў раённых цэнтраў, калгасных сёл. З пачуццём гонару за цябе мы даведаліся на першай рэспубліканскай нарадзе актыву добраахвотных народных дружын, якая адбылася ў Мінску, аб тваіх новых слаўных справах.

Выраслі, сталі маналітнымі, моцнымі рады дружыннікаў. Гэта — магутная грамадская сіла, перад якой дрыжаць хуліганы, дармаеды, п'яніцы, спекулянты, зладзеі. Пра гэта гаварыў у дакладзе загадчык аддзела адміністрацыйных органаў ЦК КПБ Г. А. Крыулін, гаварылі і тыя, хто выступаў у спрэчках.

Але гаворка ішла і пра іншае. Пра тое, што трэба прыкласці яшчэ нямала намаганняў, каб забяспечыць поўны парадак у горадзе, пасёлку, вёсцы; пра тое, што людзі з чырвонай павязкай на рукавах павінны карыстацца падтрымкай усёй грамадскасці; пра тое, што дружыннік сёння павінен быць выхавацелем, чалавекам, які здольны ў час, разумна і гуманна папярэдзіць чалавека ад няправільнага кроку, ад дрэннага ўчынку.

Нарада ператварылася ў тваё і наша свята, калі ўручаліся высокія ўзнагароды лепшым з лепшых байцам фронта, які наступае на агіднасці старога свету. І нам хочацца яшчэ раз павіншаваць сакратара камітэта ЛКСМБ Барысаўскага лесхімзавода Аляксандра Ушаткіна, які ўзнагароджан медалем «За адвагу», шліфоўшчыцу Марыю Лапко — намесніка камандзіра народнай дружыны Мінскага трактарнага завода, намесніка камандзіра народнай дружыны, майстра Гомельскай трыкатажнай фабрыкі імя 8-га Сакавіка Анатоля Кацубу, якія атрымалі граматы Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, і ўсіх іншых узнагароджаных.

Гэтыя ўзнагароды яшчэ раз падкрэсліваюць высокае тваё прызначэнне ў грамадстве, народны дружыннік. І за тое, што ты, як сапраўдны патрыёт, па-камуністычнаму разумееш гэта, мы славім цябе!

г. Мінск.

**Аляксандр ШЧАРБАКОЎ.**

## *Навука і культура*



Велічна выглядае галоўны будынак універсітэта.

# УНІВЕРСІТЭЦКІЯ ЎВАХОДЗІНЫ

**Рэпартаж А. Дзітлава**

1921 год. Здзяйсняючы ленінскі дэкрэт, маладая Беларуская Савецкая рэспубліка адкрывае ў сваёй сталіцы універсітэт. Хлопцы ў чырвонаармейскіх гімнасцёрках і рабочых касаваротках, дзяўчаты з глухіх вёсак, учарашнія пастухі і паравозныя качагары садзяцца за парты. Іх бацькі, якія дабіваліся права людзьмі звацца, канчалі ў свой час універсітэты стачак, падпольных сходаў, барыкад. Вялікі Кастрычнік выдаў ім дыплом аб рэвалюцыйнай сталасці. І дыплом гэты забяспечыў ажыццяўленне новага права — вучыцца, авалодваць вышынямі навук. Такая кароткая гісторыя ўзнікнення Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, які носіць імя Уладзіміра Ільіча Леніна.

Прайшло сорак гадоў. З вокан галоўнага корпуса, які ў дні ўніверсітэцкага юбілею ўступіў у строй, відаць стары будынак. Тут першым студэнтам была прачытана першая лекцыя. Цяпер гэты будынак называецца фізічным корпусам. Пасля, у гады першых пяцігодак, былі пабудаваны карпусы — хімічны і біялагічны. І, нарэшце, вырас галоўны корпус — манументальны будынак на плошчы Леніна.

— У нашым універсітэце, — расказвае прарэктар па навучальнай рабоце Андрэй Якаўлевіч Малышаў, — цяпер больш сямі з палавінай тысяч студэнтаў. Сярод іх і вялікая група моладзі, што прыехала ў наш універсітэт з легендарнай Кубы. Яны займаюцца на падрыхтоўчым факультэце тут жа, у галоўным корпусе, дзе размясціліся фізікі, матэматыкі, гісторыкі, студэнты вячэрняга факультэта. Па колькасці вячэрнікі складаюць амаль трэцюю частку ўсяго ўніверсітэцкага «насельніцтва».

Больш дваццаці тысяч квадратных метраў агульнай плошчы галоўнага корпуса займаюць вучэбныя аўдыторыі і лабараторыі. Тут ёсць фундаментальная бібліятэка, багацце якой складаюць больш за паўмільёна тамоў. Гісторыка-археалагічны музей, вылічальны цэнтр, актавая зала на тысячу месц, прасторная, у два паверхі, спартыўная зала з комплексам падсобных памяшканняў... І ўсё гэта ў галоўным корпусе.

Прарэктар гасцінна запрашае прайсціся разам з ім па калідорах новага памяшкання, заглянуць у лабараторыі, паслухаць, пра што гавораць на кансультацыях і лекцыях, паглядзець, чым займаюцца студэнты ў вольны ад заняткаў час.





Студэнты фізічнага факультэта на лекцыі.

У левым крыле памяшкання адбылася нечаканая сустрэча.

— Пазнаёмцеся, калі ласка, — гэта таксама нашы выхаванцы, — не тоячы ўсмешкі, сказаў прарэктар, калі мы параўналіся з двума пажылымі мужчынамі. — Прафесар Фёдар Іванавіч Фёдараў, — назваў ён аднаго з іх. — Прафесар Ілья Рыгоравіч Некрашэвіч, — прадставіў другога. — Самі дзеля сябе рыхтуем выкладчыкаў і іншым памагаем. Кафедру гісторыі Беларусі ўзначальвае таксама наш былы студэнт, а цяпер дацэнт Лаўрэнці Сямёнавіч Абэцэдарскі. У кожнай ВНУ нашай рэспублікі, у Акадэміі навук Беларусі вы сустрэнеце вучоных, якія атрымалі адукацыю ў нашым універсітэце.

— Нашых выпускнікоў, — працягвае далей прарэктар, — можна бачыць выкладчыкамі сярэдніх школ, супрацоўнікамі заводскіх лабараторый і канструктарскіх бюро, у рэдакцыях газет, часопісаў, выдавецтваў, на радыё і ў тэлебачанні. Біёлагі і географы працуюць у сельскай гаспадарцы, даследуюць нетры зямлі, вывучаюць космас...

Мы заходзім у адну з фізічных лабараторый. Каля прыбораў — тры дзяўчыны. Прарэктар тлумачыць:

— Пасля ўваходзін у галоўны корпус мы здолелі вылучыць асобныя лабараторыі студэнтам для самастойнай работы. Павелічэнне аб'ёму самастойных заняткаў, якога нам удалося дасягнуць іменна цяпер, у новым корпусе, складае адну з рысаў перабудовы вучэбнай праграмы, у адпаведнасці з рашэннямі XXII з'езда КПСС. Не менш важнай рысай з'яўляецца і значнае павелічэнне практыкі. Нашы студэнты амаль год знаходзяцца на практыцы.

Пасля пяці гадзін вечара ў галоўны корпус сыходзяцца з усяго Мінска студэнты вячэрняга факультэта. Гэта тыя, хто вучыцца, не пакідаючы працы на прадпрыемствах, ва ўстановах. Для многіх з іх праца з'яўляецца добрай практыкай, як напрыклад для Леаніда Вінаградава.

У адной з лабараторый інстытута фізіка-арганічнай хіміі Акадэміі навук, дзе працуе Леанід, юнака ведаюць як вельмі працавітага, акуратнага супрацоўніка. Не горшы водгук можна пачуць аб ім і ад дэкана факультэта: удумлівы, дысцыплінаваны студэнт, прыкладны староста групы.

Рабочы склада абласнога бібліятэчнага калектара Міхаіл Лявошка сярэднюю адукацыю атрымаў на Брэстчыне, у Лагішынскай сярэдняй школе № 1. Выкладчыца гісторыі заўважыла ў гэтым вучні асаблівую схільнасць да свайго прадмета. Мішу даручаліся невялікія даклады аб мінулым родных месц. Ён старанна рыхтаваўся да іх. Школьнікі слухалі яго з вялікай цікавасцю. А за год да заканчэння школы па ініцыятыве Мішы Лявошкі быў створаны маленькі школьны



З раніцы да позняга вечара ажыўлена на лесвіцах галоўнага корпуса.



Міхаіл Лявошка — будучы гісторык.

гістарычны музей... Цяпер Лявошка рыхтуецца стаць сапраўдным гісторыкам.

...Наша знаёмства з жыццём галоўнага корпуса працягвалася і ў наступныя дні. Адбылося некалькі сустрэч са студэнтамі і з тымі, хто скончыў ужо ўніверсітэт і цяпер займаецца ў яго сценах навуковай работай.

Студэнткі другога курса хімічнага факультэта Каця Пілько і Рая Максімава шмат часу праводзяць у галоўным корпусе, хоць іх факультэт знаходзіцца ў іншым памяшканні. Яны з'яўляюцца нібы нештатнымі супрацоўнікамі створанай тут навукова-даследчай лабараторыі комплексных злучэнняў рэдкіх элементаў. Загадчыца лабараторыі кандыдат хімічных навук Галіна Ахатаўна Шагісултанава коратка пазнаёміла нас з прадметам захаплення яе юных памочніц. Яны авалодваюць тэхнікай новых фізічных метадаў эксперыменту ў тым раздзеле навукі, дзе сустракаюцца хімія, фізіка і біялогія. Умяшанне чалавека ў таямніцы комплексных соляў рэдкіх элементаў павінна адкрыць заслону над многімі працэсамі, што адбываюцца ў прыродзе і ў прыватнасці ў арганізме чалавека.

Павел Матусевіч, аспірант кафедры фізічнай оптыкі, як і многія іншыя супрацоўнікі ўніверсітэта, з адзнакай скончыў яго некалькі гадоў назад. Цяпер ён працуе ў нанава створанай праблемнай лабараторыі.

— Я заняты атрыманнем і даследаваннем штучных смол, — расказвае П. Матусевіч. — Уласцівасці сінтэтычных смол надзвычай разнастайныя. Мяне цікавіць выкарыстанне дубільных уласцівасцей гэтых складаных злучэнняў для стварэння сінтэтычнага дубіцеля. Прырода церпіць вялікія страты ад нарыхтоўкі кары дрэў, якая ўтрымлівае натуральныя дубіцелі. Стварэнне сінтэтычнага дубіцеля захавае жыццё многім лясам.

*Вылічальны цэнтр універсітэта.* Да ўводу ў строй галоўнага корпуса гэты вельмі важны «вучэбна-практычны цэх» матэматычнага факультэта размяшчаўся ў двух пакоях. Цяпер у правым крыле новага памяшкання вылічальны цэнтр заняў два паверхі. Тут праходзяць вучэбную практыку не толькі матэматыкі, але і фізікі. Студэнты матэматычнага факультэта, занятыя ў аддзеле праграміравання, праводзяць лічыльную работу. Фізікі атрымалі магчымасць стажыравацца ў аддзеле эксплуатацыі, — яны ўдзельнічалі ў мантажы схем і цяпер самі сочаць за работай складаных лічыльных машын.

Вылічальны цэнтр прымае на практыку і студэнтаў іншых ВНУ, нават з суседніх рэспублік. Зусім нядаўна тут стажыравалася група студэнтаў з Вільнюскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Вучыў іх інжынер аддзела праграміравання Фёдар Чумакоў.

Доўгачаканае наваселле студэнты сустрэлі радасна не толькі таму, што атрымалі цудоўнае вучэбнае памяшканне. Яны і будавалі яго. Многія працавалі мулярамі, цеслярамі, тынкоўшчыкамі. Цяпер, уваходзячы ў аўдыторыю, яны ўспамінаюць, як іменна ў гэтым крыле, на гэтым паверсе давялося ім добра папацець, — не ад хвалявання, як цяпер, на экзамене, а ад вялікага напружання мускулаў. І ніхто з іх не ўспамінае блага тыя салёныя кроплі працоўнага поту.



Задаволены новай лабараторыяй Каця Пілько (злева) і Рая Максімава.





У няспынных пошуках праходзіць дзень аспіранта Паўла Матусевіча.

З адным з такіх будаўнікоў мы разгаварыліся. Ён прадставіўся:

— Аляксандр Капанец, студэнт чацвёртага курса, фізік. Так, на будаўніцтве галоўнага корпуса працаваў. Спачатку цесляром, пасля выносіў смецце... Наогул — больш трох месяцаў... Чым заняты цяпер? Вывучаю методыку электра-фізічных даследаванняў. Вырашыў стаць фізікам-эксперыментатарам.

— А кім былі раней?

— Зусім нядаўна — салдат Савецкай Арміі. Яшчэ раней — сялянскі хлопчык з сяла Максімавічы Клічаўскага раёна.

— Любіце фізіку?

— Не тое слова. Я ёй адданы, як салдат Радзіме, хоць і не даваў у гэтым прысягі...

У адным з трыццаці пакояў, прадастаўленых кафедрам фізічнай оптыкі і спектральнага аналізу, мы засталі дыпломніцу Наталлю Ганчарову. Яна была занята мантажом прыбораў для выканання чарговага даследавання па тэме сваёй дыпломнай работы. У яе задачу ўваходзіць даследаванне спектраў паглынання і ўтварэнне комплексных уранілавых соляў у водных растворах. Мы наўмысна поўнасцю назвалі тэму, каб чытач ясней уявіў сабе каштоўнасць першых самастойных навуковых работ будучых спецыялістаў.

Дыпломніца Ганчарова павінна вывучыць, якія злучэнні і ў якой меры ўтвараюцца ў водных растворах. Затым яна павінна вылучыць кожнае з іх і ўстанавіць яго характарыстыку. Для аднаго чалавека гэта — вялікая і складаная задача, але ў агульнай тэме, якую распрацоўвае калектыў, — усяго толькі кропля. Каштоўныя кроплі — студэнцкія ўклады ў навуку — злучацца потым у адну плынь, якая падмые яшчэ адзін камень — недаследаванае ў навуцы пытанне. І Вучоны Савет універсітэта, падводзячы вынікі года, упіша імёны дыпломнікаў у строгія радкі навуковай справаздачы. Так нараджаецца вучоны. Для



Вучэбны вылічальны цэнтр. З групай студэнтак Вільнюскага ўніверсітэта заняткі вядзе інжынер Фёдар Чумакоў.



Александр Капанец будаваў універсітэт, а цяпер у ім вучыцца.

яго фармавання ўніверсітэт робіць шмат. Застаецца толькі прыкласці больш настойлівасці, смялей карыстацца атрыманымі ведамі, глыбей уваходзіць у сэнс работы.

Наш кароткі рэпартаж з галоўнага корпуса ўніверсітэта немагчыма закончыць без таго, каб не прадаставіць слова спартсменам. Будучыя гісторыкі Аляксандр Вінаградаў і Міхаіл Ткачоў,



Яшчэ месяц і Наталля Ганчарова абароніць сваю дыпломную работу, здасць дзяржаўныя экзамены і пакіне сцены ўніверсітэта фізікам.



Ёсць час у студэнтаў, каб асвоіць новую прасторную спартыўную залу.

выказваючы агульную думку ўсіх студэнтаў, заявілі:

— Наш універсітэт мае цяпер самую лепшую ў Мінску спартыўную залу. Прасторная і светлая, яна з'яўляецца месцам трэніровак гімнастаў і лёгкаатлетаў, ігракоў у баскетбол і валейбол, нават футбалістаў. Побач з залай падсобныя памяшканні для тэарэтычных заняткаў і кансультацый, душавыя, раздзявалкі. Мы ўпэўнены, што, майстэрства ўніверсітэцкіх спартсменаў цяпер будзе развівацца яшчэ хутчэй.

З самай раніцы, калі роўна ў дзевяць звініць першы званок, які абвяшчае пачатак напружанай вучобы і працы, і да позняга вечара б'ецца ў новым памяшканні ўніверсітэта пульс напружанага жыцця, поўнага радасных адкрыццяў і трывожных хваляванняў, смелых летуценняў і здаровай весялосці.

У вучэбных буднях прайшлі вялікія ўніверсітэцкія ўваходзіны.

**Фота аўтара і карэспандэнта БелТА І. ЗМІТРОВІЧА.**



# ШТУЧНАЕ СОНЦА

Штучны спадарожнік, штучная планета... Некалькі гадоў назад гэтыя словы трапляліся толькі ў спецыяльнай навуковай літаратуры. Сёння іх ведаюць людзі ўсіх кантынентаў.

А ці нельга стварыць штучнае сонца? На першы погляд гэта здаецца неверагодным. Нават героі з народных казак не думалі пра гэта. Але тое, што ў казках здавалася немагчымым, стала даступна сучаснай навуцы.

У 1955 годзе на сесіі Акадэміі навук СССР, акадэмік А. Несмяянаў сказаў, што надышоў «час замест выкарыстання мізэрнай колькасці велізарнай энергіі Сонца стварыць сваё сонца на зямлі».

Што ж маюць на ўвазе вучоныя, калі гавораць аб штучным сонцы? Як яны думаюць яго стварыць і якія ад гэтага выгоды чалавеку?

Яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя фізіка, хімія, астраномія і іншыя навукі дасягнулі вялікіх поспехаў. Спектральны аналіз даў магчымасць вызначыць хімічны склад і тэмпературу нябесных свяціл. Шмат новага даведаліся людзі і пра Сонца. Адно заставалася невядома: што ж з'яўляецца крыніцай яго велізарнай энергіі? Кожную секунду Сонца выдзяляе энергіі столькі, колькі можа выпрацаваць буйнейшая ў свеце Волжская электрастанцыя імя У. І. Леніна за дзесяць мільярдаў год!

Калі б Сонца складалася з самага высокакаларыйнага паліва — каменнага вугалю, — то і тады яго энергія вычарпалася б за некалькі тысяч год.

Магчыма, крыніцай энергіі нашага дзённага свяціла служыць радыёактыўны распад урану, радыю, торыю? Не. Гэтае меркаванне не пацвярджаецца назіраннямі за дзейнасцю Сонца. Радый распадаецца вельмі хутка, а ўран — вельмі павольна. Сонца, якое складалася б з радыю, даўно пагасла б, а ўранавае Сонца было б у шмат разоў цямнейшае.

Няма неабходнасці ўспамінаць «тэорыі», якія прадракалі хуткае астыванне Сонца і гібель жыцця на Зямлі. Усе яны цяпер адкінуты, бо не маюць нічога агульнага з навукай.

## СОНЦА — ТЭРМАЯДЗЕРНЫ РЭАКТАР

Да 20-х гадоў нашага стагоддзя загадка Сонца не была разгадана навукай. Як армія, наступаючы, часам пакідае ў тыле асаджаныя крэпасці, навука часта пакідае на час белыя плямы з тым, каб ліквідаваць іх на новым, вышэйшым этапе свайго развіцця. Так было і на гэты раз. Новыя адкрыцці былі зроблены спачатку зусім у іншых галінах навукі і прывялі да карэннай ломкі асноўных фізічных уяўленняў.

Адзін з мацнейшых удараў па старых здагадках быў нанесены А. Эйнштэйнам. Да яго фізіка разглядала матэрыю і выпрамяньванне як дзве зусім розныя рэчы. Ламаносаў і Лавуазье адкрылі закон захавання матэрыі, паводле якога яна не можа ні ўзнікнуць з нічога, ні згінуць бясследна. Але Эйнштэйн абвергнуў тое, што здавалася абсалютнай ісцінай. Ён даказаў, што рэчыва і выпрамяньванне — гэта дзве формы існавання матэрыі, і вывеў формулу, якая звязвае энергію поля і масу рэчыва.

Формула Эйнштэйна доўгі час здавалася міфічнай, і ніхто не чакаў, што прыйдзе час, калі энергію будуць разлічваць іменна такім чынам. Адкрыццё радыёактыўнасці, дзялення сінтэзу ядраў поўнасцю пацвердзіла справядлівасць формулы Эйнштэйна, якая стала адным з асноўных законаў ядзернай фізікі.

Вялікія поспехі тэарэтычнай і эксперыментальнай фізікі атамнага ядра далі магчымасць з новых пазіцый падысці да праблемы крыніц сонечнай энергіі. Фізікі XX стагоддзя ўбачылі на Сонцы такія працэсы, якія былі схаваны ад вучоных мінулых стагоддзяў. У 1939 годзе Бэтэ разгледзеў усе ядзерныя рэакцыі і прыйшоў да

вываду, што на Сонцы адбываюцца вуглярodна-азотны і пратонна-пратонны цыклы ядзерных рэакцый. У выніку гэтых рэакцый з кожных двух пратонаў і двух нейтронаў, што ўваходзяць у склад вадародных ядраў, ствараецца адно ядро гелію (альфа-часцінка) і вылучаецца вялікая колькасць энергіі. Першы цыкл адбываецца з удзелам розных ізатопаў азоту і вугляроду і цягнецца каля пяці мільёнаў год. Ён адыгрывае асноўную ролю ў энергетычным балансе Сонца. Пратонна-пратонны цыкл менш магутны і цягнецца, прыкладна, тры мільёны гадоў. Вялікая маса сваціла нават пры такой павольнасці працэсаў дае каласальнае выпраменьванне.

У сучасны момант Сонца на 30—35 працэнтаў складаецца з вадароду. За ўвесь час існавання яно страціла ўсяго адзін працэнт свайго вадароднага запасу. Значыць, гэты прыродны тэрмаядзерны рэактар будзе працаваць без аслаблення магутнасці не менш ста мільярдаў год.

Адразу ж пасля адкрыцця крыніц сонечнай энергіі перад навукай паўстала пытанне: ці нельга выкарыстаць тэрмаядзерныя рэакцыі для атрымання энергіі на Зямлі? Такое пытанне цікавіць нас з двух пунктаў гледжання.

Па-першае, здабыча і скарыстанне нафты, вугалю і газу ў наш час дасягнула такіх вялікіх памераў, што іх запасаў хопіць усяго на 100—200 год. Запасы ўрану і торыю таксама абмежаваны. Калі б перавесці энергетыку на ўранавае паліва, то яно было б выкарыстана таксама за адну-дзве сотні год. Такім чынам, без пошукаў новых крыніц энергіі чалавецтва можа апынуцца перад небяспекай энергетычнага голаду.

Па-другое, уменне кіраваць тэрмаядзернымі рэакцыямі дасць чалавеку больш матэрыяльных выгод, чым ён атрымаў ад прыроды за ўсю гісторыю свайго існавання. Акіян вады можа даць столькі энергіі, колькі магло б даць спальванне 400 такіх жа акіянаў першакласнай нафты.

Тэрмаядзерныя электрастанцыі можна будаваць у любым месцы, таму што гаручае для іх на многія гады работы можа быць дастаўлена адным рэйсам самалёта. Адпадае і неабходнасць будаўніцтва ліній электраперадач на вялікія адлегласці.

Калі б чалавек здолеў кіраваць тэрмаядзернымі рэакцыямі, тады фантастыка стала б рэальнасцю — растапленне ільдоў Ледавітага акіяна і Антарктыды, абвадненне пустынь, злучэнне кантынентаў мастамі.

Але прырода свае таямніцы лёгка не адкрывае. На шляху да гэтай мэты яна стварае велізарныя цяжкасці.

## АСКОЛКІ СОНЦА НА ЗЯМЛІ

Як вядома, цыклы тэрмаядзерных рэакцый, якія адбываюцца на Сонцы, прадаўжаюцца некалькі мільёнаў гадоў. Відавочна, такія павольныя рэакцыі нельга выкарыстоўваць у тэрмаядзерных электрастанцыях.

З тэорыі вынікае, што гелій можа сінтэзавацца непасрэдна з вадароду. Рэакцыя ідзе вельмі хутка, але ўзнікае цяжкая задача: наблізіць ядры вадароду на такія адлегласці, каб паміж імі пачалі дзейнічаць ядзерныя сілы.

Каб здзейсніць рэакцыю сінтэзу, неабходна не толькі агаліць ядры ад электронных абалонак, але і надаць ім надзвычай вялікія хуткасці. Іменна такія ўмовы і маюць месца ў нетрах Сонца, дзе тэмпература дасягае 20 мільёнаў градусаў. Пры такіх тэмпературах рэчыва існуе ў выглядзе плазмы, якая складаецца не з атамаў ці малекул, а з агаленых ядраў, асобных пратонаў, нейтронаў і электронаў.

Да паяўлення атамных бомб вучоныя не мелі магчымасці праверыць правільнасць разлікаў. Пры выбуху бомбы тэмпература на кароткае імгненне падымаецца да многіх мільёнаў градусаў. Таму з'явілася думка выкарыстаць яе ў якасці «запальнічкі» для пачатку тэрмаядзернай рэакцыі. Так была створана вадародная бомба.

Асляпляльныя ўспышкі вадародных бомб — гэта сапраўдныя асколкі Сонца на Зямлі. Пакуль што яны здольны прынесці толькі смерць і разбурэнні, іх нельга паставіць на службу людзям. Але яны — сведчанне найвялікшай сілы чалавечага генію. Яны запалілі ў вучоных надзею на магчымасць пакарэння тэрмаядзерных рэакцый.

Калі эксперыментальна было даказана, што можна здзейсніць на зямлі сінтэз гелію з вадароду, праблема кіравання тэрмаядзернымі рэакцыямі стала на першае месца сярод важнейшых задач сучаснай навукі і тэхнікі.

Вучоныя розных дзяржаў вялі работы ў гэтым кірунку зусім сакрэтна і ў поўнай ізаляцыі адзін ад другога. Таму зразумела тая сенсацыя, якую выклікаў даклад савецкага акадэміка І. Курчатава, прачытаны ім вясной 1956 года ў лекцыйнай зале Харуэла — атамнага даследчага цэнтра Англіі. У прысутнасці буйнейшых вучоных-атамшчыкаў савецкі госць зрабіў грунтоўны даклад аб выніках серыі складаных доследаў, праведзеных у СССР. У той час гэтыя доследы толькі планаваліся ў Харуэле. Ужо праз некалькі мінут агенцтва «Рэйтар» перадало гэтую важную навіну па радыё. Як адзначыла пасля «Дэйлі Экспрэс», лічбы і формулы, якія паведаміў дакладчык, «лічыліся б зусім сакрэтнымі ў Англіі і Злучаных Штатах».

Савецкі Саюз рассакрэціў адно са сваіх даследаванняў тэрмаядзерных рэакцый, каб аб'яднаць намаганні вучоных усіх краін на вырашэнне найскладанай навуковай праблемы.

Праз некаторы час Вялікабрытанія і ЗША таксама апублікавалі вынікі сваіх даследаванняў у гэтым кірунку. З таго часу паміж краінамі існуе рэгулярны абмен разнастайнай інфармацыяй, уключаючы наведванне лабараторый і агляд дзеючых установак.

## ПЕРШАЯ МАДЭЛЬ СОНЦА

Як цяпер стала вядома, пошукі шляхоў кіравання тэрмаядзернымі рэакцыямі пачаліся амаль аднachасова ў 1950—1951 гадах у Савецкім Саюзе, ЗША і Вялікабрытаніі. Пазней гэтай праблемай пачалі займацца вучоныя Францыі, Італіі і іншых краін. Галоўнай мэтай усіх даследаванняў — знайсці спосаб нагрэць сумесь дэйтэрыю і трыцію (цяжкі і звышцяжкі ізатопы вадароду) да тэмпературы ў 40—50 мільёнаў градусаў або нагрэць чысты дэйтэрый да 400—500 мільёнаў градусаў. Толькі пры такіх тэмпературах магчыма бесперапынная тэрмаядзерная рэакцыя.

Каб вырашыць гэтую задачу, неабходна ізаляваць распалены вадарод ад навакольных рэчаў. У прыродзе няма такіх вогнетрывалых матэрыялаў, якія маглі б вытрымаць тэмпературу нават у тры тысячы градусаў. Але калі б яны і былі, гэта не вырашыла б пытання. Часцінкі плазмы, рухаючыся з вялікімі хуткасцямі, сутыкаліся б са сценкамі сасуда і аддавалі яму сваю энергію. Як моцна ўплываюць сценкі на ход тэрмаядзернага працэсу, можна меркаваць па тым, што прысутнасць у плазме аднаго атама цяжкага элемента на 1 000 вадародных атамаў зніжае тэмпературу яе ў два з паловай раза.

У 1950 годзе савецкія акадэмікі А. Сахараў і І. Там прапанавалі першую ў свеце мадэль тэрмаядзернага рэактара, у якім плазма адгароджана ад навакольнага асяроддзя не сценкамі вогнетрывалага сасуда, а магнітным полем. У адрозненне ад звычайнага газу, плазма складаецца з зараджаных часцінак. Гэта і дае магчымасць часцінкам рухацца не па прамой, а па спіралі, не ўдараючыся аб сценкі сасуда.

Першая мадэль рэактара складалася з газаразраднай трубкі. Да яе электродаў падводзілася ад батарэі кандэнсатараў напружанне ў 20—50 тысяч вольт. Узнікаў магутны электрычны разрад. Электрычны ток ператвараў газ у плазму, а магнітнае поле сцягвала яе ў тонкі плазмавы шнур. Тонкія прыборы зафіксавалі выдзяленне нейтронаў з плазмавага шнура. Аднак колькасць іх была невялікая і цяжка было ўстанавіць, што яны ўзніклі іменна ў выніку тэрмаядзернай рэакцыі, а не якіх-небудзь іншых працэсаў.

Выкарыстанне прамых трубак аказалася нявыгадным, таму што

часцінкі пры гэтым ляцяць да электродаў і перастаюць удзельнічаць у тэрмаядзерным працэсе, а плазма хутка ахалоджваецца.

Каб прадоўжыць жыццё плазменнага шнура, разрадную трубку пачалі згінаць. Атрымаўся пустацелы абаранак, так званы тор. Электрычны ток узбуджаецца ў ім, як у другаснай абмотцы трансфарматара. Так узніклі новыя мадэлі рэактараў — савецкая «Альфа» і англійская «Зета». Электрычны разрад працягваецца ў іх не мільённую долю секунды, як у прамой трубцы, а ў тысячы разоў даўжэй. Вучоныя атрымалі магчымасць больш дэталёва і падрабязна даследаваць плазму.

Разагрэтая плазма аказалася надзвычай няўстойлівай формай матэрыі. Пасля ўключэння току ў тароідзе яна сцягваецца ў тонкі шнур-кольца. Затым адразу ж пачынае выгінацца, выпукляцца ў асобных месцах, нарэшце рвецца і рассейваецца. Апрача таго, дзякуючы спецыфічнай канфігурацыі магнітнага поля, узнікае ўцечка зараджаных часцінак (тараідальны дрэйф). Для барацьбы з гэтым уздоўж плазменнага шнура ствараецца дадатковае магнітнае поле, якое некалькі стабілізуе плазму. У пабудаваным ў ЗША «стэларатары» для стабілізацыі плазмы разрадная трубка выгнута васьмёркай. Аднак плазма па-ранейшаму застаецца вельмі няўстойлівай.

Такім чынам, працягласць існавання і тэмпература плазмы аказаліся недастатковымі для ўзнікнення бесперапыннай тэрмаядзернай рэакцыі.

### МАГНІТНАЯ ПАСТКА

Другі напрамак даследавання праблемы сінтэзу не звязаны з магутнымі разрадамі ў газах. У 1953 годзе савецкі фізік Г. Будкер прапанаваў праект установкі, якая называецца адыябатычнай, або магнітнай пасткай.

Папярэдне разагрэтая плазма змяшчаецца ў магнітную «бутэльку» і закаркоўваецца. Перамяшчаючы магнітны «корак», плазму можна сціснуць і такім чынам разагрэць яе яшчэ больш, накшталт таго, як пры сцісканні разаграецца паветра пад поршнем кампрэсара. Самая буйная адыябатычная пастка (Огра) пабудавана летам 1958 года ў Інстытуце атамнай энергіі імя І. Курчатава. Яна складаецца з шырокай і доўгай стальной трубы дыяметрам 1,4 метра. На яе надзеты катушкі з тоўстага меднага дроту, па якім прапускаецца электрычны ток. Катушак шмат, і яны дазваляюць стварыць магнітнае поле рознай велічыні і формы.

Магутныя вакуумныя помпы выдаляюць з трубы паветра. Каб максімальна паменшыць ціск, распыляецца папярэдне ахалоджаны тытан. Такім шляхам удаецца стварыць у нетрах Огры высокі вакуум. Пасля гэтага ў трубу «ўпырскваюцца» малекулярныя іёны вадароду, разагнаныя да энергіі ў сотні тысяч электрон-вольт. Яны і ствараюць гарачую плазму, часцінкі якой рухаюцца па вінтавых лініях, адштурхоўваючыся ад магнітных «коркаў».

Здавалася б, плазма надзейна захавана ў магнітнай пастцы. Але гэта не так. Плазма не хоча здавацца. Праз некаторы час роўны слуп яе абрастае выступамі, якія раз'ядаюць магнітнае поле, а потым і зусім рассейваецца.

Вялікай перашкодай падтрыманню высокай тэмпературы плазмы з'яўляюцца прымесі атамаў пабочных элементаў. Яны забіраюць у плазмы яе энергію і выпраменьваюць у навакольнае асяроддзе. Чыстая плазма павінна быць чорнай, таму што не выпраменьвае ў бачнай частцы спектра. Калі яна засвяцілася, значыць, дамешкі панізілі яе тэмпературу і пачалося ўтварэнне атамаў з ядраў і электронаў. Гэта ніяк не ўкладваецца ў нашы ўяўленні, бо мы прывыклі да таго, што чым вышэй тэмпература цела, тым ярчэй яно свеціцца.

Тэорыя прадказвае дзесяткі відаў няўстойлівасці плазмы, а вывучаны толькі некаторыя з іх. Таму ад вучоных і інжынераў патрабуецца яшчэ шмат намаганняў, каб устойлівую плазму надзейна падвесіць у магнітным «мяшку».

У 1956 годзе была адкрыта прынцыпова новая магчымасць кіравання тэрмаядзернай рэакцыяй пры нізкіх тэмпературах. Мы ведаем, што высокія тэмпературы патрэбны для таго, каб агаліць ядры і надаць ім такую хуткасць, пры якой яны маглі б блізка сутыкнуцца адно з другім. Пры малых хуткасцях зліццю ядраў перашкаджаюць электрычныя сілы адштурхоўвання аднайменна зараджаных часцінак. Аказваецца, дадатны зарад ядра можна нейтралізаваць пры дапамозе адмоўнага мюмезона — адной са шматлікіх элементарных часцінак. Мюмезон, пападаючы ў атмасферу дэйтэрыю, нейтралізуе зарад яго ядра і стварае новы атам, так званы мезо-атам. Да такога ядра можа блізка падысці другое ядро, нават калі яно рухаецца пры малых хуткасцях. Мюмезон пачынае рухацца вакол абодвух ядраў, а гэта садзейнічае іх сінтэзу. Сам мезон у рэакцыю не ўступае і можа забяспечыць сінтэз новых пар ядраў.

Усё было б добра, калі б жыццё мюмезона не было такое кароткае — менш мільённай долі секунды. За гэты час ён можа забяспечыць сінтэз толькі некалькіх ядраў. Прычым, энергія, якая выдзелілася, аказваецца меншай за тую, якая затрачваецца на атрыманне мезона.

Аднак сам прынцып халоднага сінтэзу мае вялікую навуковую цікавасць, таму што ў прыродзе, магчыма, будуць выяўлены іншыя часцінкі, больш даўгавечныя, чым мюмезон.

Кіраванне тэрмаядзернымі рэакцыямі — гэта не навуковая фантастыка, хоць па грандыёзнасці задумы яна не мае нічога роўнага з тым, што сустракаецца ў фантастычнай літаратуры. Гэта — рэальная навуковая праблема, над вырашэннем якой працуюць вучоныя ўсяго свету. І хоць вялікія цяжкасці ўзнікаюць на кожным іх кроку, усе гэтыя цяжкасці носяць чыста тэхнічны характар. Да гэтага часу не выяўлена ніводнай перашкоды, якая паказвала б, што прынцыпова немагчыма кіраваць тэрмаядзернымі рэакцыямі.

**Віктар ГРЫБКОЎСКІ,**
кандыдат фізіка-матэматычных навук

# МАСТАЦТВА КРАСАМОЎНЫХ ФАРБАЎ

Аднойчы на мастацкай выстаўцы я міжволі звярнуў увагу на юнака. Ён зусім блізка падышоў да карціны і, прыглядаючыся да яе, сказаў: «Якой жа маркі экскаватар тут паказаны?» Ля другой карціны, дзе быў намаляваны велізарны завод, юнак ажывіўся: «Зусім, як наш!..»

Мастака ўсхваляваў сам завод, яго магутнае дыханне, пафас працы. А юнак убачыў толькі адно падабенства са сваім заводам. У першай карціне мастака цікавіла праца людзей, якія асушваюць балоты, а хлопец звярнуў увагу на марку экскаватара. Ён падышоў да твора мастацтва з меркай жыццёвай праўдападобнасці.

Жывапіс у адрозненне ад іншых відаў мастацтва валодае найбольшай нагляднасцю ў адлюстраванні рэальнага свету. Разам з тым, жывапіс мае і свае, толькі яму ўласцівыя вобразныя сродкі, сваю мастацкую мову. Твор мастацтва — гэта перш за ўсё мастацкі вобраз. Як жа ён узнікае ў жывапісу і ў чым яго своеасаблівасць?

Калі сфатаграфаваць куток лесу з рэчкай і небам над ім — гэта будзе простае капіраванне прыроды. На фотаздымку мы ўбачым усё, як яно ёсць на самай справе. Мастацкі ж вобраз узнікне толькі тады, калі прырода будзе «прапушчана» праз творчую фантазію мастака і пераўтворана ім у адпаведнасці з задумай. Мастак не пераносіць механічна на палатно ўсё, што бачыць яго вока. Ён адкідвае шматлікія дробязі, абагульняе і ўзнаўляе толькі тое, што памагае глыбей раскрыць думкі і вастрэй выявіць пачуцці. Калі няма гэтай унутранай перапрацоўкі — няма і мастацкага вобраза. Гэта датычыцца не толькі тых карцін, дзе чалавек непасрэдна з'яўляецца дзеючай асобай, але і пейзажаў, нацюрмортаў, бо ў кожным выпадку мастак надае твору адзнаку свайго ўласнага бачання.

Жывапіс — гэта мастацтва бачных во-

бразаў, мастацтва красамоўных фарбаў. Колер у творы мастацтва — галоўны сродак стварэння вобраза. Яшчэ не ведаючы сюжэта карціны, мы *ўспрымаем* агульны эмацыянальны каларыт твора, які ствараецца пэўным спалучэннем фарбаў. Як і ў музыцы, акорд фарбаў выклікае пачуцці светлыя і радасныя, суровыя і сумныя. Толькі пасля, уважліва разглядаючы карціну, мы глыбей пачынаем разумець яе змест. Для большай выразнасці жывапіс карыстаецца і светаценем, а для раскрыцця задумы важнае значэнне мае таксама кампазіцыя. Адзінства формы і зместу — галоўная ўмова рэалістычнага жывапісу, яго мастацкасці.

Возьмем для прыкладу карціну беларускага мастака І. Ахрэмчыка «Абаронцы Брэсцкай крэпасці». Глядач яшчэ здалёку заўважае, што палатно гэта — вялікае. Ён бачыць, што адлюстравана на ім злева і справа. А калі падыходзіць бліжэй, то нібы сам трапляе ў правал цёмнага каземата. Узнікае жаданне агледзецца навокал, каб прывыкнуць да прыцемкаў сутарэння. Чорныя дрыготкія цені пад змрочнымі скляпеннямі каземата выклікаюць пачуццё трывогі. Каземат ледзь асвятляецца палоскай святла, што падае з акна-байніцы. Святло засланяецца людзьмі, і мы не бачым ясных абрысаў іх постацей. Гэта надае ўсёй сцэне вялікую напружанасць. Святло выхоплівае са змроку самае неабходнае, нібы ставіць сэнсавыя акцэнты (націскі) у карціне. Умерана прыглушаныя тоны, стрыманасць і прастата кампазіцыі выклікаюць адпаведны эмацыянальны водгук, падрыхтоўваюць гледача да разумення зместу твора. Які ён, гэты змест?

Паспрабуем «прачытаць» карціну, як кнігу: «Цёмны каземат крэпасці. У паўзмроку бачны постаці пяці салдат-абаронцаў і дзве жаночых. Адзін салдат забіты, другога толькі што параніла, трэці ідзе да акна, каб замяніць ля кулямёта параненага байца, і г. д.».

Звычайны эпізод вайны — абарона крэпасці — у карціне Ахрэмчыка чытаецца, нібы гераічная паэма. Сэнс карціны ў дадзеным выпадку перарастае вузкія рамкі сюжэта.

Мастак піша карціны фарбай. Але выціснутая з цюбіка на палатно фарба так і застанецца фарбай, калі рукой мастака яна не ператворыцца ў колер, у каларыт. Пэндзаль сапраўднага мастака перадае самыя тонкія з'явы прыроды: бляск расы, дрыготкае спляценне святла і ценяў у лісці дрэў, ледзь-ледзь прыкметную афарбоўку ранішняга неба. Сваім уяўленнем глядач нібы «дамалёўвае» тое, што нельга перадаць фарбамі: адчуванне холаду, вільгаці, ветру, цяпла, цішыні. Сярод жывапісных палотнаў беларускай мастачкі В. Жолтак ёсць нацюрморт «Сон-трава». Спалучаючы пэўныя фарбы, аўтар гэтага нацюрморта стварыла жыццёва пераканаўчы мастацкі *вобраз кветак*. Яна не імкнецца падрабязна і дакладна выпісваць усе галінкі і пялёсткі, а кладзе фарбы шырокім і вольным рухам пэндзля. Калі падысці зусім блізка да палатна, то бачны толькі густыя плаўныя мазкі самых розных адценняў. Некаторых гледачоў гэта бянтэжыць: ім здаецца, што *карціна не закончана*. Часам чуюцца галасы, што сучасныя мастакі «наогул» развучыліся маляваць. Вось Шышкіна можна глядзець і зблізку і на адлегласці.

Сапраўды, сучасны жывапіс моцна адрозніваецца ад жывапісу мінулых стагоддзяў. Кожная эпоха імкнецца знайсці сваю мастацкую мову, якая паўней перадае погляды і ўяўленні людзей свайго часу. Савецкія мастакі, ствараючы свае карціны, шукаюць новыя сродкі, іх творчай манеры ўласцівы прастата і імкненне да вялікіх абагульненняў. Колер сучасных карцін насычаны, эмацыянальны. Чалавек, які мае эстэтычны густ і знаёмы з гісторыяй жывапісу, вельмі здзівіўся б, калі б убачыў партрэт сучасніка, напісаны так, як пісаў, напрыклад, Заранка ў дзевятнаццатым стагоддзі. Ён назваў бы такі партрэт або карціну архаічнымі па сваёй мастацкай мове.

Дарэчы, такія папрокі Заранка атрымліваў яшчэ ад сваіх сучаснікаў, якія разумелі, як далёка ўперад адышло мастацтва ад творчасці гэтага мастака. Адзін з крытыкаў, убачыўшы на выстаўцы партрэт работы Заранкі, іранічна пісаў: «Перад гэтым партрэтам мы схіліліся — жывая натура! Паглядзіце: на ілбе муха, у вачах карэта з коньмі — проста прыгажосць!» Чым жа Заранка не дагадзіў крытыку? Калі мастак-натураліст піша карціну, ён імкнецца перадаць усё так, як «на самай справе». Ён з аднолькавай увагай піша і твар і рукі чалавека, падрабязна выпісвае ягоную вопратку, ва ўсім дабіваецца закончанасці і саліднасці. У гэтым якраз і заключаецца *недахоп* партрэтаў Заранкі.

Вялікія мастакі заўсёды разумелі і памяталі: калі ў карціне ёсць усё, то знікае галоўнае. Мастак заўсёды павінен падкрэсліваць пэўную рысу, уласцівую толькі гэтаму чалавеку, адцяніць яе, а ўсё лішняе адкінуць, каб яно не супярэчыла выяўленню агульнага зместу твора. Тады гэта будуць мастацкія вобразы, а не мёртвыя копіі.

Фатаграфічна-дакладнага падыходу да партрэта, калі мастак бясстрасна капіруе натуру, у наш час не існуе. Хоць дакладнасць адлюстравання знешняга падабенства і застаецца абавязковай для партрэтнага жывапісу, але гэта даўно



перастала быць самамэтай. З такой задачай паспяхова спраўляецца каляровая фатаграфія.

Мастак-партрэтыст *карыстаецца ўсімі* выяўленчымі сродкамі жывапісу. Галоўная задача мастака — скарыстаць гэтыя сродкі так, каб глядач па партрэту даведаўся пра чалавека столькі ж, а можа і значна больш, чым пры сустрэчы з ім у жыцці. Праўда, магчымасці партрэтыста ў перадачы знешняга аблічча, як правіла, абмежаваны. Затое ён заўсёды можа пранікнуць ва ўнутраны свет свайго героя, у самыя глыбіні ягонай істоты, у яго думкі і пачуцці. Для гэтага ён выбірае патрэбную паставу, паварот галавы, выраз твару, малюе вопратку, падбірае фон. Усё гэта дае мастаку магчымасць ствараць выразныя партрэты сучаснікаў.

На ўкладцы ў гэтым нумары часопіса вы бачыце партрэт брыгадзіра каменшчыкаў А. Сярмяжкі, напісаны брэсцкім мастаком І. Фецісавым. Ён паказвае брыгадзіра ў прывычных для яго абставінах, г. зн. там, дзе найбольш праяўляюцца ягоныя рысы характару. У твары рабочага адчуваецца ўпэўненасць, спакой. Яго дужая постаць, мускулістыя рукі ў жорсткіх рукавіцах сведчаць аб працоўным жыцці, звязаным з будаўніцтвам. На жаль, партрэту не хапае актыўнага сюжэтнага дзеяння. Нейтральны фон, на якім паказаны брыгадзір, не садзейнічае раскрыццю вобраза, а наадварот, зніжае агульную вартасць партрэта. Адчуваецца, што мастак захапіўся індывідуальнымі рысамі свайго героя, але рысы сабранасці, унутранай сілы, актыўных адносін да навакольнага жыцця, якія ўласцівы савецкаму чалавеку, яму не ўдалося перадаць. З пункту гледжання жывапісу партрэт некалькі аднастайны і наўрад ці можа задаволіць нас, як узор сучаснага партрэта.

Партрэтны жывапіс апошніх гадоў вызначаецца складанасцю вобразаў савецкіх людзей, імкненнем паказаць будаўніка камунізма ва ўсім багацці і складанасці яго характару.

**Леанід ПЕТЭРСОН.**

# РАДАСЦІ І КЛОПАТЫ

## З жыцця народных тэатраў рэспублікі

### ТВОРЧАЕ ВЫПРАБАВАННЕ

Шматлікія каляровыя афішы, расклееныя на вуліцах Бабруйска, паведамлялі: «У памяшканні Дома афіцэраў Народным тэатрам будзе паказан спектакль «Крамлёўскія куранты».

Ведаючы выдатны твор М. Пагодзіна і асабліва складаную для сцэнічнага ўвасаблення ролю Уладзіміра Ільіча Леніна, мы ішлі на гэты спектакль, прызнацца, без пэўнай веры ў яго поспех на самадзейнай сцэне.

З рэжысёрам і мастацкім кіраўніком Народнага тэатра Уладзімірам Якаўлевічам Карпавым мы сустрэліся за кулісамі. Ішла дзейсная падрыхтоўка да спектакля: ставіліся дэкарацыі, правяралася электратэхніка і радыёапаратура, акцёры пераапраналіся, рыхтавалі рэквізіт. Усё без мітусні, спакойна, але рупліва. Усё як у прафесійным тэатры. Падаваліся тыя ж самыя загады рабочым сцэны, звінелі званкі, памочнік рэжысёра выклікаў на сцэну выканаўцаў. Міжволі падумалася: «Арганізацыйна тут усё наладжана. А як творча?»

У адным з грыміравальных пакояў рэжысёр і выканаўца галоўнай ролі Л. Мазурэнка заканчвалі складаны працэс грыму Уладзіміра Ільіча, дамагаліся партрэтнага падабенства.

Знаёмімся, адразу цікавімся, чаму іменна гэты, а не які іншы спектакль выбраў калектыў.

Накладваючы акцёру грым, рэжысёр расказвае:

— Гэты спектакль мы падрыхтавалі ў гонар XXII з'езда Камуністычнай партыі. Хацелася, каб спектакль непасрэдна пераклікаўся з падзеямі, якія перажывае краіна ў сувязі з прыняццём новай Праграмы Камуністычнай пар-



**Сцэна са спектакля «Крамлёўскія куранты» па п'есе М. Пагодзіна, пастаўленага Народным тэатрам Бабруйскага Дома афіцэраў.** Злева направа: **Я. Ільінскі у вобразе Дзяржынскага, А. Сакалоў у ролі інжынера Забеліна, Л. Мазурэнка ў вобразе Леніна, Н. Смірноў у ролі Глаголева.**

тыі. Нам прадставілася магчымасць перакінуць масткі з першых паслярэвалюцыйных гадоў у сённяшні дзень, калі савецкі народ пад кіраўніцтвам партыі Леніна прыступіў да пабудовы камуністычнага грамадства.

З далейшай размовы даведваемся, што артыст Народнага тэатра Л. Мазурэнка даўно марыў стварыць вобраз Ільіча. Але гэта мара была настолькі смелая і недасяжная, што ён не адважваўся расказаць пра яе каму-небудзь. І вось здарылася так, што рэжысёр даведаўся аб жаданні артыстааматара і горача падтрымаў яго.

Пачалася работа двух энтузіястаў. Яны вывучаюць творы Леніна, шматлікі дакументальны матэрыял, каб найбольш поўна ўявіць асаблівасці гэтага самага чалавечнага чалавека. Узялі прамову Леніна «Аб трэцім Камуністычным Інтэрнацыянале». Самадзейны артыст, вывучаючы на памяць тэкст, адпрацоўваў разам з тым міміку, жэсты, рухі і голас Леніна.

Пасля ўзяліся за восьмую карціну п'есы «Крамлёўскія куранты», дзе найбольш ярка выяўляецца багаты ўнутраны свет і светлы розум правадыра. Трэба было распрацаваць унутраны стан ролі.

— Вось тады мы і арганізавалі артысту, — заўважае рэжысёр тэатра, — творчую камандзіроўку ў Маскву. Гэта паездка дала яму многае. Ён наведаў маўзалей Леніна, пабываў (і не адзін раз) у музеі У. І. Леніна, гутарыў з тымі, хто ўвасобіў вобраз правадыра на сталічнай сцэне, і з рэжысёрамі, прагледзеў спектаклі і фільмы аб Леніне.

Восьмую карціну спектакля паказалі на вечары, прысвечаным памяці правадыра. Пасля паказу гледачы і артысты прынялі ўдзел у абмеркаванні. Было выказана шмат заўваг і карысных парад. Тады толькі калектыў Народнага тэатра рашыў уключыць п'есу ў свой рэпертуар.

На нашых вачах штрых за штрыхом, рыса за рысай твар артыста ўсё больш і больш робіцца падобным на знаёмае ўсім аблічча правадыра. Выдае выканаўцу толькі яго звычайны голас:

— Калі пачаў нараджацца спектакль, я паехаў да лепшага ў Беларусі выканаўцы вобраза Леніна, народнага артыста СССР П. Малчанава. Памог ён мне вельмі многім. Падзяліўся вопытам работы над вобразам, і мы падоўгу працавалі разам над раскрыццём унутранага дзеяння, імкнучыся паказаць Леніна як мысліцеля, у гарэнні, у творчасці.

Карпаў знаёміць нас з некалькімі выканаўцамі іншых роляў у спектаклі.

— Вось старэйшы ўдзельнік нашага калектыву Яўген Сцяпанавіч Ільінскі...

Нам падае руку чалавек, вельмі ўдала загрыміраваны пад Фелікса Дзяржынскага.

— Таксама наш ветэран, Аляксандр Васільевіч Сакалоў, іграе Забеліна, — знаёміць рэжысёр.

... Звініць другі званок. Пакідаем удзельнікаў спектакля і ідзём у залу. Яна перапоўнена. Гасне святло. Расхінаецца заслона.

... Маскоўская барахолка ў галодныя 20-я гады. Каго тут толькі не сустрэнеш, чым тут толькі не гандлююць!

Ужо з першых хвілін спектакля адчуваеш прыемнае задавальненне. Усё тут на сваім месцы, ўсё, як трэба. Дэкарацыі і касцюмы сціплыя, але ў іх адчуваецца выналоддзівасць мастака І. Чумакова. Тэхнічны бок спектакля таксама на вышыні.

Праўда, масавай сцэне спачатку нестае патрэбнага накалу, але паступова артысты набіраюць тэмп.

З'яўляецца Забелін — Сакалоў. Гэтаму артысту не патрэбна многа тэксту. Выразам твару і вачэй, скупымі рухамі і нешматлікімі рэплікамі ён умее несці глыбокае ўнутранае жыццё вобраза.

Мяняюцца карціны. Зала грымнула выбухам воплескаў. На сцэне — Ленін. Сапраўды, вельмі падобны. Але вось надыходзяць і тыя адказныя хвіліны, калі трэба паказаць правадыра ва ўсёй яго велічы... Часам акцёр, як кажуць, «не дацягвае». Аднак яго выкананне ніколі не бянтэжыць, а наадварот — радуе.

Скончыўся спектакль. І мы ніколькі не пашкадавалі, што наведалі яго. Іменна на такім узроўні павінен заўсёды стаяць Народны тэатр — спадарожнік прафесіянальных калектываў.

Віншуем з поспехам, з удалым творчым выпрабаваннем і выказваем свае заўвагі Уладзіміру Якаўлевічу Карпаву. Даведваемся, што працуе ён у гэтым калектыве з 1949 года, мае спецыяльную тэатральную адукацыю. Уладзімір Якаўлевіч — не толькі вопытны рэжысёр, але і мастак-дэкаратар, артыст. Праводзіць вялікую работу па выхаванню маладых самадзейных артыстаў. Некаторыя яго выхаванцы працуюць у прафесіянальных тэатрах. За 12 гадоў работы пад кіраўніцтвам

**Мастацкага кіраўніка тэатра Уладзіміра Карпава фотааб'ектыў застаў у Мінскай студыі тэлебачання перад паказам спектакля.**

Фота А. Цюрына.





**Надзя Макеева на абутковай фабрыцы загатоўшчыца, а...**

Уладзіміра Якаўлевіча вырас моцны творчы калектыў, які падрыхтаваў 38 спектакляў, паказаных больш за паўтысячу разоў. У рэпертуары калектыву — лепшыя творы класікаў і савецкіх драматургаў: «Не было ні гроша, ды раптам алтын» А. Астроўскага, «Голас Амерыкі» і «Песня пра чарнаморцаў» Б. Лаўрынёва, «Гады вандраванняў» А. Арбузава, «Вяселле з пасагам» М. Дзьяканава, «Звычайны чалавек» Л. Ляонава, «Паходны марш» А. Галіча і шэраг іншых.

Вось за гэтую шматгадовую плённую працу, а таксама за высокі мастацкі ўзровень спектакляў калектыву і было прысвоена ў снежні 1959 года званне Народнага тэатра.

## НАДЗЯ СПЯШАЕЦЦА НА РЭПЕТЫЦЫЮ...

На абутковай фабрыцы закончылася другая змена. Загатоўшчыца Надзя Макеева, яе сяброўкі Ларыса і Люся выходзяць на вуліцу вячэрняга горада. Лёгка кружацца ў паветры пушыстыя сняжынкі. Вабіць да сябе яркімі агнямі кінатэатр «Таварыш».

— Пайшлі ў кіно! — запрашаюць сяброўкі.

— Не, не магу, дзяўчаты, — гаворыць Надзя. — Сёння рэпетыцыя.

Сяброўкі не настойваюць. Яны ведаюць, што Надзя нават на спатканне можа не пайсці, а рэпетыцыю не прапусціць.

Мы нават не адразу паверылі, калі нам сказалі, што гэта і ёсць клуб работнікаў мясцовай прамысловасці, у якім працуе другі Народны тэатр горада Бабруйска.

Наглуха забіты парадны ўваход, горы будаўнічага матэрыялу. Знаходзім у двары маленькія дзверы і, паблукаўшы цёмнымі калідорамі, нарэшце трапляем у невялічкі пакойчык. Адразу відаць, што гэтае памяшканне яшчэ зусім нядаўна пакінулі рабочыя рамонтнай брыгады.

— Распранацца не запрашаю, — папярэджвае нас Барыс Аляксандравіч Шурын, кіраўнік Народнага тэатра, — тэмпература тут ніжэй нармальнай.

За сталом сабраўся ўжо амаль увесь калектыў. Сярод моладзі бачым і нашу знаёмую Надзю Макееву.

— У такіх умовах нялёгка, відаць, мець сталы калектыў удзельнікаў? — узнікае пытанне.

— Уявіце, ніводзін чалавек не пакінуў тэатра, нават новыя ўвесь час запісваюцца. Будуемся. Ужо два гады так. Позняцца будаўнікі.

Аглядваем будоўлю новага клуба. Выдатная будзе зала, цудоўная сцэна, але калі іх закончаць — цяжка сказаць.

— Вось у гэтым пакойчыку і рыхтуем свае спектаклі.

— А дзе іграеце?

— Дзе давядзецца. У калгасах, у рабочых клубах і на сцэне гарадскога тэатра.

Пасля гэтага яшчэ з большай павагай мы пачынаем глядзець на гэтых энтузіястаў і разумець увесь глыбокі сэнс працы самадзейных аматараў тэатральнага мастацтва.

Выгарадкі даўно гатовы, і Барыс Аляксандравіч пачынае рэпетыцыю. Кожнаму ў асобку ён паведамляе, хто каго сёння будзе іграць.

— Прабачце, — не разумеем мы, — хіба выканаўцы самі не ведаюць, каго яны іграюць?

— У нас на кожную ролю па некалькі выканаўцаў, — тлумачыць кіраўнік, — як кажуць, сістэма дубліравання існуе. Самі разумееце, людзі працуюць на розных прадпрыемствах, у розныя змены, а спектакль заўсёды павінен быць гатовы для паказу. Таму на кожную ролю і маем па некалькі выканаўцаў.

Згаджаемся, што гэта разумная практыка, падказаная самім жыццём. Пачынаецца рэпетыцыя «Барабаншчыцы». Гэта не новы спектакль у рэпертуары самадзейнага тэатра, але яго трэба зноў іграць і таму не лішне паўтарыць.

Галоўную ролю Нілы Сніжко рэпетыруе Надзя Макеева. У яе звонкі голас, гарэзлівыя вочы і ўнутраная ўпэўненасць. Відаць, што роля ёй моцна падабаецца і выконвае яна яе з вялікай асалодай. Нават без грыму і тэатральнага касцюма Надзі ўдаецца паказаць сваю гераіню адважнай і вынаходлівай разведчыцай.

— Гэта ў нас ужо другая выканаўца ролі Нілы. Раней яе таксама добра іграла здольная выхаванка калектыву Галіна Раеўская. Пасля рэспубліканскага агляду самадзейных тэатраў яе запрасіў да сябе на сталую працу Мінскі тэатр юнага гледача. Як бачыце, нашы кадры трапляюць і ў прафесіянальныя тэатры...

Знаёмімся з артыстамі. Многія з іх ветэраны свайго тэатра. Гэта Б. Расін — электрык фабрыкі імя Дзяржынскага, Л. Чарняк — памочнік майстра прадзільнай фабрыкі, Л. Сілівончык, Р. Цітова і іншыя. А такія таварышы, як Мі-

**...у Народным тэатры работнікаў мясцовай прамысловасці яна — Ніла Сніжко, савецкая разведчыца.**





**Рэжысёр тэатра Барыс Шурын** (справа) **гутарыць з артыстам Леанідам Чарняком — майстрам прадзільнай фабрыкі.**

хаіл Магілянскі, Леў Камісарчык, Аляксандра Гарэлік і Ніна Шыдлоўская не толькі здольныя артысты Народнага тэатра, але і ўдарнікі камуністычнай працы, перадавікі вытворчасці.

Гартаем праграмкі, выразкі з газет, альбомы. Тут сабрана ўся гісторыя калектыву, якая пачалася 12 гадоў назад спектаклем «Юнацтва бацькоў». Сярод трыццаці з лішнім пастановак тэатра — «Пяюць жаваранкі» К. Крапівы, «Платон Крэчат» А. Карнейчука, «Без віны вінаватыя» А. Астроўскага, «У пошуках радасці» В. Розава, «Папараць-кветка» І. Козела, «Барабаншчыца» А. Салынскага, «Брэсцкая крэпасць» Я. Губарэвіча і шэраг іншых.

— А як вы вядзеце творчую вучобу маладых выканаўцаў?

— Пакуль уласнымі сіламі ў практычнай рабоце, — адказвае кіраўнік тэатра. — Калі памяшканне будзе закончана, набярэм студыю. А цяпер, працуючы над п'есай, мы імкнемся, каб кожны выканаўца перш-наперш зразумеў і адчуў гістарычную і бытавую атмасферу, у якой адбываецца дзеянне п'есы. Многа ўвагі аддаем рабоце над словам. Праводзім заняткі і практыкаванні па выпрацоўцы выразнай сцэнічнай мовы. Рэгулярна праводзім урокі грыму.

Пасля кожнага спектакля наладжваем яго разбор. Адначасова праводзім калектыўныя прагляды спектакляў прафесіянальных тэатраў, што прыязджаюць у наш горад, наладжваем творчыя гутаркі з іх рэжысёрамі і акцёрамі. Карыснымі былі сустрэчы з такімі вядомымі ў рэспубліцы рэжысёрамі, як Д. Арлоў, Л. Мазалеўская, І. Раеўскі, К. Саннікаў.

Калектыў Народнага тэатра клуба мясцовай прамысловасці ў Бабруйску марыць паставіць спектакль аб нашай савецкай моладзі, дзе было б шмат рамантыкі. Пакуль пошукі спыніліся на п'есе «Іркуцкая гісторыя». Для студыйнай работы калектыў думае ўзяць адну з п'ес Горкага.

За гутаркай непрыкметна ідзе час. Разыходзімся позна ноччу.

— А мне ж трэба яшчэ падрыхтаваць на заўтра ўрокі, — гаворыць Надзя Макеева. — Я хаджу ў 10 клас вячэрняй школы.

— Як жа вы паспяваеце?

— Ці толькі адна я вучуся? У нашым калектыве шмат вячэрнікаў і завочнікаў. Нават у інстытутах займаюцца. А паспець усюды можна, была б толькі ахвота.

Сапраўды. Была б ахвота, гарачае сэрца і энтузіязм сапраўднага аматара сцэнічнага мастацтва і можна паспець зрабіць вельмі многа, прынесці радасць сабе і сябрам.

## КЛОПАТ ПРА РЭПЕРТУАР

Гомель. Народны тэатр Палаца культуры чыгуначнікаў імя Леніна. Гэта адзін са старэйшых самадзейных калектываў Беларусі. Па шэрагу выпадковых прычын ганаровая назва «Народны тэатр» прысвоена яму толькі мінулай восенню.

Нарадзіўся гэты калектыў сорак гадоў таму назад. Ужо самы ранні яго рэпертуар сведчыць аб сур'ёзнасці мастацкіх пошукаў. «Запарожац за Дунаем», «Тарас Бульба», «Ой, не ходы, Грыцю», «Бесталанная», «Без віны вінаватыя», «Стрэл». Народнымі песнямі, словам і танцамі самадзейны калектыў садзейнічаў эстэтычнаму выхаванню гледача тых мінулых часоў. Папулярнасць яго была такая вялікая, што неаднаразова калектыў выступаў перад маскоўскімі чыгуначнікамі.

Некалькі гадоў тут займаўся з самадзейнымі выканаўцамі вопытны рэжысёр-педагог Я. Міровіч. У 1940 годзе гомельскі драматычны калектыў са спектаклем «Пагібель воўка» па п'есе Э. Самуйлёнка ўдзельнічаў у дэкадзе беларускай літаратуры і мастацтва ў Маскве.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны на самадзейную сцэну вярнуліся старэйшыя ўдзельнікі С. Каліноўская, І. Якель, А. Скубакоў. А ў 1955 годзе са спектаклем «Пінская шляхта» гамяльчане зноў выступаюць у Маскве на дэкадзе беларускай літаратуры і мастацтва. Нядаўна гэты калектыў на рэспубліканскім аглядзе лепшых спектакляў Народных тэатраў і драматычных калектываў за пастаноўку «Два колеры» па п'есе А. Зака і І. Кузняцова атрымаў дыплом другой ступені.

Сёлета ў гомельскім Народным тэатры ўласнымі сіламі створана п'еса, прысвечаная паказу баявых і рэвалюцыйных спраў слаўнай дачкі беларускага народа — Веры Харужай, якая працавала на Палессі і загінула ў гады вайны смерцю героя. «Мы доўга чакалі такую п'есу ад беларускіх драматургаў, — расказвае кіраўнік тэатра Усевалад Палетыка. — Нават загадзя пачалі збіраць і вывучаць матэрыял, адшукалі і гутарылі з людзьмі, якія добра ведалі Веру. Настолькі зжыліся з гэтым матэрыялам, што самі рашылі стварыць п'есу».

З дапамогай калектыву п'есу напісаў сам рэжысёр Усевалад Палетыка.

Пачуўшы пра такую навіну, вядома, што мы перш за ўсё пабывалі на гэтым спектаклі.

Залу запоўніла студэнцкая моладзь.

Электрычныя ліхтары выхопліваюць на сцэне з цемры тры постаці вядучых — дзеда, рабочага і маладую дзяўчыну. Пакымяна, мовай трох розных пакаленняў яны пачынаюць аповесць аб Веры.

А вось і яна сама — жыццерадасная, вясёлая ў інтымнай гутарцы з каханым Сяргеем. Вось Вера ўжо камуністка-падпольшчыца ў Заходняй Беларусі... Брэсцкі судовы працэс... Пакуты панскай турмы...

Аўтар п'есы ў развіцці падзей абапіраецца галоўным чынам на



**Сцэна са спектакля «Папараць-кветка» па п'есе І. Козела. Ролю Яніны выконвае Г. Раеўская (цяпер артыстка Рэспубліканскага тэатра юнага гледача), ролю Лабыша — электрык фабрыкі імя Дзяржынскага Б. Расін.**

**Сцэна са спектакля «Два колеры» па п'есе А. Зака і І. Кузняцова (Народны тэатр гомельскага Палаца культуры чыгуначнікаў імя Леніна).**



дакументальны матэрыял, строга захоўвае гістарычную дакладнасць. Тым не менш змест раскрываецца цікава. Садзейнічае гэтаму своеасаблівая рэжысёрская задума. Пастаноўшчык цалкам адмовіўся ад сцэнічнага афармлення і ў асобных момантах выводзіць на сцэну вядучых. Светавымі эфектамі, праекцыяй і музыкай ствараецца патрэбны настрой, канцэнтруецца ўвага гледача на дзеючых асобах.

Зразумела, што ўся адказнасць пры такім вырашэнні спектакля ляжыць на выканаўцах. Яны папрацавалі не мала і дабіліся поспеху. Гэта ў першую чаргу трэба сказаць пра выканаўцу ролі Веры Харужай — Лілю Іўшыну — кантралёра ліцейнага цэха «Гомсельмаша». Ёй удаецца іграць ролю шматгранна, унутрана напоўнена. Яе Вера ў розных абставінах інакшая. Яна і радасная, і сумная, і жыццедзейная, і гарэзлівая. Спалучаюцца ў ёй палымяныя пачуцці патрыёткі, цяпло мацярынскай ласкі і незгасальны агонь кахання. Такая Вера хвалюе, кранае і пакідае незабыўнае ўражанне.

... Яркае святло рассейвае змрок фашысцкага засценка. На фоне чырвонага сцяга застыла скульптурная група спакутаваных дзяўчат-гераінь. З гонарам пераможцы ў няроўнай барацьбе, Вера высока ўзнімае галаву. Гэты зрокавы вобраз глыбока западае ў сэрца.

Нельга сказаць, што спектакль не мае недахопаў. Яны ёсць у масавых сцэнах, у захапленні гратэскам з боку некаторых выканаўцаў. Недакладная часам і драматургічная аснова спектакля. Аднак пераважае станоўчае, і спектакль пакідае добрае ўражанне.

Заканчваючы размову аб гэтай працы гамяльчан, хочацца больш падрабязна пагаварыць аб рэпертуары Народных тэатраў. Гэтая праблема даўно хвалюе самадзейных артыстаў.

Адчуваецца недахоп нацыянальных п'ес. Таму не дзіва, што такія спектаклі, як «Не верце цішыні» І. Шамякіна, «Лявоніха на арбіце» А. Макаёнка, «Папараць-кветка» І. Козела сустрэнеш амаль у кожным самадзейным калектыве. Можа, таму трацішца свежасць успрыняцця спектакля гледачом, звужаецца кола наведвальнікаў, і Народныя тэатры, хочаш не хочаш, абмінаюць гэтыя творы. Куды ахвотней яны бяруць старыя беларускія п'есы, класіку, замежную драматургію і такім чынам адрываюцца ад сучаснасці.

Даўно вядуцца размовы, што Народныя тэатры павінны ствараць уласную драматургію. А чаму і не? Знаходзяцца ж на месцах таленавітыя выканаўцы, спевакі, танцоры, мастакі. Конкурсы на лепшую п'есу сведчаць, што ў нас шмат людзей, якія пішуць для сцэны. Кіраўнікі Народных тэатраў — вопытныя рэжысёры з пэўнай практыкай работы ў прафесіянальных калектывах, і ў садружнасці з аўтарам ім пад сілу давесці твор да сцэны.

Шлях п'есы да прафесіянальнай сцэны можа ляжаць і праз Народныя тэатры.

## АРТЫСТЫ ПРЫЕХАЛІ!

Не паспела яшчэ машына з надпісам «Аўтаклуб» уехаць у вёску Дземяхі, як жвавыя хлапчукі разнеслі па ўсіх хатах:

— Артысты прыехалі!.. Артысты прыехалі!..

Яны ж першыя і сустрэлі тых, хто прывёз сюды новы спектакль. Друкаваная афіша паведамляла, што сёння тут выступіць Рэчыцкі народны тэатр. Ён пакажа «Тры салаўі, дом 17».

Грукоча рухавічок, вокны клуба ярка асветлены. Спектакль прызначан на 9 гадзін вечара. З гоманам прабягаюць дзяўчаты, падпёрлі плечуком сцяну хлопцы, паважна праходзяць і займаюць месцы пажылыя калгаснікі.

— Бач, — дзеляцца паміж сабой дзядзькі, — то і з канцэртам ніхто ніколі не завітае, а гэта ж цэлы тэатр прыехаў.

— А каму ж яны стануць паказваць? Калі народны, дык і паказвай народу.

— Пабачым, пабачым, — і рассаджваюцца бліжэй да сцэны цэлымі сем'ямі, запрашаючы да сябе суседзяў, знаёмых.

Заслона пакуль яшчэ шчыльна захінена. Дарэчы, сёння яна з'явілася тут таксама ўпершыню. Успыхваюць пражэктары, заслона рассоўваецца, і калгаснікі знаёмяцца з жыццём людзей, якіх звёў лёс у адной камунальнай кватэры. Спачатку трошкі можа і незразумелыя падзеі, апісаныя сербскім камедыёграфам Д. Дабрычаніным, але вось вырваўся дзесьці смех, а потым — цэлая хваля смеху, які ўсё нарастае і нарастае.

— А бадай цябе немач, вось праява! — не вытрымала пажылая калгасніца, назіраючы за Пепі, якога ўдала выконвае самадзейны артыст Г. Шамалаў.

Скончан спектакль. Калгаснікі не спяшаюцца разыходзіцца. Ім цікава цяпер паглядзець на артыстаў без грыму. Праводзяць гасцей да самай машыны.

Чырвоны агеньчык «Аўтаклуба» мільгае ў апошні раз на развітанне і знікае ў цемры ночы.

Колькі цікавых сустрэч! Колькі цёплых слоў удзячнасці і падзякі пачулі артысты Рэчыцкага народнага тэатра за год!

Мы прывыклі бачыць на абласных і рэспубліканскіх аглядах мастацкую самадзейнасць Рэчыцы, як моцны творчы калектыў з разнастайнымі жанрамі: драма, хор, танцы, струнны аркестр. Калектыў меў сваё асабістае творчае аблічча, якое вызначылі спектаклі «Ведрыца» — аднаактавая народная опера, створаная самім калектывам (музыка Н. Сакалова і К. Паплаўскага на словы паэта М. Лужаніна); аперэта «Вяселле ў Малінаўцы» і іншыя. Цяпер гэтая асаблівасць знікла, і калектывы раз'ядналіся. Вылучыўся асобна Народны тэатр, як чыста драматычнае мастацтва. Думаецца, што дапушчана тут памылка, якую яшчэ не позна выправіць.

Некалькі слоў пра памяшканне Дома культуры. Гэта былая царква з мноствам разнастайных прыбудоў, перабудаваная пад клуб. Але з гэтым можна было б мірыцца, калі б само памяшканне не пагражала разваліцца. Па гэтай прычыне ўжо два гады зачынена глядзельная зала. Народны тэатр не мае свайго сталага месца і вандруе па розных сцэнічных пляцоўках горада і раёна. Гэта вельмі перашкаджае яго паспяховай творчай дзейнасці.



**Ролю Каці Шугалавай у спектаклі «Два колеры» па п'есе А. Зака і І. Кузняцова выконвае Мая Мярзляк (Народны тэатр гомельскага Палаца культуры чыгуначнікаў імя Леніна).**

У калектыве рэчыцкага Народнага тэатра шмат здольных народных умельцаў. Сярод іх В. Васіленка, О. Рэмізава, В. Крус, З. Каралёва, А. Сітко, Н. Хамянок, З. Грабцэвіч. Гэта людзі, розныя па ўзросту, адукацыі і творчай падрыхтаванасці. Калектыў мае вялікую патрэбу ў творчай вучобе, якая пакуль яшчэ не наладжана як след. Варта было б праявіць большую ініцыятыву Гомельскаму абласному драматычнаму тэатру, які, дарэчы, з'яўляецца шэфам гэтага свайго творчага спадарожніка.

## НАРОДНЫМ ТЭАТРАМ ТРЭБА ПАМАГАЦЬ

«Швец, жнец і на дудзе ігрэц» — такімі словамі адрэкамендавалі нам у мазырскім Народным тэатры маладога мастака

і загадчыка пастановачнай часткі Пятра Захарава. Мы адразу зацікавіліся такой характарыстыкай і парашылі пераканацца ў яе слушнасці. Прайшлі па так званых вытворчых цэхах. Цесната і цесната... Касцюмы, рэквізіт, заднікі, бутафорыя — усё ў адной кучы. Хоць і прыкметна, што клапатлівая рука спрабуе тут часам навесці парадак, але што зробіш у такой цеснаце?

— Таварышы, ды ў вас жа такое добрае памяшканне — былы прафесіянальны тэатр!..

— Так думаюць у Мінску, — тлумачыць мастак, а справы ў нас дрэнныя, працаваць няма дзе, сцэну арэндуем на аднолькавых умовах з прыезджымі тэатрамі.

І сапраўды, з памяшканнем справы тут дрэнь, хоць у былым абласным тэатры ёсць цудоўная зала і сцэна. Але ўсё гэта перайменавалі ў гарадскі тэатр са сваім гаспадарчым штатам, толькі без творчай трупы. Галоўная мэта «тэатра» — круціць кіно і абслугоўваць гастралёраў. Праз вузенькі калідор пад гэтым самым дахам — Дом культуры з маленькай залай і яшчэ меншай сцэнай. Тут працуюць універсітэт культуры, Народны тэатр, разнастайныя мастацкія гурткі. Хочаце правесці лекцыю ці паставіць спектакль, — пакланіцеся дырэктару гарадскога тэатра, і ўжо яго добрая воля — дазволіць ці не. Вось гэта дзікае ў наш час двайное кіраўніцтва адной установай і стварае цяжкія ўмовы для работы Народнага тэатра. Скарыстоўваць тэатральнае памяшканне, каб паказваць кіно, няма ніякай патрэбы, бо горад мае шырокаэкранны кінатэатр «Радзіма» і шэраг клубаў. Мазырскі Народны тэатр пакуль жа нічога не мае, і гэта нікога тут не бянтэжыць.

У далейшай гаворцы бліжэй знаёмімся з Пятром Захаравым. Ён закончыў Віцебскае мастацка-графічнае вучылішча і пасля службы ў арміі прыйшоў на сталую працу ў Народны тэатр.

— Пачаў сваю работу, — расказвае ён, — з афармлення спектакля «Лявоніха на арбіце». Цяжка было спачатку. Не было самых неабходных рэчаў: фарбы, мешкавіны, марлі. З цягам часу здабылі сёе-тое, але і цяпер адчуваем недахоп грыму, парыкоў, электраабсталявання, імітацыйнай апаратуры, магнітафонаў.

— А ваш шэф, Гомельскі абласны тэатр, хіба не памагае вам?

— Ды мы нават забыліся, калі яны былі ў нас. Абыходзімся ўласнымі сіламі. Думаем стварыць нават сваю невялікую студыю з бутафорскім, дэкаратыўным і сталярным цэхамі. А пакуль самі артысты ўсё робяць. Вось, напрыклад, Барыс Ландо — добры столяр, зрабіў станкі і выканаў іншую сталярную работу. А я, як бачыце, стаў электратэхнікам.

Дададзім, што Пятру Захараву даручаюць часам і выкананне роляў, з чым ён паспяхова спраўляецца. Пакуль рыхтавалася прагоначная рэпетыцыя спектакля «Будка № 27» па апавяданню І. Франка, мы мелі час пераканацца, што не дарэмна Пятра Захарава тут называюць «швец, жнец і на дудзе ігрэц...» Гарыць у яго руках усё.

Неабходная і вельмі карысная пасада ў Народным тэатры — мастак і загадчык пастановачнай часткі. Многа клопатаў ляжыць на яго плячах. Ён і з пэндзлем, ён і з малатком, ён здабывае ўсё неабходнае, захоўвае і адказвае за яго. Часам даводзіцца назіраць, што ў іншых калектывах вельмі шмат даручэнняў узвальваюць на яго плечы. Варта больш шанаваць гэтага непрыкметнага, але вельмі карыснага ў тэатры чалавека.

Кіруе Народным тэатрам у Мазыры рэжысёр М. Палтарацкі. Чалавек з багатай практыкай, оперны і драматычны артыст. У мінулым годзе ён падрыхтаваў спектакль «Лявоніха на арбіце», нядаўна адбыліся прэм'еры спектакляў «Блудны сын» і «Будка № 27». Калектыў мае намер ажыццявіць пастаноўку оперы «Наталка-Палтаўка». Актыўныя ўдзельнікі гэтага тэатра: В. Рудзінскі — урач, М. Тарасенка — медыцынская сястра, В. Казлоўская — педагог дзіцячага дома, А. Лазароўскі — загадчык кніжнага магазіна, Ю. Задарэцкая — фельчар і многія іншыя таленавітыя і ініцыятыўныя людзі.



Сцэна са спектакля «Вяселле ў Малінаўцы» (Рэчыцкі народны тэатр).

На прыкладзе спектакля «Лявоніха на арбіце» ў мазырскім Народным тэатры можна было назіраць цэлы шэраг тыповых з'яў, якія характэрны для работы многіх іншых Народных тэатраў.

Па-першае, недаўгавечнасць спектакля. Жыве ён не болей 8—10 паказаў. Чаму? Таму што творчыя кадры мяняюцца часта, а сістэма дубляжу галоўных роляў не ўсюды практыкуецца, бо часам самадзейныя выканаўцы крыўдзяцца, калі назначаюць двух артыстаў на адну ролю. Правільна робяць тыя мастацкія кіраўнікі, якія не патураюць адсталым поглядам некаторых выканаўцаў, а дамагаюцца таго, каб кожны спектакль у любую хвіліну быў гатовы да паказу.

Па-другое, кідаецца ў вочы недастатковая творчая змабілізаванасць калектыву, стылёвы разнабой, адсутнасць ансамблю, нізкая культура сцэнічнай мовы.

Вялікі папрок варта адрасаваць гомельскаму абласному Дому народнай творчасці, які павінен назіраць за работай трох Народных тэатраў — Палаца культуры чыгуначнікаў імя У. І. Леніна, рэчыцкага і мазырскага. Практычнай дапамогі ён ім аказвае вельмі мала. Тры самадзейныя тэатры вобласці нават не ведаюць, што робіцца ў кожным з іх.

Дрэнна наладжана ў гомельскім Доме народнай творчасці распаўсюджванне рэкамендацыйных рэпертуарных спісаў новых беларускіх п'ес. Таму не дзіва, што кіраўнікам Народных тэатраў часам падносяць старасвецкі беларускі вадэвіль «Збянтэжаны Саўка», як навінку.

Падарожжа па Народных тэатрах рэспублікі дазволіла нам прыйсці да вываду, што ў пераважнай большасці іх калектывы жывуць паўнакроўным творчым жыццём і паспяхова выконваюць узятыя імі на сябе добраахвотна пачэсны абавязак — несці камуністычную культуру ў шырокія масы народа. Але пульс гэтага жыцця можа стаць яшчэ больш напоўненым, калі дзейнасцю Народных тэатраў і шматлікіх самадзейных калектываў па-сур'ёзнаму зоймуцца аддзелы культуры, дамы народнай творчасці, калі кожны прафесіянальны акцёр, мастак, кампазітар палічыць надзённай патрэбай памагчы чым-небудзь свайму творчаму спадарожніку — народнаму таленту.

**Сяргей ПЯТРОВІЧ.**

# ПРАГА—МІНСК

У канцы мінулага года пражскія аматары фатаграфіі з прафсаюзнага клуба, які называецца «Фотагрупа 12», звярнуліся ў рэдакцыю часопіса «Советское фото» з просьбай пазнаёміць іх з фотааматарамі нашай краіны. Гэтае пісьмо было пераслана ў мінскі гарадскі фотаклуб. Так пачалося сяброўства групы мінчан з пражанамі.

З адной сталіцы ў другую пошта дастаўляе невялікія пакеты з фотаздымкамі. Фотаздымкі гэтыя і ў Празе, і ў нас калектыўна абмяркоўваюцца, вынікі гэтых абмеркаванняў паведамляюцца потым аўтарам.



К. Вода (Прага). Вясёлы лістапад.





М. Іодас (Прага). Удалы запуск.

Вось два фотаздымкі з прысланых для абмеркавання ў мінскі клуб. Яны, вядома, многа страцілі ад перадруку, але ўсё ж робяць пэўнае ўражанне сваёй накіраванасцю. Гэтымі здымкамі нашы сябры нібы падкрэсліваюць значэнне назіральнасці ў фатаграфічнай творчасці і асаблівую цікавасць, выкліканую здымкамі, зробленымі рэпартажна. Змест абодвух здымкаў нескладаны, але ён захапляе лірычнасцю.

Дарэчы, з першай серыі здымкаў мінскіх аўтараў пражанам больш за ўсё спадабалася работа студэнта Політэхнічнага інстытута Георгія Меншыкава «На пляжы». «Нам бы толькі хацелася,— пішуць пражане, — каб гэты здымак можна было прадоўжыць у шырыню, у напрамку позірку дзіцяці. Тады прастора пляжа акрэслілася б яшчэ больш. Акрамя таго, на здымку дзіця знаходзіцца вельмі высока».

Чэхаславацкія фотааматары з'яўляюцца ледзь не самымі мацнейшымі ў Еўропе. У краіне налічваецца некалькі сот фотаклубаў. Работы чэхаславацкіх аматараў фатаграфіі на працягу дзесяткаў год нязменна адзначаюцца на міжнародных выстаўках. Творчае сяброўства мінчан з пражскімі таварышамі па мастацтву несумненна прынясе вялікую карысць.



Г. Меншыкаў (Мінск). На пляжы.



А. І. Герцэн. 1836. З партрэта работы А. Вітберга.

# ВЫКЛЮЧНЫ ПА СІЛЕ РОЗУМ

### Да 150-й гадавіны з дня нараджэння А. І. Герцэна

Аляксандр Іванавіч Герцэн — вялікі рускі мысліцель, пісьменнік і рэвалюцыянер — займае ганаровае месца ў гісторыі нашай Радзімы і яе культуры. Ленін называў яго, побач з Бялінскім і Чарнышэўскім, «папярэднікам рускай сацыял-дэмакратыі» і ўказваў, што яго творчасць і рэвалюцыйная дзейнасць адыгралі вялікую ролю ў падрыхтоўцы глебы для пашырэння марксізма ў Расіі.

Герцэн нарадзіўся ў багатай рускай сям'і ў Маскве ў 1812 годзе. Расказы пра Барадзінскі бой, пра пажар у Маскве былі для Герцэна «калыханкай», якая абуджала ў яго душы патрыятычны гонар за свой народ, што адстаяў ва ўпорнай барацьбе з французскімі захопнікамі сваю свабоду і незалежнасць.

Не меней уразіла юнага Герцэна пакаранне царом у 1825 годзе рэвалюцыянераў-дзекабрыстаў, што са зброяй у руках выступілі супраць самадзяржаўна-прыгонніцкага ладу. Вобразы дзекабрыстаў, або, як называў іх пісьменнік, «... волатаў, выкутых з чыстай сталі, з галавы да ног, якія выступілі свядома на адкрытую пагібель», — назаўсёды засталіся для яго сімвалам барацьбы супраць прыгнёту і самаўладства.



Вучоба ў Маскоўскім універсітэце, дзе ў 30-я гады збіралася перадавая руская моладзь, завяршыла выхаванне Герцэна як палымянага і непрымірымага праціўніка прыгоннага рабства і царскага дэспатызму. Удзел у студэнцкім гуртку закончыўся для Герцэна арыштам і ссылкай у далёкую Вятку, дзе ён непасрэдна сутыкнуўся з жахамі прыгоннага права і самадзяржаўнага бюракратызму.

У 1839 годзе Герцэн вяртаецца з ссылкі ў Маскву і адразу становіцца побач з Бялінскім у цэнтры грамадска-палітычнай барацьбы Расіі 40-х гадоў.

30—40-я гады XIX стагоддзя ў гісторыі нашай краіны характарызуюцца тым, што ў выніку рэзкага абвастрэння крызісу феадальнага ладу прыгоннае сялянства ўсё больш рашуча ўзнімаецца на барацьбу за сваё вызваленне.

Мікалай І, гэты першы рускі памешчык, ставіць на службу тагачасным парадкам усё: армію, жандараў, цэнзуру і афіцыйную ідэалогію «праваслаўя, самадзяржаўя і народнасці», заклікануую адурманьваць народ і ўслаўляць прыгоннае права. У гэтых умовах перадавыя людзі краіны вымушаны былі выказваць свае думкі ў замаскаванай форме; актуальныя палітычныя пытанні абмяркоўваліся, галоўным чынам, на старонках літаратурна-мастацкіх часопісаў, у студэнцкіх аўдыторыях і ў прыватнай перапісцы. Руская літаратура гэтага перыяду набыла вялікае грамадска-палітычнае значэнне. Палымяныя крытычныя артыкулы Бялінскага адкрыта прапагандавалі ідэі рэвалюцыйнай дэмакратыі.

У гэты час Герцэн піша свой славуты раман «Хто вінаваты?» і аповесць «Сарока-зладзейка», у якіх з вялікай мастацкай сілай выкрывае антыгуманістычную сутнасць прыгонніцтва.

У сваёй мастацкай творчасці і крытычных артыкулах Герцэн цалкам падтрымліваў прынцыпы рэалістычнай эстэтыкі Бялінскага, які патрабаваў ад мастацтва праўды жыцця і высокай ідэйнасці.

Выкрываючы рэакцыйную тэорыю «праваслаўя, самадзяржаўя і народнасці», Герцэн разам з Бялінскім распрацаваў асноўныя палажэнні рэвалюцыйна-дэмакратычнай ідэалогіі, якая выражала інтарэсы прыгоннага сялянства і давала ідэйную апору рэвалюцыйным імкненням працоўных мас і перадавой інтэлігенцыі Расіі.

У пачатку 40-х гадоў Герцэн піша сваю асноўную філасофскую працу «Пісьмы аб вывучэнні прыроды», у якой бліскуча прымяняе дыялектыку да разгляду з'яў прыроды і грамадства. Матэрыялізм Герцэна і Бялінскага служыў тэарэтычнай асновай рэвалюцыйна-дэмакратычнай ідэалогіі і адыграў вялікую ролю ў абароне матэрыялістычнай традыцыі рускай філасофіі.

Абапіраючыся на матэрыялізм і рэвалюцыйны дэмакратызм, Герцэн і Бялінскі занялі адзіна правільную пазіцыю ў спрэчцы аб гістарычным развіцці Расіі, якая захапіла рускую інтэлігенцыю 40-х гадоў. Па сутнасці гэта была спрэчка аб шляхах вырашэння крызісу прыгонніцкай сістэмы, які стаў відавочны для многіх.

Герцэн і Бялінскі жорстка крытыкавалі і славянафілаў, і заходнікаў. Яны паказалі, што адзіна правільны шлях рускага народа да лепшай будучыні ляжыць праз рэвалюцыйную барацьбу працоўных мас супраць памешчыкаў і цара.

Не маючы магчымасці весці адкрытую барацьбу з самадзяржаўем у самой Расіі, Герцэн у 1847 годзе эміграваў за мяжу і ў 1853 годзе арганізаваў у Лондане Вольную рускую друкарню, якую сам вобразна называў «...батарэяй супраць цара».

Перыядычныя выданні «Полярная звезда» і «Колокол», якія выпускаліся Герцэнам і яго верным сябрам і паплечнікам Агаровым, нелегальна распаўсюджваліся ў Расіі. Яны адыгралі вялікую ролю ў выкрыцці самадзяржаўна-прыгонніцкіх парадкаў у выхаванні новых пакаленняў рэвалюцыянераў.

Ленін асабліва падкрэсліваў гэтую вялікую заслугу Герцэна перад рускім вызваленчым рухам, гаворачы, што ён «...узняў вялікі сцяг барацьбы шляхам звароту да мас з вольным рускім словам».

Герцэн быў выдатным дзеячом не толькі рускага рэвалюцыйнага руху. Жывучы ў эміграцыі да канца сваіх дзён, ён увесь час быў у гушчыні заходнееўрапейскага палітычнага жыцця, уважліва сачыў за ходам класавай барацьбы ў Заходняй Еўропе, падтрымліваў цесныя сувязі з віднейшымі дзеячамі рабочага і нацыянальна-вызваленчага руху Францыі, Італіі, Германіі, Англіі і іншых краін.

Памёр Герцэн 21 студзеня 1870 года ў Парыжы, не дажыўшы некалькі тыдняў да паўстання парыжскіх камунараў.

Вялікі рускі мысліцель быў палымяным патрыётам сваёй Радзімы. Барацьбе за вызваленне свайго народа ад прыгнёту самадзяржаўя і прыгонніцтва ён аддаў увесь свой талент выдатнага філасофа і сацыёлага, пісьменніка, публіцыста і нязломнага рэвалюцыянера.

«Пануючая вось, — пісаў Герцэн, — вакол якой ішло наша жыццё — гэта **нашы адносіны да рускага народа, вера ў яго,** любоў да яго... і жаданне дзейсна ўдзельнічаць у яго лёсе».

Філасофія для Герцэна не была самамэтай, у ёй ён шукаў адказ на актуальныя пытанні барацьбы працоўных мас.

У распрацоўцы многіх пытанняў філасофскага матэрыялізму Герцэн часам так блізка падыходзіць да класікаў марксізма, што Пляханаў з поўнай падставай пісаў: «...гэта надзвычайнае падабенства паказвае, што розум Герцэна працаваў у тым жа кірунку, у якім працаваў розум Энгельса, а гэта значыць і Маркса».

Ленін высока цаніў філасофскую спадчыну Герцэна, адзначаючы, што ён у прыгоннай Расіі 40-х гадоў XIX стагоддзя стаў побач з найвялікшымі мысліцелямі свайго часу, ушчыльную падышоў да дыялектычнага матэрыялізму і спыніўся перад гістарычным матэрыялізмам.

Абапіраючыся на дыялектычнае разуменне грамадскіх заканамернасцей, Герцэн даў глыбокую распрацоўку многіх пытанняў рускай і ўсеагульнай гісторыі. Заслуга Герцэна ў рускай гісторыяграфіі таксама і ў тым, што сваёй кнігай «Аб развіцці рэвалюцыйных ідэй у Расіі», а таксама працамі аб дзекабрыстах ён паклаў пачатак навуковай гісторыі рэвалюцыйнай барацьбы ў Расіі.

Горкі ў сваёй «Гісторыі рускай літаратуры» адзначаў, што да Герцэна ніхто не глядзеў так markознабакова і глыбока на рускае жыццё. «Ён — цэлая вобласць, краіна, дзівосна багатая думкамі... Яго розум — розум выключны па сіле, як яго мова выключная па прыгажосці і бляску», — пісаў Горкі.

Ідэі вялікага рускага мысліцеля, праcякнутыя светлым гуманізмам і верай у чалавечы розум, і сёння высакародна служаць чалавецтву ў яго барацьбе за мір і шчасце на зямлі.

**Ігар РАБКОЎ.**

# *Родныя прасторы*



**Хораша ўвесну. Фотаэцюд А. Дзітлава.**

***Дарагі чытач!***

***Ты ўжо заўважыў, мабыць, што з нумара ў нумар мы вядзем раздзел „Родныя прасторы“. Прыглядзься да той мясціны, дзе ты жывеш, засведчы самае прыгожае фотааб‘ектывам і дашлі здымкі на адрас нашай рэдакцыі. Лепшыя з іх мы апублікуем.***

*Бібліяграфія*

# ЖЫЦЦЁ, ДУМКІ, СПРАВЫ ІЛЬІЧА



У наш час на зямным шары няма ніводнага нават самага аддаленага кутка, дзе не было б вядома вялікае імя — Ленін. Яно бясконца дарагое сотням мільёнаў людзей. Яно — спадарожная зорка працоўных усяго свету. Бессмяротнае ленінскае вучэнне асвятляе шлях да светлай будучыні народам усёй планеты. З іменем Леніна звязаны пачатак новай эры ў сусветнай гісторыі — эры крушэння капіталізма і пераможнай хады камунізма. Творы Уладзіміра Ільіча Леніна чытаюцца і вывучаюцца ўсімі прагрэсіўнымі людзьмі свету.

Для нас, савецкіх людзей, імя Леніна — найдаражэйшае з усіх. Вобраз вялікага Леніна — у сэрцы нашага народа, які па яго запаветах будуе самае справядлівае і прыгожае грамадства ўсіх эпох — камунізм. Вось чаму ўсё тое, што звязана з іменем Леніна, выклікае ў нас вялікую цікавасць. За гады савецкай улады беларусы, як і ўсе народы шматнацыянальнага Савецкага Саюза, атрымалі магчымасць чытаць на сваёй роднай мове творы заснавальнікаў навуковага камунізма Карла Маркса і Фрыдрыха Энгельса. У рэспубліцы выдадзены на беларускай мове 38 тамоў Твораў Уладзіміра Ільіча Леніна, ленінскія тэматычныя зборнікі і паасобныя творы геніяльнага настаўніка працоўных, а таксама кнігі пра Леніна і камунізм. З вялікім задавальненнем сустрэта ў нашай рэспубліцы новае выданне Біяграфіі Уладзіміра Ільіча Леніна ў перакладзе на беларускую мову, зробленым Інстытутам гісторыі партыі пры ЦК КПБ *. Выхад у свет Біяграфіі Леніна на беларускай мове — важная падзея ў жыцці ўсяго беларускага народа.

Гэтая кніга была падрыхтавана Інстытутам марксізма-ленінізма пры ЦК КПСС і з'яўляецца найбольш поўным выданнем з усіх раней выдадзеных біяграфій У. І. Леніна. Яна складаецца з уводзін, 13 раздзелаў і заключэння.

Кніга расказвае пра жыццё і нястомную дзейнасць Леніна, пра яго жыватворчыя ідэі, пра яго гераічны жыццёвы подзвіг, здзейснены ў імя нашай Радзімы і ўсіх народаў свету.

Чытаючы кнігу, бачыш, як рос, фармаваўся, мужнеў, загартоўваўся характар Уладзіміра Ільіча. Служэнне Леніна рэвалюцыі, справе камунізма, інтарэсам народа было мэтаю ўсяго яго жыцця. Кніга расказвае пра тое, як Ленін рыхтаваў сябе і сваіх аднадумцаў да барацьбы за вызваленне рабочага класа, усіх працоўных свету з няволі і прыгнёту. У кнізе шырока паказаны гады вучобы Валодзі Ульянава ў Сімбірскай гімназіі і Казанскім універсітэце, жыццё ў Самары і Пецярбургу, знаходжанне ў сібірскай ссылцы і ў эміграцыі. У біяграфіі прыведзена многа ўспамінаў родных і блізкіх У. І. Леніна, яго сучаснікаў і паплечнікаў, усіх тых, каму выпала шчасце асабіста ведаць Ільіча, працаваць з ім.

З самых ранніх год Уладзімір Ільіч усяго сябе аддаваў справе рэвалюцыі. Яго жыццё было цалкам падпарадкавана адной вялікай мэце — барацьбе за шчасце працоўных. У семнаццаць год Валодзя Ульянаў выступіў ужо як сапраўдны рэвалюцыянер, цвёрда перакананы ў магчымасці знішчэння царызму, які многім у той час здаваўся непрыступнай крэпасцю. Пра гэта сведчыць размова паміж Леніным, арыштаваным за ўдзел у хваляваннях студэнтаў Казанскага ўніверсітэта, і паліцэйскім прыставам, які вёў яго ў турму.

— Ну што вы бунтуеце, малады чалавек, — гэта ж сцяна! — павучальна гаварыў прыстаў.

— Сцяна, ды гнілая — ткні, і развваліцца! — смела адказаў малады Ульянаў.

Гісторыя паказала, што гэтыя словы не былі кінуты на вецер.

У. І. Ленін нарадзіўся і вырас на берагах вялікай рускай ракі Волгі. Ён як быццам увабраў у сябе яе шырыню і магутную сілу, услаўленую ў народных песнях і паданнях.

Светапогляд Леніна складаўся пад уздзеяннем яго бацькоў — перадавых для таго часу людзей, пад уплывам рэвалюцыйна-дэмакратычнай літаратуры і самога жыцця народа. Юнаком Уладзімір Ільіч пачаў вывучаць працы заснавальнікаў навуковага камунізма.

Жыццё Леніна злілося ў адно з жыццём і барацьбой камуністычнай партыі. Яе стварэнню і ўмацаванню ён аддаў увесь свой палітычны і арганізацыйны талент, усе свае сілы і палымянае сэрца рэвалюцыянера-камуніста. «З іскры ўзгарыцца полымя»!» Хто не ведае гэтых узнёслых слоў з адказу дзекабрыстаў на свабодалюбнае пасланне Пушкіна! Гэтыя словы сталі дэвізам арганізаванай Леніным агульнарускай палітычнай газеты «Искра», якая зрабілася цэнтрам аб'яднання партыйных сіл, збірання і выхавання партыйных кадраў, згуртавання, стварэння рэвалюцыйнай партыі рабочага класа.

Ленінская «Искра» з першых нумароў шырока распаўсюджвалася ў Беларусі і на сваіх старонках сістэматычна публікавала карэспандэнцыі аб рэвалюцыйным руху ў Мінску, Віцебску, Гомелі, Гродна, Магілёве і іншых гарадах Беларусі, рэгулярна асвятляла дзейнасць мясцовых партыйных арганізацый. Усяго ў «Искре» было змешчана звыш 20 карэспандэнцый і паведамленняў з Беларусі.

Пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі на чале з Леніным рабочы клас Расіі ў саюзе з сялянствам, прайшоўшы праз агонь і буры трох рэвалюцый, скінуў нарэшце ярмо царскага самаўладства і, устанавіўшы Савецкую ўладу, стварыў у кастрычніку 1917 года першую ў свеце сацыялістычную дзяржаву рабочых і сялян.

Ленін і партыя — адзіныя. Вось чаму Біяграфія Леніна падаецца ў непарыўным адзінстве з дзейнасцю нашай партыі на працягу ўсёй яе гісторыі. Камуністычная партыя нарадзілася і ўзмацнела ў жорсткай барацьбе супраць ворагаў марксізма, апартуністаў і рэвізіяністаў усіх колераў і адценняў. Ідэйным натхніцелем і непасрэдным арганізатарам гэтай цяжкай і ўпартай барацьбы быў Ленін. Яго ваяўнічыя творы, палемічныя артыкулы і выступленні бязлітасна білі адступнікаў ад марксізма, усіх тых, хто сваімі дзеяннямі аслабляў партыю, міжнародны рабочы рух.

У. І. Ленін быў творчым марксістам. У адпаведнасці з гістарычнымі ўмовамі ён канкрэтызаваў і ўзбагачаў састаўныя часткі марксізма — філасофію, палітычную эканомію, навуковы камунізм.

У. І. Ленін спалучаў у сабе геніяльнасць мысліцеля, усімі прызнанага правадыра і настаўніка міжнароднага рабочага класа са звычайнай чалавечай сціпласцю. Ён быў чалавекам выключна жыццерадасным, любіў марыць, жар-

---

* Уладзімір Ільіч Ленін. Біяграфія. Напісана аўтарскім калектывам у складзе: П. М. Паспелаў (кіраўнік), Г. Д. Абічкін, В. Я. Зевін, Л. Ф. Ільічоў, Ф. В. Канстанцінаў, А. П. Касульнікаў, З. А. Лёвіна, П. Н. Федасееў, В. Е. Яўграфаў. Дзяржвыдавецтва БССР, Мінск, 1961 г.

таваць, весяліцца, быў вельмі працавіты. Ленін — гэта праобраз чалавека будучага камуністычнага грамадства.

Уладзімір Ільіч заўсёды быў цесна звязаны з працоўнымі масамі, добра ведаў іх настроі і патрэбы. Ён ніколі не мінаў выпадку, каб не сустрэцца і не пагутарыць з рабочымі, сялянамі, выслухаць іхнія думкі, падзяліцца сваімі меркаваннямі. Ленін любіў народ, і народ плаціў яму такой жа моцнай любоўю. Жывая сувязь народа і правадыра раскрываецца ў кнізе ярка і вобразна.

Ленін любіў моладзь, бачыў у ёй камуністычную будучыню. Пры яго непасрэдным удзеле і па яго ініцыятыве быў створан Камуністычны Саюз Моладзі — верны памочнік партыі ў барацьбе за камунізм.

Скрозь заслону часу Ленін ясна бачыў слаўную будучыню нашай Радзімы, рост яе эканамічнай, палітычнай і абароннай магутнасці, небывалы росквіт навукі, тэхнікі, культуры. Ён сцвярджаў, што наша краіна мае ўсё неабходнае для пабудовы камуністычнага грамадства. У яго апошніх артыкулах абагульнена практыка пабудовы новага грамадства і сфармуляваны важнейшыя тэарэтычныя палажэнні, на якія і цяпер наша партыя абапіраецца ва ўсёй сваёй дзейнасці. Састаўнымі часткамі ленінскага плана камуністычнага будаўніцтва былі: індустрыялізацыя ўсёй краіны, развіццё цяжкай індустрыі і яе асновы — машынабудавання на базе электрыфікацыі ўсёй народнай гаспадаркі, перабудова сельскай гаспадаркі на сацыялістычных падставах, ажыццяўленне культурнай рэвалюцыі.

Уладзімір Ільіч быў палымяным змагаром за мір і марыў пра той час, калі не будзе войн. Ён прадбачыў, што з часам, у выніку прагрэсу тэхнікі, вайна будзе настолькі разбуральнай, што яна наогул зробіцца немагчымай. Пры гэтым Ленін, вядома, не меў на ўвазе, што разбуральны характар вайны сам па сабе ліквідуе яе пагрозу. Ён неаднаразова падкрэсліваў, што рашаючую ролю ў прадухіленні вайны адыграе барацьба народных мас, усіх міралюбівых сіл супраць імперыялізма, за мірныя адносіны паміж усімі народамі. Ленін заўсёды гаварыў пра магчымасць і неабходнасць мірнага суіснавання дзяржаў з рознымі грамадска-эканамічнымі сістэмамі. У кнізе пераканаўча паказана, што іменна Ленін заклаў асновы міралюбівай знешняй палітыкі савецкай дзяржавы, якая паслядоўна праводзіцца камуністычнай партыяй і савецкім урадам і ў нашы дні.

Уладзімір Ільіч памёр, калі маладая савецкая рэспубліка была яшчэ беднай і непісьменнай. Але ён быў перакананы, што пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі савецкі народ дагоніць эканамічна развітыя капіталістычныя краіны за параўнальна кароткі тэрмін.

XXII з'езд КПСС — з'езд будаўнікоў камунізма — прыняў новую, трэцюю праграму партыі, праграму пабудовы камуністычнага грамадства ў СССР. Першыя дзве праграмы партыі, якія былі распрацаваны пры непасрэдным удзеле і пад кіраўніцтвам У. І. Леніна, выкананы савецкім народам. Новая Праграма КПСС зусім справядліва называецца ленінскай, таму што і яна грунтуецца на вучэнні Леніна аб перамозе сацыялізма і камунізма, па-ленінску творча абагульняе практыку пабудовы сацыялізма, улічвае вопыт міжнароднага рэвалюцыйнага руху і, выражаючы калектыўную думку партыі, вызначае галоўныя задачы і асноўныя этапы камуністычнага будаўніцтва.

Біяграфія У. І. Леніна памагае глыбей зразумець падзеі мінулага, разабрацца ў характары ўсяго таго, што адбываецца ў свеце сёння. Яна ідэйна ўзбройвае нас у барацьбе супраць буржуазнай ідэалогіі, супраць сучаснага рэвізіянізму, супраць дактрынёраў і рознага роду дагматыкаў, блытанікаў і адшчапенцаў. Гэта кніга, якая вучыць любві і адданасці вялікай партыі камуністаў, сваёй Радзіме, народу, вернасці прынцыпам пралетарскага інтэрнацыяналізму, кліча на подзвігі, на самаадданую працу ў імя камунізма.

**Кастусь ПАТАЕНКА,**
навуковы супрацоўнік
Інстытута філасофіі АН БССР.



# ПЕСНІ СТАРЫЯ І НОВЫЯ




Вопыт старэйшага таварыша па пяру заўсёды павучальны і тым больш, калі ён — паэт цікавы, самабытны. Таму не без карысці будзе перагарнуць новыя вершы Антона Бялевіча, сабраныя ў кнізе «Вясёлка над полем». *

У ёй ёсць тая ж, ранейшая, шчырая замілаванасць паэта да людзей вёскі, да чалавека-працаўніка. Героямі лірычных твораў Антона Бялевіча выступаюць усё тыя ж, знаёмыя нам па ранейшых вершах паэта дубраўчане — хлебаробы, млынары, пчаляры, ганчары, кавалі, краўцы, шаўцы і іншыя. Вялікая сардэчная блізкасць яднае паэта з імі, і можа таму чытача ўвесь час не пакідае добрае пачуццё захаплення імі, простымі і шчырымі, чыстымі і прыгожымі душэўна.

І асабліва радуе, што, паэтызуючы простых людзей, у новай кнізе паэт выяўляе ўзрослае пачуццё адказнасці за іх лёс. Гэтага пачуцця якраз часта бракавала ранейшым вершам Бялевіча, калі ён пісаў свае ідылічныя «Лісты з Дуброўкі». Цяпер жа паэтава пачуццё пасталела і гэта робіць яго паэзію больш удумлівай, глыбокай. Вось чаму ён не без лірычнай іроніі ўспамінае («Слова пра вернага друга») свае былыя ідыліі:

...было, вялося,
Пісалі Сталіну лісты:
Маўляў, жывём! Звіняць калоссі,
Бушуюць нашыя жыты!..
А разумееце вы самі,
Як брала беднасць у палон.
Нібы капшук, такою слава
Ў сяле надзьмутаю была...
Дзяржава, родная дзяржава
Нам, чым змагла, дапамагла.

Паэтычнае асэнсаванне тых зрухаў, якія адбываюцца ў жыцці калгаснай вёскі, клопат за свайго сучасніка, за яго надзённы хлеб, мір і шчасце — усё гэта робіць паэзію Антона Бялевіча больш чулай, больш грамадскі значнай.

Мабыць, з гэтым ростам паэта звязана і яго актыўная зацікаўленасць у апошні час жанрам вершаванага фельетона. У фельетонах «Гарбуз», «Вы прыходзьце ў кабінет» і іншых паэт дасціпна і трапна высмейвае заганныя з'явы, што замінаюць народу ісці наперад. Многія фельетоны Антона Бялевіча несумненна ўзбагачаюць творчы багаж паэта.

Што ж у новай кнізе прываблівае перш за ўсё? Возьмем хоць бы прасякнуты шчырай паэзіяй традыцыйна-фальклорнага светаадчування верш «Вялікі свет». Яго самабытная паэтычнасць як бы скандэнсавана ў заключных строфах:

Казаў нам праўду добры дзед,
Збылося ўсё з яго прыкмет:
Шчупак хвастом раскроіў лёд,—
Грыміць, бушуе крыгаход;

Снег рыхлы з'елі туманы,—
Бярозавік цячэ ў збаны;
Прынёс нам бусел на хвасце
Вясну—чарэмшына цвіце.

Запахла яліна смалой,—
Як зоркі, шышачкі на ёй.
Каноплі выраслі як след,
Красуе ў полі жыта.
Шырокі свет, вялікі свет
Ва ўсе бакі раскрыты!

Стылёва адзінымі з вершам «Вялікі свет» з'яўляюцца ў зборніку — «Ліст Леніну», «Залаты чалавек», «Ключы ад шчасця», «Вясёлка над полем», «Сумуе старэнькі млынок», «Роздум», «Мне рубашку маці вышыла». Усе гэтыя творы цікавыя сваёю шчодрасцю на паэтычныя фарбы, своеасаблівым разгортваннем рытмічнага малюнка. Амаль усе яны напоўнены спрадвечным і, мабыць, векавечна свежым адухоўленнем з'яў навакольнага жыцця («Вясёлка над полем»):

Жаўрукоў вясна сыпнула
З рукава ў блакіты.
Рукавом другім махнула —
Падскочыла жыта.

* Антон Бялевіч. «Вясёлка над полем». Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1961.

Амаль усе пералічаныя вершы іскрацца паэтавай улюбёнасцю ў традыцыйныя народна-песенныя вобразы. У іх «залатым ключом праменным» вясна «адмыкае з-пад ільда азёры, рэкі, з-пад снягоў палеткі», а вясёлкі п'юць «з лагоднай рэчкі ваду», «з блакітнага плёса», а ў «цяністым гаю» з «чарнабровую», са сваёю «ластаўкай» ходзіць хлопец. Прычым часцей за ўсё традыцыйна-народнае паэт выкарыстоўвае па-свойму, свежа і пранікнёна («Мне рубашку маці вышыла»):

... Адхадзілася там, адлюбілася...
І рубашка даўно ўжо знасілася,
І даўно ўжо я сам пасталеў.
Толькі пеўнікі ясныя выжылі,
Толькі зорачкі ў сэрцы ў мяне:
Твае рукі, матуля, іх вышылі
На кужэльным тугім палатне.
Там шлячок да шлячка ясна сцелецца,
Жычкі яркай гарыць агенёк...
Мне відаць, як ідзеш праз мяцеліцу,
Апрануўшы стары кажушок...

З добрым пачуццём меры і густу звязвае Антон Бялевіч гэтае традыцыйна-народнае з жывым подыхам сучаснай тэмы («Ключы ад шчасця»):

Стрэліся яны ўначы,
Стары год і новы.
— От, сынок, бяры ключы,
Адмыкай здаровы
Сямігодкі новы дзень...

Народна-традыцыйнай вобразнасці гэтых вершаў добра адпавядае іх рытм, просты сінтаксіс паэтычнай фразы:

Гаем, полем напрасткі,
А ўжо поўнач блізка...

Інтанацыйна своеасабліва афарбоўвае верш Бялевіча і простая мова. Трэба сказаць, што з сённяшніх паэтаў, мабыць, ніхто так не любіць і так арганічна не ўмее ўводзіць простую мову ў лірычны верш, як Антон Бялевіч.

Вершы, стылёва адзіныя з вершам «Вялікі свет», паўторымся, самабытныя і цікавыя. Творы гэтыя ўжо занялі сваё трывалае месца ў «шырокім свеце, вялікім свеце» нашай паэзіі. Але паэта вабіць сёння ўжо і іншае. Калі чытаеш такія вершы, як «Смерць чайкі», «Калі я глядзеў на бурштын», «Свята песні», «Чаго тут ходзіш, чарнабровая?», «Я слухаў мора справаздачу», адчуваеш, што слова Антона Бялевіча шмат у чым і новае.

Зусім слушна крытыка адзначыла, што Антон Бялевіч, пішучы аб моры, не можа ўявіць яго па-за асацыяцыямі, звязанымі з даўнішняй блізкасцю паэта да вёскі, да беларускай народна-фальклорнай традыцыі («Я слухаў мора справаздачу»):

Бяжыць,
Грыміць
Ды ў пене скача
На хвалю хваля.
Нібы бачу
Галоп грывастых табуноў...

Але ці не здаецца праўдай і тое, што ў новых вершах Антона Бялевіча адметна і якасная абноўленасць яго паэзіі. Яна перш за ўсё ў засяроджана-паглыбленым роздуме, які ёсць у вершах «Смерць чайкі», «Калі я глядзеў на бурштын», «Свята песні».

Антон Бялевіч, у якога паэтычная думка раней ляжала як бы «на паверхні» верша, цяпер усё часцей «хавае» яе ў падтэкст. У вершы «Смерць чайкі», напрыклад, напісаным, можна сказаць, у строга класічным стылі, адухоўленым традыцыйна-класічнай рамантычнай незвычайнасцю, паэт славіць урачыстасць гордага змагання са стыхіяй, пафасна сцвярджае красу змагання і нават самой смерці, калі яна — у імя вечнага жыцця:

Крылом чыркнула па ўспененай хвалі,
Другім чырканула... І сілы пакінулі...
Далёка маланкі ў бяздонне стралялі,
Буруны, грымоты далёка адхлынулі.
А сонца заходзіла, яркай палоскай
На моры прыціхлым дарожку
адзначыла.
Ды чайка не чула ўжо ціхага ўсплёску,
Ні сонца, ні хвалі чырвонай не бачыла.
І трохі зайздросцілі тыя ёй, можа,
Што бурай загнаныя ў сховы
сасонніка...
А гэта трывала, згарэла прыгожа
На хвалі агністай, трымаючы сонейка!

Усё тыя ж, як у вершы «Смерць чайкі», строгасць стылю і відочная зацікаўленасць да рамантызацыі малюнка прысутнічаюць і ў вершы «Калі я глядзеў на бурштын»:

І знік пад вадою куток той лясны,
Бушуе над кронамі мора.
Сасна — на сасну,
Сасна — да сасны —
У бяздонні сасонніку горы.

Гэты твор разам з тым адзін з паказчыкаў шырыні сённяшняга погляду паэта на свет, багацця яго паэтычнай фантазіі:

Гляджу на бурштын я, а думка плыве,
Такую карціну малюе:
Жыццём незвычайным сасоннік жыве,
Ён зорачку гэту малую,
Абцёршы аб травы, жарству і пяскі,
Яе пракаціўшы праз хвалі,
Нам кінуў з бяздоння на бераг марскі,
Каб долю лясную згадалі;
Каб мы не забыліся бору таго,
Ні смолкі, ні шышкі сасновай...

У новых вершах Антона Бялевіча характэрная для іх строгасць стылю і рамантычны каларыт спалучаны месцамі з паэтыкай і вобразнасцю беларускай народнай песні. І гэта надае ім яшчэ большую выяўленчую сілу і выразнасць. Наколькі ўзмацняе, напрыклад, сілу эмацыянальнага ўздзеяння суровая кантраснасць у вершы «Свята песні»:

— Глыбокае мора, шырокае мора, —
Старая запеў павяла, —
Ды толькі глыбейшым было маё гора.
Шырэйшаю скруха была.

І гэтак жа арганічна напружаны драматызм адцяняецца ў вершы «Чаго ты ходзіш, чарнабровая?» традыцыйным, ласкава-замілаваным зваротам да лірычнай гераіні.

Вершы пра мора ясна сведчаць, што новыя заваёвы паэтычных якасцей паэту пад сілу. Рабіць гэтыя заваёвы яму, аднак, як і раней, перашкаджае ці то халодны рытарызм, як у вершы «Наша праўда», ці то лішне агалены дыдактызм, як у вершы «Сакрэт», ці то нястрыманы паток мнагаслоўя, як у «Слове аб верным другу». Памятаць аб усіх гэтых небяспеках паэту варта і надалей.

Асабліва Антону Бялевічу, як і раней, пагражае мнагаслоўны, пазбаўлены паэтычнай свежасці, інертны радок, нагрувашчванне малюнка на малюнак у развіцці паэтычнай думкі, у распрацоўцы сюжэта. Усё гэта найбольш выразна праявілася ў «Слове пра вернага друга». Яно, акрамя таго, пазбаўлена маналітнага, адзінага пафасу, шырокага развароту думкі, слаба арганізавана кампазіцыйна. Аўтар, па ўсім відаць, напісаў твор, папярэдне яго глыбока не прадумаўшы, не вынасіўшы. Такім чынам, паспешлівасць пры вырашэнні надзённай тэмы і прывяла паэта да няўдачы.

Мнагаслоўе і агульшчына — родныя сёстры. Не дзіўна таму, што асобныя вершы Антона Бялевіча гучаць, як нешта даўно чутае. Шукаць новае ў тэмах, вобразах, рытмах і інтанацыі паранейшаму, як і кожнаму з паэтаў, застаецца для Антона Бялевіча важным, першаступенным.

У вершы «Свята песні» ёсць радкі:

Кастры ўсё гарэлі, а людзі ўсё неслі
І песні старыя, і новыя песні,
Уплёўшы ў іх душы свае.
Пяе маё сэрца, пяе!

Гэта гучыць як дэкларацыя. І мы сапраўды верым ёй. Разумей чалавека, свайго сучасніка, «песні старыя і новыя песні», і сэрца твае, калі ты паэт, будзе спяваць і спяваць без стомы! Прага гэтага разумення жыве і ў сэрцы Антона Бялевіча, і яна — лепшая зарука яго далейшых поспехаў.

**Алег ЛОЙКА.**



Аляксандр Мядзведзь.

# ДА СУСТРЭЧЫ Ў ТАЛЕДА!..

Апошняя трэніроўка нічым не адрознівалася ад усіх іншых. Трэнер не заўважыў у свайго вучня ніякіх адзнак хвалявання. Аляксандр Мядзведзь быў, як заўсёды, спакойны, нібы не яму мелася паездка ў Японію на чэмпіянат свету. Праўда, вытрымка ў хлопца жалезная, але не можа быць, каб ён зусім не перажываў і блізкія сустрэчы з мацнейшымі барцамі свету яго мала турбавалі. Не, гэты спакой насцярожваў. І трэнер вырашыў пагутарыць з вучнем:

— Нешта ты, Саша, сёння нейкі кіслы?

— Не разумею вас, Павел Васільевіч, здаецца, я сёння такі, як заўсёды.

— Вось гэта мяне і хвалюе, што ты сёння такі, як заўсёды.

— Павел Васільевіч, у мяне ўсё ёсць — і настрой, і хваляванне. Але выказаць іх не магу. Такі мой характар. Праціўнікаў не баюся. Пра большасць з іх чуў ад сяброў, якія ўжо з імі сустракаліся. І пра Дзітрыха, і пра Каплана, і пра Ахмедава... Нават здаецца, што з гэтай тройкай я даўно знаёмы. Адно толькі бянтэжыць: неяк боязна выйсці на замежны дыван, перад чужымі гледачамі... Ды і вас там не будзе...

— Лічы, што я там буду, у думках, побач з табой,— загаварыў трэнер. — Не забывай нічога з таго, што рыхтаваў. Працуй з яснай галавой, асцярожна і смела. Я ўпэўнен, што ты мацней за іх усіх і ты павінен перамагчы. Адзін з трох медаляў прывязеш, я веру!..

— Дзякуй вам... За веру, за вашу працу, за ўсё...

Аляксандр Мядзведзь паехаў ва Уладзівасток, а Павел Васільевіч Грыгор'еў сачыў за газетамі, прыслухоўваўся да апошніх паведамленняў па радыё. Ён хваляваўся: а раптам каманда не возьме нявопытнага барца ў Японію? Можа не адважацца рызыкаваць і возьмуць бывалага Дзасава? Выходзячы з дому, Павел Васільевіч наказваў жонцы, каб не выключала прыёмнік, слухала ўважліва.

...Ніколі не бачыў Аляксандр мора, а тут перад ім—акіян. Аляксандр пакідаў родную зямлю ўзрушаны. Ён ведаў, што яго чакае выпрабаванне сілы і таленту.

Яму, маладому барцу, давядзецца весці змаганне з мацнейшымі цяжкавагавікамі свету. Там будзе паядынак асілкаў, волатаў. У Аляксандра Мядзведзя таксама 197 сантыметраў росту, але з выгляду ён звычайны хлопец. За ім ахвотна ганяліся б трэнеры па баскетболу ці валейболу. Высокая, стройная постаць! Ці не такому хлопцу месца ля сеткі або кальца! Аднак Аляксандр стаў барцом, грозным праціўнікам на дыване.

Аляксандр Мядзведзь паспрабаваў шчасце ва ўсіх трох відах барацьбы. Не спадабаліся яму ні класічная, ні самба. Упадабаў вольную барацьбу. Аляксандр, выходзячы на схватку, крыху прыгінаецца, апускае ўніз рукі, і здаецца, што гэтыя рукі ледзь не кранаюцца дывана. Важыць барэц 100—103 кілаграмы, а на целе ніводнай складачкі!

Звычайна цяжкавагавікі — цяжкія на пад'ём, марудлівыя. Яны не здольны праводзіць рэзкія кідкі; калі трапляюць у небяспечнае становішча—не могуць выратавацца і падаюць на спіну. У Аляксандра ж і сіла ёсць, і спрыту хапае. Ён смелы і рашучы, а прыёмамі барацьбы валодае амаль як лёгкавагавік. Сухі, мускулісты, жвавы. Такі цяжкавагавік — даволі рэдкая з'ява ў спорце.

Калі ў Мінску праходзіў чэмпіянат краіны па вольнай барацьбе, у якасці наглядальнікаў прыбылі ганаровыя госці — дзеячы федэрацый барцоў некаторых зарубежных краін. Яны прыглядаліся да ўсіх удзельнікаў, вывучалі іх манеру вядзення схваткі, сачылі за маладымі здольнымі барцамі — пэўнымі кандыдатамі XVIII Алімпійскіх гульняў у Токіо. Прадстаўнік Турцыі не зводзіў вачэй з беларускага цяжкавагавіка: «Чэмпіёну Мельбурнскай алімпіяды турку Хаміду Каплану прыйдзецца нялёгка з гэтым мінчанінам...» А старшыня міжнароднай федэрацыі барцоў француз Ражэ Кулон цвёрда заявіў: «Мядзведзь стане вялікім чэмпіёнам!»

Прагноз пана Кулона апраўдаўся тут жа на чэмпіянаце СССР. Адзін за другім выходзілі супраць мінчаніна вядомыя савецкія цяжкавагавікі і пакідалі дыван збянтэжаныя: адны былі пакладзены на лапаткі, другія траплялі столькі разоў у небяспечнае становішча, што прайгралі па балах, трэція — самыя моцныя — пераходзілі ў абарону і былі рады, што прайгралі не больш аднаго-двух балаў. Толькі адзін быў без паражэння. Неаднаразовы чэмпіён СССР Сяргей Дзарасаў прыклаў усе сілы, каб не прайграць. Хоць схватку прызналі нічыёй, тытул чэмпіёна перайшоў да Аляксандра Мядзведзя. Яму і быў уручаны залаты медаль.

...Параход падышоў да берагоў Японіі, і Аляксандр яшчэ больш адчуў сваю адказнасць перад тымі, хто яму даверыў абараняць гонар савецкага спорту.

Японцы — вялікія аматары барацьбы. Японія вядома сваёй нацыянальнай барацьбой — дзю-до. Вялікую славу заслужылі і японскія майстры вольнай барацьбы. Тут знаўцаў барацьбы многа! Нездарма гэтую краіну выбралі для правядзення чэмпіянату свету.

З рознай манерай вядзення барацьбы сустрэўся на чэмпіянаце ў Іякагаме Аляксандр. Японцы, напрыклад, не любяць весці схваткі ў стойцы. Барцы некаторых краін адразу апускаюцца на калені і становяцца непрыступнымі. А Мядзведзь любіць дужацца ў стойцы.

Высокі, рухавы, ён стварае многа пагроз праціўнікам у стойцы, асабліва цяжкавагавікам. Вось ён захапіў галаву і сцягно праціўніка і робіць кідок праз плечы. Гэты прыём у барцоў вольнага стылю мае назву «млын». І сапраўды, нібы крылы ветрака закруціліся. Мядзведзь вельмі ўмела пераводзіць праціўніка ў партэр з захопам адной нагі. З вельмі моцнымі сапернікамі Аляксандр ужывае часам складаны прыём пад назвай «правальванне». Робіць ён гэта так: заходзіць да праціўніка збоку, дае заднюю падножку, захопліваючы рукі і тулава. Калі гэтыя кідкі не прыводзяць да чыстай перамогі, Аляксандр мае багата прыёмаў у партэры.

На японскім дыване Мядзведзь атрымаў магчымасць пусціць у ход шмат прыёмаў са свайго невычарпальнага арсеналу. Сэрцы балельшчыкаў адкрыліся для выдатнага барца. Ён не разумеў, што крычаць яму з глядзельнай залы, але адчуваў: гэта — словы адабрэння, яны чуліся пасля кожнага ўдалага кідка і перавароту.

Навічок на міжнародным дыване, Мядзведзь не разгубіўся. Змагаўся так, як дома. Энергічна, ініцыятыўна, тэхнічна, і з кожным па-рознаму. З перамогамі ён, ад круга да круга, прасоўваўся да фіналу. Шлях да п'едэстала гонару перагарадзіў яму турэцкі барэц Хамід Каплан. Дарэмна шматвопытны алімпійскі чэмпіён спрабаваў адолець маладога савецка-

га асілка — не падабраў «ключа». Мядзведзь асцярожна вёў схватку, контратакаваў, але таксама без поспеху. Сустрэча была прызнана нічыёй.

Аляксандр выйшаў у фінал. Апошняя сустрэча! Супраць яго выйшаў самы грозны праціўнік — чэмпіён Рымскай алімпіяды немец Вільфрыд Дзітрых. Ён быў настроены мірна, бо яго задаволіла б нічыя, каб атрымаць залаты медаль. Нічыя для Мядзведзя азначала толькі бронзавы медаль, а перамога вяла на першую ступеньку п'едэстала.

Напружваючы ўсе сілы, Аляксандр імкнуўся перавесці нямецкага цяжкавагавіка ў партэр. А Дзітрых ухіляўся ад актыўнай барацьбы, не даваўся на захопы, пазбягаў абвастрэння. Мінуты канчаліся, а перавагі яшчэ няма. Што рабіць? Трэба рызыкнуць, так ці інакш бронзавы медаль не абміне яго. І Аляксандр пайшоў на рызыку — кінуўся на Дзітрыха, схапіў за ногі, ірвануў на сябе, але чэмпіён паспеў зрэагаваць, накрыў нападаючага сваім целам і «зарабіў» бал, які і вырашыў схватку ў яго карысць.

Значыць, толькі бронзавы медаль. Гэта вельмі засмуціла маладога барца. Яму здавалася, што ён не апраўдаў сябе ў гэтых спаборніцтвах. Але таварышы яго сустрэлі з радаснымі абдымкамі.

— Малайчына, Саша! Ура!..

— Чаго вы радуецеся? Сорамна дамоў вяртацца.

— Глупства. Ты зрабіў усё, што мог. Цяпер ты ведаеш сваіх праціўнікаў... Яны ўжо не маладыя, а ты яшчэ расцеш і расцеш. Сустрэнешся з імі ў Злучаных Штатах на новым чэмпіянаце.

Балельшчыкі, зразумела, былі крыху расчараваны бронзавым медалем Мядзведзя, хоць у глыбіні душы вымушаны былі прызнаць, што адразу золата ў рукі не даецца. Усё ў свой час. Дачакаецца і Мядзведзь залатых трафеяў. Прароцтва шэфа барцоў Ражэ Кулона здзейсніцца.

Мядзведзь быў вельмі здзіўлены, калі дома яго віталі з выдатным поспехам. Дзіва што, першы з беларускіх барцоў вольнага стылю стаў прызёрам чэмпіянату свету.

Цяпер яго непакоіла яшчэ адна задача: неперамажаным заставаўся асецінскі асілак Сяргей Дзарасаў. З ім Мядзведзь сустрэўся на камандным першынстве ў Ленінградзе. Дзарасаў уцякаў ад магутных захопаў Мядзведзя і прайграў схватку.

...Зноў у барцоўскай зале беларускі цяжкавагавік. Ён пачынае трэніроўкі, і Павел Васільевіч Грыгор'еў вучыць свайго выхаванца на ўроках леташняга сезону.

Чэмпіянат свету 1962 года адбудзецца ў амерыканскім горадзе Таледа. Там, за акіянам, беларускі асілак сустрэнецца зноў са сваімі праціўнікамі і сябрамі па дывану. Будуць там Каплан і Дзітрых, ці іх заменяць іншыя барцы—невядома. Але Мядзведзь, напэўна, там будзе і здолее ўзяць рэванш і заняць пачэснае месца.

**Ісак ЦЫВЕС.**

# ЯК СТВАРАЕЦЦА ШАХМАТНЫ ЭЦЮД

Для кожнага шахматыста ў час трэніроўкі няма нічога больш карыснага, чым рашэнне эцюдаў. Гэта добра выверана практыкай. Многія майстры—практыкі шахматнай гульні разам з тым цудоўныя праблемісты-складальнікі эцюдаў. Гэта зразумела. Эцюд вельмі блізкі да практычнай партыі, асабліва да тэорыі шахматнага заканчэння партыі. Аднак уяўляць змест эцюда як толькі адлюстраванне камбінацыйнай ідэі, якая сустрэлася ў партыі, вельмі прымітыўна. Вядома, што ідэі практыкі абагачаюць эцюдную творчасць. Але, у сваю чаргу, і эцюдныя ідэі абагачаюць камбінацыйны зрок шахматыста. Практыка дае толькі пачатковы імпульс для творчай лабараторыі шахматыста — складальніка эцюдаў. А далейшая праца над эцюдам — гэта прадукт творчай фантазіі праблеміста, або, як называюць іх у шахматнай літаратуры, шахматнага кампазітара. Трэба, як кажуць, «ачысціць пазіцыю ад розных шурпатасцей», і тады ідэя будзе выглядаць эканамічна, прыгожа. І ў гэтым галоўнае эстэтычнае значэнне эцюднай творчасці.

Прасочым, як узнікае эцюд практычнай партыі. У якасці прыкладу возьмем «лабараторны аналіз» выдатнага савецкага праблеміста, заслужанага майстра спорту Генрыха Каспарана (Ерэван).

Вось якая пазіцыя сустрэлася ў адной з партый Г. Каспарана, дзе ён гуляў чорнымі.



У пазіцыі па дыяграме было зроблена: 1. Кd7, Лd6! і партыя хутка закончылася нічыйным вынікам па прычыне «мёртвай» звязкі белага каня.

Гэта заканчэнне дало магчымасць Каспарану стварыць наступны паўнацэнны эцюд:



На дыяграме пры ходзе белых — нічыя, пры ходзе чорных — белыя выйграюць.

«Чаму?» — зусім слушна запытаюцца аматары шахмат. А вось чаму. У выпадку 1. ... Лd5 выйграе 2. Лg8!, а ў выпадку 1. ...f6 Ke6+. Нарэшце ў выпадку 1. ... Крh6 будзе 2. Ke5!, і белыя скрозь тактычным камбінацыйным шляхам развязваюць свае фігуры.

Ідэя гэтага эцюда трансфармавалася далей. Вось адна з яшчэ больш дасканалых форм гэтага эцюда. Ход за чорнымі, але белыя ўсё-такі выйграюць.



Знайдзіце рашэнне і прышліце яго на адрас нашай рэдакцыі. Прозвішчы тых, хто прышле правільны адказ, будуць апублікаваны ў наступных нумарах часопіса.

* * *

Правільны адказ на задачу па рэтраграднаму аналізу, змешчаную ў № 1 часопіса «Маладосць», прыслаў В. Кіслянкоў (Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі): першы ход зрабілі **чорныя**.

**Аляксей СУЭЦІН,**
**міжнародны майстар.**

# Яешня з салам

**Гумарэска**

— Хачу адзначыць, што яешня на стале — самая смачная і спажыўная страва, — сказаў старшакурснік Уладзімір Раслякоў, артыстычным жэстам адсоўваючы ўбок патэльню. — Што з ёю можа параўнацца? Вазьміце кожную страву з меню нашай сталоўкі і параўнайце з яешняй. Нейкія там зразы, біточкі, катлеты не варты нават паху падсмажанага яйка. А чаму? Таму што курыца ніколі не маніць! Калі яна пракудахтала, што знесла для вас яйка, то можаце не сумнявацца — гэта будзе яйка, а не што-небудзь іншае. Пра меню нашай сталоўкі такога, на жаль, не скажаш...

Старшакурснік з асалодай цмокнуў губамі і зноў павярнуўся да свайго земляка першакурсніка Булачкіна.

— Гэта, брат, ісціна, якая не патрабуе доказаў. А цяпер дзякую за пачастунак, Аркаша. Каралеўскую наладзіў ты мне вячэру.

— Няма за што. У мяне гэтага дабра яшчэ паўчамадана засталося, — адказаў Аркаша.

— А чамадан — твой? — у голасе старшакурсніка прагучала трывога.

— Мой. А што?

— Небяспечна. Яйкі, браце, рэч смачная, але...

— Што, узрываюцца? — Аркаша зарагатаў ад уласнага жарту.

— Не смейся, браце. Ты яшчэ не ведаеш, што такое яйкі ў чамадане. Глядзі, каб і ты не трапіў у бяду...

— Значыць, нехта ўжо трапіў? — навастрыў вушы першакурснік. — Цікава.

— На мой погляд, для цябе больш цікавы пачатак, бо ён складваўся прыкладна гэтак жа... Але лепш па парадку, — схамянуўся Уладзімір.—Дык вось, мы таксама былі ў той час першакурснікамі. Я маю на ўвазе сябе, Генку, Лёву, Міколу і Толіка. Жылі мы ў вялікім пакоі старога інтэрната. Гэта цяпер... — старшакурснік агледзеў утульны пакой, —...у інтэрнатах усё ёсць: шафы, паліцы, фіранкі і іншае. У нашым пакоі тады было пяць ложкаў, пяць чамаданаў, стол, крэсла і «варыльны агрэгат», які складаўся з электрапліткі, чайніка і вялізнай каструлі.

Жылі мы дружна, камунай. Гэта значыць, усё ў нас было агульнае, у тым ліку і стыпендыя. Уся куча грошай, якія мы атрымлівалі за месяц, складала бюджэт. Ён меў тры асноўныя раздзелы: харчовыя патрэбы, вопратка, культмасавыя мерапрыемствы. Найбольшыя выдаткі ішлі на адзенне, бо штаны, як вядома, маюць дзіўную асаблівасць працірацца на самым відным месцы. Кожны з нас імкнуўся не прапусціць ніводнага ўніверсітэцкага вечара з танцамі. А там без новых штаноў, сам ведаеш, як без рук, ці, дакладней, без ног.

Такім чынам, праблема харчавання займала ў нас другое месца і вырашалася вельмі мудра і, у той жа час, проста. Мы начхалі на сталоўку з яе рэкламай аб смачнай і здаровай ежы, што называецца таямнічым словам «меню», і набылі ўласны «варыльны агрэгат». Усё пайшло як па масле: кожны дзень мы пілі лепшы ў свеце чай без заваркі і елі суп з сібірскіх пельменяў. Бюджэт па ўсіх паказчыках балансаваўся, гардэроб наш пастунова рос, мы былі бадзёрыя і жыццярадасныя. Студсавет пісаў пра нас у насценнай газеце і ставіў усім за прыклад...

Раслякоў на хвіліну задумаўся, гледзячы на пустую патэльню. Аркаша цярпліва маўчаў, бо старшакурснік не любіў, калі яго перапынялі пытаннямі.

— Уласна кажучы, студсавет і падклаў нам тую свінню з яйкамі, — працягваў пасля паўзы Уладзімір. — Было гэта так. Прыходзіць аднойчы да нас старшыня студсавета і гаворыць: «Хлопцы вы перадавыя, свядомыя, таму не павінны ўпірацца. Так што выносьце стол, стаўце ложак і прымайце яшчэ аднаго жыхара, хоць ён і не з вашага факультэта».

Мы не хацелі праслыць несвядомымі, бо ведалі — чым большая камуна, тым лепей ідуць справы. І студсавет пасяліў да нас будучага гісторыка.

Звалі яго Яша Перапечка. Тоўсценькі такі, ружовы хлопчык, выдатнік, і ўсё такое іншае. Мы растлумачылі яму асновы нашага грамадскага ладу і прапанавалі ўступіць у нашу камуну адразу, таму што стыпендыю павінны былі выдаваць якраз назаўтра. Ружовы Яша выслухаў нас, уважліва агледзеў «варыльны агрэгат» і гардэроб, але ад камуны адмовіўся. «Я, — кажа, — вучуся не на вашым факультэце, расклад другі, у бібліятэках прападаю днямі!»... — І пабег да сваіх аднакурснікаў.

Першы выказаўся тады Толік. «Дарэмна стол выносілі. Гэтая дэталь мебліроўкі больш патрэбна ў нашым пакоі, чым ружовы гісторык», — сказаў ён.

Мікола Бабрыка, хлопец схільны да філасофіі і эксперыментальных навук, заўважыў, што нельга так, у лоб, навязваць новыя формы жыцця гісторыкам. Мы не пярэчылі.

Спачатку Яша нам не замінаў, і сустракаліся мы з ім толькі позна ўвечары. Але аднаго дня да яго прыехала маці і прывезла сыну кошык яек. Вось тут усё і пачалося. Яйкі трэба было куды-небудзь згрузіць, і Яша звярнуўся за дапамогай да нашай камуны. Мы выдзелілі яму вялікі Толікаў чамадан. Яша акуратна склаў туды яйкі, колькі ўлезла, а рэшту схаваў у свой чамаданчык і закрыў яго на замок. Пасля ён спытаў, ці ёсць у Толіка ключык ад яго чамадана. Толік адказаў, што ключык ён выкінуў адразу ж, як купіў гэтую скрыню. «Аднак, — дадаў ён, — у гаспадарчым магазіне можна купіць замок любога памеру. Ёсць там і замкі, якія не ўзламаць нават ломам».

Яша, відаць, не зразумеў кпіны, бо сказаў, што вісячы замок на фібравы чамадан не прыладзіш.

З таго дня наша камуна ўступіла ў паласу жорсткіх выпрабаванняў. Справа у тым, што Яша пачаў харчавацца дома і, зразумела, яйкамі ў розных формах. Тады, калі мы садзіліся сёрбаць наш класічны суп з пельменяў, ён валок патэльню на плітку і пачынаў смажыць яешню. Яна шыпела, страляла, падміргваючы нам жоўтымі вачыма. Яша варочаў яе нажом і ўсё шкадаваў, што даводзіцца смажыць на маргарыне. «Самая лепшая яешня — гэта яешня на сале» — раз-пораз усклікаў ён.

Першы здаўся філосаф-эксперыменталіст Мікола. «Я, — кажа, — не магу больш харчавацца аднымі пельменямі». Да яго адразу ж далучыўся Генка. «Мне ад гэтых пельменяў нядобрыя сны пачалі сніцца», — сказаў ён. «І мне!» — падтакнуў Лёва. Шкодны Толік, як заўсёды, абагуліў выказванні з'едлівай кпінай: «Вам сняцца яйкі!»

Аднойчы Лёва не вытрымаў і, нібы так сабе, без усялякіх там намёкаў, сказаў ружоваму гісторыку, што яйкі могуць пратухнуць, што трэба ліквідаваць іх як мага хутчэй. Тут і дурны зразумеў бы, куды верне Лёва. А Яша палыпаў вачыма і сказаў, што праўда — трэба спяшацца і... узбіў на патэльню не пяць, а сем штук. «Эх, сала няма! — паспачуваў ён сам сабе. — Але будзе і сала — у нядзелю паеду на рынак і куплю».

Пасля абеду Яша паведаміў, што сёння ён затрымаецца і прыйдзе позна ўвечары, дык каб мы дзверы не запіралі. Калі ён пайшоў, Лёва ўздыхнуў



і сказаў: «Ну і скнара! І як такіх зямля носіць!?»

«Выключна эгаістычны індывідуум», — згадзіўся Мікола.

«А мы яшчэ і чамадан яму далі: на, карыстайся на здароўе!», — прабурчаў Генка, з нянавісцю гледзячы на ложак гісторыка.

Толік доўга маўчаў, а пасля рашуча задраў коўдру і палез пад Яшкаў ложак.

— У такіх умовах я больш не магу перавыхоўваць блазнюкоў і не збіраюся для гэтага ахвяраваць свой чамадан, — злосна прагаварыў ён, выкладаючы на ложак яйка за яйкам. Калі чамадан апусцеў, Толік піхнуў яго пад свой ложак і выдаў апошнюю цытату: — Я вам казаў, што стол нам больш патрэбны, чым...

Мы маўчалі.

Маўчалі мы і пазней, калі студком разглядаў «справу аб яешні». Бо ўсё роўна ніхто б не паверыў, што мы спалі ў той час, калі Яша вярнуўся ў інтэрнат. Урэшце, яму спачатку трэба было запаліць святло, а пасля ўжо валіцца на ложак. А прачнуліся мы ад Яшкавага крыку і ляманту. Мы нават не смяяліся з яго, адно Толік не ўтрымаўся ад кпіны. «О! — радасна грымнуў ён тады. — Нарэшце яешня атрымалася з салам!» А што рагатаў увесь інтэрнат, то не трэба было Яшку бегаць у такім выглядзе па калідорах і шукаць справядлівасці.

Студком усё гэта ў разлік не прыняў. Нам усыпалі, як належыць, і больш не хвалілі ў насценнай газеце. А Яшу з таго часу так і звалі: «Яешня з салам», — закончыў свой расказ Уладзімір Раслякоў.

Першакурснік Булачкін, які выслухаў усё гэта з вялікай увагай, пільна паглядзеў на патэльню. Пасля неяк вінавата зірнуў у твар свайму старэйшаму земляку і рашуча сказаў:

— Ведаеш што: прыходзь заўтра абедаць!

**Э. КАЛЯДЗЕНКА.**

ЗМЕСТ



**Да нумара прыкладаецца бясплатны дадатак «А гармонік грае, грае...»**





**Віктар Шрамякоў. Бетонны завод.**
З летняй практыкі студэнтаў Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута.



**І. Фецісаў (Брэст). Партрэт А. Сярмяжкі — муляра з Бярозаўскай ДРЭС.**
З Рэспубліканскай мастацкай выстаўкі.



**І. Ахрэмчык. Абаронцы Брэсцкай крэпасці.**
З Усесаюзнай мастацкай выстаўкі.